# ПРЫВАТНЫ ПЛЯЖ НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ ЛЕТЫ

## 1.

Напрыклад, запацелае люстэрка ў ванным пакоі. Да яго цягнецца мокрая ружовая рука, на паўшляху замірае, потым размашыста выводзіць на шкле мудрагелісты іерогліф. На ачышчанай паверхні зьяўляецца выразны — да рэзі ў вачох — фрагмэнт чалавечага цела, завялыя праменьчыкі валаскоў, выступ косткі, скача ўверх і адразу ж зьнікае шарык кадыка. Рука нэрвова гладзіць шкло яшчэ і яшчэ, нішчыць матавую напаць — на паласатых грудзёх блiснуў крыжык, загарэлася сьвежая драпіна на падбародзьдзі, ад пупка ўніз пакацілася цёмная сьцежка. І вось нарэшце вочы знаходзяць вочы.

Я недаверліва ўзіраюся ўнутр выявы. Апошнім часам мяне навязьліва перасьледуе адчуваньне, што нашыя жыцьці перш за ўсё — замяшчэньні іншых, магчымых, але ня спраўджаных. Так і карціць убачыць за гэтым нечую загадкавую прыхамаць, згодна зь якой мы ўсе замяняем сабой сапраўдных герояў, да верху набітых бурлівымі жарсьцямі, герояў, якім невядомая радасьць самаруйнаваньня, якія дня ня могуць пражыць бяз подзьвігу. Герояў з дыямэнтавай скурай і яснымі галовамі. Ня мы — яны мусілі б ладзіць тут свае двубоі й баляваньні. Мне ўяўляецца прасторнае памяшканьне, аблашчанае белым плястыкам. Кожная зь яго сьценаў — вялізная шафа са мноствам адзьдзяленьняў. Я знаходжу тое, дзе пазначанае маё ймя, торгаю ручку на сябе. Бязгучна й плаўна зь сьцяны выязджае доўгая шуфляда. Там, нібы лялька ў падарачнай каробцы, сьпіць мой герой — істота, замест якой жыву я. Побач — адзьдзяленьне з імем Яны, я адчыняю яго і адыходжу на крок. Ніхто не назаве іх мёртвымі, гэтую ідэальную пару. Ціхі трэск інею на вейках. Здаровыя, спартыўныя целы без радзімых плямаў.

Іхныя недахопы — толькі пікантная аздоба для іхных вартасьцяў. Героі, пастаўленыя на паўзу. Іхныя цяглiцы паслабленыя, але ўсё адно выпраменьваюць карысную, стваральную, абарончую моц. У нашых героях роўна столькі ж ад топ-мадэляў, колькі ад нэандэртальцаў. Мерна гудуць лямпы. Як яны пасуюць адно адному — героі, месца якіх займаем мы.

Насамрэч такога памяшканьня існаваць ня можа. Бо чамусьці менавіта мы атрымалі права на тую прастору, якую мусяць займаць героі. Мы ня здольныя існаваць адначасова. Як выплюнутае

харкавіньне, яны згушчваюцца ў халоднай вадзе, іх расьціраюць на валасатых жыватах, нібы непапулярных інсэктаў, яны не пасьпяваюць адчуць праз супэртрывалую гуму гарачы змрок. Героі зьнікаюць. Гэта падобна на вайну. Замест іх жывем мы — пошлыя, дробныя, хворыя. І гэта правільна.

Круцячы ў вуху пальцам з насунутым на яго ручнікам, я не адразу чую, як жаночы голас у вітальні прамаўляе загадкава й трошкі ўрачыста, быццам рыхтуючы мне прыемны сюрпрыз: “Номер... не определён”. Затым па сонечнай, зыркай цішыні кватэры сьцелецца выпрабавальная трэль. Усё на сьвеце пачынаецца з алькаголю, душу ў лазьніцы або тэлефону. У чым маці нарадзіла я выходжу ў кватэрнае лета — гэта няпраўда, маці нарадзіла мяне без двух мэталакерамічных разцоў на верхняй сківіцы, без ланцужку на шыі, што апускае ўкрыжаваньне ў валасы на грудзёх, без завушніцы ў левай, мужчынскай мочцы, безь пярсьцёнку на ўказальным пальцы, ды й шмат яшчэ без чаго, што цяжка заўважыць няўзброеным вокам. Цікава, ці прыгожы я па агульнапрынятых мерках? У кубічнай прасторы між кухняй і вітальняй натыкаюся на маці: “Дваццаць дзевяць”, — бурчыць яна, напэўна, клічачы мяне да слухаўкі. “Алё”,— кажу я, прасочваючыся скрозь дошкі падлогі. “Яна? Ты адкуль?”

— З паўднёвага берагу Крыму, — яе голас дрыжыць, на раздарожжы паміж рогатам і плачам.

— Ну-ну. Дык што, сёньня а сёмай. Не забыла? Ты з дому?

— Ты не зразумеў. Я праўда з Крыму. Я...

— Што? Зь якога Крыму? — слухаўка ледзь не высьлізгвае з рукі. Лужына пад нагамі астыла. Пальмы, сонца, мора, горы, гары яны гарам. Праўда. Інтанацыя курортніцы.

— З паўднёвага. Разумееш, ёсьць адзін чалавек...

— Чаго? — яна ж здольная на такое, авантурыстка.

— Я даўно наважвалася табе сказаць, але... Алё!

— Алё.

— Я даўно наважвалася сказаць табе. Добра, няма чаго тут соплі разводзіць. Нам на цеплаход, на вунь той, белы. У Фарос едзем. Прабач. Ты мяне чуеш?

Мы запраграмаваныя на няўдачу. Са сваёй паталягічнай схільнасьцю штомомант аналізаваць сябе, прыслухоўвацца да кожнага, нават самага бяспраўнага адчуваньня, я разумею, што такое разьвіцьцё падзеяў прыносіць мне перш за ўсё палёгку. Гэткім і мусіла быць заканчэньне нашых зь Янаю стасункаў — яе ўцёкі зь невядомым героем уяўляюцца мне цалкам заканамернымі. Я ўздыхваю шумна й з мазахісцкім задавальненьнем — чаго яшчэ чакаць ад майго

небарацкага жыцьця? Вось калі б Яна прашаптала, расплюшчаная аб свой брыдка-чырвоны ложак мякацьцю майго цела: “Ажаніся са мною” — тады б такі выбрык зь яе боку выклікаў бы ў мяне адно панавагодняму доўгачаканыя падазрэньні. Немагчымы, проста ня ў правілах богу гэткі ход — такога пацыента ў маёй вар’ятні палічылі б сымулянтам, і я сам даў бы яму высьпятка. Бразгае дзьвярыма ў лазьніцу скразьняк.

— Ты нічога ня хочаш мне сказаць? — чамусьці таропка гаворыць Яна. — Алё, кажы, кажы што-небудзь, а то мне здаецца, што ты мяне ня чуеш. Хаця сувязь тут клясная. Быццам я ад твайго пад’езду тэлефаную.

— Мы ж сёньня хацелі... наконт кватэры йсьці... — мармычу я. — Мы ж дамаўляліся... Яна...

— Ну, — павісае як пацісканьне плячыма, маўляў, скарыся, такія абставіны. Я павольна кладу слухаўку.

Мы мысьлім ня толькі словамі, але й вобразамі. Мяркую, што вобразамі нават значна часьцей. За што — думаю я звычна, за што — і пачынаю надакучлівую абрадавую песьню, бязважкімі строфамі якой спрабую патапіць нашмат больш дарэчныя, зручныя мацюжкі: Яна,

Янок, Янка, Я... Я бачу, як у незамкнёную маю сьвядомасьць уваходзіць яна, як спыняецца нерашуча ля жалезнага стэляжу, гатовага абрынуцца лексычнай ляваю, праводзіць кіпцем па грудзёх вохнулых кніг, торгае рукой, удае, што ўкалолася аб нейкі забыты кудзінскі фразэалягізм, кшталту “Verna ejk kotyva фra” — “верная як кацiная жонка”, лізнула пялёстак лаку на пазногці, і зноў пасьміхаецца, паглынаючы аб’ектыў. Яна не заўважае, як міргае ў роспачы лямпа, як я, нібыта барэц-вольнік, юрліва кладу на лапаткі пустэчу — яна, мая Яна: маленькія майткі й майкі падаюць на падлогу, як лёгкія неабавязковыя галюцынацыі. Мая зношаная памяць робіць яе яшчэ больш аголенай. Я вар’яцею. Я вар. Я цень. Яна асьляпіла мяне, і цяпер я магу толькі ўяўляць: паўукапаная ў пляжны пясок, Яна з салёнай асалодаю на твары зачыняе за сабой люк у выглядзе валасатай сьпіны — сьпіны героя! — загарэлай сьпіны, ягадзіцаў, на якіх грае сонца, і гэты нацюрморт падскоквае, калі люк ушрубоўваецца ў пляж. Як апошняе прывітаньне, зьяўляецца шчыліна. “Які цяжкі люк, глядзі не надарвіся! І навогул, не дуры болей мной сваю галаву!”.

Увесь гэты ранішнік жарсьцяў не замінае мне паглядваць у накірунку кухні — ці не віжуе там маці, маскуючы сваю клапатлівую астму пад уздыхі бліноў? Урэшце я вырашаю схавацца ў прыбіральні,

але й там мне не давядзецца дасягнуць посьпеху. “Сем, дванаццаць, трыццаць чатыры, сто трыццаць чатыры восем, два дзевяноста, два дзевяноста!” — трансьлююць дзьверы. Насамрэч, вядома, маці з бацькам карыстаюцца рознымі часьцінамі мовы, часам — нават дзеепрыметнікамі (запускаю клічнік абсалютна сур’ёзна), але лічэбнікі — адзінае, што яны сапраўды маюць на ўвазе. Калі я хачу іх зразумець, я імкнуся зважаць толькі на інтанацыі. За дзесяць гадоў я яшчэ ніколі не памыляўся. Бацькоў цікавяць толькі колькасьць і парадкавы нумар. Колькасьць набытага дасьць нагоду для руканьняў і пацалункаў, колькасьць страчанага — для зласьлівасьці ў выглядзе грашовага падарунку (10—15$). Аднак, вядома ж, больш за ўсё ім карціць даведацца, якім па ліку я йду на сёньняшні момант у жыцьцёвай гонцы. Ці не таму маці ўвесь час прыслухоўваецца, наколькі частае маё дыханьне, а бацька ўласнаручна правярае ўзровень солі ў маім поце і цьвёрдасьць мазалёў на далонях. Самы балючы іхны страх — страх пераканацца якім-небудзь посткалядным цьмяным ранкам, што я не прыкладваю намаганьняў, не кручуся, не пашу, ня рву жылаў. Мара іхнага жыцьця — каб я прыйшоў да фінішу дзе-небудзь у сярэдзіне, неадрозны сярод куламесы стракатых маек, мара іхнага нябыту — важдаць пальцамі па бясконцай, нібы біблія, выніковай турнірнай табліцы, адшукваючы маё прозьвішча, перад тым як экран згасьне. Так бясьпечней.

Нічым пахваліцца я не магу. Падазраю, што бягу пакуль што на крок паперадзе купкі лядашчых сабатажнікаў, у адрозьненьне ад іх не ўкладваючы ў моднае слова “аўтсайдэр” нічога рамантычнага. Адзіная сьпіна, якую мне ўсё ж хочацца цяпер перагнаць, зусім не належыць суперніку па спаборніцтвах. Гэта загарэлая ананімная сьпіна ў Аўтаномнай Рэспубліцы Крым, пад якой у гэты час чэрававяшчае Яніна натура.

Такім чынам, матчын голас за дзьвярыма зноў прамовіў “Дваццаць дзевяць”. Запячатаўшы сябе ў ручнік, я зноў бяру слухаўку, напаўняючы яе лакіраваную паверхню сваім абгабляваным адбіткам. Высьвятляецца, што ўсё ня так проста. Тэлефануе Макс. Пра яго трэба сказаць асобна. Зазвычай размовы зь ім ужо на другой хвіліне ператвараюцца ў ягоныя маналёгі, дзе Макс выказвае мне свае погляды на самыя розныя зьявы й праблемы. Цумбайшпіль: Эдзічка, або ці ня ёсьць расейскі мат найбольш удалым спосабам называньня сэксуальных дзеяньняў. Цумбайшпіль-2: чачэнскія нелюдзі. Цумбайшпіль-3: выратаваньне чалавецтва. Ня памятаю, каб я калі-небудзь прасіў Макса даваць мне гэткія інтэрвію, прычым ледзь не штодзённыя. Зрэшты, упэўнены, што яго ня надта хвалюе мая

цікавасьць. Верагодна, Макс лічыць, што яму зь ягоным героем пашэнціла памяняцца месцамі. Дарэмна. Размовы з Максам маглі б стацца даволі цікавымі, будзь ён паадукаванеей, ды й пыху сваю яму не перашкодзіла б палячыць. Аднак сказаць гэта Максу ня тое што ў твар, а хаця б у плястмасавае вуха я, напэўна, ніколі не наважуся. І штоpазу, калі ён тэлефануе, я сам станаўлюся слухаўкай, цярплівай, нібы псыхааналітык. Напрыканцы размовы Макс падрабязна распавядае зьмест сваіх сьвежых сноў, апісвае мэню ўласнага сьняданку, дэталі інтымнага жыцьця за мінулую ноч, стан здароўя, потым называе мяне сябрам і кладзе туды, адкуль узяў.

Але, безумоўна, перш-наперш ён кідае мне падачку, акраец увагі:

— Ну як ты? Як Яна?

— Яна ўцякла ў Крым з кімсьці. Толькі што званіла адтуль.

— І што ты думаеш рабіць?

— Ня ведаю.

Мяркую, што Макса навіна ўсё ж уразіла. Прынамсі, ён дазваляе некалькім сэкундам мінуць у цішыні. Відаць, у падобныя моманты людзі такога гатунку міжволі прымяраюць пачутае на сябе, тым самым зводзячы чужую трагедыю да ўзроўню ўзятай напракат відэакасэты. Затое потым Макс прамаўляе настолькі бесклапотна, што я задыхаюся ад абурэньня:

— Ну, я табе заўжды казаў. Я цябе папярэджваў: курва яна, прастытутка. Яшчэ пасьля таго выпадку, памятаеш, ты мне распавядаў… Калі ты запрасіў яе ў кіно…

— У тэатар, — папраўляю я мякка. — У студэнцкі тэатар.

— Так. І калі яна не прыйшла, а потым ты ўбачыў яе ў нейкай кавярні, а назаўтра яна сказала…

— У краме, і яна, дарэчы…

— …што прасядзела дома ўвесь вечар хворая.

— Я яе з кімсьці зблытаў. Мы даўно гэта высьветлілі.

— А іншыя выпадкі? І заўсёды з рознымі мужыкамі. Высьветлілі… Табе ўсе вушы ралтонам абвешалі, а ты й рады. Вернецца з Крыму, ты ж ля пад’езду на каленях стаяць будзеш і стагнаць: “Даруй, любая, гэта мая віна!”.

— Мэа кульпа, — кажу я чамусьці.

— Што?

— Гэта на лаціне. Мая віна.

— Ой-ой-ой! На лаціне! Добра, жрэц мёртвых моваў. Я, дарэчы, тут сяджу й чытаю, чытаю… Пачакай, зараз скажу, каго. Бхагаванда Пхат’ямурці. Ты ведаеш… Рэч.

— Гэта ў часопісе якім-небудзь? — смурна пытаюся я.

— Так. Тут, разумееш, вершы, і…

Я вымушаны праслухаць адзін верш дзікарастучага індыйца, другі, трэці, гучна перагарнуўшы старонку, Макс пачынае чацьверты. Трэба прызнаць, чытае ён няблага — прынамсі, без напругі, і, што самае сымпатычнае, без тых шасьцідзясятніцкіх падвываньняў, якія вельмі жывучым вірусам сягнулі ў нашу эру. Як было мной высьветлена падчас вучобы ва ўнівэрсытэце, вірус гэты запусьцілі тамчасовыя, адліжныя, хрушчападобныя савецкія паэты, чамусьці спрэс лысыя й з трыма акордамі ў дысыдэнцкіх потных далоньках (зрэшты, іхнае дысыдэнцтва абмяжоўвалася патрабаваньнем прыбраць леніна з грошай). На шчасьце, Макса абмінуў гэткі патадэкляматоз. Але пасьля пятага верша (пра Чэхава на беразе Гангу) я чую какетлівае “Табе цікава?” і радкі чарговай махабхараты: на гэты раз апісаньне вясельля сьветладайнага Чакраборці й пышнавокай Мітхуны. Насьпявае той злавесны момант, калі хвалі словаў змыкаюцца нарэшце над тым, што калісьці было іхным сэнсам — а я не ратавальнік-падводнік ад літаратуры, я навогул аднолькава абыякавы як да паэзіі, так і да прозы з драматургіяй і іншымі іхнымі бастардамі, кудзінская мова дае больш асалоды як галаве, так і сэрцу. Я нават ціха сьмяюся, адставіўшы свой найважнейшы на дадзены момант орган убок, каб нэрвовы мой, хліпаты сьмяшок незнарок ня трапіў Максу на працавітую ніжнюю губу. Уладальнік губы нават не падазрае, што чытае ў гэтыя хвіліны зусім не спадара Пхат’ямурці, а якога-небудзь Язэпа Рыгоравіча Абаранку з суседняй вуліцы, што за свае семдзесят год пераклаў тысячу падобных вершаў з тысячы розных моваў, ня ведаючы ніводнай, нават сваёй уласнай — і ўсе пяцістопным ямбам. Падрадкоўнік — незаменная разнавіднасьць пратэза. До. Думкі мае вяртаюцца да Яны.

Гэта адзінае, чым я магу зараз нагадаць ёй пра сябе — проста даслаць мысьленную SMSку: ja tut i duru taboj svaju halavu kachaju ciabie viarnisia. Некрасамоўна й банальна, але гэта толькі ў кнігах думаюць вэрлібрамі. Паводле старажытнаславянскіх павер’яў, якія й цяпер валяюцца перад вачыма дальназоркіх этнографаў, чалавек, якога ўспамінае нехта нябачны, пачынае ікаць, а калі да чалавека сьпяшаецца ў госьці хто-небудзь няпрошаны, у доме ўсчынаецца сапраўднае полтэргейст-шоў: выскокваюць з рук кубкі, падаюць на бібліятэчныя кнігі катлеты без парашутаў, падробленыя грэцкія вазы імкнуцца давесьці сваю каштоўнасьць, непадробныя грэцкія арэхі — спартанскую цьвёрдасьць. Я ўяўляю Яну ўнутры залапанай глянцавай фотапаштоўкі. Цяпер мая Янка каштуе пратэін ужо сваім вонкавым

скураным пакровам, пабрунелы пад індыйца ейны партнэр з жывёльным зьдзіўленьнем назірае, не спыняючы валасатых пальцаў, як яшчаркамі зьнікае ў Янінай сьпіне крэм, каб дзе-небудзь ля копчыку, на прыпушаным згіне, прарастаць танклявай сьцяблінкаю-самагубцай; цяпер мая Янка каштуе значна даражэй. “Ікаю”, — уздрыгвае яна з усьмешкай і садзіцца на ручнік той масьці, якую ненавідзелі слуцкія ткачыхі. “Ікаю”, — паварочваецца яна да свайго мярзотнага прыгажуна ў мокрых плаўках, дзе пагрукваюць каменьчыкі. “Папі чаго-небудзь”, — кідае ён сыта, валячыся на сваю дужую задніцу. Трэці раз сплаціўшы падатак сваёй мілай ікоце, Яна схіляецца над ім, бярэ з каралеўскага ценю бутэльку колы, адкаркоўвае з фірмовым чыхам, сонца ўжо сядзіць на валізах. Яна на імгненьне застывае над нерухомым целам, бутэлька рухае рэбрам і сьлізгае ўніз. Колькі трэба ортафосфарнай кіслаты, каб разьесьці скуру дарослага мужчыны? Яна падхоплівае бутэльку ля самага ягонага жывата, яны цалуюцца, сьмяюцца, казычуцца, п’юць з аднога рыльца. Нічога ня ўпала, бо я нікуды не сьпяшаюся, ня йду барадатым заблахелым велімірам па пляжы, шукаючы ўжо ня стολькі Яну, а хутчэй недаедзены гамбургер. Некаторыя за некалькі гадзінаў мяняюць кантынэнты. Я за такі прамежак часу нават не магу вырвацца з замкнёнай прасторы паміж вітальняй і лазьніцай. Цікава, але я толькі што ўсьвядоміў, што ўяўляю Яну бяз станіка — яна загарае там бяз станіка, гэта абсалютна дакладна, ён прымушае яе здымаць.

Макс скончыў распавядаць пра свае ўражаньні ад вопытаў індыйскіх вершатворцаў, і цяпер прагне размовы. Ад мяне патрабуецца мала — час ад часу ўстаўляць у ягоныя бясспрэчнасьці што-небудзь адпаведнае нацыянальнай спэцыфіцы. З інтэрвалам у некалькі хвілінаў я з падпампаванай дзелавітасьцю вымаўляю паўзьверх Максавага маналёгу: “Камасутра”, “Джавахарлал Нэру”, “Брахмапутра”, “Прынцэса Гіта”, “Танцор дыска”, “Сідхартха”, “Бодхісатва”, “Санскрыт”, “Тадж Махал”, “Брахман” або нешта яшчэ, настолькі ж адарванае ад кантэксту, наколькі кантэкст — ад рэальнасьці. Як лёгка ўсё ж набыць сябра! Існуе ўнівэрсальны рэцэпт. Пацікаўцеся чалавекам хаця б раз і зрабіце выгляд, што гэта з вашага боку шчыра. Распытайце пра ягоныя праблемы, не параўноўваючы іх увесь час са сваімі, не прыгаворваючы штохвіліны, нібыта ваш суразмоўца трымае для вас, выгоднага кліента, люстэрка: “А ў мяне вось...”, “Са мной было такое ж...” і не пачынайце аповеду пра сябе, пакуль не пераканаецеся ў сваёй уладзе над гэтым няшчасным. Гаварыце зь ім выключна пра яго, выпытвайце пра стаўленьне

ахвяры да розных істотных і неістотных дробязяў, даведайцеся пра гастранамічныя густы, ніколі не перапыняйце й сьмейцеся толькі калі абсалютна ўпэўненыя ў тым, што ад вас чакаюць менавіта сьмеху, а не, напрыклад, спачувальна загнутага ўскрайку губы. Норма — адзін жарт у дзень — толькі падмацуе вашыя пазыцыі. Галоўнае — заўсёды бачыць бакавым зрокам залатую сярэдзіну, каб не атрымаць раптам Максымальнага, абсалютнага сябра, які палічыць сябе больш адзінотным за вас, такога чулага чалавека (на іхную думку, чуласьць зьяўляецца ад браку самотнасьці). І можаце запісаць яго на свой рахунак. Я, на жаль, правілы парушыў.

Цікава, што б зрабіў у падобнай сытуацыі мой герой. Упэўнены, ён ня стаў бы трываць, і тыя дэкарацыі, якія мне гэтак пасуюць, неўзабаве разьляцеліся б на шматкі, накрываючы сьмертаносным брызэнтам як партэр, так і ложу. Герой спакойна канвэртаваў бы ў словы свае думкі й кінуў Максу ў твар, герой сыйшоў бы не марудзячы з гэтай кватэры (безумоўна, сувора пацалаваўшы на разьвітаньне маці) і пехатой адправіўся б на край сьвету па Нобэлеўскую прэмію. Пасьля Янінага тэлефанаваньня герой бы забыўся на яе ймя яшчэ перад тым, як пакласьці слухаўку, і тэрмінова пачаў бы пошукі больш паслухмянай самкі. Дый гераіня, замест якой жыве Яна, ня стала б траціць час на катаваньне неўпадабанага самца, насаджваючы яго на кол белтэлекому. Але героі ў нерацыянальным анабіёзе. Курчымся, торгаемся, мармычам, намагаемся, дзейнічаем — мы.

На дзіва, ад Макса, які перайшоў да параўнальнага аналізу дзьвюх ранішніх радыёперадачаў, мяне ратуе маці. Абмінаючы маё цела ў вузкай вітальні, яна незнарок кідае погляд на тэлефонны апарат, на тыя лічбы, што паказваюць працягласьць размовы, і выбухае ўласнымі лічбамі. “Дзевяноста дзевяць!” — крычыць яна, наліваючыся чырваньню, — “Дзевяноста дзевяць дзевяноста!”. “Адзін плюс два”, — раздражнёна вылазіць са сваёй дрымоты ў залі бацька. “Дзевяцьсот дзевяноста”, — бурчыць яму маці ўжо трохі цішэй. Макс чуе гэта й замаўкае. Цяпер у слухаўку, нібыта нехта трэці, укліньваецца цішыня. Дарэчы, наконт цішыні. Ніхто не задумваецца над тым, што цішыні насамрэч не бывае. Што мы называем цішынёй? Знаходзячыся ў пустой кватэры ўначы — гудзеньне лядоўні, выцьцё яе партатыўных завірухаў, цырчэньне вады ў артэрыях дому, заваконныя шолахі, шпіёнскі постук у шкло разьвешанай на бальконе бялізны, падступны поступ таксі на двары, раптоўны стогн падлогі, выкліканы крокамі суседалунаціка, таканьне гадзіньніку на сьцяне і яму ў такт — кроплі з кухоннага крану. А то яшчэ ўлетку паўзучы па-

пластунску вецер адшукае пад старой канапаю мячык для настольнага тэнісу. У студэнцкай аўдыторыі падчас іспыту — рыпы, шэпты, шморгі, дыхі, мігі. Крокі й крыкі ў вадзіночнай камэры, мышы, рэха, пульс зямлі ў сутарэньнях. Чым далей ад гораду, тым недасягальней яна, ідэальная ціш. Мёртвую цішыню дадзена спазнаць, відавочна, толькі мёртвым. І нават калі ты, рызыкуючы задыхнуцца ў імя цішыні, засунеш галаву ў пашчу падушачнай пачвары, і тады пачуеш глухі гул, праз які абавязкова пакрысе разьбярэш тахканьне ўласнай крыві ў скронях.

— Ведаеш, мяне зганяюць з тэлефону, — кажу я Максу таропка. — Прабач.

— Ды нічога. Гэта я нешта забалбатаўся, — адказвае ён пакрыўджана й без усялякіх разьвітаньняў адпускае мяне на маю бязрадасную волю. Тут жа тэлефон зноў выдае мэлёдыю альпійскага ражка.

— Алё, — прамаўляе Яна задуменна. — У цябе што, інтэрнэт зьявіўся? З кім можна так доўга... Я ўжо разоў пяцьдзесят цябе набірала.

Я маўчу.

— Ты, здаецца, і ня рады, што я тэлефаную. Добра, я пачакаю, пакуль ваша вялікасьць зьменіць гнеў на...

— Як там Фарос? — кусаю я вусны.

— Ды перастань ты. У мяне, дарэчы, а шостай не атрымаецца сёньня. Прыязджай, калі хочаш, гадзіне а восьмай. І набудзь, калі ласка...

— Ты хочаш сказаць... Ты хочаш сказаць, Янка, што ты з дому?

Маці за маёй сьпінай плюецца шасьцізначнымі лічбамі.

— Не, я зь Нью-Ёрку.

— Яна... Янішча ты паскуднае...

— Ты што, плачаш? Ну што, што ты равеш?

— Янка...

— Пачакай, ты што, праўда паверыў, што я з Крыму? Яна вытрымлівае паўзу.

— Не, ну які дурань. Ты што, здольны вось так паверыць, што я магу ўцячы з кімсьці ў Крым? Гэта вось так ты пра мяне думаеш? Ну, дзякуй табе вялікі. Вось гэта каханьне. Ведаеш, можаш не прыязджаць сёньня. А то я скажу табе, што мы зь сястрою — лесбіянкі, і ты мяне кінеш адразу. Ніякага пачуцьця гумару.

— Прабач. Прабач мне, проста...

— Не, гэта ж трэба, які дурны. Жартаў не разумее. Крыўдна проста становіцца.

Насамрэч, яна ў гэтыя хвіліны адчувае сапраўднае шчасьце, наталяецца сваёй перамогай, мружыць вочы ад толькі ёй бачных пражэктараў і ўрэшце не вытрымлівае:

— Як я цябе? Як я згуляла?

Рука маці цягнецца да тэлефоннага дроту, і бацькаў голас зьвернуты на гэты раз несумненна да мяне. “Я прыеду а восьмай”, — пасьпяваю крыкнуць я роспачна й заплюшчваю вочы. На што мы трацім сваё жыцьцё? На перасьлед хімэраў. Нашыя героі пераварочваюцца ў сваіх ледзяных ложках, бачачы, як мы марнуем адведзены нам час. А ён, час, не спыняецца ні ў такія дні, як сёньняшні, ні ў больш удалыя. Праўда, усьвядоміць гэта ў Яніным веку немагчыма. Затое я, адчыняючы дзьверы лазьніцы й скідваючы са сьцёгнаў ручнік, разумею з жудаснай, надзвычай балючай акрэсьленасьцю: усе тыя выпрабаваньні, якімі цешыла мяне нядзельная раніца, ня вартыя анічога. Дробнае, пошлае марнатраўства. Пародыя на пакуты, якую з усімі перасьцярогамі я цягаю за сабой з дня ў дзень. Ці ня лепш даць шанец героям зьмяніць што-небудзь — на іхны выбар. Увечары я пабачу Яну. Праз год мы ажэнімся, праз два — разьвядземся, празь дзесяць яна памрэ ад раку грудзей. А я пражыву занадта доўгае, нецікавае жыцьцё, курсуючы паміж тэлефонам і лазьніцай, і зусім няхутка спазнаю (разам з кудзінскай мовай), што ж такое мёртвая цішыня. Гэта не прароцтва, гэта прагноз надвор’я.

**2.**

Дзьверы мне адчыняе Яна — дабротныя, масыўныя дзьверы, абабітыя чорнай скурай або безыменнай для мяне выканаўцай гэтай нескладанай ролі. Я хацеў бы пабачыць калі-небудзь кнігу з такой вокладкай: чорная паверхня з па-майстэрску выпісанымі прыпухласьцямі, на адной зь якіх — справа — зьзяе строгая ручка, воўчае вочка , што будзе глядзець чытачу проста ў мозг, і кароткая рэзкая назва там, дзе зазвычай месьціцца нумар кватэры. Я хацеў бы пабачыць такую кнігу, каб палюбавацца на яе, не адгортваючы, а потым паставіць на мейсца й пайсьці, коратка азірнуўшыся ля касы й назаўжды запомніўшы адчуваньне чорнае вагі ў спацелай далоні.

На твары Яны — нованароджаная, цудоўная ў сваёй шчырасьці ўсьмешка, сваім званком я засьпяваю Яну на ўздыху, на ўздыме грудзей пад пацёртай кашуляй, Яну на пыльных баваўняных крылах. Я з палёгкаю нахіляюся да свайго абутку. Сёньня, відавочна, адзін з

тых рэдкіх вечароў, калі яе сям’я адпачывае ад міжсобскіх войнаў і запарвае ў якім-небудзь аляпаватым імбрычку гарбату перамір’я. Мне шанцуе. Зусім блізка ад майго носу — самадастатковыя, пахнучыя канфэрэнц-залямі туфлі Янінага бацькі. Пад тумбачкай я заўважаю квіток з пункту абмену валюты, россып цукрынак і кавалачак шкла.

— Марына дома? — шапчу я, выпростваючыся.

— Ідзем, — нецярпліва цягне яна мяне ў залю. — Няма, няма.

Я спыняюся на парозе й ціха вітаюся. Імбрычак і праўда сьціпла выгінаецца ў цэнтры пакоя, у ватачэньні кубкаў і вафляў — лакіраванае сьвятло з пашарэлай вуліцы надае парцаляне ілюзію руху. Галіна Іванаўна адказвае мне сваім заўсёдным падазроным тонам, але прадубляванае слова “добры” сьведчыць на маю карысьць. Міхаіл Самсонавіч, не паварочваючы галавы, кідае, як лекар у ваенкамаце: “Здароў!”. Палымнеючы, з тым гукам, якім суправаджаецца цёплы чалавечы подых на замерзлае шкло, іхныя твары асьвятляе тэлевізар. На экране бляндын у белай кашулі цкуе аднаго паўголага мурына на другога, голас за кадрам дзіўна нагадвае голас натураліста Эда Джэнкінса, вядучага сэрыялу “Дзікая прырода”.

— Джы Джы супраць гэтага, як яго, — паведамляе Міхаіл Самсонавіч. — Сядай, ня стой.

— Зноў пераключыў, — стогне Галіна Іванаўна й чамусьці хапаецца за шыю. — Міша, ну колькі можна, колькі можна. Давай сам (гэта мне), вафлі, гарбатка. Ад Яны не дачакаешся.

Міхаіл Самсонавіч моўчкі замяняе мурынаў на чачэнцаў у наручніках і зморана адкідваецца на сьпінку канапы. Спружына ў ім паслабленая, і цяпер ён гэткі, якім ёсьць насамрэч — няголенае пуза ў клятчастай паранджы (так, з такімі думкамі неабачліва станавіцца нечым зяцем). Некалькі сэкундаў у вачох Галіны Іванаўны мільгацяць вечаровыя навіны, потым яна зацікаўлена нюхае паветра:

— Палёным пахне. Бяры яшчэ вафлі. Палёным пахне. Міхаіл Самсонавіч дзеля праформы разьдзімае ноздры, краем вока паглядаючы на жончын нос. Галіна Іванаўна паварочваецца да мяне, нібыта мой орган больш дасканалы:

— Табе ня пахне?

— Ну... — пачынаю я, і Галіна Іванаўна зноў заклапочана чапляецца за мужа:

— Можа, тэлевізар гарыць? Яна, схадзі на кухню, але ж я ўсё выключыла, газ выключыла...

Яна, падціснуўшы вусны й закаціўшы вочы, адпраўляецца на кухню, Міхаіл Самсонавіч — да тэлевізара. Усё ў парадку, дарэмная трывога. Запарка ў імбрычку яшчэ ёсьць. “Табе падалося, мам”, —

кажа са злой усьмешкаю Яна і ўжо безь мінулага энтузыязму дэманструе мне тое, дзякуючы чаму сёньня ў кватэры пануе спакой. Гэта на дзіва руды жлобінскі леў, над маркотнымі зялёнымі вачыма якога навісае цэпэлінаўская грыва. З рук Яны ён скача на калені паблажлівых бацькоў, потым усаджваецца паміж імі, абняўшы за плечы й закінуўшы лапу за лапу. Высьвятляецца, што Галіна Іванаўна прыцягнула яго са свайго дэка, адмыслова для Яны — Янін пакой ужо тады, калі мы пазнаёміліся, быў шчыльна заселены рознай плюшавай набрыдзьдзю, цяпер жа там панаваў дух віетнамскага інтэрнату — нейкая генэрацыя бяспашпартных жывёлаў атабарылася нават пад ложкам, там яны смажылі прусакоў, пладзіліся ў Яніну адсутнасьць і гандлявалі з навічкамі зубкамі ад грабеньчыкаў. Мілае племя, якое, мусіць, звыклася ўжо з грымотамі наверсе, якія час ад часу ладзілі мы зь Янай, забыўшы пра ўсё на сьвеце.

— Зьдзіўляюся, як гэта яго зрабілі рудым, — усьміхаецца Яна, кладучы назад надкусаную вафлю. — Жлобінскія львы звычайна сінія, нібы шклоачышчальнік, або якія-небудзь аранжава-гнедыя. Я буду зь ім спаць. Ну як табе?

— Супэр, — кажу я, задуменна гледзячы на льва, якога Яна толькі што прызначыла маім супернікам. Цешыцца трэба, што гэта леў, а не хто-небудзь чалавекападобны. — Ён нагадвае такога, ведаеш, такога з пінк флойд каго-небудзь, або з дып пёрпл.

Галіна Іванаўна хоча нешта спытаць, але запівае словы астылай гарбатай. “Чаму яны штовечар дома, чаму яны штовечар сядзяць дома, чаму б ім не схадзіць на шпацыр, у госьці, у тэатар?” — думаем мы зь Янаю адначасова й чакаем зручнай нагоды, каб уцячы. На двары цямнее. Мы хрумсьцім вафлямі й назіраем за накаўтаваным Джы Джы. Міхаіл Самсонавіч дзьме на распухлы кулак.

Я цудоўна памятаю той дзень — каламутны, цяжкі, як пажарны шлянг — калі ўпершыню ўвайшоў сюды. Я памятаю гэты стол, што стаяў тады ля вакна, і завялую штучную кветку на ружовым абрусе. Пад кветкай асадка бяз стрыжня ўказвала вастрыём на фатаграфію Марыны з бацькамі — фатаграфія была да поясу засунутая пад шкло буфэту, і Яніна сястра пераводзіла мой позірк на канапу з талеркай, поўнай семкавага шалупіньня. Шалупіньне нагадвала попел, і Галіна Іванаўна, што, цяжка дыхаючы, паглядзела на мяне зьнізу ўбок, толькі ўзмацніла адчуваньне, нібыта перад маім прыходам тут сьпешна палілі нейкія важныя паперы. Цэлая чарада ўмоўных знакаў. Праз паўгадзіны Яна поўзала пад раскладзенай канапай, на якой яе калісьці зачыналі, а я ганяў пыл з кута ў кут. “Так, прыбярэце тут, бацька тэлефанаваў, што а сёмай будзе!” — першая фраза, якую я

пачуў ад Галіны Іванаўны, гучала менавіта так. Я адразу зьляпіў сабе вобраз гэткага Германа Кафкі, злога маўзалейнага мазаля. Мы цалаваліся, мокра й прагна, у вітальні, пад інквізытарскія пахі з кухні, і Яна ледзь не адкусіла мне язык, калі над самымі нашымі вушамі заныў званок, непрыемны, як сыгнал аўтаномнага пажарнага паведамляльніка. На парозе зьявіўся маладжавы непрамакальны чалавек, сунуў мне руку, а Яне — плашч. “О, прыбралі, малайцы”, — сказаў ён кісла, дабраўшыся да залі. Я памятаю стол на кухні (той, стары стол), фасолю, што застравала ў горле, зялёнае супавае мяса ў руцэ Міхаіла Самсонавіча. “Якую мову? Грузінскую?” — перапытвае Галіна Іванаўна, употай правяраючы на расавую чысьціню мой профіль. “Адукацыя, вышэйшая, гэта вельмі добра”, — з палёгкай уздыхвае Міхаіл Самсонавіч. “Гэта ў наш час галоўнае”. “А бацькі чым...” — устаўляе нарэшце даўно падрыхтаванае пытаньне Галіна Іванаўна й раптам торгае на сябе край настольніку, так, што трохі супу выплясквaецца з талерак: паглядзець, чым займаюцца падчас законнага допыту нашыя зь Янай рукі й ногі. “Ой, прабачце, мне падалося, гэта зноў тая мыш, мыш! Яна табе не распавядала? Мыша, ты знайшоў мішалоўку? Я ж прасіла, прасіла!”. На шчасьце, нашы канечнасьці на той час ужо былі досыць натоленыя адно адным — марудзілі іншыя часткі целаў. “Я чуў пра кудаў”,— кажа Міхаіл Самсонавіч. “Гэта ў Іраку яны, як жа”. “Памылачка”, — прамаўляе той, што ніяк ня можа даесьці суп. “Гэта вы пра курдаў. А куды, або кудзіны, — яны славяне. Яны...” “Праваслаўныя?” — адразу ж перапыняе Янінага хлопца Галіна Іванаўна. “Ну, разумееце, усялякія маюцца”, — губляецца Янін хлопец. Зараз ён з жахам разумее, што забыў, як завуць маці ягонай дзяўчыны. А яны ж зь Янай так доўга вучылі, рэпэтавалі, некалькі дзён пражылі ў вадным з дуплаў генэалягічнага дрэва... “Скажы што-небудзь пакудзінску”. Я сяджу пад крэслам і задаволена варушу вусамі, скручваю ў колца востры хвост. Мышалоўка. Яшчэ чаго (*уцякае).*

“А вось цікава, як ты пазнаёміўся са сваёй дзяўчынай?” — спытала ўчора за абедзеннай кавай Паліна Віктараўна з катэдры польскай мовы, саракагадовая самотніца, якая мае да мяне невытлумачальную сымпатыю. Аднойчы пані Паліна наткнулася на нас зь Янай у вадным з гандлёвых цэнтраў, і з той пары ўзгадвае Янку пры кожнай сустрэчы. Як пазнаёміўся? Я паглядзеў праз сызыфаву касмэтычку пані Паліны ў ейны кубак і прыкінуў, якога аповеду хопіць на такую колькасьць кавы. Складваць сусьвет гэткім чынам, каб ён зьмяшчаўся ў двух-трох поліэтыленавых сказах, я ня ўмею. Кавы ў кубку хапіла на кароткую гісторыю, дзе праўды было

роўна столькі, каб не пакрыўдзіліся мае прыамурскія памежнікі, чэмпіёны Далёкага Ўсходу па стральбе з луку, а хлусьні — каб пані Паліна не сыйшла да студэнтаў расчараванай. Няхай тое, што я распавёў Паліне Віктараўне ўчора на катэдры паміраючых моваў, яна забярэ з сабой у магілу — я ж распавяду зараз (манітор прыветна сьвеціць, клявіятура выязджае пад вочы, паслужліва трымаючы на белым ручніку хлеб і соль, леваруч — нерасьпячатаны пачак цыгарэтаў, праваруч — келіх пасівелага ад чаканьня піва) праўду, толькі праўду й нічога апрача праўды. Амінь.

Уявім для пачатку вялікую, на ўсю сьцяну, чароўную мапу ў самым занядбаным кабінэце нябеснай канцылярыі. Электрыфікаваную мапу, мапу зь мільёнам лямпачак, што загараюцца, варта толькі лёганька дакрануцца да кнопкі на крайнім поўдні. Лямпачкі сноўдаюць, заміраюць, уцякаюць, даганяюць, сутыкаюцца, разыходзяцца, корпаюцца, некаторыя згасаюць, не дачакаўшыся дотыку да кнопкі, зьяўляюцца іншыя — зрэшты, іх ніколі ня стане зашмат, колькасьць іхная заўжды будзе рэгулявацца памерамі мапы. Толькі нам, тым хто жыве цяпер, прыходзіць у галаву шукаць у гэтым хаосе нейкі сэнс, толькі нам, але не героям.

Першая наша сустрэча адбылася на галоўным праспэкце гораду: я, высакамерна пасмоктваючы кубінскую соску, еду, закінуўшы пульхныя ножкі адну на адну, зь мядзьведзем-целаахоўнікам на каленях, у ня вельмі зручным, але аднамясцовым экіпажы; Яна, на твары якой сьвецяцца два чыстых і шчырых, нібы адбіткі неба ў ранішнім возеры, бясконца зьдзіўленых “о!”, пракручваецца на руках у бацькі, прымушаючы яго ўзяць усёй далоняй яе абцягнуты ў куранятавы колер азадачак, і праважае мяне, разьдзьмутага й паважнага, позіркам. Сустрэча другая: кавярня, адна з тых, што крывадушна называюцца імёнамі жывёлаў, зь якіх робяць дзіцячыя мясныя пюрэ; на гэты раз ужо я, хлопчык зь непрапарцыянальна вялізным ілбом, дзе мала засталося сьпец будучым прышчам, вуграм і фурункулам, задуменна капаюся ў суфле, кідаючы раз-пораз пагляды на такую, такую… як фея — казалі ў нашых фільмах, на востраносую прыгажуню, якая зацікаўлена дасьледуе зьмесьціва сваіх ноздраў. Наверсе, у недасяжных вышынях, дзе жывуць адно самотныя шатлы й вольныя саюзы-апалёны, нас цярпліва чакаюць дарослыя, лічачы грошы.

Трэцяя сустрэча. Я блытаю тралейбусы й мяне заносіць у яе раён; пакуль я распытваю, як даехаць дахаты, у нейкім мэтры ад мяне Яна, перад якой расступаюцца прыцемкі, тасуе мае сьляды на сьнезе. Наступным разам мы спаткаемся ва унівэрмагу, я шукаю

падарунак для маці, яна — для сястры, нас доўга боўтае, перакатваючы з паверху на паверх, пакуль не прыбівае да берагу адзьдзелу парфумэрыі, і нехта па прозьвішчы Канюкова, з прычоскай а-ля Сід Вішэс і пахам рыбы (абяцаю, што яна больш ня зьявіцца ў гэтым аповедзе) засланяе нас адно ад аднаго. Мы глядзім на ненадзейны рай савецкай парфумы, і на некалькі імгненьняў нават трапляем у вадзін адбітак на вітрыне. Урэшце я сыходжу, так і не наважыўшыся залезьці ў цюбік выключна жаночай чаргі — ты набываеш нешта латыскае й рушыш дадому, думаючы па дарозе зусім не пра мяне. Праз год я паступаю, і яшчэ да пачатку сэмінараў нас затоўкваюць у вадзін вагон мэтро, і перад канцавым прыпынкам я нарэшце магу ўзяцца за поручань — ты адторгваеш руку без пальчаткі, ледзь прыкметна крывішся, я не прашу прабачэньня (Punk‘s not dead і ўсё такое) і адварочваюся, ты едзеш да стрыечнага брата й думаеш не пра мяне, я еду да сябра піць другі раз у жыцьці гарэлку й думаю пра сэкс.

Той год навогул быў багаты на сустрэчы. Праз два месяцы й два дні мы ўпершыню размаўлялі. Ты стаяла ля “Музыкі” й чакала таго, пра каго думала, я йшоў па чыстыя касэты. “Не падкажаце, колькі часу?” — спытала ты, не адводзячы вачэй ад загусьцелага прыпынку. Да нашага знаёмства заставалася чатыры гады. Потым мы зноў прайшлі міма адно аднога на тым самым участку праспэкта, дзе спаткаліся ўпершыню. Я з захапленьнем сачыў за даўжэзнымі худымі нагамі, што крочылі насустрач, ты йшла піць піва з сакурсьніцамі. У мяне тады быў флюс, памятаеш, у цябе — голыя плечы зь нікім не цалаванымі пакуль прышчыкамі. Маленькі, маленькі, чэзлы, дыстрафічны горад, паўдохлая сталіца няіснай краіны. Мала кавярняў, надта доўгія й простыя вуліцы, небагата крамаў, неглыбокае мэтро. Час, памножаны на такія ўсяго толькі чатырохзначныя адлегласьці, рана ці позна дасьць у выніку сустрэчу. Я сядзеў з Максам на лаўцы, ты йшла побач, пагардліва даводзячы маці перавагі новай працы стрыечнага брата — бутафорскае тарнада вашай размовы не прымусіла нас нават узьняць галоваў. “Які выродлівы дом”, — сказаў я аднойчы Анжаліцы П., праязджаючы міма таго будынку, адкуль мяне цяпер ня выгнаць.

Потым былі пустыя, і таму нейкія надзвычай імклівыя гады, падчас якіх кудзінская мова, закрочаная ўздоўж і ўпоперак, ператварылася для мяне, безь вялікіх, зрэшты, намаганьняў, у дакучлівы родны дом. Я стаяў на вакзале, было сямнаццатага траўня, ня памятаю ўжо, што я там рабіў, мусіць, бессаромна прагульваў якую-небудзь кансультацыю перад дзяржіспытамі, паліў ля праходу

да касаў, у вялікай кампаніі прыемна незнаёмых людзей, скідваў попел на рукі ўчарнелага дзядка, які капаўся ў сьметніцы ля нагі. На прыступках паказалася жанчына, што з анёльскім цярпеньнем валачыла за сабой гіганцкую валізу. “Да мяне”, — нібыта шапнуў нехта за сьпінай, “Ня можа быць”, — падумалася лянотна. “Пасьцеражыце, малады чалавек”, — жаласьліва сказаў гэты добры, як высьветлілася, анёл у кранальнай панамцы. — “Зьбегаю да раскладу”.

Праклятае выхаваньне не дазволіла мне сыйсьці ні праз дваццаць, ні праз трыццаць хвілінаў. Урэшце я прыняў вельмі, як мне падавалася, правільнае рашэньне — зірнуць, што ў валізе, калі нешта каштоўнае, то здаць у камэру знаходак, калі ж драбяза гаспадарчая або шмоткі — кінуць і ўратавацца ад адказнасьці ў блізкім і бесклапотным мэтро. Я асьцярожна таргануў маланку й тут жа закрыў валізу ды яшчэ прысеў на яе. Анёл у панамцы хаваў пад белым пер’ем колер хакі. У валізе, абы-як накіданая, валялася зброя — я ўжо бачыў усе гэтыя аўтаматы, гранаты ды іншыя рабрыстыя штучкі з джэнтльмэнскага набору героя, калі марнаваў здароўе на вайсковых зборах. Пасьля дзьвюх нэрвова выпаленых цыгарэтаў я наважыўся пайсьці да вакзальных мянтоў.

Але да гэтага справа не дайшла. Цягнучы валізу, на якой цяпер сядзеў яшчэ, боўтаючы лапкамі, страх, што мяне апярэдзіць які-небудзь патруль, я вочы ў вочы сутыкнуўся з уладальніцай зброі. Праўда, яна ўжо пасьпела зьняць панамку, апрануць саламяны капялюшык і набыць лёдава, што ў ейных руках глядзелася няйнакш гранатаю. Ня буду доўга казаць пра тое, як я трапіў нарэшце ў цесны вакзальны пастарунак і як мае траскія тлумачэньні былі спыненыя дружным рогатам вельмі добразычлівых вусатых міліцыянтаў. “Вас здымала схаванай камэрай перадача “Хіханькі ды хаханькі”!” — паведаміла мне з-за іхных сініх плячэй дзелавітая дзяўчына ў скуры ды срэбры.

Яну прывялі праз пяць хвілінаў — смурную, успацелую, такую неверагодна юную — яе злавілі ажно на плятформе ў мэтро. Мы атрымалі, відаць, у якасьці своеасаблівай кампэнсацыі за гэтае фантастычнае прыніжэньне, па бэйсболцы ды яшчэ, здаецца, па маечцы, Яне яны апынуліся завялікія, мне — замалыя, і цяпер Яніны бацькі езьдзяць у іх на лецішча. Натуральна, у вагоне нас прыціснула адно да аднаго шчыльней, чым ёй хацелася, і Яе Раздражненьне дазволіла маёй палёгцы праводзіць Яну да дому. “Ты што, сур’ёзна зьбіралася завалодаць гэтай зброяй?” — пытаўся я, крыўляючыся ў вокны машынаў, на якія быў такі багаты наш шлях. “Але навошта?”

“Я б знайшла прымяненьне”, — адказала Яна, усё яшчэ насылаючы сьніды ды пранцы на ўсіх аматараў хіханькаў і хаханькаў, Яна, настолькі злая, што ў моц гэтай злосьці верылася нават менш, чым у нядаўнюю вакзальную прыгоду. Па дарозе мы абмяняліся імёнамі: я дык адразу зьмясьціў ейнае куды трэба, Яна ж маё сунула ў вадзьдзяленьне для візытак. На рагу вуліцы мы высьветлілі, што сьвет крыху цясьнейшы, чым мы думалі — я сканчаў унівэрсытэт, яна ўзімку брала ўдзел у студэнцкай воргіі пад назваю “Мэдыюм”. Ля пад’езду мы наблізіліся, ужо дакладна ведаючы, што абодва ненавідзім рабскі гумар, мяшчанскі сьветапогляд, папсу, сабакаловаў і саветыкусаў. Час давёў, што ненавідзім мы іх зусім рознымі нянавісьцямі.

Так, тое здарэньне на вакзале сталася, мусіць, адным з самых балючых прыніжэньняў пражытага мной жыцьця (“Шчасьлівы”, — сказала мне на гэта Яна, — “Значыць, ты яшчэ ня ведаеш, што такое сапраўднае прыніжэньне”). Нашая зь ёй уласная фантастыка, якая надта ўжо патыхае нейкай антыўтопіяй, нашыя, і толькі нашыя легенды. Ня ведаю, як Янка, а я нікому не распавядаў пра гэта. Праз колькі дзён мы ўжо разам жавалі бульбяны салат ва унівэрсытэцкай сталовай, назаўтра выправіліся на гадзінны шпацыр па горадзе, які завяршыўся ажно апоўначы на цёмнай пляцоўцы пры Яніных дзьвярох, па другі бок якіх думала ўжо беспакойную мацярынскую думу Галіна Іванаўна. Пару-тройку тыдняў мы прывучалі гарадзкія вуліцы да суладзьдзя нашых ног, ратаваліся ад плянавых дажджоў у выпадковых пад’ездах, падобных да грамадзкіх прыбіральняў, увабралі ў сябе пыл усіх навакольных лавачак, цені ўсіх паркавых дрэваў — увогуле, як я цяпер зразумеў, нічым арыгінальным мы не займаліся, а толькі выконвалі банальны рытуал мільярдаў закаханых, каб пасьля аднаго таропкага вечару ў мяне дома пачаць пакрысе зьдзяйсьняць рытуал раскаханых. Але тады нічога падобнага не завітвала ў маю лабастую галаву — нерухомае цела майго героя было перанесенае бліжэй да шуфляды зь Янінай гераіняй, вось і ўсё. Ёй падабаліся, страшэнна напачатку падабаліся дзьве рэчы: тое, што яе ймя ў альфабэтным парадку апераджае маё, і каханьне ля адчыненых вокнаў, калі яна, абапіраючыся на падваконьне, высоўвалася на двор і лавіла звар’яцелымі, невідушчымі, а хутчэй папросту ўзьнесенымі на больш высокі ўзровень зроку вачыма разнастайныя дробязі — сабакаў, вусеняў, вераб’ёў, дымок з форткі, малога з мікімаусавымі вушамі, па-пірацку складзеныя гіру й гантэлі на бальконе дома насупраць, алкаша ў позе гарніста каля тэніснага століку… Я ціха разьмяшчаўся ззаду, і наколькі нерухомай была мая

верхняя частка, настолькі ж няўрымсьлівай — ніжняя. Яна, Янок, Янка. У дзень вызваленьня нашай абалдзеннай радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў я быў прадстаўлены яе бацькам. Праз год я сяджу ў залі яе кватэры, гляджу тэлевізар, хрумкаю вафлямі, спрабую думаць зь Янаю ва унісон — гэта ўсе мае дасягненьні. Дзякуй за ўвагу. Blagojde s pojzor.

Апошняя вафля дастаецца Галіне Іванаўне. Яніна маці шумна грызе сваю долю здабычы, правакацыйна сёрбае гарбату, выклікаючы на лоб Міхаіла Самсонавіча зграю зморaных зморшчынак. Наша размова пакрысе спыняецца, яшчэ некалькі пясчынак, і гадзіньнік можна пераварочваць. Толькі я адзін заўважаю цяпер нецярплівыя падрыгваньні таго нэрвовага стрыжню, што засеў у Яне й прымушае яе напружана сьціскаць падлакотнікі фатэлю — Яна ўжо даўно чакае зручнага моманту, каб пайсьці адсюль, каб узяўшы мяне за руку вярнуцца ў свой пакой, на сваю выспу. Крадком я паглядваю на бацькоў: Міхаіл Самсонавіч змрочна глядзіць некуды паміж фіранкай і шафай, на ягонае плячо паклаў вагністую галаву задрамалы леў, Галіна Іванаўна калупае зубачысткай у струхлелым роце. Экран тэлевізара фарбуе пакой у кіслотныя, нездарова-зыркія колеры, цемра, што пасьпела акружыць той хісткі асьветлены цыліндар, дзе пагойдваюцца нашыя маўклівыя фігуры, то адступае да самых сьценаў, то накатвае на нас зноў — фізычна адчувальным, але ненастойлівым прыбоем. Калі задумацца, мы ўключаем тэлевізар з той жа прычыны, зь якой першабытны чалавек разводзіў уначы вогнішча. Экран разгараецца, і абараняе нас усю нашую жыцьцёвую ноч, і выбухае рэклямай — нам не патушыць яе. Перад рэклямай мы бясьсільныя, уявім сабе рэклямнага агента, распаўсюдніка касмэтыкі, ідэоляга мыла, цэрбэра-цэптэра, агітатара за пральны парашок — нават тройчы паслаўшы яго па-расейску, мы ўбачым перад сабой непрыстойна ветлівую ўсьмешку, пачуем найцярплівейшы ўздых і новае казаньне: мы самі бяжым ад свайго шчасьця. Тэлевізыйная рэкляма — гэта як словы любові, гэта як вобраз каханьня, бо яе сэнс толькі ў яе паўтарэньні.

Міхаіл Самсонавіч вырашае павандраваць па каналах. Мы зь Янай яшчэ не сыходзім, мы цярпліва чакаем, бо, па-першае, намі кіруе наскрозь фальшывае, але ўсеўладнае пачуцьцё віны перад бацькамі — трэба ж прысьвяціць ім хаця б некалькі гадзінаў на тыдзень, а па-другое, я ніяк не магу дапіць гарбату, спачатку я варыў сваё нёба зажыва, намагаючыся хутчэй пазбавіцца ад гарачага кубку, потым ліў гарбату проста ў глотку, а бясконцая вадкасьць усё яшчэ калыхаецца на прыдоньні. Я не хачу пакрыўдзіць Галіну Іванаўну...

пакрыўдзіць галіну іванаўну… пакрыўдзіць гадзіну і ў ванну… Нельга, нельга з такімі думкамі станавіцца нечым зяцем. Я люблю Галіну Іванаўну… люблю галіну іванаўну. Міхаіл Самсонавіч шпацыруе па каналах, закасаўшы нагавіцы, зьняўшы тапачкі. І тут адбываецца неверагоднае — ён натыкаецца на “Вышыню”.

Гэты ісляндзкі фільм зь першых жа хвілінаў захоплівае Яну, непрыкметна, нібы злодзей, выцягваючы зь яе ўсю злосьць. Камэра, што на працягу сарака хвілінаў ляціць над акіянам, над неспасьцігальна халоднай, касьмічна агромністай масай чорнай вады зь сівымі скронямі забойцы. Яна кусае вусны. Яе цела нарэшце паслабленае, і толькі пальцы пабялелі, быццам яна вісіць у гэтыя хвіліны на вяровачнай лесьвіцы, змагаючыся за жыцьцё, вымяраючы лесьвіцай куты зьменлівай вышыні. Здаецца, што Галіна Іванаўна ды Міхаіл Самсонавіч таксама трапілі пад тое ачараваньне, што струменіць з экрану — прынамсі, яны існуюць збоку зусім бязгучна, і вочы іх, наколькі я магу бачыць, накіраваныя на такую далёка-блізкую стыхію. Камэра мкне над акіянам, наверсе адно аблокі. Музыку, што суправаджае палёт, заўважаеш не адразу, настолькі неадрозныя яе грудныя, шырокія выдыхі ад бесьперапынных, вільготных, неабсяжных выяваў. Памеры экрану яшчэ больш узмацняюць для гледача пачуцьцё бяскрайнасьці — так і чакаеш, што зараз з-за межаў аб’ектыву абрынуцца на цябе тысячы, тысячы кілямэтраў пагрозьлівай вады. Тым ня менш адлегласьці выдаюцца нам порцыямі, бо інакш, мяркую, мы звар’яцелі б, і Яна адпусьціла б мокры, сьлізкі канат вяровачнай лесьвіцы — бездань. Вышыня. Музыку — тую музыку, якую мае студэнты здольныя ўспрымаць хіба ў кактэйлі зь якімі-небудзь ды-джэямі — часам трохі заглушае шум самалётных вінтоў, заглушае, ні на каліва не замінаючы, а хіба дапаўняючы ўсе гэтыя клясычныя шэдэўры прастужаным голасам надакіянскай высі. Суворыя птахі колеру пены, сонца, якое зрэдку сьлізгане на паверхні вады, прыгладзіўшы на хвілю хвалі; дзіўнае зеленаватае сьвячэньне. Фільм, бязьлюдны, як мая заўчасна пастарэлая душа. Мы сядзім у поўным, негалосна ўзгодненым маўчаньні, і я нават некаторы час веру, што бацькі Яны адчуваюць тое ж, што мы, што яны таксама лятуць на цяжкіх крылах праз акіянскае паветра — наўрад ці, вядома, але, можа быць, хаця б цень такога адчуваньня падрапае ім іхны нядзельны звычны вечар. Я кладу далонь на цёплыя пальцы Яны, бо мне хочацца быць бліжэй, яна раздражнёна выторгвае руку. Я ня крыўджуся. Фільм працягваецца. Мне складана сказаць, дарэчы, колькі хвілінаў ён ужо йдзе, як доўга мы сядзім тут у маўчаньні, якое не маглі раней і ўявіць — цуд! Адчуваньне часу страчанае. Магчыма,

фільм толькі пачаўся, магчыма, праз імгненьне тытры ўваднначасьсе зруйнуюць усё чараўніцтва. Ніводнага слова. У “Вышыні” не гучыць ніводнага чалавечага слова.

— Усім прывітаньне! — націск на “ы”. У тытрах, як высьвятляецца, няма патрэбы. І ўжо потым у пакоі зьяўляецца Марына, зграбна пераступаючы шлягбаўм маіх некультурна выцягнутых ног. Да майго застылага твару дакранаецца водар яе парфумы — шыкоўнай, дарэчы, парфумы, які палохае мяне сваёй прыцягальнасьцю. Бацькі схамянуліся, заварушыліся, лялечнік паабедаў і зноў узяўся за ніткі. Леў праваліўся кудысьці за сьпіну Міхаіла Самсонавіча. — А мы тут задрымалі крышку, задрамалі, — праз саладжавы позех выціскае Галіна Іванаўна. Міхаіл Самсонавіч выдае адразу некалькі пазяханьняў — так гучала ў час майго маленства кружэлка, калі яе паставіш ня з той хуткасьцю. Марына не зьвяртае на іх увагі — яна вырывае з рук Міхаіла Самсонавіча пульт і пачынае разьюшана мяць яго доўгім пальцам.

— Пасьпела, пасьпела! — крычыць яна й плюхаецца паміж бацькамі. — Глядзіце!

Дзіва, але Марына ды Яна зусім не падобныя. Калі мая Янка, прыльнуўшы, казыча мне шыю сваімі непараўнальна звычайнымі і ад таго найдаражэйшымі для шчасьлівага ўдыхальніка валасамі, то з Марынай, мажнай бляндынкай з тых, якія сьняцца ўсходнім мужчынам, мы зазвычай глядзім адно аднаму вочы ў вочы. Упэўнены: калі нехта бачыць Марыну і Яну на вуліцы, то думае, што яны проста сяброўкі. Мне давялося цэлы год употай аналізаваць іхнюю зьнешнасьць, каб нарэшце апраўдаць Галіну Іванаўну: гэтыя лініі дабрыні ў раёне носу, прыціснутыя вушы, разрэз вачэй, пад якім вечна б’ецца нейкая разгубленасьць, якую паблізу намагаюцца жорстка зьнішчыць вузкія рымскія вусны — усё гэта без ахвоты, але выкрывае аўтарскі калектыў.

— Зараз мяне пакажуць, — Марына нахіляецца наперад, абхапіўшы рукамі круглыя калені. На экране самааддана цалуюцца двое мужчын: стары ў сінім пінжаку й малады, што роспачна маша нейкай чырвонай кніжачкай. Міхаіл Самсонавіч няўцямна глядзіць на жонку. Я ледзь стрымліваюся, каб не засьмяяцца. Пацалунак адбываецца на сцэне, за сьпінамі ўдзельнікаў гэтага інтымнага акту млява абвісаюць залатыя заўлякалачкі сьцягу; літары, наклееныя на заслону, абвяшчаюць: “Горка”. Справа ад закаханай парачкі радасна пляскае у ладкі хлопец з пафарбванымі валасамі ў маечцы юнісэкс. Вясельле савецкіх геяў.

— Што гэта за парнуха? — пытаецца Яна, падыходзіць да

канапы й забірае льва.

— Заткніся, малая, — бурчыць Марына і адсоўвае Яну да мяне. — Гэта наш Горкаўскі райком, мы ўручаем членскія білеты новым... новым членам... ды пакажы ж мяне...

Цяпер ужо й бацькі сьвідруюць тэлевізар вачыма. На сцэну падымаецца пахілы юнак, спыняецца на прыступках, хлопец з пафарбаванымі валасамі хапае яго за пальцы й з усьмешкай цягне да сябе, не раўнуючы ратавальнік на вучэньнях. Дзед у сінім пінжаку задаволена аблізвае губы й бярэ са стала новую кніжачку.

— Гэта наш першы сакратар, — нецярпліва мармыча Марына. — Вось гэты, у майцы... Валодзька Ракіцін... А гэта вэтэран... Сьмірноў... ды пакажыце ж прэзыдыюм, казлы...

Бацькі з павагай заключаюць Марыну ў абдымкі сваіх ганарлівых поглядаў. Янка з пагардай вывучае голыя, дрыжачыя, шчыльна ссунутыя калені сястры. Я пакорліва сузіраю экран. Трансьляцыя ўручэньня (натуральна, у запісе) йдзе, дарэчы, на гарадзкім тэлеканале, які вылучаецца адмысловай якасьцю паказу. Такім, якім нам прапануе сьвет ГТВ, мусяць бачыць яго толькі хранічныя алькаголікі дзе-небудзь на пятнаццаты дзень чарговага запою — акварыюм, напоўнены брагай, сярод якой плаваюць цяжкаадрозныя фігуры, прадметы, рэчы. На шчасьце, мае суайчыньнікі маюць досыць вычварную фантазію, каб зь лёгкасьцю здагадацца, што ж ім паказваюць. Мне ж такая сытуацыя даспадобы — на брыдоту бясьпечней глядзець п’янымі зрэнкамі.

— Ды вазьміце ж управа, — Марына ледзь ня румзае. Голаса за кадрам ніхто ня слухае. Вазьміце ўправа — але кіроўца-камікадзэ зачыніў кабіну й прэ проста ў прорву.

Нарэшце апэратар скараецца. Мы бачым Марыну за высокім сталом, пад яе лакцямі круцяць шыямі некалькі марынаў паменей. Намесьнік першага сакратара маладзёвага Саюзу. Галіна Іванаўна кідаецца да тэлефону. “Віталік? Віталік, скажы сваім, хай пераключаюць хутчэй на гэтэвэ, там нашу Марынку паказваюць!”

— А зараз я прамову буду казаць, — адкідаецца на сьпінку канапы Марына, упэўненая, што ўжо тут апэратару няма будзе куды падзецца. І праўда, Марыну бяруць буйным плянам... наступіўшы мне на нагу, Яна драпежным ценем мільгае перад вачыма, краем кашулі пляснуўшы па маім твары — яна вырывае ў Марыны пульт, вокамгненна ўсаджваецца на сваё месца й як ні ў чым не бывала ўтаропліваецца на экран. Пульт адчувае на сабе ліхаманкавую працу яе пальцаў. “Вышыня” ужо скончылася — па тэлевізары спрэс навіны, дзе-нідзе яшчэ выкарыстоўваюць кіпячэньне. Яна пасьпявае зрабіць

некалькі пасьпешлівых колаў па тэлевізыйных мэрыдыянах, пакуль Марына заглынае экраннае сьвятло прасторным іртом.

— Аддай пульт, сучка малая! — і пульт ляціць Марыне ў сківіцу. Марына парыруе кідок на Міхаіла Самсонавіча, той спрабуе злавіць, але толькі змахвае яго пад канапу. Марына набірае поўны рот самых сьмярдзючых словаў, харкае. Міхаіл Самсонавіч мітусьліва шарыць пад нагамі ў дачкі. Але ўжо позна, і ўсім удзельнікам драмы застаецца толькі агучваць адзін з тых фільмаў, якія ГТВ прапісвае нам раз на дзень (пасьля вячэры).

Перад тэлевізарам становіцца душна, як бывае неўзабаве перад навальніцай, і мы ратуемся ў Яніным пакоі.

Маімі суседкамі па жыцьці заўсёды чамусьці апынаюцца моцныя жанчыны. Мезенец — Ірына, якая сёлета ўжо, верагодна, сканчае сваю кансэрваторыю, наркаманка й няспраўджаная мадэль (апошняе слова як для Галіны Іванаўны, так і для маёй маці зьяўляецца сынонімам слова “прастытутка” — зрэшты, у моцы не адмовіш ні мадэлям, ні прастытуткам). Безыменны палец — Таня, зь якой мы на першым нашым курсе арганізавалі панк-гурт. Дужая характарам, але непрывабная звонку дзеўчына — сярод пяці няскладных і таму грубых і жорсткіх хлопчыкаў ёй удалося на працягу году захоўваць несумненнае лідарства. Сярэдні — Оля, проста Оля. Указальны — яшчэ адна Оля, сапраўдны тыран, якая трымала ў страху ўсіх выкладчыкаў свайго тэхналягічнага, бацькоў, двух старэйшых братоў і мяне ўлучна. Янка — вялікі палец, пальчык, што пры выглядзе нялюбых яму людзей або пры сузіраньні нявартых учынкаў на старажытнарымскі манэр адразу ж рашуча перакульваецца пазногцем долу. Моцныя, спраўныя кабеткі, дзяўчаткі-вамп, заўжды гатовыя спусьціць з ланцугу сваіх зьвяроў — у выпадку пагрозы уласнаму сьветапогляду гэткія жанчыны й не падумаюць запіхваць разяўленыя пашчы назад у клетку. Яна ў кампаніі пералічаных усемагутных амазонак — бясспрэчная каралева, Янка здольная абараняцца. Чаму я сустракаю іх ледзь не штогод? Можна прыдумаць багата тлумачэньняў. Насамрэч яно адно, і маю асобу не прыніжае — справа ў маёй слабасьці. Менавіта слабасьць вымушае мяне загінаць пальцы.

Яна грукае дзьвярмі, і як толькі сьціхае рэха гэтага стрэлу, мы чуем зь вітальні лаянку — тыя словы, якія ў нашай краіне вымавіць можа кожны, а вось прачытаць — не. Хто крычыць, сказаць цяжка, адно можна сьцьвярджаць з упэўненасьцю: гэта ня голас Міхаіла Самсонавіча. Той цяпер цішком глядзіць спартовыя навіны й сарамліва цешыцца, што жонка й старэйшая дачка зачыняцца зараз на кухні й дадуць пазаўзець за ўлюбёны “Рэал” (жанчынам ня месца

на стадыёне). Лаянка гучыць зноў, паўтараючыся слова ў слова. Моцныя, моцныя, сталёвыя жанчыны, ні сьлёзаў, ні гістэрыкаў, ніякіх віскаў — суцэльны мат, яшчэ адна мужчынская страта. Сьлёзы будуць потым, гідкія, нежывыя, абавязковыя. Мірнае пагадненьне, замацаванае пячаткай з сопляў, самай ненадзейнай пячаткай у сьвеце. Яну ўзгадваюць яшчэ раз, і яшчэ, яна стаіць, зь нянавісьцю пазіраючы на дзьверы, і, відаць, пачуваецца рознаскланяльным назоўнікам у экзамэнацыйным білеце. Некалькі гэткіх месяцаў, і падобныя выразы ў Янінай кватэры я пачну ўспрымаць як належныя. Пакуль што яны рэжуць мой нягідлівы, трэба сказаць, слых у гэтых сьценах. Адно час на такіх сьцежках вайны пачынае паводзіць сябе нібыта ў тэатры: імбрык, вафлі, “Вышыня”, леў — усе яны былі вельмі даўно й ня тут.

Нарэшце Яна адварочваецца ад дзьвярэй, з электрашокера ператвараючыся ў звычайны жаночы кулак. Я асьцярожна прысаджваюся на край ложку. Яна выпускае льва на падлогу, на даўно ня чышчаны дыван — мне на ім знаёмая кожная крошка, кожная плямка. Я дакладна аўтар паловы зь іх: то каву разалью, то сябе. Дыван у Яніным пакоі — вялікая мапа сьвету. Мы ганарымся ёй так, як толькі калекцыянэр жывапісу можа ганарыцца арыгіналам Ван Гога або Матыса. Таму Яна дыван і ня чысьціць — такое мапы ня мае ніхто. Праўда, на нашай мапе не хапае некаторых дробязяў, Японіі, напрыклад, Аўстраліі, дый яшчэ некалькіх дэталяў. Затое паміж Афрыкай і Лацінскай Амэрыкай мы маем Атлянтыду — якая яшчэ мапа можа пахваліцца каардынатамі затанулай выспы? Нам пашэнціла — абрысы Атлянтыды праступілі на дыване пасьля таго, як у вадным з нашых жарсьлівых эпізодаў на блакіт акіяну абрынуліся паўкеліха чырвонай “Фецяскі”. Этнічныя межы расьсяленьня кудзінаў на мапе відаць асабліва добра — прызнаюся, я сьвядома іх пазначыў, для гэтага спатрэбілася толькі кропелька банальнага канцылярскага клею. Затое цяпер Яна можа паказаць Кудзію й на размаляваным кавалку паперы, які называецца мапай па-за межамі Янінага дому — надта ўжо часта ёй, маёй Янцы, даводзілася ўзірацца ў краіну кудзінаў зблізу, класьці на Кудзінію сваё стогнучае падбародзьдзе. Наша рэліквія, наша мапа, наша Атлянтыда. Галіна Іванаўна неаднойчы спрабавала зрабіць зь яе дыван (барбарства якое, з мапы — дыван!), але сутыкнулася з такім супрацівам, што перастала з пэўнага часу пераступаць нават парог Яніных уладаньняў. Сёлета ў сакавіку мы зь Янкай прадэманстравалі мапу Марыне. Калі тая толькі йшла празь вітальню на наш покліч, я сказаў Яне: “Здагадваешся, як адрэагуе твая сястра? “Дзіцячы сад!” Ты...” — пачала Яна. Марына ўвайшла, чамусьці трымаючы ў руках эпілятар. Сакрэт дывану быў

урачыста раскрыты, выкарыстоўваючы як указку лапу нейкай жырафы, я правёў з Марынай кароткі ўрок займальнае геаграфіі. “Прыкольна”, — уздыхнула Марына ды рушыла да выйсьця. Мы пераглянуліся. “Ты нічога больш ня хочаш сказаць?” — крыкнуў я наўздагон. Марына азірнулася. “Што?” У лазьніцы грукатала вада. “Марын, ты ацаніла?” Марына пахітала галавой, узважыла ў руцэ эпілятар і выйшла з пакою: “Дзіцячы сад!”.

Леў з расчараваньнем аглядвае сваіх пухнатых васалаў, што павылазілі з шчылін і сутарэньняў, здымаючы капелюшы пры выглядзе новага фаварыта гаспадыні. З такім войскам… Яна падыходзіць да вакна, прытуляецца лбом да нагрэтага за дзень шкла, потым раптоўным, шырокім, на мяжы вывіху рухам адсоўвае фіранкі, адчыняе высокую аканіцу, разгінае вострыя плечы. Цяпер у пакоі цокае, нашыя цені вісяць па-над клюмбаю, рассеўшыся на пляскатым, хісткім сьвятле. Як у якое-небудзь мёртвае возера, у пакой уліваецца ўжо, бадай, зусім астылая вуліца. Яна мякка адводзіць маю руку й забіраецца на ложак у мяне за сьпінай, кладзецца да сьцяны.

— Дай мне коўдру, — яе рука імгненьне пырхае ў паветры, струнныя граюць трэмала, я наступаю льву на хвост. Яна здымае шкарпэткі й захінаецца ледзьве не з галавой. Паразважыўшы, я асьцярожна спрабую прытуліцца побач. Яна не адразу пасьпявае зрэагаваць, і мне перападае сэкунда такой асалоды, за якую не шкада заплаціць і некалькімі гадамі жыцьця. Усяго імгненьне я з балючай вастрынёй уяўляю нас галоднай бязьдзетнай сям’ёй, уяўляю, як мы здымаем пакой у нейкай мансардзе й штораніцы засынаем вось так, пад адной коўдрай, шчасьлівыя нягледзячы ні на што — разам. Усяго імгненьне. Калі яно сканчаецца, я ўскокваю з ложку, уджалены пад рэбры Яніным локцем.

— Ты што сабе дазваляеш? Ахранеў? — задышліва шэпча Яна, спалохана пазіраючы на дзьверы. Спавітая коўдрай, яна сядзіць на ложку й чамусьці папраўляе майткі, хаця там, наколькі я бачу, усё ў парадку. — Хто ты такі? А калі нехта зойдзе, калі бацька зойдзе, а мы тут… Мазгі маеш?

Я саджуся на самы край, каб падкрэсьліць сваю крыўду. “Паляжаць ня дасьць”, — бурчыць Яна і апускае ногі на падлогу.

— Чаму шэптам? — кажу я наўмысна гучна, быццам на мне залатыя навушнікі. — Чаго ты так баішся, Янок?

Атрымліваецца надзвычай ненатуральна. Яна са шкадаваньнем вывучае мае дэманстратыўна танаваныя вочы, зноў азіраецца на дзьверы й прамаўляе ўжо нармальным голасам:

— А ты не баішся. Ведама ж, табе ўсё адно. Ну дык ідзі, раскажы бацьку, што са мной сьпіш, у якіх позах, папрасі ў яго грошай на прэзэрватывы, а лепей трахні мяне на вачах ва ўсіх. Можа, тады супакоішся.

Я сьціскаю зубы так, што мне нават падаецца, што хрумсьцяць, крышачыся, плёмбы. Але маўчу.

— Ну хто ты такі на дадзены момант для бацькоў, каб вось так ляжаць са мной пад адной коўдрай, — кажа Яна крыху больш лагодна. — Ты ж ведаеш, яны няправільна ўсё зразумеюць. Ты бы пра мяне падумаў. Бацька мяне забіў бы, калі б убачыў. Ну паразважай. Ну табе што, мала…

— Хто я такі? — як я ня стрымліваўся, старая шарманка ўва мне ўсё-ткі запілікала. Цяпер трэба толькі дачакацца, пакуль скончыцца яе песьня. — Вось гэта мяне й цікавіць, Янка, вельмі цікавіць. Час ужо мне стаць для цябе некім. А то не жаніх, не бойфрэнд, ня сябра, ня муж, у рэшце рэшт…

Я пошла ўздыхаю, але зрабіць з сабой нешта ў такія хвіліны — на гэта ў Маёй Прыніжанасьці не стае войскаў. Кожнае маё слова — нерэалізаваная сьляза. Тут нашыя зь Янай думкі зьнянацку перасякаюцца.

— Фу, я пачуваюся насоўкай, — зморшчваецца Яна. — Зноў завёў… Ну колькі можна. Сам вінаваты, што ня муж, не жаніх, не бой… А наконт сябра… Значыць, мы з табой не сябры, так? Хто ж тады я для цябе? Вагіна ды ўсё? Хочаш нешта зьмяніць — зрабі штонебудзь. Учынак. Мужчынскі. Чуеш?

Натуральна, вымавіць слова “каханьне” я ня здольны. Яна, я ў гэтым пэўны, таксама. Мяркую, пачынаючы з нашага пакаленьня слова “каханьне” (якое ж яно брыдкае, гэтае слоўца, у сваёй падлеткавай аголенасьці) будзе ўсё больш трывала замацоўвацца сярод табуяванай лексыкі чалавецтва. Вызваляючы, дарэчы, месца ў прасторы штодзённага лексыкону для іншых словаў, раней вузкаспэцыяльных.

— Я ўжо не дзіцё, — заводжу я наноў, і мяне расьпірае ад агіды да самога сябе. — Чаму мы ня можам стварыць сям’ю. Чаму мы ня можам…

Boys don’t cry.

— Ты сам разумееш, чаму, — адказвае яна маркотна, потым падсоўваецца бліжэй і кладзе галаву на маё плячо, што захоплена гуляе ў нэрвовы цік. Дзіўна, але яе набліжэньне выклікае ў мяне прыступ бурлівага раскаяньня. Яна, відавочна, адчувае пульсаваньне ягоных віроў і прышпорвае іх сьвядома й мэтанакіравана. — Адкажы,

ну хіба табе дрэнна са мной? Чым цябе не задавальняе тое... тое, што ёсьць? Хіба не галоўнае, што мы разам? Калі не лічыць гэтых (яна хітае галавой на дзьверы), што нам замінае жыць так, каб атрымліваць задавальненьне...

— Сама разумееш, чым, — злосна рохкаю я, зрэшты, ужо амаль расталы, падатлівы, нібы дзіцячы канструктар. Яніна рука, сымбіёз коткі й кобры, прасьлізгвае паміж маіх ног, па-сапраўднаму крывых — любы пазайздросьціў бы. Янка ціха шыпіць, схіляе галаву, і я са зьдзіўленьнем усьведамляю, што трымаю яе цёплае, роднае цела ў зусім не сяброўскіх абдымках. Крыкі за дзьвярыма даўно змоўклі, толькі ў залі чутная эмацыянальная гутарка Міхаіла Самсонавіча й пажылога хрыпатага тэлекамэнтатара. У нашым пакоі — тэатар ценяў, які ладзяць два на дзіва бясшумныя матылі. На вуліцы выключаюцца вятры ды ліхтары. Дыханьне Яны плаўнае, сьвежае, я лаўлю паветра, што яна выдыхае, й раз-пораз спыняю сэрца, каб рассмакаваць гэты водар.

— Скажы каханьне, — прамаўляю я невядома чаму.

— Што? — яна санліва прыпадымае галаву.

— Скажы каханьне. Скажы — “каханьне”. Яна вызваляе галаву й выпростваецца поруч.

— Навошта?

— Прашу цябе, калі ласка, скажы.

Сьмех, невыразны й дабрадушны, скажае яе твар настолькі, што мне становіцца страшна. Мяне скаланае ад нянавісьці, але тут жа насланьне зьнікае, быццам і не было. Яго й праўда не было. Я схлусіў.

— Love, — вымаўляе яна, зрабіўшы галівудзкія вочы й надзьмуўшы вусны. — Amour.

— Не, — я праглынаю сталовую лыжку сьліны. — Скажы каханьне.

— Любовь,— кідае Яна. — Нечаянно нагрянет.

Я валю яе на сьпіну й хапаю за шыю. Пальцы быццам адно гэтага й чакалі. Усё яшчэ лежучы на Яне, я роспачна намагаюся ўтрымаць іх за павадкі. Янка ці то сьмяецца, ці то ў жываце ейным булькоча. Я заплюшчваю вочы, і без таго сьляпыя, у сьвядомасьці маёй растыркаюцца, ператвараюць сваю звычную бяскрыўдную вэртыкальнасьць у мадыфікацыі забойчага крыжа рызыкоўныя рыскі-літары: К, А, Х.

— Што ты казала пазаўчора? — я адпускаю Яну, яна, заказытаная, плача ад сьмеху.— Пра тэст гэты, пяць якасьцяў...

— Гэта не зусім тэст. Гэта практыкаваньне такое... — Янка садзіцца, узрушаная. — Давай зладзім.

Яна знаходзіць дзьве асадкі й пазбаўляе тоўсты сшытак двух лістоў. Я атрымліваю набор практыканта й мы садзімся сьпінамі да сьцяны. За дзьвярыма перакатваюцца туды-сюды раздражнёныя крокі. Іх суправаджае няспынны прыцішаны стогн, нібы нехта адчыняе вялізную ржавую браму.Думаю, выснова тут магчымая адна: Галіна Іванаўна.

— Сутнасьць такая, — Янка гаворыць нягучна, але, дзякуйбогу, ня шэптам. — Усё вельмі лёгка. За пяць хвілінаў ты запісваеш у слупок пяць якасьцяў майго характару, якія табе да спадобы, і пяць — якія не падабаюцца. Я адпаведна...

— Усё зразумела, не дурны, — адмахваюся я, кідаю позірк на гадзіньнік, прыцэльваюся асадкай. — Раз, два, тры, час пайшоў.

Адначасова з часам у пакой завітвае Марына.Выраз яе твару такі перабольшана прыхільны, што мы зь Янаю сынхронна закрываем вочы лісткамі й пачынаем нешта крэмзаць. Цікава, дарэчы, гэтае крэмзаньне — таксама тэст, ці псыхалягічнае практыкаваньне. Што рухае рукой чалавека ў такія хвіліны, якая сувязь між вынікам гэтага крэмзаньня і, напрыклад эмоцыямі? Патлумачыць штрыхоўку й перавагу цёмнага колеру ў такіх малюнках змрочнымі думкамі, як мне падаецца, надта спрошчаны погляд на рэчы. Я, да прыкладу, выкрэмзваю ў дадзены момант нешта накшталт пляну эвакуацыі таямнічага будынку ў выпадку пажару

— У марскі бой рэжацеся? — добразычліва пасьміхаецца Марына. Яна садзіцца на крэсла, кожным рухам дэманструючы сястрынскую любоў, аднак не забываючыся палюбавацца й на сябе ў загадкава-люстранай цёмнай паверхні шафы. — Эй, рабяткі!

Шашаль нянавісьці, наколькі мне відаць, пачаў тачыць паперу перад тварам Яны яшчэ калі дзьверы толькі адчыняліся (лішне казаць, што пагрукаць Марыне і ў галаву не прыйшло). Леў пад нагамі Янінай сястры таксама ўжо не падаецца мне абсалютна статычным. Я малюю зацеклай рукой пераходы й калідоры, лесьвіцы й падвальныя памяшканьні, будуары й лазьніцы — нагрувашчаньне простых лініяў, і думаю пра тое, што гераіні, замест якой жыве Марына, замала, мусіць, адной шуфляды.

— Янка, ды што ты як дзіцёнак, — аблізваецца Марына. — Давай мірыцца, ладна табе. А, малая?

Яна павольна адсоўвае ад твару лісток і , гледзячы на сястру невідушчымі вачыма, грызе асадку. Я раблю па намаляванай схеме экскурсію для стрэлак.

— Малая, ну нельга ж так. Маці вунь, сэрца ў яе забалела. А я на цябе не злуюся. Зусім. А, малая?

Яна задуменна глядзіць на мяне, пераводзіць позірк на Марыну — усё той жа позірк, на ўсё тую ж румяную, добразычліва-усьмешлівую, змайстраваную з надзьмутых паветраных балёнчыкаў сястру.

— Ведаеш, што па-кудзінску значыць “те пгікајzј мје”? — пытаецца Яна такім тонам, нібыта яны з Марынай заўсёды любілі падзяліцца лінгвістычнай здабычай.

— Не, — простадушна махае галавой несумненна ўзрадаваная Марына.Шырыня яе ўсьмешкі вырастае ўдвая.

— Па-кудзінску гэта значыць “ты мне замінаеш”. Ясна? Ты мне замінаеш, Марына.

— Я?

— Ты мне жыць замінаеш. Выйдзі адсюль, калі ласка. Марына пасьміхаецца яшчэ шырэй, я са страхам назіраю за яе ротам, гатовым разарвацца ад незваротна апухлай усьмешкі. Марына падымаецца, робіць крок у нашым накірунку, кідае погляд на мяне й паволі, не здымаючы ўсьмешкі, бокам рухаецца да дзьвярэй. — Сучка малая, каб цябе трактарам трахнулі, — расьцягвае вусны Марына, і для яе, мы бачым, гэта балючы працэс, бо ўсьмешка, цяпер больш падобная на пірожнае, скоўвае Марыне прыгожы рот. — Я цябе ненавіджу, підарка трахнутая.

Я цябе заб’ю калі-небудзь, задушу.

Марына выходзіць, а яе рот усё яшчэ мроіцца нам некалькі маўклівых хвілінаў. Я адчуваю, як узьнікае й набіраецца моцы суладзьдзе думак і вобразаў, якія кружляюць у нашых галовах, і такое зьліцьцё дапамагае нам нарэшце перадолець прывід Марыны, ачысьціць ад яе мапу пад нагамі. “Навучыў на сваю галаву”, — слаба пасьміхаюся я.

— Засёк час? — гэта хутчэй дрыжыць мой слых, чым голас Яны. — Пачалі.

Папраўдзе кажучы, у нас ня вельмі раўнапраўнае становішча — калі ад мяне гэтае “практыкаваньне” насамрэч патрабуе разабрацца ва ўласных пачуцьцях і, што, бадай, яшчэ складаней, даць ім імёны, то Яна, ведаючы ўмовы загадзя, даўно магла выканаць заданьне ў галаве й цяпер ёй застаецца толькі запісаць вынікі. Але я не кажу пра гэта ані слова, я моўчкі пасопваю й кручу асадку, баючыся парушыць тое суладзьдзе, тое шчасьлівае нетрывалае сугучча нашых зь Янаю сьвядомасьцяў, якое нам міжволі падаравала Марына. Я думаю і ўдаю, што думаю, выдумваю й перадумваю, і тое-сёе нават натую, але на патрэбную пяцёрку наскрэсьці ніяк не магу.Асабліва бянтэжыць мяне гэтае праклятае “Не падабаецца”. Як я й чакаў, Яна запісвае свае вынікі амаль не адрываючы рукі й потым цярпліва назірае за

маімі вымогамі.Пяць хвілінаў мінаюць фантастычна хутка, і я, папярэдне абмакнуўшы лісток у канцэнтраваны раствор бесстароннасьці, перадаю яго Яне.

На гэты раз у дзьверы грукаюць. Галава Міхаіла

Самсонавіча дазваляе нам , ваяўнічым і натхнёным нядаўняй перамогай, уздыхнуць з палёгкай.

— Янка, цябе да тэлефону, — кажа ён ласкава й, сьмешна выгнуўшыся, прапускае яе ў вітальню. Я хаваю лісток між каленяў. Міхаіл Самсонавіч праходзіць у пакой, нерашуча падступаецца да вакна, зачыняе яго, аглядваецца на мяне, уздыхвае, зноў адчыняе. Я шукаю словы, якія пасуюць, ён — якія забіваюць. У выніку мы загаворваем адначасова:

— Міхаіл Самсонавіч...

— А “Рэал” выйграў...

Больш мы сказаць нічога ня здольныя. Мне, які толькі што ўсмакаваў пачуцьця поўнае еднасьці зь Янай, надзвычай няўтульна ад неабходнасьці церціся аб калючую шчаку душы Міхаіла Самсонавіча — а ён прагульваецца па пакоі, і, магчыма, у шуфлядзе зь ягоным героем маецца дэфэкт, адтулінка, трэшчынка, надта ўжо цяжка мне ўявіць ягонага героя паўнацэнным. Міхаіл Самсонавіч дробна хітае галавой, мармыча нешта пад нос, нібы пераконваючы кагосьці, і толькі вяртаньне Яны вымушае яго сьпешна сысьці.

— Хто званіў? — пытаюся я як мага больш легкадумна. А шакаляднная крымская сьпіна, пакуль што ледзь бачная, насуперак майму спакою зноў зьяўляецца перад вачыма.

— Ды так, — кідае Яна.

— А ўсё-ткі, хто?

— Неістотна.

Той, хто ня верыць у герояў, не сьпяшаючыся наводзіць рэзкасьць. Сьпіна, што робіць аднастайныя, але такія знаёмыя рухі, становіцца ўсё выразьней, бляск загарэлай вільготнай скуры, акаймаваны густымі чорнымі валасамі, рэжа вочы.

— Я... Ты мусіш мне сказаць, хто гэта быў.

— А хто ты для мяне, каб я рабіла справаздачы?

— Значыць, я ніхто? Я для цябе ніхто?

— Як ты мяне закатаваў... Едзь дахаты, добра? Ужо палова на дванаццатую.

Я вырашаю адступіць. Дараваньня даводзіцца прасіць у сьпіны, затым у шыі, у вуха, апошняя інстанцыя — прахалодныя Яніны вусны — выносяць апраўдальны вэрдыкт. Прынамсі, разьвітаемся мы сёньня тымі, якімі сустрэліся.

— Я ня буду праваджаць да дзьвярэй, добра, — пазяхае Яна, дае мне на дарогу трошкі сваёй сьліны, паварочваецца да сьцяны й выключае сьвятло. Каля прыбіральні я натыкаюся на Галіну Іванаўну.

— Малады чалавек, дахаты не пара? — халодна кажа яна, ня гледзячы на мяне й зьнікае ў залі, прычыніўшы за сабой дзьверы. Я глыбока ўдыхаю пах Галіны Іванаўны — ні з чым не параўнальны пах пажылога хворага чалавека, які зьбіраецца класьціся спаць, не пачысьціўшы зубоў.

**3.**

Калі сутнасьць прафэсыі выкладчыка й напраўду — весьці штодня жорсткую вайну, то мая вайна халодная, як замарожаныя героі. На ўнутраным баку той дагістарычнай, пакрытай стогадовым потам катэдры, за якой я на дадзены момант стаю, гайдаючы над галовамі студэнтаў славуты верш Карла Гуйдана, выразана асадкаю: “Казёл”. Цынізм майго праціўніка — вытанчаны: слова разьмешчана так, каб толькі выкладчык штодня любаваўся сваёй характарыстыкай, аўтар надпісу не зрабіў яго вонкі, бо выдатна разумеў, што студэнты *і так ведаюць, хто я насамрэч.* Натуральна, да заўхоза я йсьці ніколі не наважуся, я ня з тых, хто ходзіць да заўхозаў, і таму слова будзе заставацца тут пакуль па заўхоза ня пойдзе хто-небудзь з калегаў, да прыкладу, Паліна Віктараўна. Праблема ў тым, што й зьнішчыць надпіс сваімі сіламі я таксама няздольны. Бо я з тых, хто будзе панура цярпець любое прыніжэньне, суцяшаючы сябе падобнымі дробязнымі развагамі. Зрэшты, малаверагодна, што “казёл” зьвернутае менавіта да мяне, я яшчэ не пасьпеў заслужыць, а ў гэтай цеснай аўдыторыі займаюцца па шэсьць-восем групаў. Ня думаю таксама, што такі зьдзек мог зьдзейсьніць нехта з маіх нешматлікіх першакурсьнікаў, якія ў дадзеныя хвіліны пакутліва моршчацца, намагаючыся расчляніць трупікі бесьсьмяротных радкоў вялікага кудзінскага паэты.

Я старэйшы за іх усяго на шэсьць гадоў. Хіба могуць узьнікнуць вышэйзгаданыя думкі ў сапраўднага выкладчыка?

Я працую тут на палову стаўкі. Калі б я жыў адзін, даўно памёр бы з голаду, бо заробку майго хапае на праездны й пяць кампакт-дыскаў (або дваццаць пачкаў пяльменяў, або чатыры букеты ружаў, або сорак куфляў піва, або столькі ж упаковак прэзэрватываў “Неваляшка”, або адзін падарунак на дзень народзінаў Яны, або паўпрагулкі па яе раёне пасьля дванаццаці). Мы з маёй кудзінскай

мовай мусім радавацца, што яшчэ існуем у гэтым унівэрсытэце — прычынай ёсьць дзіўны капрыз кагосьці з кіраўніцтва ды яшчэ павага да майго памерлага папярэдніка й былога настаўніка, прафэсара Дранцава. У іншым выпадку нам з кудзінскай ня кінулі б і чвэрці стаўкі (чашу мовачку-дзюймовачку за вухам). Яшчэ больш неверагодна, што на маіх занятках сядзяць нейкія студэнты. Толькі паступіўшы, гэтыя хлопчыкі й дзяўчаткі абіраюць факультатывы сыходзячы, відаць, больш са зьнешнасьці й манэраў выкладчыка, чым з рацыянальных патрэбаў. Такім вось чынам і я трапіў да Дранцава. Яны ходзяць да мяне сэмэстар, усё зь меншай і меншай рэгулярнасьцю, зразумеўшы нарэшце, якое месца займаем я й мой каматозны прадмет ў гіерархіі ўнівэрсыту, а праз паўгады адзіныя словы, якія я ад іх чую — калідорнае здрасьце. Часам яно гучыць па-кудзінску, што не выклікае ў мяне аніякага замілаваньня.

Сёлета студэнтаў чацьвёра — тры дзяўчынкі, двое зь якіх звычайныя масяні, а трэцяя — сапраўдная прыгажуня па імені Валерыя, ды маўклівы хлопец, які ніколі не ўсьміхаецца. Гэта Валерыя запрасіла тады мяне ў студэнцкі тэатар, дзе яна грала Анку ў п’есе “Чапаеў і пустата”. Я думаў узяць з сабой Яну, тая шапнула ў слухаўку пра месячныя, давялося йсьці адному. Пасьля спэктаклю я вырашыў пайсьці да мэтро пешшу; Валерыя грала бяздарна, ужо ў антракце я зразумеў, што ніколі не закахаюся ў гэтую бляндыначку прыкладна Янінага росту. Ужо ля самага мэтро асьветленае вакно супэрмаркету раптам выдала мне буйным плянам Янку, якая сядзела сьпінай да мяне ў кафэтэрыі ды замінала разглядзець зьнешнасьць свайго суразмоўцы. У вагоне, хаваючы за далонямі разгубленасьць, я адчуў першыя сумненьні. Назаўтра Янка падмацавала іх абураным, сьвісьцячым шэптам, і я канчаткова паверыў, што памыліўся.Трэба сказаць, што Макс дагэтуль ня верыць у памылку, хаця яму, відаць, усё адно. Гэта адбылося месяц таму.

Цяпер жа я чытаю майму двуполаму непрыяцелю, што вольна расьсеўся за рудымі партамі, верш Карла Гуйдана, убогае сачыненьне пасрэднага песьняра кудзінскага Адраджэньня, які ня меў ані кроплі таленту, затое чыста кудзкую кроў.Чытаю ўжо ў другі раз — на трэці Валерыя з кампаніяй будуць запісваць яго на слых. Здаецца, гэта называецца аўдыяваньнем. Мае студэнцікі з хваравітай уважлівасьцю, але ў адвольных позах выслухоўваюць пачварны набор банальнасьцяў і іншага шалупіньня, якія цэлае стагодзьдзе вымушаная цягаць за сабой любая нацыя, няздольная вызначыцца, немаўля яна або маразматычка.

Moj kraj кидејен, міljен, лjuбен,
Те нідје, нејдје не zабу.
Е тozj vo темнјеj voloj grуbје
Ej бuju zнеjtj tеju vjeгбу.

Ej ozj е ta, дје plejce zejo
Ej ozj е ta, дје бrog побјеg,
Bujt sojнetj, фatumi somlei,
Ejк rajде меj sjмox roдvi vjeк.

Не ўяўляю, як можна палюбіць такую мову. Але сам палюбіў і вывучыў. Менавіта ў гэткім парадку. Спачатку была жарсьць, песьні хрыбта, сьляпучы абзац у энцыкляпэдыі, корпаньне ў расьпіраных ад лічбаў гістарычных даведніках; яшчэ да таго, як я вымавіў па-кудзінску першы складаназалежны сказ, гэтая мова бязбольна ўвайшла ў мяне й пусьціла ў закаханай галаве карані. І толькі потым я пачаў вывучаць яе сур’ёзна, грунтоўна — з роту прафэсара Дранцава пахла магільнымі кветкамі.

Я лічу, мовы можна вучыць выключна так і няйнакш: напачатку любоў, затым вывучэньне. Неабходная нейкая папярэдняя ўлюбёнасьць, так бы мовіць, плятанічная, патрэбны своеасаблівы музычны слых, ня кожнаму дадзены, каб пачуць гармонію й прыгажосьць у словах, значэньне якіх табе яшчэ не вядомае. І вось тады льга ўжо брацца за падручнік. Калі ажыцьцяўляць усё наадварот, гэта надта нагадвае шлюб па разьліку — зьяву, дарэшты мне ненавісную. Але большасьць вучыць замежныя гаворкі менавіта такім чынам — бачаць нявесту ў дзень вясельля, жывуць з мовай некалькі год і адно тады, дый тое не заўсёды, зьяўляецца нешта любовепадобнае — найхутчэй, прымітыўная прывязанасьць. Сканчаецца справа тым, што мовай папросту пачынаюць гандляваць, намагаюцца зарабіць на ёй капіталец — найчысьцейшае сутэнэрства. Вядома ж, у дачыненьні да кудзінскай мовы гэткі сцэнар выглядае сьмешна — грошы й кудзінская мова ўзаемавыключаныя, у кудзінскай нават няма ні эканамічных, ні камэрцыйных тэрмінаў, а шмат хто з кудзінаў сам заплаціў бы пару сотняў эўра, каб пазбавіцца ад навязлага на зубах акцэнту роднае гамонкі. Дый навогул, каму яна трэба, апрача вучоных-мовазнаўцаў, якім служыць замацавальным растворам у пабудове сумнеўных тэорыяў.

І ўсё ж... Прыемна быць адзіным хаця б у нечым. Пасьля

эміграцыі прафэсара Дранцава на той сьвет я — адзіны грамадзянін гэтай краіны, які ведае кудзінскую мову. За тое, каб парушыць такое першынство, фармальна мне нават плоцяць заробак. Але я ня веру, што хтонебудзь са студэнтаў калісьці стане аспрэчваць мой тытул. Жыцьцё ня здраджвае сваім законам — самая тупая фраза з тых, якія я чуў, але тут яна, здаецца, дарэчы. Не міне й месяца, як мае студэнты зробяць выбар на карысьць рацыянальнага, канчатковы выбар. А праз пяцьсот год на плянэце застанецца адна мова — ангельская. А я з “адзінага” ператваруся ў “апошняга”. Што таксама мусіць цешыць маё самалюбства.

Безумоўна, істотную ролю ў тым, што кудзіны ціха, зьняўшы капелюшы й шчыльна прычыніўшы за сабой дзьверы, увайшлі ў маё жыцьцё, адыграла ўласьцівае мне поўнае жаласьлівай сымпатыі стаўленьне да маленькіх, чэзлых нацыяў. Гэтыя народцы трымаюцца на энтузыязму двух-трох асобаў, гэтыя мікраскапічныя народзяняты паўзуць пад нагамі вялікіх этнасаў і ня гінуць толькі дзякуючы таму, што вялікія этнасы намагаюцца ступаць нячутна, падкрадаючыся да суседзяў ззаду. Канешне, тыя “дзьве-тры асобы”, намаганьні якіх дазваляюць народзіку пажыць да пары, зьяўляюцца хіба пародыямі на сапраўдных герояў. Задумаемся, кім быў бы Карл Гуйдан (1905—1943), калі б не паперла яго ў кудзінскі нацыянальны рух? Сьціплым банкаўскім клеркам, саматужныя літаратурныя вопыты якога не друкавала нават заштатная фэркельдорфская газэтка “Neue Ferkeldorfische Zeitung”, рэдактар якой Бруна Кметч сказаў калісьці падзіцячаму настойліваму спадару Хойдену: “Займіцеся лепш тэнісам або вязаньнем”. Спадар Хойдэн пакрыўдзіўся й пачаў пісаць на матчынай мове. Занес сьвежанакрэмзанае Эдуарду Людэйве, лідару кудзінскага Адраджэньня. Той якраз сеў абедаць і спачатку не хацеў прымаць Хойдэна, але потым, калі ўпарты наведнік прарваўся да стала й, пырскаючы патрыятычнай сьлінай, прадэклямаваў пра “мой край кудэйэн, мілен, любен”, нават накарміў генія халоднай курыцай. Так Карл Хойдэн, нікому не вядомы фэркельдорфец, за некалькі хвілінаў стаў вялікім нацыянальным паэтам Кудзіі, і цяпер нават нешматслоўныя, па вялікім рахунку, кудзіны могуць, заплюшчыўшы славянскія вочы, ганарліва ўздыхнуць: “Гуйдан — гэта нашае ўсё…”

Бываюць, натуральна, і такія выпадкі, калі энтузыясты становяцца рэаніматарамі сваіх гаротных народцаў, народцы вырастаюць да цалкам прыстойных памераў, прымушаючы пастарэлыя вялікія этнасы з гідлівым жахам назіраць за сваім існаваньнем — каму прынясе задавальненьне сузіраньне мураша ростам з дарослага чалавека. Кудзіны — ня з гэтай нешматлікай групы.

Згадануют вышэй гісторыю станаўленьня кудзінскай паэзіі я вычытаў у кнізе “Кудзіны — нарыс гісторыі ды культуры”, яна мне дасталася ў спадчыну ад Дранцава. Кніжка гэтая, вонкава ня дужа прэзэнтабэльная, дагэтуль застаецца адзінай крыніцай інфармацыі пра нашых пацыентаў. Зачытаць яе да дзірак я ня здолеў з прычыны таго, што гэта задоўга да мяне зрабіў сам прафэсар Дранцаў, якому пашчасьціла ў 1989 пабываць у Фэрдамтштаце, кудзінскай “сталіцы”, й запасьціся неабходнымі для працы матэрыяламі.

Такім чынам, Кудзія. Кропля малака ў бочцы з бэнзынам, малюпасенькая тэрыторыя, прышчык на целе вялізнай і уплывовай краіны, аднапакаёўка ў мэгаполісе, заселеная кудзінамі, самымі заходнімі з заходніх славянаў. На пачатку дваццатага стагодзьдзя іх было пяць тысяч, сканцэнтраваных не ў гарадах — у вёсачках Фэрдамтштат, Летцэнаў і Фэркельдорф. Несумненным посьпехам кудзінскай нацыі можна лічыць тое, што напачатку дваццаць першага стагодзьдзя колькасьць яе прадстаўнікоў складае тыя ж пяць тысяч. Людзі зьмяніліся, лічба засталася. Мусіць, гэта і дазваляе ім і цяпер звацца народам. Да рэвалюцыі, асфіксаванай сацыял-дэмакратамі, куды сядзелі ціха й пра тое, што яны куды, імкнуліся не казаць прылюдна. У дваццатых гадох сытуацыя памянялася. Нашчадкі парабкаў і павітухаў, кудзіны нечакана атрымалі права людзьмі звацца. Як гэта робіцца, ніхто з кудаў ня ведаў, таму ў першую кудзкую школу, адкрытую ў Фэрдамтштаце з ініцыятывы дабрадзея-бургамістра, не прыйшоў ніводзін кудзёнак. Школу зачынілі б, але на арэну падзеяў вылецеў зьнянацку на матацыклеце Эдуард Людэйва, трыццацігадовы спартсмэн, журналіст, дасьледчык, паляўнічы, навуковец, пісьменьнік, вайсковец, марак, лётчык і чыстакроўны куд, які кожнага, хто наважваўся распавядаць абразьлівыя показкі пра кудзінаў, спрабаваў выклікаць на дуэль. Калі б Кудзія атрымала, недайбожа, палітычную самастойнасьць, Эдуард Людэйва мог бы спалучаць у сваёй асобе ўвесь Кабінэт Міністраў. Менавіта харызма Людэйвы прывяла да таго, што незадоўга да эўрапэйскіх прыцемкаў кудзіны пабачылі, упершыню ў сваёй гісторыі, уласны нацыянальны сьвітанак. Школа, дзе па-кудзку выкладаліся астраномія, хімія, матэматыка, сьпевы, гісторыя ды сама кудзінская моўка, прыняла першых вучняў, у Фэрдамтштаце адкрыліся таксама Цэнтар кудзінскай народнай культуры, спартовы клюб “SV Kuden” і пачала выходзіць штотыднёвая газэта “Hasj gojlos”, рэдактарам якой стаў, натуральна, сам Людэйва. Перахварэўшы за сваё жыцьцё на многія ідэі ды ідэалёгіі, Людэйва ўзяўся за захаваньне кудзінскай нацыянальнай самабытнасьці з такім палам, што нават

двойчы плаціў штраф за абразу дзяржаўных чыноўнікаў.Да таго ж Людэйва быў гарачым прыхільнікам панславізму, што выклікала заўсёдныя падазрэньні паліцыі й, урэшце, недавер уладаў акругі. Жаданьне аб’яднаць усіх славянаў у вадзіны фронт супраціву палітыцы большасьці заходнеэўрапейскіх дзяржаваў прымала часам дзіўныя формы. Узяць, да прыкладу, унікальны кудзінскі альфабэт, аўтарам якога быў Людэйва.

Гэты зух узяў жменю кірыліцы, кінуў яе ў рондаль з лацінкаю й паставіў атрыманую сумесь на вагонь сваёй веры ў кудзінскае адраджэньне. Хутка да велічных пахаў эўрапейскае кухні, што, па шчырасьці, ужо ўтрымлівалі ў сабе дух разлажэньня, далучылася кволае, дзіўнае патыханьне кудзкай культуркі.Нельга сьцьвярджаць, што кудзінамі нехта асабліва ўжо зацікавіўся, але на перадваенных навуковых кангрэсах там-сям прамільгнулі неверагодныя шыльдачкі: “Doctor of Coudology mr. John Parsons”, “Hr. Iwan Toptygin, USSR”. Кудзінскі альфабэт стаўся на нейкі час прадметам філялягічных анэкдотаў, а ўвайсьці ў анэкдот — значыць увайсьці ў гісторыю.

...Гадоў так з трыццаць таму ў Фэрдамтштаце быў узьведзены трохпавярховік Таварыства кудзінскай культуры, з шырокімі вокнамі і прасторным унутраным дворыкам. У цэнтры дворыку — досыць глыбокі басэйн. Там штонядзелю праводзяцца афіцыйныя спаборніцтвы па цмейкен — народнай кудзінскай гульні. Па розныя берагі сядзяць тоўстыя куды з булкамі белага хлебу ў руках, весела гергечуць між сабой, кідаюць у ваду хлебныя скібы. Па басэйне сьцелецца пер’е, носяцца тудысюды белыя лебедзі: сэнс цмейкен у тым, каб сабраць каля сябе больш птахаў і скарміць хлеб як найхутчэй.

Сядзяць і дагэтуль. Ходзяць па брот на цэнтральную плошчу, пасярэдзіне якой, падперты ззаду й сьпераду ланцэтападобнымі ценямі дзьвюх найгалоўных цэркваў, робіць прысяданьні каменны пясьняр Карл Гуйдан — думае бяздонную думу пра dummen Kuden. Гуляюць у цмейкен, падпісваюцца на адноўлены ў 1991 “Hasj gojlos” — не дзеля чытаньня, а таму, што грошы йдуць на ўтрыманьне ТКК і басэйну, дый навогул, які ж разумны кудзін пойдзе насуперак традыцыі. Хітравата пасьміхаліся падчас перапісу — не, што вы, хіба ня ведаеце, куды мы... не туды. Чуеце рознасьць? Не выказвалі асаблівага захапленьня падчас аб’яднаньня, навогул анічога не выказвалі. Дажылі да таго дня, калі за сямю гарамі вучаць іхную мову. Толькі цяпер зь пяці тысяч кудзінаў па-свойму разумеюць хіба сто. Школкі ў гэтых шчасьліўцаў няма, затое ёсьць народны хор з выключна тутэйшым рэпэртуарам.

Прамовіўшы апошняе слова гуйданаўскага шэдэўра, я асьцярожна адсоўваю радкі ўбок і вызіраю ўнадвор. Чатыры валасатыя макаўкі ледзь бачна калышуцца перад вачыма, пустата аўдыторыі надае ўсяму, што адбываецца, выгляд чагосьці змушанага, недавершанага. Быццам усе мае студэнцікі ніяк ня могуць здаць важны іспыт, носяць раз за разам у мой раскошны турматорый пераздачы, а я, няўхільны, для якога ахоўнікі бы швайцары, адмаўляю ім, не пазбаўляючы, аднак, апошняй надзеі. Расстраляў бы кожнага другога зь іх.Пакінуў бы Валерыю ды адну з масяняў — дзеля кантрасту. Я ступаю ў вузкі праход між партаў, станаўлюся за сьпінай міс Унівэрсытэт, яе валасы вітаюць мяне тым жа пахам, які штодня дорыць мне Янка. Хлопец, Сяргей, уздымае галаву, ягоны погляд бруіцца чыстай, спакойнай, крышталёвай нянавісьцю. Яны ўжо скончылі пісаць, паглядзелі ўжо на атрыманае, падзівіліся чарговы раз на гэтыя літары, што нагадваюць старанныя пісьмёны дзіцяці, якое ўпершыню вучыць замежную мову і яшчэ не прызвычаілася да непаслухмянай лацінкі.

“Мой край кудэйен, мілен, любен”, — са зласьлівасьцю пачынаю я наноў, і галовы пакорліва схіляюцца панад сталамі. Я раблю крок наперад і цяпер стаю амаль ушчыльную да Валерыі. Татуіроўка на яе шыі моршчыцца, дрыжыць, апускае хвост глыбей у выраз сукенкі, дэманструе мне сваімі сінімі русальнымі вачыма, што зусім ня супраць, каб я паглядзеў, што для мяне прыпасенае на кончыку. Валерыя нахіляе галаву ніжэй, гучна выкрэсьлівае слова “Хуйдан”, варушыць вейкамі-лапкамі: “А вы мне сьвятло засланяеце, во-ось... ”, і кулакі Сярожкі бялеюць — я закладаю рукі за сьпіну й рушу да катэдры. Рвуцца ад напружанага сьмеху бязгрудыя блізьняты за першай партай. Я брашу нешта пра ётавыя галосныя. Глупая Валерыя, яна не разумее — у маім веку, з такім героем, як мой, для ўдалай дзявочай правакацыі ўжо замала моднага тату, нырнулага ў станік. Вось праз дваццаць год, пахаваўшы Янку, я сустрэну цябе ля Кастрычніцкага раённага суду, і тады мне хопіць нават недапалку са сьледам памады.

— Здавайце працы, — уздыхаю я.

На жаль, крапнуць сваёй сьлязой у слоічак румзотаў з нагоды адраджэньня заняпаду кудзінскага адраджэньня я ня здольны. Мяркую, гэта такое ж глупства, як шкадаваць, што герой, замест якога жыву я, мужчынскага, а не жаночага полу. З задавальненьнем паплачу над трупам лебедзя, які прайграў у цмейкен, абдыму котку, забітую камянямі дзяцей чарнобылю. Але нацыі, мовы, культуры? Ня нам разважаць пра вечнасьць.

Як каго, а мяне цешыць, што мовы зьнікаюць хутчэй за жывёлаў. Неяк прачытаў у газэце, што за апошнія паўтысячагодзьдзя на Зямлі зьнікла 306 моваў і 125 відаў птушак ды 87 відаў сысуноў. Вы хацелі, каб было наадварот? Стрэльбу ў рукі й наперад! Ня ведаю, колькі там да фінальнага сьвістка, але часу на тое, каб зьмяніць лік на карысьць чалавечага лапатаньня, напэўна хопіць. Не давайце ім памнажацца, язджайце да станцыі “Заасад” і прачэсвайце кожны мэтар, няспынна перамаўляючыся па рацыях. Страляйце, засыпайце норы, пабудуйце ім Іпр-наЛеце. Толькі не замаўкайце.

З балькону кудзінскай моўкі могілак, дарэчы, пакуль не відаць, хіба комін крэматорыю недзе ў смузе прыгараду. Бо ў трохсот пяцідзесяці моваў сьвету, як высьветлілі нейкія навукоўцы, менш за пяцьдзесят носьбітаў. Васемсот два афіцыйных карыстальніка кудзкай лёгка б’юць дзьве футбольных каманды тых, хто размаўляе на адной з моваў балівійскіх Андаў, альбо трыццатнік карыстальнікаў мовы камбап. Нават індзейцы айдаха маюць большыя шанцы выжыць сярод кудаў, бо іхнай пяцёрцы будзе лягчэй схавацца. Так што кудзінская гаворка цяперака толькі прымярае свой лепшы строй у кампаніі ня менш ачаравальных старых — ірляндзкай, карнійскай, правансальскай, гасконскай, што па-добраму пляскаюць яе па пахілых плячох: пойдзеш першая. Думаю, што карга пераджыве й мяне, і дзяцей Валерыі, і нават пасьля яе спачыну знойдзецца небарака, які стане слухаць аўдыятэку Дранцава й забіваць свой кампутар падшыўкаю “Hasj gojlos” і гуйданаўскімі опусамі. Урок скончаны. Усе вольныя. Як там у песьні народнай пяецца:

Lejgi, hajkri sa zjejmej

Чejs не musi tenla s kejm deliti…

(ляж, захініся зямлёй, цяпер табе ня трэба ні з кім дзяліцца цяплом…)

**4.**

Трэба, трэба трымаць гэтую чорную трубку, каб ня ўпасьці перад імі на калені. Мы вісім на ёй, нібы намагаемся з усяе моцы ўтрымаць рэгулятар тэмпэратуры ў тым палажэньні, якое гарантуе нашым героям дастатковы холад. Толькі так можна ўратавацца. Мужчыны мусяць ехаць стоячы, бо тут патрэбная сапраўдная мужчынская сіла. Мы напружваем цяглiцы за сябе, а таксама за жанчын, дзяцей і інвалідаў. Размаражэньне ня мусіць адбыцца ні ў якім выпадку. А інакш нам застанецца адно назіраць, як імкне

наверх ртуць, і чакаць сваёй бясслаўнай паразы. Усё пачнецца зь лёгкага пакалваньня, тэмпэратура будзе штодня павялічвацца, сёньня на паўградусы, заўтра на адзін, пасьлязаўтра на два, затым выходныя, затое ў панядзелак адразу на чатыры. Адно слабыя й нягеглыя могуць мяняцца месцамі. Дачакацца наступнага прыпынку, там мяне зьменяць. Паўпустыя аўтобусы забароненыя.

Я апускаю руку ў кішэню й знаходжу там лісток з вынікамі нашага псыхалягічнага практыкаваньня. Яна сунула яго мне тады, а я й не заўважыў. Вызваліўшы другую руку, я асьцярожна разгортваю паперку. На літары сыпецца сухое нячышчанае сьвятло, я зьдзімаю яго, мае пальцы пахнуць Яніным сокам. Калі мы разьвітаемся ў яе вітальні, мне часам ўдаецца зачарпнуць трошкі Яны з сабою — пераадолеўшы ільжывы супраціў джынсаў, я хутка сасьлізгваю па тканіне майтак уніз і адным дотыкам набываю хаця б мікраскапічную часьцінку цёплай вільгаці.“Міша, яны ўжо абдымаюцца, нахабы”, — паблажліва крычыць Галіна Іванаўна, што раптам выходзіць зь неверагодна ціхай прыбіральні, і Янка з падазрэньнем ўглядаецца ў мацярынскае адлюстраваньне — не... Водару хапае на ўсю ноч, а здараецца, нават да заўтрашніх заняткаў.

23.50. За маёй сьпінай нечы мабільнік насьвіствае моцарта, і пад кімсьці ўнізе вібруе пэйджар — кніга ў руках уладальніка захлопваецца, восем словаў зноў перамаглі сто тысяч, я загорнуты ў шум, я ўдзельнік карнавалу словаў, я чую нашмат больш чым здаецца — авіяпошта абганяе кудзінскіх лебедзеў, песьні паляўнічых у сеціве. Я блукаю па гэтым фэсьце, спрабую сарваць камбінацыі знакаў з твараў, сам палонны сусьветнай знакавай сыстэмы, якой абыякавая абсалютная цішыня — рогат праважае мяне, аднаго З. Мовы гінуць — сёньня адна, заўтра дзьве, пасьлязаўтра чатыры, затым выходныя, затое ў панядзелак адразу шэсьць. Цікава, лічыў хто-небудзь з гэтых навукоўцаў, што ходзяць ураньні палямі лінгвістычных бітваў, колькі штодня вымаўляецца й пішацца бессэнсоўных, бязглуздых слоў, тых, што ня маюць прычын і наступстваў, колькі словаў ідзе ва ўтыль?

1. Ёй падабаюцца ў ва мне: чуласьць, шчырасьць, пяшчота, інтэлект, добразычлівасьць. 2. Ёй не падабаюцца мае: замкнёнасьць, інэртнасьць, скутасьць, няспраўнасьць, адсутнасьць пачуцьця гумару.

Хто ж я для яе? Ня трэба пяць год вучыцца на псыхфаку, каб разабрацца. Чуласьць з замкнёнасьцю даюць нуль, шчырасьць з інэртнасьцю малююць партрэт чалавека, які толькі й раздае адзнакі іншым, а сам зь сябе нічога ня лепіць. Скутасьць і пяшчота — таксама ўзаемавыключальныя, інтэлект без руплівасьці — што сьляпому пэйджар... Хаця, чаму я ўсё мераю, нібы безьменам Галіны Іванаўны?

Я, можа быць, філёзаф, асоба з пультам кіраваньня сьветам замест галавы. Тут жа перада мною паўстае Яніна ўсьмешачка, і вуснамі яе рухае, без сумніву, мой герой. Паглядзі вакол, жрэц мёртвых моваў, іх пажыральнік-энтузыяст. Я выходжу ля мэтро й набіраю нумар Яны.

— Лё, — у першае імгненьне я нават не разумею, Галіна Іванаўна гэта або Міхаіл Самсонавіч.

— Лё, — усе пакуты ўсіх мацярак на плянэце ўвасобленыя ў гэтым голасе.

— Прабачце, Глінаўна, — мармычу я. — Янумо...

— Вой, я ўжо думала памёр хто можа думала зь Верай блага або Віталіка забралі, — прыцішана галосіць Яніна маці. — Ты што зусім ведаеш колькі цяпер, мне заўтра а сёмай, бацьку а шостай...

— Галіна Іванаўна, калі ласка, калі ласачка.

— Нармальныя людзі сьпяць даўно. Што твае бацькі сабе думаюць...

Пра тое, што мае бацькі думаюць і размаўляюць выключна лічбамі, ёй, натуральна, нічога не вядома. Урэшце слухаўку бярэ Яна. Я стараюся патлумачыць ёй усё коратка.

— Заўтра ня мог патэлефанаваць? Гэтыя да раніцы не заснуць.

— І яшчэ я думаю, што дабразычлівасьць плюс адсутнасьць пачуцьця гумару — гэта партрэт клясычнага зануды.

— Ну.

— Значыць, я — зануда.

— Зануда.

— Чаго ж ты тады са мной.

— Гл.пункт 1.

— Слухай, яны ж супярэчаць адна адной, усе гэтыя якасьці...

— Дастаў. Добра. Карацей, выснову я зрабіла (—Іду, іду). Проста твае якасьці са знакам плюс накіраваныя выключна на мяне, а са знакам мінус — на іншых. Слухай, твой папік разарыцца на тэлефоне.

— Няхай.

— Калі ты сапраўды хочаш нешта зьмяніць, пастарайся свае добрыя якасьці накіраваць на іншых. — Усё, я пайшла. Ды йду я.

— Складана.

— Я не кажу, што ты мне панапісваў.

— Янка?

— Усё. Канец сувязі.

Я прыязджаю ў сваю Замятроўшчыну на апошнім аўтобусе. Разам са мной у цемру мясцовай ночы выскокваюць яшчэ некалькі чалавек. Цяпер да нашых дамоў нас павядзе страх. Ён умела абміне ўсе падазроныя месцы, усе хрыпатыя галасы, што чуюцца з густой

начной жыжы, злых чарнобыльскіх дзяцей, якія так добра навучаныя імітаваць рэха ў пустых дварох, абміне трохакордавую лаянку гітараў і факельныя шэсьці палаючых сьметніцаў. За тое, што я яшчэ жывы, я мушу дзякаваць страху. Насамрэч страх — толькі абразьлівая мянушка высакароднага інстынкту самазахаваньня.Як вядома, мянушкі мы раздаем з зайздрасьці. Інстынкт самазахаваньня ёсьць абсалютным розумам, і нам хочацца, так хочацца, каб ён ніколі не прытупляўся.

Карэты разьехаліся, зьніклі на цесных, аднаспальных замятроўшчынскіх вулках, пляц апусьцеў. Я йду на сьвятло, да шапіка, у добра знаёмы мне зь дзяцінства вадасьцёк ляціць пусты цыгарэтны пачак. Чаго мы баімся першнаперш? Відавочна, болю й прыніжэньня. Першае й галоўнае адрозьненьне нас ад нашых герояў. У герояў — свае страхі, гераічная боязь змаладушнічаць, спалохацца, уцячы. У тым раёне, дзе жыве Янка, я ўжо тройчы сыходзіў вось так, не па-ангельску, ад будучыні нашай нацыі, кліентаў Марыны, пакідаючы ім усе свае сінія, чырвоныя й зялёныя візытоўкі, і мой страх заўсёды закідаў мяне ў мэтро. Колькі разоў мяне білі ў дзяцінстве мае землякі, я ўжо й не прыгадаю. Цяпер удзень, едучы на працу, я нават рукаюся зь імі — усе мае колішнія крыўдзіцелі, мілыя піянэрскія фюрэры й навучэнцы мотагурткоў, цяпер маладыя бацькі й ламаюць рэбры хіба сваім заўчасна растлусьцелым жонкам. Цяпер ня іх трэба баяцца, а маленькіх чарнобыльцаў, што праходзяць вакол дому маіх бацькоў курс начное рэабілітацыі пад кіраўніцтвам заслужаных макрушнікаў рэспублікі.

Ён стаіць ля шапіку, маляўніча й нерухома, удае, што чакае аўтобусу, зеленаватае сьвятло вітрыны агаляе ягоны правы бок. Насамрэч ён, відавочна, чакае мяне. Гадоў трыццаць на выгляд. Ёсьць у ім нешта, што вымушае мой страх нерашуча пачасацца. Зашмальцаваны лыжны каптурок, тапачкі на нагах. Ён робіць крок у маім накірунку, і я спыняюся. Трэ было схаваць мабільнік у заднюю кішэнь. Я выціраю мокрыя далоні аб нагавіцы.

— Зямеля, цыгарэты ня будзе?

— Зараз куплю, пачастую, — кажу я ціха й не варушуся. Ён з інтарэсам разглядвае мяне, потым адварочваецца, і я ступаю у зеленаваты воблак туману перад вакенцам. Кіпчастая рука прадавачкі, што ляжыць на сподачку між чупа-чупсаў, крыху супакойвае мяне. Тэлефон на маіх грудзёх выразна мяўкае. Я набываю цыгарэты й краем вока назіраю за маім катам. Ён адыходзіць пад бліжэйшы слуп, і цяпер я бачу толькі, як ягоная рука маша мне адтуль. Пазногці прадавачкі востра пахнуць лакам, відаць, сьвежанафарбаваныя. Я

набліжаюся, клейкая стужка ніяк ня хоча адстаць ад маіх пальцаў. Урэшце я працягваю яму цыгарэту.“Хочаш, я ў цябе адсасу”, — прамаўляе ён, пазіраючы кудысьці за чыгунку. Голас ягоны бледны, глухі, безэмацыйны, як ануча перад бацькоўскімі дзьвярыма. Ён прамаўляе яшчэ нешта, адразу ж праглынутае сабачым брэхам, што стрэліў з аўтастаянкі. Да шапіку пад’яжджаюць шумлівыя міліцыянты, і мы не дамаўляючыся адыходзім далей у цемень. Ён не глядзіць на мяне.

— Прабач, я не па гэтых справах, — кажу я ня проста халодна, а нават насьмешліва.

— Я грошай дам, — ён робіць загадкавы рух плячом, нібы хоча пальцамі рукі дастаць да пяткі. — Ды ня сцы.

— Не, — кажу я гучней і адступаю бліжэй да шапіку. Ён разварочваецца ды зьнікае ў хмызьняку ля аўтастаянкі.

Дзіўна, але шлях дахаты я адольваю без прыгодаў. Па дарозе думаю пра іх, самотных, пену цёплай асеньняй ночы, якая ня здольная на гвалт, якая раствараецца ў натоўпе хмызоў і шолахаў, варта на яе падзьмуць кароткай адмовай. Думаю пра іхныя прыцемкі ў набітых сынамі кватэрах, пра пякучае жаданьне любові наадварот, пра задрамалых жонак, “Схожу покурю”, пра голы голад далоні. Як лунацікаў, іх кліча месяц колеру запаветнага начыньня, што запальваецца, праклятая, над гэтай замятроўшчынай, як над іхнымі лёсамі, сёлетняй восеньню так часта, так часта. Ім таксама страшна, ім шматкроць жахлівей за мяне. Вузасьць іхных кругаглядаў, пралетарскія гены ніколі не вывядуць іх у тое чароўнае кола, дзе пасьля балю так салодка зьняць кужэлю ды ўпасьці ў кужэлю. Мне шкада іх, і больш за ўсё шкада таму, што шкадаваньне маё паходзіць з пагарды. А гэта значыць, што я па адзін бок бар’еру з тымі, хто загоніць у іхныя грубыя адтуліны раскалены прут нормы.

Бацькоўская кватэра сустракае мяне пагалоўна зачыненымі вокнамі.

— Адзін, два, тры, чатыры, адзін, два, тры, чатыры, — плача ўзьніклая ў вітальні, распухлая ад сну маці.

— Семсот чатырнаццаць! — крычыць з залі бацька ці то мне, ці то ёй.

Я стаўлю на пліту імбрык і чытаю гараскоп на заўтрашні дзень. Заўтра казярогі будуць зьдзіўленыя, а тарэра літасьцівыя. Заўтра патонуць усе рыбы, папярхнецца воднік, блізьняты ўсьвядомяць сваю непадзельнасьць, львы стануць ракам, панны страцяць цноту, шалі ня пройдуць кантрольнага ўзважваньня, скарпіёнаў стэрылізуюць, стральцы прамахнуцца, цялкоў асьвяжуюць.

— Пардон, я не разбудзіў? — бадзёра выгукае ў слухаўку Макс. — Я вось сёньня падумаў: ці можам мы зьмяняць сэнс жыцьця?..

Да пятай гадзіны я нюхаю пальцы й пацею, ратуючы бацькоў ад сьцяны, што падае так няўхільна й строма.

**5.**

Ежа, неабходнасьць штодня думаць пра яе здабываньне — вось адно з самых агідных прыніжэньняў. Голад, дай яму шанец зьявіцца на маім шляху, без асаблівых намаганьняў вымусіць мяне зьвярнуць на тую сьцежку, у канцы якой няма ані кудзінскай мовы, ані індыйскіх паэтаў, ані інтэлекту з інэртнасьцю, там, я мяркую, мне адкрылася б сапраўдная каштоўнасьць усіх маіх адкрыцьцяў. У глыбіні любога прадмета й паняцьця, як я падазраю, тоіцца адно жрачка. Стоячы перад вокладкай Янінай кватэры, я з жахам дапускаю нават, што й героі, замест якіх існуем мы, пры іншых умовах цікавілі б мяне выключна як замарожаны прадукт спажываньня. Лядоўня навогул адзін з сымболяў голаду. Верагодна, чалавек Сярэднявечча, у тыя хвіліны, калі за яго марыў ягоны страўнік, уяўляў прыручанае, мілае вогнішча, што абсмоктвае розумапамрачальную ружовую костку — я ж, напрыклад, калі адчуваю ўнутраную нішчымніцу, бачу, заплюшчыўшы вочы, белую аграмадзіну халадзільніку, маёй руцэ падаецца, што яна ўжо завалодала прахалоднай ручкай. Так, у гэткія моманты ніводная асадка сьвету ня вытрымае канкурэнцыі з ручкай твайго роднага “Атлянту” або “Індэзыту”. Перапэцканы ў тэмпэры мастак, што нашэптвае пра tempera і mores, адчувае гэты найпрыніжальнейшы вырак найвастрэй, выціраючысяназіраючы, як на стол, за якім яшчэ сэкунду таму пыхцелі ў мірным паядынку натхненьне й чараўніцтва, сядае апэтыт, складвае свае абястлушчаныя крылы й без усякіх кансэрвантаў адной левай кладзе на лапаткі абодвух супернікаў. Чым бавіліся ў сваіх жыцьцях цяперашнія нябожчыкі, муміі якіх ня пахнуць — ленаны, кандзінскія, гракхі, бёлі, дудаевы, сахаравы ? Кахалі, стваралі, забівалі, цешыліся, пакутвалі, ахвяравалі, сьмяяліся, стваралі, рабілі ўнёскі, выпраменьвалі бесьсьмяротнасьць. Але найперш — елі. Многія зь іх мала елі ў маладосьці, затое перад сьмерцю атрымлівалі трайныя пайкі.

У роце Яны пагруквае паміраючы ледзянец, мы цалуемся, і ён тарпэдуе адзін з маіх хворых зубоў. Я моршчуся (мама мые раму), я нахіляюся (мама варыць мяса), каб разьвязаць матузкі. Старыя

джынсы Яны зусім працерліся на каленях, я нават заўважаю, як старанна паголеныя яе ногі. Цяпер мяне хвалюе гладкасьць яе ног, вастрыня грудзей, анархія валасоў на патыліцы, топка роту для майго лазо, зьменлівасьць і разнастайнасьць губ. Але дзе гарантыя, што ў іншай сытуацыі, роўнааддаленай ад гэтай і ад белых эўраадрамантаваных сутарэньняў з героямі, я ня буду адчуваць значна больш канкрэтны інтарэс да Яніных вантробаў? Ад такіх думак мне становіцца млосна, быццам задумаўся пра межы сусьвету. Я ўдыхаю Яну — яе непаўторны, яе ўласны пах жыве паміж старымі джынсамі, даўно няпранай кашуляй і нядаўна вымытай скурай. І адзеньне, і скура — суцэльная фальсыфікацыя.

— Яна, — Галіна Іванаўна выглядвае з кухні. —

Сходзіш зараз жа ў краму… хлеб, маянэз, яйкі сканчаюцца, бацьку селядца набудзеш, каўбасы якой варанай, толькі глядзі, нятаннай… маянэз, яйкі, каўбаса… сасісак возьмеш, возьмеш… маянэз, яйкі, каўбаса, сасіскі…

— Хлеб, — кажу я, зноў завязваючы матузкі. — Селядцы.

— Хлеб сялёдка, глядзі каб патлусьцей, і сьвежай, ну й там сама паглядзіш.А, Марына хутка прыйдзе, печыва вазьмі, на ўсіх, на ўсіх…

Яна моўчкі йдзе перапранацца. Я ўздыхаю.

— Што ўздыхаеш? Уздыхаеш… І доўга ня будзьце, я пакуль боршч давару, бацька хутка прыйдзе Марынка…

Уздыхаць і праўда нельга. У гэтым доме я харчуюся. Я разумею, што ўсе мае разважаньні мне не пасуюць. Бацькоўскі халадзільнік і халадзільнік Галіны Іванаўны ўтвараюць надзейную эмаляваную заслону й для абедаў зь яняціны, і для галоднага маляваньня між каналізацыйных трубаў. Мае бацькі думаюць, нібыта я ўпэўнены, што ежа заводзіцца ў халадзільніку гэтаксама, як цьвіль у нямытым рондалі. Бацькі Яны, хутчэй за ўсё, думаюць нешта падобнае. Але я зусім не такі просты, якім падаюся.

Я проста нічога ніколі не абвяргаю.

Я проста ніколі нікому нічога не даказваю.

Мне, натуральна, ня трэба было б харчавацца тут. Ганарлівай адмовай ад штодзённых бясплатных вячэраў на гэтай кухні й трохі менш рэгулярных абедаў, а таксама выпадковых сьняданкаў я б адразу забраў у бацькоў Яны й ферзя, і абедзьвюх ладзьдзей. Стаўленьне да мяне было б зусім іншым. Але мяса пахне так смачна, дый вобраз баршчу ў творах Г. Іванаўны раскрыты проста па-майстэрску. Дый дзесяць хвілінаў сам-насам зь Янаю ў крамавым тлуме — ня горшы варыянт (чаму яны штовечар дома, ну чаму яны штовечар сядзяць дома, чаму ня ходзяць у госьці, чаму б ім, госпідзя-

ё-маё, не пайсьці ў госьці?).

— Хочаш есьці, — крычыць Галіна Іванаўна з кухні, — любі й з карзінкай па магазіне хадзіць.

— Табе не здаецца, што гук, зь якім гатуецца яешня, падобны на шум дажджу, моцнага такога ліўню за вакном? — шэптам кажу я Яне, якая, абуваючы басаножкі, адразу ж становіцца вышэй сантымэтраў на пяць і дыхае мне на кадык. Яна лёгкімі рухамі падбародзьдзя ўдае малпачку, што назірае за мастурбуючым наведнікам заапарку. Я пасьміхаюся. Мне падаецца, што вітальня становіцца ўсё вузейшай. Яна расчэсваецца перад люстрам. Галіна Іванаўна на кухні пачынае голасна сьпяваць казацкую рубашлівую песьню, і праз імгненьне ў ейны енк, як карабель у арктычны лёд, урубаецца тэлефонны званок. Прыкрываючы адно вуха, Яна здымае слухаўку.

— Так, — яна аблізвае верхнюю губу.

— Так, — яна напаўняе сабой люстра да самых краёў.

— Ну, — яна заціскае слухаўку між вухам і плячом і нахіляецца, каб пачысьціць нагавіцы. Што ёй кажуць на тым канцы?

— Здароў, малая! Гэта Дзіма. Ты што, дома?Хочаш піва й бальшой і чыстай любві? Давай да мяне. Мае звалілі, будзем да раніцы кувыркацца. Дык што, дабазарыліся?

— Яночка, здравствуйте! Ваш маленькій бедный щеняша совсем соскучился. Мы могли бы сходить к Вениамину Петровичу, он, правда, сейчас в отъезде, но ключик мне оставил. Знаете, как в сказочке, золотой ключик. А, вы же не знаете, совсем-совсем не знаете, что ваш маленький несчастный козлятушка вам купил. Вы непременно должны получить это сегодня. Договорились?

— Янік? Гэта Інка. Ты прыедзеш сёньня? Я магу тваім патэлефанаваць, скажу, што мне трэба рыхтавацца, і ты ў мяне застанешся. Янік, прыязджай, а?

— Добры дзень, а я магу пачуць Яну? Яна, гэта ваш навуковы кіраўнік Адам Васільевіч Цыпленка. Я...

— Добры вечар, вы замаўлялі анальныя пазалочаныя шарыкі?

— Слухай мяне ўважліва.Ваш Самсоныч у нас. Калі хочаце захаваць яму жыцьцё, будзьце заўтра а дзясятай у помніка Карле Марле й падыйдзіце да вішнёвых жыгулёў з разьбітай фарай...

— Гэта вашыя суседзі зьнізу. Зараз жа перастаньце грукаць нагамі й раўсьці, а то міліцыю выклічам! Алкаголікі!

— Яна? Я ўзяў табе квіток на заўтра, на восем раніцы.Самалёт Мінск-Сімферопаль. Я хачу цябе, Яна. Я ўсю ноч прасяджу ў аэрапорце. Я чакаю цябе.

— Янка, гэта я. Янка, я так раўную. Я так баюся цябе згубіць. Янка, Яначка, Янусік, Янулька, Янінка, Яначка…

Яна кладзе слухаўку. Нехта ў люстры хоча дакрануцца да яе няголенымі губамі, але яна паказвае на мяне сваім вострым пальцам з абламаным пазногцем, падносіць яго да вуснаў, і гэтая жуда сканчаецца.

— Ты, натуральна, ня скажаш, хто гэта быў?

— Не-а, — Яна ўзважвае ў далонях грудзі й не глядзіць у мой бок. — Не пачынай, калі ласка.

Цень Галіны Іванаўны шпарчэйшы за яе, ён кідаецца паміж намі й закрывае праход да дзьвярэй.Вітальня напраўду стала значна меншай з таго часу, як я зьявіўся тут. Галіна Іванаўна закранае плячом пэйзаж на сьцяне — ціхая затока, сэрвіраваная абавязковым сонцам і палінялымі бярозкамі, атрымала ўдар у дзевяць балаў і ледзь не крутанулася вакол уласнай восі. У наяўнасьці быў калодзеж, цяпер ёсьць і ківач.

— Вы яшчэ тут?!

Я ўжо так доўга прамінаю гэты пэйзаж, курсуючы па кватэры, што забыў пра ягонае існаваньне, ён стаў нібыта ўзор на шпалерах. Галіна Іванаўна вярнула яго да жыцьця. Я гляджу на затоку й мне хочацца стаць каменем, прывязаным да ног Янінай маці. Такія пэйзажыкі прадаюцца ў краме “Падарункі” па дваццаць тысяч за штуку й вісяць ня толькі ў паловы маіх сваякоў, але і на катэдры эстэтыкі майго унівэрсытэту, а таксама ў адзьдзяленьні белбанку, што месьціцца на першым паверсе майго дому. Думаю, што ў кожнай з гэтых затокаў ужо ляжыць свая галіна іванаўна. Так што зусім неабавязкова абмінаць затоку праз узгорак, можна проста йсьці па вадзе — самыя верхнія галіны іванаўны знаходзяцца ля самае паверхні.

— Вы яшчэ тут? Вы яшчэ тут?!

Галіна Іванаўна дрыжыць, і раптам плечы яе сьцепваюцца, а ў вачох зьяўляецца нейкая вадкасьць — ну ня сьлёзы ж гэта, адно ідыёт можа дапусьціць, што Галіна Іванаўна здольная да плачу.

— Да вы што?! Вы ўжо даўно мусілі вярнуцца! Бацька прыйдзе з хвіліны на хвіліну, гады вы, дэбілы вы стаеросавыя, ні пра што папрасіць нельга, я ж сказала, хутчэй! хутчэй! а яны стаяць тут, сволачы, як прытыраныя, ну што ж гэта што? Нічога, бляха муха, папрасіць… Дурачка ты неданошаная, што ты глядзіш, бягом я сказала, яна тут стаіць і хоць кол на галаве чашы ёй, дэбілка зьвезданутая, вырасьціла, блядзь, дачурку на сваю галаву, што ты ўсё стаіш, стаіць яна, казьліха малая, гаўно, намазалася ўся, дарослай яна

стала, а корміць цябе хто, хто цябе, сучка, корміць, атродзьдзе ты!

Маналёг Галіны Іванаўны ўкрыжоўвае нас на сьцяне вітальні. Колькі сябе памятаю, у гэтай кватэры заўжды было так — мірнае неба ў самы нечаканы момант хтонебудзь бесцырымонна адклейваў са столі, і бомбы разрываліся проста ў цэнтры сьвяточнага пірагу. Я хапаю Яну за плечы, і тут Галіна Іванаўна папросту пераломваецца напалову ад шаленства — твар Яны, ня тое каб спалоханы, але нейкі скамянелы, асьвятляе знутры дзіўная, пазасьветавая ўсьмешка.

— Сэрца ў цябе няма! Як ты такая вырасла, у чым я вінаватая, божачкі ты падкажы, нармальная ж расла і во! Бацька цябе корміць і поіць і апранае, маці табе і тое й гэтае, а яна ржэ стаіць, ды гляньце на яе — уу! яна ж як паміраць будзем шклянку вады не падасьць зьвяруга малая, яна ж ні прыгатаваць ні! ды ты ж паглядзі на сябе, мыш ты сьмярдзючая, хто ж цябе такую карміць будзе — ён?

Чырвоны, добра пратушаны палец і я зь мікрахвалевай печкай на галаве глядзім адно на аднаго й не адчуваем аніякай узаемнай сымпатыі.

— Сама пайду, — рашуча падхоплівае ручнік Галіна Іванаўна. — Сама схаджу. Хутка пяцьдзесят, дзьве дачкі, а я што — я й сама схадзіць магу. Што мне, цяжка? А, думаеш мне цяжка?

Галіна Іванаўна хапае мяне за каўнер, але адразу ж адпускае, адштурхоўвае Янку, здымае зь вешалкі чамусьці парасон і ў тапачках выходзіць на пляцоўку. Насустрач ёй падымаецца Міхаіл Самсонавіч, пранумаравана-стомлены.Ён спыняецца на верхняй прыступцы, уварочваецца ад жончынага ляманту, чэша скроні й спрабуе ацаніць сытуацыю.

— Янка, ну што табе, цяжка? — прамаўляе ён нарэшце, паморшчыўшыся. — Схадзілі б, прагуляліся. Грошы ёсьць? Мама проста стамілася.

Адной рукой стрымліваючы напор Галіны Іванаўны (“Галя! Ну Галя, ня трэба тут! На людзях жа, Галя!”), другой ён марудна корпаецца ў кашальку. — Ня трэба, — коратка кідае Яна й цягне мяне ўніз. — Мама ўжо дала.Мы хутка.

— Хлеб, маянэз, яйкі, — мармычу я. — Сялёдку вам, печыва Марыне.Мы зараз.

“Тваё ж выхаваньне, балда”, — даносіцца да нас, а калі мы дасягаем першага паверху, у лесьвічны пралёт луцэвічам падае: “Каб празь дзесяць хвілін!”

Мы ў маўчаньні перасякаем двор, абыходзім суседні дом і хаваемся пад доўгай зялёнай пасмай заснулага арэшніку. Паўсюль астывае верасьнёўская лазьня. Яна садзіцца на іржавае, паўукапанае

ў зямлю кола, што калісьці было каруселяй, я ўладкоўваюся паміж яніных расстаўленых ног.

— Прарвала Галіну Іванаўну, — я выцягваю запальнічку. — Чаго яна, няўжо праз гэты маянэз?

Яна паліць дробнымі, злымі зацяжкамі, выпускаючы дым, яна нізка нахіляе галаву, і кароткія, недаўгавечныя струмяні, выгінаючыся, лезуць ёй пад блузку. Абцас яе няспынна трамбуе зямлю. Я пагладжваю яніны халодныя пальцы, нянавісьць ільдом гарыць у іхных кончыках.

— Забудзь, яна й праўда змораная, нэрвы і ўсё такое, — аўтаматычна прамаўляю я, і цыгарэта ў маіх вуснах абыякава піша гэтыя бессэнсоўныя словы ў паветры.

— Давай усё-ткі здымем кватэру, — Яна гасіць цыгарэту аб жалезны край арэляў. — Я не магу так болей.

— Пераязджай да мяне. Выходзь за мяне замуж і... Яна хоча засьмяяцца, але потым перадумвае :

— Думаеш, твае бацькі лепш? І што мы будзем есьці?

— Мы будзем галадаць.

— Яна проста хворая, у яе ўжо параноя, — кажа Янка сама сабе пасьля паўзы й падымаецца зь месца. Яна ня ставіцца да мяне сур’ёзна.

— Я, напэўна, мазолю ёй вочы?

— Ды прычым тут ты, — адмахваецца Янка, лічачы грошы. — Ідзем.

Па дарозе я выкладаю Яне ўсе свае суровыя думкі наконт ежы.Яна хітае галавой, але ня слухае.

— ...сабакі думаюць: ён мяне корміць, значыць, ён бог, а каты : ён мяне корміць, значыць, я — бог, — прыгадваю я ў рэшце рэшт мудрасьць, якую чуў калісьці ад адной знаёмай. — Чалавек жа богам лічыць саму ежу. Янка, калі ты ня выйдзеш за мяне, я альбо заб’ю Галіну Іванаўну, альбо памру ад рэўнасьці.

— Гэта ня рэўнасьць. Гэта проста незадаволенае жаданьне валодаць. Вазьмі карзінку. І больш ані слова пра маю маці.

Яна, Янка, чым мне давесьці табе, што я сапраўды к... к... я цябе к... к... карацей, вы зразумелі. Я часта знаходжу сябе — трымаючы аўтобусны поручань, слухаючы бацькоўскія калькуляцыі, чысьцячы зубы, падымаючыся на паверх факультэту, здымаючы вільготную гуму, акунаючыся ў пялюшкавую ружовасьць твайго пад’езду — знаходжу сябе паглыбленым у такія гнюсна-саладжавыя думкі: як файна было б, калі б ты страціла руку або нагу ў выніку страшнай аўтакатастрофы, і ўся тая чарга, што стаіць па цябе, адразу

б самаліквідавалася, і толькі я застаўся б перад тым напаўпалацам-напаўбункерам, дзе ўсе рэчы — адно вытворныя ад твайго сьвятла, і мне ня трэба было б штодня ваяваць за цябе, я ўжо даўно ведаю мясцовую мову, кшталту дзіцячых забаўлянак: янложак, янкава, янкоўдра, янранак, янвечар, янвочы, янспаць, янвуха, яншэпты, янкрыкі, янсам-яннасам. Калі б ты займела сур'ёзны дэфэкт, невылечную хваробу, калі б нешта сапсавала твой твар, я толькі б мацней к... к... вы зразумелі, пра што гаворка. Тады б ты ўсьвядоміла раз і назаўжды, што твой выгляд для мяне — толькі ахайнасьць вокладкі сьвежаадрукаванай кнігі, дый зьмест — ня самае істотнае. Галоўнае — я штоімгненьне адчуваю недзе ўнутры, па маіх разьліках, дзесьці за фотанэгатывам лёгкіх, незагойны апёк твайго існаваньня. Мне нібы перасадзілі жыцьцёва важны орган, што калісьці належаў табе. Вось так, Янок.

Сама Яна любіць распавядаць пра сябе досыць дасьціпную легенду — быццам першымі словамі, якія яна вымавіла, было "Не замінайце мне", а цяпер яна ведае гэтую ваяўнічую фразу ажно на дзесяці мовах. Часам я гатовы паверыць у гэта. Некалі мы прыдумалі разам Янін герб — выява зьмяшчае шчыт, дзе на зялёным полі знаходзіцца завязаны ў дугу ключ, а ўверсе чорным выведзеныя вышэйпамянёныя словы. "Не замінай!" — Янін дэвіз. Адсюль усе праблемы. Яна зарабляе прыкладна столькі ж колькі я. Пасьля таго, як яна з уласнай ініцыятывы кінула вучобу — бо выкладчыкі перашкаджалі вучыцца, нібы рэпэтуючы са студэнтамі хуткае зьяўленьне ва ўнівэрсытэце той арганізацыі, у якой цяпер шчыруе Марына, — Яна пачала дапамагаць адному псыхатэрапэўту з прыватнай практыкай, стала пры ім кімсьці кшталту вучаніцы й мэдсястры. Яна называе гэта сваёй працай, хаця па яе нешматслоўных аповедах зразумела, што пацыентаў мала, большую палову дня яны бавяць у размовах, і гутаркі гэтыя "надта абагачаюць". Я некалькі разоў прасіў Янку пазнаёміць мяне зь ейным шэфам — на мяне гэта не падобна, але ўсё ж цікава было б паспрабаваць давесьці гэтаму вусатаму (у кожнага з нас уласная калекцыя стэрэатыпаў утрымлівае, акрамя іншай драбязы, вусы, бароды, бігудзі) несумненую марнасьць ягонага занятку, калі не сказаць — махлярства. Усё, што мы хочам ад псыхатэрапэўтаў — каб яны ўмелі прыкінуцца ў патрэбны момант слухаўкамі, такімі ж, якой я зьяўляюся для Макса. Янка адмовілася знаёміць мяне са сваім "геніем" катэгарычна — зрэшты, па-іншаму яна адмаўляцца й ня ўмее. Мне нават забаронена тэлефанаваць ёй на працу, бацькам — пагатоў. Зразумела, што ні Галіне Іванаўне, ні Міхаілу Самсонавічу

такое разьвіцьцё падзеяў не да спадобы. Калі б у іх была магчымасьць праверыць ліцэнзію тэрапэўта, можа, яны й трохі супакоіліся б, хаця што тут казаць — дачка за нейкія два гады ператварылася з паслухмянага маленькага раба ў шахідзкі пояс, які ніхто ня можа вынесьці з фамільнай шафы. А тут яшчэ зьявіўся я — замест Янкінага дыплёму…

Нягледзячы на тое, што ўжо амаль восем, людзей у краме багата. Нас сустракаюць ветлыя патыліцы трох касырак. На сэкунду ўсё, што адбываецца, нагадвае мне нейкі сумнеўны гэпэнінг — тры машыністкі сядзяць сьпінамі да гледачоў-удзельнікаў за сваімі ундэрвудамі, людзі праходзяць праз іх бясконцымі радамі, і кожны прамаўляе слова, якое машыністкі дакладна фіксуюць пад капірку. Напрыканцы дзеі ўдзельнікі атрымліваюць лісты з пэўным тэкстам — прадуктам калектыўнага розуму. Дасяжэньне сэнсу праз абсурд калектыўнай супрацы. Нам даводзіцца пачакаць, пакуль вызваліцца якая-небудзь карзіна. Пакупнікі навокал пераважна ў гуморы — я ведаю, шмат на якіх прадпрыемствах сёньня быў заробак, дый восень сёлета прыпазьняецца. Паўсюдна чэргі з савецкім знакам якасьці. Відаць, ужо ніхто не адвучыць гэтых людзей, зь якімі нам яшчэ хвілін дваццаць давядзецца жыць пад адным дахам, шыхтавацца і атрымліваць задаволеньне ад сузіраньня патыліцы суседа. Духоўная жамяра.

Лопасьці вялізнага вэнтылятара на стале круцяцца паволі й з натугай, як нажы мясарубкі. Крама — гэта гаспадарчая валіза, напоўненая гукамі. І калі спыніцца ў цэнтры гандлёвай залі, заплюшчыць вочы, затаўкаць у вушы адмысловыя казачныя бярушы, пераджагнаць сваё галоднае цела лакцямі сустрэчных, можна зрэдзьчас пачуць, што насамрэч набыў той кемлівы гаспадар, які тысячагодзьдзямі нясе нас у сваю лядоўню. Пачуць ультрагукавы страх цяляці, якое рыхтуецца стаць цяляцінай, шолах цыбулі, якая заўважыла прасьвет у зямлі наверсе, сюіту, выкананую на даільным апараце, песьні на вясельлі дачкі мясьніка, бабскія размовы кароваў у іхным гарэме, голас дзіцяці, які адкрывае дурному парасю ягоны лёс, шамканьне пацучынага кардыналу, прускі тупат прусакоў, мітусьню яйка ў кіпячай вадзе, рыбіны сны, пачуць як узьлятаюць душы пухіркоў у плястыкавых бутэльках, пачуць тамтамы загарэлых боханаў, дый нямала чаго яшчэ. З нас трынаццаць сто.

**6.**

— Ну і хто ж цябе так любіць? — млява пытаюся я ў Валерыі, прысланіўшыся сьпінай да сьцяны й з асалодай выцягваючы пад катэдрай ногі. У калідоры заціхаюць заклапочаныя крокі. Перада мной — прасторны фотаальбом, недзе на трацiну населены здымкамі гэтай матрошкі, якая сёньня на працягу гадзіны не магла распавесьці па-кудзінску, як яе завуць і дзе яна, гаротніца, жыве

— мой пяшчотны допыт (“Валерыя, ягадка, ну гэта ж мы вучылі, ejk klicjen teja? — успомні: завуся Валерыяй...”) напрыканцы пачаў нагадваць міліцэйскі. Здымкі, натуральна, не звычайныя, а так званыя мастацкія — на іх жаночыя вабноты Валерыі прыкрывае толькі нейкая празрыстая фіранка, і аўтару фатаграфій трэба аддаць належнае — ён здолеў давесьці гледачу, што фіранка гатовая вось-вось спаўзьці. І выразнасьць гэткая добрая

— адчуваеш сябе падсьлепаватым небаракам, які насунуў на вочы цудоўныя акуляры, размытая карціна наперадзе хіснулася й раптам лініі малюнку нехта абвёў заточаным чорным алоўкам, падсыпаў у куты ценяў — працёр запацелае люстра. Праўда, Валерыя і ў жыцьці ня вельмі хавае ні колер сваіх смочак, ні тое, як пастрыжаныя валасы паміж яе ног — празрыстая беліня бялізны й лета, што не зьбіраецца сыходзіць, слугуюць ёй умела й без намаганьняў. Добра, што Яна няздольная на такое — для мяне гэта было б раўназначнае ейнай здрадзе адначасова з тысячай самцоў. Але вось парадокс — на фатаграфіі паўаголенай Валерыі я гляджу з радасьцю спакутаванага ад шчасьця мужа, што мае магчымасьць адправіцца ў мінулае. Валерыя кладзе локці на катэдру, разводзіць іх, наўскос вільготна гледзячы мне ў рот, і я зноў бачу цельца імпэтнай зьмейкі на белай падрыгваючай скуры.

— Ёсьць адзін фатограф, прафэсыйны, — лёгка кідае яна. — Я яму спадабалася, і ён за бясплатна... восем фотак... Вам падабаецца?

— Вельмі, — я загортваю альбом і працягваю яго Валерыі, як залікоўку. Але ж адзнака, што стаіць там, яе аптымістычныя выгіны, яе рожкі, яе ножкі насамрэч патыхаюць брыдкаватай змовай...

— Хочаце, я вашай дзяўчыне арганізую? Я ўпэўненая, у вас надзвычай прыгожая, — Валерыя амаль дакранаецца носам да майго гадзіньніку, — дзяўчына...

— Валерыя, — я прыбіраю руку й машу зьмейцы пальцам. — Не пrikajzse mej, бо перашкаджаеце мне працаваць, а па-другое, вы ўваходзіце бяз стуку ў маё асабістае жыцьцё, е mej to немijlo.

— Чаму? — яна задуменна адварочваецца. Я ўсё ж знаходжу яе вочы, і бачу іх сур’ёзнымі — упершыню за ўвесь час нашага знаёмства. Яна хавае альбом у валізу:

— Вось вы сказалі па-кудзінску, і я вас зразумела, уяўляеце?

— Выдатна.Паслухай, Валерыя...

— Мой фатограф называе мяне Валькірыяй...

— Паслухай, Валерыя. Ты мусіш мяне зразумець. Мне здаецца, што выстаўляючы на агульны агляд інтымныя часткі цела, жанчына тым самым парушае нейкую таямніцу, якую ёй даверана захоўваць найвышэйшымі сіламі нашага сусьвету. Такія рэчы належаць толькі дваім людзям, жанчыне й мужчыну, якія... якія адзін аднаго... ты мяне разумееш?

Валерыя насьмешліва глядзіць на мяне й гуляе маланкай сумачкі.

— Ты можаш сказаць: няўжо вам ня хочацца, каб прыгажосьцю вашай спадарожніцы жыцьця захапляліся, няўжо вам ня хочацца зайздрасьці й павагі знаёмых? Але для гэтага не абавязкова паказваць сваю ніжнюю бялізну. І паслухай: не, мне ня хочацца. Мне хочацца... мне... карацей, таямніца, пра якую я казаў, яна прызначаная мне, і...

— Ды вы проста ўласьнік, — панізіўшы голас, прамаўляе Валерыя. — Прабачце.

— Добра, добра, ідзі вучыся, не забывай, што канспэкты вы пішаце не для мяне, а для сябе, — кажу я, разумеючы, што зрабіў памылку. Сарваўся. Ніколі нічога не абвяргаць. Ніколі нікому нічога не даводзіць. Валерыя разьвітваецца й выходзіць, у глыбіні калідора я бачу адбітак у люстры Сяргеевай сьпіны. Сёньня мяне чакаюць вялікія справы. Я выходжу й замыкаю аўдыторыю.

Рэч у тым, што за некалькі кілямэтраў адсюль, за трыма гарамі, пяціпавярховай, дзевяціпавярховай і дванаццаціпавярховай, за трыма сьценамі — бэтоннай, пластыкавай і шкляной, ляжыць у цэляфанавай дамавінцы залатая прылада з чароўнага поліаміду і магічнага элястану.

Дастаткова танная, бо ўжо самы канец сэзону, дастаткова адкрытая, каб Яна адчувала сябе юнай і прывабнай жанчынай, дастаткова прыстойная, каб не раскулачыць майго ўнутранага ўласьніка. Мы будзем езьдзіць на выходныя куды-небудзь за горад, паляваць адно на аднаго пад вадой. Слова, якое абазначае гэты прадмет... О, яно з намінкаю на купальскую ноч у курортнам пасёлку, слова, дзе ёсьць простыя мяшчанскія радасьці выплюнутых горадам на прыроду гараджанаў, разнастайныя аленькія цьвяточкі і ў той жа час — пал, што тоіцца ў кожным з нас, няхай мы й жывем толькі замест. Ку-паль-нік. Заўчора мы швэндаліся зь Янкаю па гэтым гандлёвым цэнтры, зайшлі на хвілінку, але потым нас закруціла,

захапіла ягоная цэнтрабежная сіла. Рэчы гандлявалі маладымі сымпатычнымі прадавачкамі, што сьціпла пілі каву або ўлашчвалі самадавольна агаляючых свае клубы кліентаў, пахі раздаваліся бясплатна, як пробнікі. “Пекла мае водар пральнага парашку й поту манэкенаў”, — сказаў я Яне. “Пекла пахне таннымі лакамі для пазногцяў і нагрэтай сынтэтыкай”, — прамовіла яна. Нас выкінула праз паўтары гадзіны — мокрых і бяз грошай. І вось там, сярод гэтых сьценаў, аброслых махрамі, сярод гэтай расквечанай геамэтрыі, і быў знойдзены намі ён, цнатлівы залаты прыгажун, што адасобіўся сам-насам зь Янкай на інтымную хвіліну за чырвонай завесьсю. Увечары, збочыўшы непрыкметна з нэўтральнай паласы паміж Янай і Галінай Іванаўнай, я таропка, блытаючыся ў ачмуральным каралеўстве майткоў, запісаў усе памеры. Сёньня ён будзе наш!

Я спускаюся на першы паверх унівэрсытэту й, прыгнуўшыся, уваходжу ў вузкі пакой зьлева ад кніжнага шапіку. Працэдура праходзіць складана, я раз-пораз парываюся укусіць добрага доктара за гуманную руку, і толькі ўнушальны гіпакрат на ягонай партупеі прымушае мяне расслабіцца й пакорліва лічыць па-кудзінску: “Једн, сva, tri, сјејtri, пјаt, дејtј, сјејtrејsејm...”. Не балюча, а так, паскудна. Мая кроў да расчараваньня чырвоная. Нарэшце ўсё сканчаецца, я ляжу, апусьціўшы ногі на падлогу, на патрэсканай сафе, і потым мне застаецца толькі галавакружэньне — бясьпечная, ручная млосьць.

Грошы, праўда, я таксама атрымліваю з праблемамі, але ж нашто тады пісаць на аб’яве — “Аплата адразу пасьля працэдуры”. І праз гадзіну Ён ужо едзе ў паланкіне майго заплечніку.

— Ты ахранеў, — упэўнена кажа Яна й паўтарае гэта яшчэ і яшчэ. — Ты адкуль узяў грошы? Ты ахранеў, ахранеў, ахранеў, — сьпявае яна пад акампанэмэнт хрусткага пакету. Сьпеў заблытваецца ў маіх валасах, а я ніяк не магу — рубон! рубон! — разьвязаць шнурок на правым чаравіку. — Ды куды ж я яго... зіма ж хутка! — Табе не падабаецца? — Падабаецца, падабаецца, але ўсё-ткі? — Падабаецца? — Так, так, так, так, кожная часьціца нашых часовых целаў сьцьвярджальная. Якая зіма, summer almost gone.

— Шэф дома?

— Няма.

— А Марына?

— Яна будзе позна. Дык дзе ты ўзяў...

Як жа мы любім рэчы. Яны, выгадныя набыткі й просьценькія, але з густам падарункі, дарагія й халяўныя, патрэбныя й ня вельмі — яны, рэчы здольныя ўмомант уратаваць нас, вынесьці на лёгкіх і эрганамічных крылах зь любога эшафоту. Сапсаваная рэч можа

абрынуць на нас больш непрыемных эмоцыяў, чым памерлы далёкі сваяк. Бо стрыечны дзядзька Грыша, якога апускаюць раз-пораз у зямлю, нібы ў сьмецьцеправод, дастаўся нам, што ні кажы, ня проста на халяву, а так… як бясплатны дадатак да больш істотнай пакупкі, які і ў гаспадарцы, здаецца, ня вельмі прыдатны. Прычым дастаўся надзвычай даўно, гарантыйны тэрмін скончыўся яшчэ калі бабка Нюра білетэрам рабіла. Дый бачылі мы таго дзядзьку Грышу за сваё жыцьцё: на ўласных адведках мы яму нагавіцы пазначылі, праз восем год у ягоных засранічах малако пілі сырое з мухамі, яшчэ праз восем ён да нас прыязджаў, спачатку бацькаву гарэлку выжлукціў, а потым з булдосамі пад вокнамі два фаўсты "Беларускай амброзіі" пакаціў і на маці па матушцы лаяўся, сука. А яшчэ праз восем сядзім мы на ягоных праводзінах у падземнае войска, і тут лепшы сябра стрыечнага дзядзькі Грышы нам цэлы акіянчык сялёдкі выварочвае на новыя нагавіцы, каб ён уныў. Ля яміны мы за сьпінамі ўпотай пакурвалі, пасьміхаліся зь нецярпеньнем, а цяпер вось плачам — шчыра плачам. За нагавіцы паўзаробку аддадзена. Гэта ня дзядзька Грыша, якіх ужо даўно не вырабляюць, але крыўдна. Не, тое-сёе зь дзядзькі Грышы мы мелі — кумпяк раз на некалькі год, вішні там, малінка кожнае лета, мёд дасылаў. Калі прыязджаў, спаў на нашым ложку, сьмярдзеў. Мама адразу ж пасьля яго ад'езду заўсёды перасьцілала. Цяпер ужо ня будзе сьмярдзець. А калі яшчэ надарыцца магчымасьць вось такія нагавіцы… Які ўжо там дзядзька Грыша! (*раздражнёна прыгладжвае валасы й сыходзіць*).

Як жа мы ўсё-ткі любім рэчы. Што апранаць, на чым езьдзіць, на што глядзець перад сном, на чым спаць, дзе сядзець, якія фарбы ўспрымаць зрокам — для нас гэта больш істотна, чым праблема ўтрыманьня ў належным становішчы найважнейшага для чалавецтва рычагу рэгулятара тэмпэратуры. Мы будзем утрымліваць рычаг, але калі ласка — утрымліваць яго мы будзем з задаволеным страўнікам, у турэцкіх куртках, туфлях сумеснай вытворчасьці, у прыстойных майтках і шкарпэтках, з гадзіньнікам "Rolex — Luch", мабільным тэлефонам "Мінск2030" і зьвязкам ключоў (машына, кватэра, паштовая скрыня, працоўны кабінэт). Ня даць нам гэтага — і нашая хватка паслабіцца. Героі, замест якіх жывем мы, займі яны нашыя месцы, хадзілі б, я мяркую, у белых ільняных кашулях да костачак, а на выпадак банкету зь якім-небудзь недабіткам мелі б у сваіх багатых кіслародам пячорах алюміневыя талерку, кубак і лыжку. Нашыя жыцьці — толькі замяшчэньні іншых, магчымых, але ня спраўджаных. Сьветам кіруюць рэчы. Праз шкляныя накрыўкі сваіх шуфлядаў нашыя героі назіраюць за генацыдам у дачыненьні да

уласных сквапных і бяздарных намесьнікаў. Існуе толькі два спосабы вызваленьня: сьмерць (фу, як гідка) ці пажыцьцёвае зьняволеньне. Але я надта слабы, каб вызваліцца. І таму я скараюся — ціхі раб мае шанец пражыць доўга, і нават атрымаць калінебудзь ілюзію свабоды — нібы заслужаную пэнсію.

Яна пераапранаецца ў сваім пакоі. Пасьля некалькіх маіх нерашучых, і таму няўдалых спробаў паназіраць за гэтым працэсам яна сама прасоўвае шматабяцальную шыю ў дзьверы: “Табе што, ня хочацца сюрпрызу?”. Хочацца. Я саджуся на канапе ў залі й бяздумна раскалупваю шчыліну ў абіўцы. Тэлевізар нязвыкла маўчыць, насуплены й разьдзьмуты. На экране я, ногі выцягнутыя амаль на сярэдзіну пакоя, рукі павольна падымаюцца з канапы, нібы абдымаюць нешта тоўстае й нябачнае, потым лезуць за галаву. Цяпер я сяджу нерухома, у мутнай глыбіні экрану, што фальшывай шакалядкай распадаецца на пліткі нежыцьцяздольных адбіткаў , бялеюць локці й палоскі скуры між джынсамі й шкарпэткамі. “Выключы тэлевізар, на ягоным згаслым экране — самы эратычны фільм, самая мармэлядная мэлядрама, самы містычны трылер. Кіно для дваіх. Кіно супраць усіх”. Я прачытаў гэта калісьці выпадкова, ня памятаю дзе. Даўно, у Даяньне.

Яе выхад і праўда эфэктны, на шчасьце, я ўгадаў з памерам, яна яшчэ й расчасалася так, як я люблю, выцесала з кароткай, густой, забойчай успышкі валасоў даволі сьмелы, па цяперашніх спартовых часох, прабор, у аснаваньні якога горда акругляецца вуха, і ўсё астатняе нібыта ладнае й вабнае, аднак — маёй маёмасьці, маёй раскошы неабходны адпаведны антураж. У гэтым пакоі, у гэтым біяполі, якое штосэкунды перасякае туды-сюды на трактары прывід Галіны Іванаўны, на якім сейбітам разгульвае блёклы дух Міхаіла Самсонавіча, па якім бегае, расстаўляючы чырвоныя сьцяжкі, Марына Міхайлаўна, Яна ў залатым купальніку выглядае так жаласьліва, што я адварочваюся, а потым імкліва хапаю яе за ногі й прыцягваю да сябе. “Ну як?” — сьмяецца-вырываецца-прыцiскаецца да мяне яна. “Падабаецца? Я супэр?”. Я матляю галавой у некалькіх мілімэтрах ад яе жывата — супэр, супэр! Яна садзіцца мне на калені: “Як ты ўгадаў з памерам?”

Тут ня пахне ні морам, ні асманскім ветрам, ні гарачым пяском, ні гнілымі кавуновымі коркамі, тут пахне сямейнай падлаю і астылым тэлевізарам, нямытымі кубачкамі, зь якіх учора ўвечары пілі гарбату, і калготкамі вялікай, нездаровай і злой жанчыны. А цяпер тут пахне Янай, яна так блізка, што хутка я ўжо не заўважаю іншых пахаў. Я адчуваю як пахнуць яе падпашкі, яе міжножжа, яе копчык, яе

падкаленныя ўпадзінкі. Яна кладзе галаву мне на плячо, мы заплюшчваем вочы.Колькі крыві трэба на падарожжа да мора? Яна марыць, спрабую марыць і я. Паляваць адно на аднога ў вадзе. Бруднай марской вадзе. Яна ахоплівае маю шыю абедзьвюма рукамі, у пакоі душна, там, дзе нашыя целы судакранаюцца, вільгатнее ўсё больш адчувальна.

— Ня холадна?

— Замярзаю проста! Ты што, зьдзекуешся?

— А дзе шэф?

— Яна прыйдзе, прыйдзе празь дзьве гадзіны, званіла…

— Упэўненая?

— М? А… Так… Ты прызнаесься мне пра грошы?

— Толькі калі ты мне пра таго, хто табе тэлефануе.

— Ніколі. А чаму “пра таго”? Чаму ты думаеш, што ён адзін? А?

— Табе добра?

— Так. Сядзець з табой, марыць. Што ты як цнатлівец? Мацней…

Гэтак бывае часта. Усё пачынаецца са звычайных абдымкаў, нявінных, брат зь сястрой, нават стрыечныя брат зь сястрой. А сканчаецца на падлозе, у ліпучай лужыне разьлітага гарачага шэпту, вясёлай валтузьнёй з ашчэранымі зубамі і трэцяй хуткасьцю сэрца. — Патрэбныя хвалі (хвалі), вада (вада), у вадзе, давай у вадзе (у вадзе), ідзем у лазьніцу (а шэф, шэф, ты ўпэўненая?), наконт чаго (наконт шэфу), а хер зь ёй (!), у лазьніцу (ідзем).

У лазьніцы Яна адразу ж спускае з ланцугу ўзрадаваны тоўсты струмень і кідаецца ў ванну, што сваёй велічынёй можа пацешыць нават самага масыўнага кліента фірмы “Roca”. Ходзяць чуткі, што гэтую пасудзіну Міхаіл Самсонавіч падарыў Галіне Іванаўне на саракагодзьдзе. Пырскі рассыпаюцца па маім адзеньні цёмным рабаціньнем, я ледзь бачу Яну за воблакам пары. Пакінуўшы на кафлі пляскатую кучку шмотак, я таропка перавальваю ўсё сваё бледнае, валасатае, курчастае, успацелае туды, у белае, шумлівае, мокрае, праз якое прасьвечваюць залатыя абрысы. Вада зараз жа пакрывае нас да пупкоў. Яна ўзьбівае ў ваньне смачную на выгляд пену, цэлыя бутафорскія горы пены. Некалькі хвілінаў мы ляжым моўчкі, з задавальненьнем адчуваючы, як прахалодная лазьніца зацягваецца параю. Потым вялікі палец маёй чамусьці ныючай нагі незнарок адшуквае прыемную выемку пад Яніным кантынэнтам, адсоўвае падатлівую сынтэтычную заслонку, пранікае глыбей. У пратоцы паміж намі дурасьнічаюць жвавыя пухіры, Яна кладзе пяткі мне на плечы. Далей мы проста стаім на каленях сярод ванны, моцна-моцна

прыціснуўшыся адно да аднаго, у шчасьлівым паралюшы. Калі мы пажэнімся, будзем зь Янкаю штодня па некалькі гадзінаў бавіць у лазьніцы.

Урэшце Яна выключае ваду ў сябе за сьпінай. Цішыня надыходзіць бадай што аглушальная. Пагатоў аглушальная, што мы засьпяваем толькі апошнія два ўсхліпы дзьвярнога званку, і чуем, зь незвычайнай выразнасьцю чуем пагрукваньне, пакорпваньне ключа на лесьвічнай пляцоўцы. Далейшыя дзеяньні Яны папросту палохаюць мяне сваёй імклівасьцю ды адладжанасьцю. Яна выскоквае з ванны, пацягнуўшы за сабой, нібы зблытаную прасьціну, вялізны грэбень пеннай вады, адным рухам нагі засоўвае мае рэчы ў адмысловую шафачку для анучаў і рознай мыечнай драбязы, адначасова з гэтым надзяваючы халат Галіны Іванаўны, што мірна вісеў на кручку. Я хапаю Яну за высьлізгваючае запясьце. Што рабіць? Яна выбягае, шчыльна зачыніўшы за сабой дзьверы. Вада астывае, мне падаецца, што я адчуваю, як уваходзіць у кватэру й рашуча, па-гаспадарску мкне да лазьніцы скразьняк зь лесьвічнай пляцоўкі. — Асьцярожна ж, — чую я раздражнёны голас Яны ў вітальні. Грузныя крокі набліжаюцца да маіх дзьвераў. І калі рыпіць з таго боку ручка, я заглынаю агромністы кавалак паветра, сплюшчваю ў вадной далоні нос, а ў другой заціскаю тое, што яшчэ нядаўна было гордай выспачкай, а цяпер падобнае хіба на жыхара марскога дна, складваюся ў тры пагібелі й кладуся ніцма пад пухнатыя айсбэргі астылай пены.

Непраглядная цеплыня ахутвае мяне. Апошні палец рыбкай нырае пад ваду... Чаму мы ня можам заставацца разам хаця б у лазьніцы... Мы абодва дарослыя людзі... Грудзі кудзінскіх сялянак сто гадоў таму ў Яніным веку ўжо добра ведалі, што такое прагныя вусенкі немаўлятаў... Нам трэба перастаць хавацца... Мне надакучыў гэты падман... Вынырнуць, сказаць Галіне Іванаўне, адплёўваючыся: “Мы зь Янкай... Мы зь Янай... Мы з вашай дачкой...” Сьмела сказаць... Што яна, ня бачыла аголеных мужчын?.. Сказаць... Паршывыя ўмоўнасьці, спарахнелыя законы, цьвіль на дарычных калёнах цывілізацыі... Большасьць сучасных бацькоў нашмат прагрэсыўней ставяцца да падобных рэчаў... У мяне ўжо было нешта такое... Я ляжаў на Тані, у спачывальні ейных бацькоў, калі туды зайшоў раптам Танін брат, дзевяцігадовы, шкоднае помсьлівае шчаня, гатовае закласьці сястру за кавалак лёдава... Я памятаю, як у дзяцінстве бацькі знайшлі мяне пад ложкам з маёй малой пляменьніцай, я вывучаў яе голую гладкую шчылінку, выключна вачыма, але з інтарэсам uніклівага марсыянскага доктара... Напэўна, гэта нармальна... Гэтаксама нармальна, як

ляжаць у ваньне з дарослай здаровай нявестай… Мне ўсё цяжэй утрымліваецца пад вадой… Катаваньне, катаваньне… Катаваньне неўміручых… Старажытныя забабоны йдуць па стагодзьдзях, нібы па касьцях… Катаваньне неўміручых… Катаваньне неўміручых, загнаных у вузкую пастку паміж кухняй, лазьніцай і тэлефонам у вітальні… Тут не схавацца… Я ўжо не магу болей… Задыхаюся… У вадзе, разбаўленай Яніным потам, у вадзе, па якой плаваюць валасы яе бацькоў… Наверх… Ууу…

Я ўсплываю так шумна, раскідваю вакол пену на такую адлегласьць, што неўзабаве трэба было б чакаць тэлефанаваньня суседзяў зьнізу. Першае, што я бачу ў гэтым сьвеце пасьля сусьветнага патопу, — чорная сьпіна лысаватага мужчыны, які стаіць перад умывальнікам. Ён чвякае й намагаецца прамовіць нешта, словы, што выцякаюць зь яго ва ўмывальнік, цяжка разабраць, але гэта лаянка, далібог лаянка. Ля сьцяны стаіць Янка, якая нясьмела дакранаецца да чорнае сьпіны й тут жа баязьліва адторгвае руку. Яна заўважае маё ўсплыцьце й робіць злыя гэсты: назад, на дно, назад. Міхаіл Самсонавіч крэкчучы паварочваецца, гледзячы ў залітую вадой кафлю, на якой расьцьвілі сьляды ягоных туфляў, затым рухаецца да выхаду. “Напаілі, сукі, напаілі, б… б… блядзі”, — цяжка кажа ён, і ў гарачыні лазьніцы застрае густы перагар. У вітальні ён спатыкаецца аб мае чаравікі, Яна цудам утрымлівае цела й вядзе ў залю. “Фёдар Пятровіч”, — раве нечакана цела й румзае. “Фёдар Пятровіч! Дарагой… У пятніцу. Тадаб таб таб… Эвона пляша! Хуём! Яна мне… Хуём я сказаў!” Канапа ў залі клапатліва рыпіць. “Распусьцілі”, — апошняе, што гаворыць сёньня Міхаіл Самсонавіч. Я таропка апранаюся, выціраю кафлю чымсьці падобным да майткоў Галіны Іванаўны. Пена ў ваньне чэзьне на вачах.

— Бацька быў сёньня ў міністра, — шэпча мне Яна ля дзьвераў. — Паседжаньне. Язджай дамоў. Дзякуйбогу, здаецца, усё абыйшлося.

Я цалую яе ў мокрыя валасы. З-пад халату Галіны Іванаўны вызірае палоска золата. Ку-паль-нік.

— Можа, я абсохну й застануся, — шапчу я млява.

— Галя! Галя, каму сказаў! Цыц, муха! — чуем мы з залі.

— Не, едзь. Гэта мая сям’я.

Я выходжу з пад’езду. Яшчэ зусім сьветла. Сьпякота й ня думае саступаць. Мабільнік насьцігае мяне ў канцы Янінага дому.

— Прывітаньне, — дзелавіта кажа Макс. — Ты не заняты? Паслухай, што я падумаў сёньня ўначы, я чытаў аднаго камбаджыйца, ня памятаю, прозьвішча з двух словаў, і падумаў, ну пра прызначэньне…

— Пол Пот, — кідаю я, намацваючы ў кішэні прамоклы талёнчык.

— Ну можа быць. Вось паслухай…

— Слухай, Макс, адкуль у цябе столькі грошай?

— Якіх грошай?

— На мабільны званіць, гэта, ведаеш…

— Я табе пра прызначэньне… а ты… Фу, які ты стаў… Калі заняты, магу ператэлефанаваць.

— Прабач. Я слухаю. Толькі ў мэтро мы ня зможам.

— Окей. Ну ты даеш — грошы! Духоўнае — вось што мусіць нас турбаваць…

**7.**

Не, адзінае, што цікавіць мяне ў гэтыя дні — грошы. Бо праз два дні мая краіна адзначыць найважнейшае дзяржаўнае сьвята, праз два дні на вуліцах зазьзяюць адному мне бачныя сьцягі, усе мае "я" атрымаюць заслужаны выходны, на працу я дашлю хіба ўласную галяграму, і кожны адбітак на вітрыне, у вакне вагона мэтро, у зачараванай балотнай вадзе гарадзкой рэчкі, у запацелым люстры бацькоўскай лазьніцы будзе парадным партрэтам прынцэсы Яны. Прынцэса ўсьміхаецца, усьміхаецца, зіхаціць і пераліваецца яе срэбраная мантыя — бо мая Яна праз два дні адзначыць свае народзіны. Безумоўна, я запрошаны, натуральна, бацькі Яны не паленаваліся пры гэтым паскрыгатаць ціха штучнымі сківіцамі, але нават МС і ГІ ўсьведамляюць, што адсутнасьць на дні нараджэньня іхнай шалёнай дачкі ейнага Парня можа быць успрынятае сваякамі з падазрэньнем. Які ня ёсьць, а патэнцыйны зяць. Учора па тэлефоне Яна трохі падрыхтавала мяне да будучага шабасу. Праз сорак восем гадзінаў мне нарэшце надарыцца магчымасьць пабачыць live Яніну цётку з прыгараду, Янінага дзеда, удаўца й народнага дохтура, а таксама сустрэцца з ужо знаёмымі мне Віталікам, ягонай маці Верай дый, можа, зь якімінебудзь яшчэ членамі каралеўскае фаміліі. "Свайго генія псыхатэрапіі ня хочаш паклікаць?" — спытаў я насьмешліва. Дзіўна, але Янка паставілася да маіх прыпудраных жартам словаў надта сур'ёзна. "Ты што? Яму тут будзе сумна", — пракашляла яна ў слухаўку. "Ён дужа высакародны чалавек, ён можа, калі пабачыць усё іхнае ўбоства, проста пачаць зь іх зьдзеквацца. Ён, ведаеш, свой дзень народзінаў ніколі не адзначае, ужо дзесяты год. Ён кажа, што гэта ўсё ўмоўнасьці, якія ня маюць ніякага сэнсу, і гэты час, кажа,

можна было б патраціць... ну, дзеля ўласнага абагачэньня, ну, хаця б на цікавую размову”. Я ледзь не абурыўся: яна што, думае, мне шмат задавальненьня прынясе такая паездка ў нікуды на забітым дэлікатэсамі стале разам з цэлай зграяй яе сваячкоў? Янка загадкава прамаўчала. Я распаліўся. Прывяла б гэтага псыха, я б яму арганізаваў цікавую размову пад хатняе вінцо Галіны Іванаўны. Можа, мы б пасябравалі.“Ты”? — прамовіла яна смурліва, і я чарговы раз спатыкнуўся аб пытаньне: хто ж я ўсё-ткі для яе, кім выглядаю ў яе вачох, і якое месца прыберагае мне мая к... к... (вы зразумелі) у сваім будучым жыцьці. Пад нагамі поўзала маці, пяты раз за дзень мыючы падлогу, у рэшце рэшт я быў загнаны да самых дзьвераў, тэлефоннага дроту катастрафічна не хапала, таму я пераступіў праз барвовыя рукі, якія душылі анучу, разьвітаўся зь Янаю й вырашыў заўтра пагаварыць з бацькамі. Якім чынам, зрэшты, не ўяўляю.

Рэч у тым, што мой падарунак мусіць быць напраўду раскошным. Неабходна, каб самы апошні родзіч Янкі ўцяміў: я — не абы-хто, я прэтэндую ня толькі на яе дзявочую цноту, але й на пачэснае месца ў сямейным Дыване, месца Візіра й спадкаемцы Султана. Гэта трэба ўвесьці ў галовы ўсіх яе віталікаў: я — надоўга і ўсур’ёз. Цяпер, калі я пасоўваюся, у нерашучасьці застыгваючы то ля шафы, то ля прыбіральні, да бацькавага фатэлю, маё праклятае самалюбства, тое, ад якога няма моцы пазбавіцца, круціць мне адзін і той жа відэаролік. У радавы замак Янкі ўваходзіць мая поўная пагарды пэрсона, на вуснах упэўненая ўхмылка мачо, пальцы граюць сапраўдную мужчынскую сэрэнаду на ключах ад прыстойнай, няхай не навюткай, машыны — “Янк, я тут набыў... так, пусьцяковінка, забаўка, цацка... не было часу шукаць...”, а рука вытрымлівае паўзу й паволі выцягвае з кішэні... Што, што выцягвае? І ўсе вохаюць, і Віталік, заўжды саркастычны, настолькі саркастычны, што я бы з задавальненьнем адпілаваў яму язык (ненавіджу людзей, што ўвесь час жартуюць, бо большых занудаў ня ведае ні гэты сьвет, ні іншы), Віталік замаўкае й пазірае на мяне з зайздрасьцю. Што ёй падарыць? Парфуму? Нават калі б меў досыць грошай, не наважыўся б на такую пакупку — ад Янкі я чуў, што кошт парфумы не самае галоўнае, галоўнае — водар, а я такі нячулы да пахаў усіх гэтых La Rochelle нумар пяць... Цяпер, калі бацька ўжо ў полі майго зроку, я думаю, ці не падарыць ёй мабільнік, ужо падключаны, колькі на гэта трэба?.. Або патэлефанаваць Максу й знайсьці якога-небудзь мастака, які прадасьць мне што-небудзь даляраў за сто... Праўда, пакуль што на маім рахунку ў швайцарскім банку ўсяго некалькі талёнчыкаў на аўтобус. І яшчэ шмат казахскіх тэнге, што падарыў мне Макс тры

гады таму… І некалькі мільёнаў кудзінскіх флорынаў, дзе на кожнай купюры або Карл Гуйдан верхам на лебедзі, або фэрдамтштацкая кірха.

Так, дзелячы скуру незабітага кашальку, я набліжаюся да бацькі. Ён сядзіць перад уключаным тэлевізарам і падымае на мяне вочы, толькі калі я засланяю экран:

— Трыста дванаццаць, восем!

— Мне трэба грошы, — асьцярожна прамаўляю я, садзячыся перад ім на кукішкі. — Ты ж ведаеш, я рэдка прашу. Апошні раз гэта было год таму, на бутэльку віна для…

Грошы. У нашай мове яны зьвіняць, у другой нашай мове яны — усяго сукупнасьць меднай драбязы. У кудзінскай яны абазначаюцца словам tyrgi. Няўжо іх можа быць так шмат, каб утвараць з гэтага праблему.

— Мне вельмі трэба, — паўтараю я й набліжаю інтанацыю да просьбы. — Ад гэтага залежыць мая бу-дучы-ня. Так.

— Васямнаццаць, — марудна расьцягвае словы бацька. — Трыццаць адзін, дзевяцьсот дзевятнаццаць семдзесят чатыры.

— Добра, — без асаблівай ахвоты я падпарадкоўваюся і апускаюся на канапу побач. —У мяне, разумееш, заробак…

— Нуль нуль, — зласьліва пасьміхаецца бацька, аднак па ягоным падбародзьдзі прабягае маркотны цень. — Сто чатырнаццаць — дзевяць, трыццаць дзевяць семсот пяць… Адзін. Дзевяноста, нуль пяцьсот трыццаць сем.

— Але ж гэта таксама праца! — павышаю я голас. — Ніхто не вінаваты, што я паступаў на фільфак. Ніхто з вас не казаў тады, што…

— Васемсот.

— Мог, — адказваю я, бяру пульт, і маньяк-забойца пасылае мне з экрану ўдзячны позірк — крыкі ягонай акрываўленай ахвяры ўмэнт сьціхаюць. Шэрыф Томсан недаўменна круціць галавой. — Магу й цяпер. Але паслухай, мне даспадобы маё становішча. Я цудоўна перабіваюся й так і…

— Нуль пяць адзін, — устаўляе спрытна бацька.

— …і ня скарджуся. Мне патрэбная ня пэнсыя, а разавая дапамога. Уе так сто…

— Сто! — ажыўляецца бацька. — Нуль дзевятнаццаць сто мільярд!

Апошнія словы ён крычыць у кухню, маці. Пакуль яны спраўна лятуць у месца прызначэньня, я намагаюся ня змыць з твару нетрывалую годнасьць. Маці зьяўляецца на парозе залі праз дзесяць

сэкундаў.

— Нуль дзевятнаццаць сто мільярд! — маша яна тлустым ручнікам і прысаджваецца на край бацькавага фатэлю. Сплюсаваныя, яны ўтвараюць магутную суму. — Мінус сто тысячаў пяцьсот дваццаць шэсьць!

Што я магу сказаць на гэта... Падымаюся.

— Пяцьдзесят, — голас маці мякчэе. — Нуль адзін, нуль два... Сто, дзьвесьці... Плюс сто... Шэсьцьсот сорак чатыры... Дзевяноста тысяч васемсот дзевяноста дзевяць.

— Няпраўда, — кажу я, спыняючыся перад выцягнутымі нагамі маці, апускаючы вочы долу, я гляджу на шышак ля вялікага пальца. Дайграць да канца. — Я размаўляю... Я ўчора, калі вы не заўважылі, пасьля працы заязджаў дамоў...

— Трынаццаць, — уздыхае маці. — Восемдзесят адзін. Дзевяцьсот дзевяноста адзін, чатыры — сто, дзьвесьце, пяцьсот. Адзін?

— Запрасіць яе — і вы пахаваеце Я... яе пад сваімі лічбамі.

— Сорак пяць... Сто, дзьвесьце... Тысяча дзевяць — мільён! Семдзесят сем?

Бацькі глядзяць на мяне чыстымі велікоднымі вачыма. Я разумею, што нічога не атрымаецца. Што я, дзіця нейкае? Я працую, мне хапае. Прыніжацца тут перад іхнымі сьветлымі, як золак на могілках, тварамі?

— На такое я пайціць не магу, — крыва пасьміхаюся я й дадаю, калі выходжу: “Пайшлі вы”. На шчасьце, гэта тоне ў надрыўным, як п’янае сола на гармоніку, ляманце восьмай ахвяры майго галівудзкага сябра.

— Макс! Пазыч мне грошай.

— Што? Жрэц мёртвых моваў? Даўно ты не тэлефанаваў з уласнай ініцыятывы! А тым ня менш такое адчуваньне, што нашыя зносіны даволі актыўныя.

— Ты чаго так выражаешся?

— А мы тут п’ем. Мы з такой дзевачкай тут сядзім, дарэчы. Трэба вас пазнаёміць, а то ты там са сваёй Іаанай зусім засох. І яшчэ Энгельбэрт, ён чалавек без пашпарту, сур’ёзна, без грамадзянства безь ніякага. Я табе думаў гадзінак у дванаццаць патэлефанаваць. У мяне патрэснае адкрыцьцё. Я высьветліў, што мая Валька...

— Не называй мне зараз лічбаў, прашу...

— Не перабівай. Дык вось, мая Валька, калі ёй падчас...

— Прабач, я...

— І што гэта значыць: не называй лічбаў? Ты там казаў нешта пра пазыч? Як жа можна пра пазыч бязь лічбаў? Дык вось, мая

Валька можа падушку прагрызьці! І ведаеш, што для гэтага трэба? Упэцкаць свой...

— Макс, прабач, дык ты... можаш?..

— Не. Не магу. Валя да бацькоў едзе. Усё на паездку аддалі.

— Можа, з тваіх знаёмых можа... з мастакоў... падарыць мне якую рэч...

— Энгельбэрт! Ты можаш падарыць майму сябру шэдэўр? Ён можа... ён кажа, што можа. Цуд! Гэта была інсталяцыя... Упэцканы ў чорную фарбу, вялізны й тоўсты...

— Добра, я адмаўляюся. Ну, прабач, тэлефануй, я проста заняты зараз... Давай.

Надыходзіць заўтра, і мае мары пра належны прэзэнт Яне блякнуць. На працы, пасьля некалькіх ін’екцыяў кудзінскай у чарапныя каробкі студэнтаў я па завядзёнцы п’ю каву з Палінай Віктараўнай. Tak, naturalnie, яна згодная пазычыць мне дзясятку, няма пытаньняў. А калі б я быў Максам і распавёў Паліне Віктараўне парутройку інтымных падрабязнасьцяў пра нашае зь Янкай суіснаваньне, магчыма, Паліна ў захапленьні сунула бы мне й крыху больш, ды яшчэ папрасіла б не турбавацца пра тэрмін вяртаньня. Зь дзясяткай у кішэні я еду дахаты, стаўлю ў мікрахвалевую печку абед і думаю пра тое, што няблага было б паліць гэта ўсё аліўкавым маянэзам, пра тое, што бацька пасьля ўчорашняй размовы пакінуў мне ў лядоўні бутэльку чэскага піва (што значыць пагаварыць з бацькамі, парушыўшы двухгадовае маўчаньне!), пра тое, што мае дэбілы ніколі не запомняць, у якіх выпадках ставіцца ёт, а ў якіх ня ставіцца, і пра тое, што заўтра на дні народзінаў маёй Анабэль Лі мне давядзецца абмежавацца букетам гвазьдзікоў, якіх Янка заслугоўвае настолькі ж, наколькі заслугоўвае скрыню гваздоў.

А шостай я рушу з дому ў накірунку Яны. Па дарозе чарговы раз заўважаю, як шмат вакол шыльдаў, у якія ўшыфраванае яе ймя. Я выходжу з мэтро, маючы пры сабе нейкае новае адчуваньне — ягоная прыкрасьць мяне дзівіць. Ці не зашмат увагі я надаю Яне? Ці не занадта нагружаю я сваім абажаньнем той ліфт, што ўзносіць нас зь ёй да мігатлівых вяршыняў сумеснага шчасьця? Можа, замест таго, каб майстраваць ёй крылы, трэба зьвіць павадок? Такія глупыя думкі суправаджаюць мяне да самага пад’езду. Што калі прыклад Макса зусім не заганны? Ім з Валяй жывецца лёгка. Яны ахвотна пускаюць да сябе ў ложак разнастайных заклапочаных чужаніцаў, прычым неістотна, якога полу, яны гатовы тры гадзіны запар упэўнена пераконваць у тым, што такая свабода адно пашырае іхны інтымны сьвет. Яны, здараецца, разыходзяцца на месяц, каб потым зь яшчэ

больш лютай жарсьцю ўчапіцца адно ў ваднаго, яны раней, у Даяньне, запрашалі й мяне пакаштаваць іх на смак, малайчына, што здолеў адмовіцца. Колькі год таму мы напраўду былі амаль сябрамі, пакуль не зьявілася Яна й не ператварыла мяне ў пакорлівую слухаўку, Макса — у навязьлівы голас, Валю — у запаведнік псыхічных комплексаў. Я ганю злыя думкі прэч. Мы зь Янай ніколі ня здолеем адамкнуць нашыя дзьверы камусь чужому. Калі я ўяўляю, што маю Янку апрацоўвае нейкі мудак, я, вядома, узбуджаюся, але пры гэтым — вось параноідальны парадокс! — даю сабе клятву, што ўсё застанецца як ёсьць, і двума астатнімі ўдзельнікамі нашых оргіяў нязьменна будуць толькі ўласныя адбіткі ў люстры.

Я ўваходжу і адразу ж забываюся на ўсе хваляваньні. На гэты вечар у Янінай кватэры зноў заключанае перамір’е. Мы зь Янай нават употай лашчымся каля лядоўні.

Я да адзінаццаці гадзін па каліўцу дэгустую заўтрашнія прысмакі, і ўрэшце наядаюся так, што па дарозе дамоў мяне адчайна кліча кожная прыбіральня. Аднак ужо позна, сутоньне саступае месца ночы, яны зачыненыя, каля хмызоў і цёмных дворыкаў мне даводзіцца спыняцца й стрымліваць настойлівыя спазмы, якімі са мной шчодра дзеліцца кішэчнік. Ля мэтро ён урэшце супакойваецца, я ўжо адлічваю на хаду патрэбную суму на талёнчык, калі побач з тралейбусным прыпынкам, пад празрыстым парасонам ліхтаровага сьвятла, у двух кроках ад прахалоднага зеву мэтрапалітэну, на беразе спакойнай вулічнай ракі, усьлед міліцэйскаму патрулю, што зьнікае за паваротам, акурат паміж двух ледзяных промняў, падаючых з гаўбцоў цёмных дамоў, мне пасьміхаецца д’ябал. Мудры д’ябал, сустрэчы зь якім я так даўно падсьвядома чакаў і якая адбываецца так дарэчы.

Янка ненавідзіць гэтае маё напышлівае выслоўе: д’ябал пасьміхаецца. Аднак ён і праўда пасьміхаецца, інакш ня скажаш, пасьміхаецца й хітае ледзь бачна ў гэтае імгненьне на прыпынак, што падаваўся мне, гатоваму ўжо занесьці нагу над першай прыступкай, вядучай уніз, зусім бязьлюдным. Не, ён не бязьлюдны. Я гляджу на гадзіньнік, 23.40, на прыпынку, ля шапіку з апушчаным забралам, прыгнулася да астываючага асфальту жанчына гадоў сарака. Яна — і я вызначаю гэта мамэнтальна, нібы тэрмінатар — прыгнулася, каб выдастаць прыблудны каменьчык з агромністай і безгустоўнай пантофлі. Яна здымае пантофлю, азіраецца сарамліва вакол, прыгінаецца яшчэ ніжэй і засоўвае ў пантофлю ўсю далонь. Ё-маё, дзе ж гэты камень, цагліна там, ці што? Яна пакуль ня бачыць мяне, я замаруджваю хаду, ступаю ў цень ля ліхтара. Нешта ж прыцягнула

маю ўвагу... Хутка я вызначаю, што — жанчына расплываецца, становіцца толькі абрысамі з намінкаю на непрыстойнасьць, а мой зрок факусуецца на тым прадмеце, што ляжыць за яе сьпінай на неахайна пафарбаванай лаўцы. Гэта жаночая сумачка, такая ж безгустоўная, як і пантофлі, раскрытая сумачка, беспрызорная сумачка, пярэстая як хахламская карова, з замочкам, што наводзіць на думкі пра маладосьць маёй бабулькі. Уладальніца сумачкі яшчэ сэкунду корпаецца ў пантофлі, а потым, пратрубіўшы ціхенька пераможны покліч, дастае адтуль патрэбнае. Яна падобная да маці двоечніка на выпускным вечары, гэтая гадзіна, а значыць, чымсьці й да Галіны Іванаўны. Д'ябал заахвочвальна пасьміхаецца, у гэтай усьмешцы ўгадваецца нецярплівасьць. І я пагаджаюся. Рэзка стартую, прыгадаўшы панкаўскую маладосьць, выскокваю з-за шапіку, хапаю сумачку за шыю й лячу ў бліжэйшы двор. Я ведаю тут кожны сьметнік. Там, за чорным трохкутнікам кавярні, будзе дзіцячы сад, за ім — арка, яна вывядзе мяне да трамвайнага прыпынку, праз сем хвілінаў я буду ля наступнай станцыі мэтро. Я ня чуў, што яна крычала мне ўздагон. Мяркую, нічога арыгінальнага.

Цікава: варта трапіць у маю сытуацыю, як адразу ж ублытваешся у пэўную дастаеўшчыну. У дванаццаць дваццаць я прыкладаюся да дамафону. Нельга сказаць, што здабыча мяне расчаравала. На гэтыя грошы можна арганізаваць сабе гадавую падпіску на часопіс “Беларуская пэнітэнцыярыя”. Гэтаксама, як мая ахвяра засоўвала руку ў сваю неабдымную пантофлю, я апускаю руку сабе ў душу, спрабуючы дасягнуць самага дна. Ніякага раскаяньня, шмат розных дробных прадметаў, неадрозных навобмацак.

**8.**

— Самыя блізкія й родныя нам людзі ў гэтым сьвеце — нашыя адлюстраваньні, — кажа Барыс Барысавіч, безвач, але з аптэкарскай дакладнасьцю наліваючы сабе ды мне па кілішку каньяку. — Я клапачуся пра гэтых самых родных і блізкіх. Хіба нам ня хочацца, каб яны выглядалі як мага больш шыкоўна, каб іхная вонкавая прыгажосьць, іхныя найлепшыя рысы заўсёды былі навідавоку, былі умела высунутыя наперад? Каб яны удала падкрэсьлівалі унутраныя якасьці іх уладальнікаў? Сьвет мой, фотачка, скажы, ды ўсю праўду... і гэтак далей. Вось у чым мой абавязак.

Дваццаць хвілінаў таму на першым паверсе ўнівэрсытэту я заўважыў здалёк пекную дзяўчыну, якая апынулася Валерыяй, і вось

мы ўжо сядзім у прасторнай кватэры Барыса Барысавіча, таго самага мага, ад якога

Валерыя мае цэлы вывадак фотаздымкаў. Барысу Барысавічу на выгляд гадоў сорак пяць, але выглядае ён нязломкам, пахне ад яго дарагой штучнай маладосьцю, дый звонку не відаць ані прызнаку распаду. Як тынэйджар-сатаніст, ён апрануты ў чорнае, сівізна пасуе яму неймаверна. Калі ўжо я пасівею й пачну атрымліваць пэнсію — што за дзівоснае надыйдзе жыцьцё! Барыс Барысавіч з посьпехам курчыць зь сябе багемнага караля, у размове лёгкі й ненавязьлівы. Валерыя сядзіць за ягонай сьпінай, гартае ўжо, мусіць, соты за гэты час альбом, няўважліва прыслухоўваецца й зрэдку ўсьміхаецца, пазіраючы на мяне — ёй страшэнна хочацца, каб мы пасябравалі.

— Вы кажаце так, нібыта я ўжо пагадзіўся з вашым мудраслоўем, — адказваю я. Мая сьпіна да таго напружаная, што ўсё цяжэй і цяжэй удаваць лянотны тон. Аднак не пацешу ж я гэтага фотасутэнэра сваім крывым пазваночнікам. — Самыя блізкія й родныя нам людзі ў гэтым сьвеце — нашыя адлюстраваньні? Мне так не падаецца. Напрыклад, для мяне самы блізкі чалавек — мая нявеста. А яшчэ бацькі... А сябры... Я разумею, бацькі й сябры — гэта наіўна, але для большасьці людзей...

— Я прашу вас, я заклікаю вас хаця б на хвілінку паразважаць больш высокімі катэгорыямі, — ахвотна прамаўляе Барыс Барысавіч. — Нявеста — выдатна! Але вы можаце, узьняўшыся над канкрэтным часавым адрэзкам, даць самому сабе гарантыю, што ваша нявеста будзе вашай да таго моманту, як вы не ператворыцеся ў пыл? Што праз год пасьля вясельля вы не разьвядзецеся, каб ніколі ўжо ня ўбачыцца, што яна ніколі не застанецца жонкаю зьніклага бязь вестак, што вы ніколі ня станеце ўдаўцом, што... Што ўвогуле не адбудзецца нечага такога, выпадковага зь вялікай літары, што перамесьціць вас у іншую сыстэму каардынатаў, у іншую сыстэму каштоўнасьцяў і зусім да таго ж чужых людзей? Сплюнем, вядома ж...

Ён элегантна тройчы цыкае на попельніцу, паварочваецца з усьмешкай да Валерыі, тая пляскае ў ладкі. Аднак Барыс Барысавіч яшчэ не нагуляўся — ён грукае ілбом аб нейкі мэталічны апарат і з задавальненьнем працягвае:

— Ну вось, усе фармальнасьці выкананыя, можаце жаніцца спакойна. Увогуле, трэба кожнае імгненьне бачыць у люстэрку задняга агляду жыцьця аўтамабіль будучыні — браніраваны аўтамабіль, што ў любы момант гатовы вас абагнаць. Здольнасьць ніколі не забываць пра бясконцасьць часу — уласцівая мастакам і філёзафам. Што да бацькоў... Яны, як вядома, даюцца нам адзін раз.

Але ж і ў іх можа быць некалькі дзяцей. Любоў распыляецца. І толькі нашыя адлюстраваньні — верныя нам і толькі нам. Толькі яны гатовыя прымаць нас такімі, якія мы ёсьць. Ведаеце, яшчэ ніводзін з маіх кліентаў не сыходзіў з гэтага атэлье незадаволеным, і...

Барыс Барысавіч адным махам выпівае каньяк і з асалодаю працягвае:

— ...і, галоўнае, кожнага я здолеў пераканаць у выключнай важнасьці для нас нашых адлюстраваньняў. Людзі, калі ім падаць іхныя адбіткі належным чынам, пачынаюць любіць сябе, гэта надае ім упэўненасьці ў сабе, такім чынам, быць фатографам — гэта яшчэ й быць у нейкай ступені лекарам. Даць ім паглядзець на сябе вачыма закаханымі ў іх саміх, даць гэтую магчымасьць перадусім тым, хто пакутуе ад недастаткова высокай самаацэнкі. Адлюстраваньні... Нашыя адлюстраваньні... Якое люстра яшчэ пакажа нам нас ідэальнымі ў сваёй непаўторнасьці?

— Барыс Барысавіч — пастух імгненьняў, — падае голас Валерыя, рухаючы вейкамі як матыль перад сьмерцю. Відавочна, такія словы ў яе пустапарожнюю галоўку ўклаў ніхто іншы, як сам “пастух”. Так і ёсьць.

— Валькірыя, — з салодкім дакорам дыхае Барыс Барысавіч. — Вы перабольшваеце. Я казаў вам крыху ня тое... Я не чараўнік, я толькі вучуся.

— А тое, што... — Я раздражняюся. — Ну, вось вы фатаграфуеце Валерыю паўаголенай, эратычныя, значыць, здымкі атрымліваюцца — ніхто ж з гэтым не паспрачаецца? Вам не здаецца, што такім чынам вы парушаеце нечае права на уласную недатыкальнасьць? У сэньсе, на недатыкальнасьць сваёй дзяўчыны, на недатыкальнасьць табуяваных частак цела?

Валерыя пахмурнее. Барыс Барысавіч жа й тут падхоплівае тэму з радасьцю.

— Не, не і яшчэ раз не! Не здаецца. Па-першае, аніякага прымусу. Па-другое... Я разумею, у нашай краіне як да тэрапэўтаў душы, так і да яе фатографаў ставяцца непрыхільна, але на Захадзе...

— Вы жылі на Захадзе?

— Толькі дурань у наш час ня жыў яшчэ на Захадзе. Усе дарогі адкрытыя. Дык вось, на Захадзе гэта вельмі распаўсюджаная зьява. Там, нягледзячы на розныя непрыглядныя рэчы, людзі ўжо даўно навучыліся быць самімі сабой, не саромецца ні сваіх праблемаў, ні сваіх целаў. Там ужо паўстагодзьдзя як індывідуальнасьць стала сынонімам прыгажосьці, ня толькі ў мастацтве — вы ня паліце? А я запалю. Валькірыя? — але і ў самых празаічных асобаў. Скажыце мне

калі ласка, што дрэннага ў тым, што Валерыя ўбачыць сваё цела, прыгожае, гарманічнае цела здаровай дзяўчыны, гэта сама дасканаласьць! Хіба вы не любаваліся ёй, калі праглядалі фотаздымкі? Прызнайцеся, хіба вам не было прыемна? Паглядзіце…

Барыс Барысавіч пругка падымаецца, падыходзіць да Валерыі, расшпільвае ёй блузку.

— Хіба вам не прыемна, хіба вы не знаходзіце Валькірыю прывабнай? Знаходзіце. Вам нават яе хочацца, а калі б вы апынуліся на бязьлюднай высьпе разам зь ёй, гэтак хаця б на тыдзень — о! Вы б, у вашым веку, ня вытрымалі б ужо ў першую ноч. Бо ў такой сытуацыі вас бы ня стрымлівалі ўсе гэтыя дурныя забабоны, усе гэтыя дзедаўскія прымхі, глупыя буржуазныя табу. Вось паглядзіце: ёй таксама прыемна, што яна падабаецца вам, сасуд яе цела напаўняецца радасьцю… напаўняецца, Валькірыя?… і вам прыемна сузіраць яе, вы хвалюецеся (Валькірыя, табе прыемна?). О…

Барыс Барысавіч пацягнуўся да свайго прарэху, але высьветлілася, што ён толькі хацеў папляскаць сябе па зусім яшчэ маладым, някідкім жываце. Ён уздымае вочы ўгару й летуценна, са смакам прамаўляе:

— Дык навошта пазбаўляць сябе радасьці? Натуральнай чалавечай радасьці? Навошта зьбядняць палітру адчуваньняў? Нам дадзена так шмат…

Апошняе ён гаворыць нават зь нейкай тугой. Зьнясілены, садзіцца зноў да мяне й налівае яшчэ каньяку.

Адно з двух: або гэтая размова ад пачатку пустая, або я прайграю яму. На ягоным ілбе блішчыць пот. Калі скончыцца верасень, гэты люта-сьпякотны верасень? Відаць, на маім твары адбіваюцца ўсе пералічаныя пытаньні, бо Барыс Барысавіч раптам узіраецца ў мяне са спачуваньнем і сьмяецца :

— Што, ня думалі, што стары парнограф вывядзе са свайго рамяства такую філязофію? Вось што атрымліваецца са звычайнага адлюстраваньня. Калі пранікнуць углыб. Піце каньяк, піце, не бянтэжцеся.

Валерыя й ня думае зашпільваць блузку. Ляжыць сабе й фатаграфуе вачыма столь.

— Ды піце ж каньяк, у мяне яшчэ шмат, — гладзіць мяне па плячы Барыс Барысавіч. — Я патэлефаную пакуль.

Ён дастае тэлефон, гэткі ж чорны, што й ягоныя шмоткі, набірае нумар і закідвае туды некалькі кароткіх фразаў. Ня трэба было піць каньяк у такі раньні час. Барыс Барысавіч як чуе:

— Што, размарыла змораных? Нічога. Я вось, дарэчы, каньячок

добры магу літрамі піць, нават у афрыканскую сьпёку. Хе, а я вас адразу раскусіў, думаю, выглядае выкладчык Валькіркін радыкалам, а насамрэч — кансэрватар да мозгу касьцей. Зацюканы апостал. Я як пачуў гэта... пра недатыкальнасьць, пра табу... так адразу і ўцяміў, хто перада мной. Вас трэба лячыць адлюстраваньнямі. Вы — стаўлю дыягназ: вы баіцеся самі сябе, баіцеся сваіх жаданьняў.

— Не баюся я нічога, — груба адказваю я. — І ўвогуле, па-першае, на тое мы й людзі, каб умець стрымліваць свае эмоцыі, свае інстынкты — у супрацьлеглым выпадку сьвет даўно б апанавала анархія, а па-другое...

— Што кепскага ў анархіі? — выдыхае разам з цыгарэтным дымам Валерыя, і я зьдзіўляюся настолькі, што выпіваю нагбом рэшткі цёплага каньяку.

— А па-другое, вы разважаеце надта ўжо прымітыўна, барыс барысавіч.

— У, калі б я пачаў разважаць складана, сумняюся, што вы зразумелі б мяне. Вы ж таксама філёзаф, я гэта бачу, вы штохвілінна корпаецеся ў сабе, вы, калі ня будзеце рэгулярна жывіцца пытаньнямі без адказаў, проста анігілюецеся... Вы залежныя ад пытаньняў, нібы ад наркотыкаў — дарэчы, упэўнены, што вы ніколі не спрабавалі добрае муравушкі — вы для гэтага якраз такі... самі сабе ўскладняеце жыцьцё. А так я патлумачыў усё на папулярным узроўні, усе ўсё зразумелі... Вы разумны малады небарака... Вам абавязкова трэба пафатаграфавацца ў мяне. Глядзіце, як я бачу вас.

Ён моршчыцца, і потым прымірэнча б’е па стале.

— Я сфатаграфую вас так. Вы ў сінім аксамітным понча — Валькірыя, дастань, там, на піяніна, вы: адна нага на беласьнежным цацачным кані, што ляжыць на баку... Вы — у далярах, у ахапках даляраў, як у восеньскім лісьці... Вы — ляжыце, рука паўсагнутая, панад вамі доўгае вузкае люстра, трохі скошанае набок... Куты мусяць быць няправільнымі... няправільнымі... Так... Не, вы — я здымаю вашае адлюстраваньне ў крывым люстры... У вас такое прыгожае цела... Можаце мне паверыць, ужо я ў гэтым абазнаны.

— Даляры сапраўдныя?

— Несумненна. Згода? Мы можам пачаць цяпер. Распранайцеся.

— Што — усё гэта без адзеньня?

— Безумоўна. Адзеньне толькі замінае эфэкту. Адзеньне — утыль, неабходны, але ўтыль. Яно можа быць аб’ектам выключна як нейкі фрагмэнт...

Ён пачынае мне падабацца. Я падымаюся.

— Не, я не гатовы. Можа быць, калі-небудзь...

— Цудоўна. Прыходзьце да мяне ў любы час. Першы візыт бясплатны.

— Валерыя, ты йдзеш?

— Я застануся. Мы дамаўляліся папрацаваць яшчэ. Барыс Барысавіч праваджае мяне да дзьвераў. Я паварочваюся да Валерыі:

— Паслухай, а як ставіцца да тваіх... здымкаў... як ставіцца Сяргей?

— Які Сяргей?

Яна шчыра дзівіцца, нават рэзка садзіцца на ложку.

— Ну, Сяргей...

Я называю прозьвішча свайго змрочнага маўчуна-студэнта, містэра Shadow of Valkiria. Валерыя пакрыўджана крывіць вусны.

— Прычым тут ён?

— Ды так, — кажу я, паціскаючы цьвёрдую сухую далонь Барыса Барысавіча.

— Тэлефону не даю, — вінавата разводзіць рукамі ён. — Проста прыходзьце. Або знойдзеце мяне ў інтэрнэце: там я рэгулярна вывешваю свае новыя працы...

— Ненавіджу інтэрнэт, — адказваю я, усьміхаючыся ва ўвесь рот.

— А вось вашы зубы лепш лячыць у дантыста, фотатэрапія тут не дапаможа, — весела кажа ён. — Ну, бывайце. Спадзяюся, што наступны раз я ўбачу вас зь нявестай. Не забывайце — першы сэанс бясплатны. Рады быў пазнаёміцца. Рэдка сюды завітваюць такія людзі.

— Нічога дзіўнага, — усьміхаюся я яшчэ шырэй, дэманструю Барысу Барысавічу свой мэталакерамічны дуэт, разьвітваюся з Валерыяй і выходжу насустрач дзяржаўнаму сьвяту.

**9.**

У вітальні гарыць сьвятло. “Дзе гэта ты ўжо нажэрся?” — кажа Янка, на яе кароткай белай сукенцы пунсавее вінная пляма. Яна з парогу атрымлівае ад мяне ў падарунак мабільны тэлефон, праўда, непадключаны — так, забаўка, што можа сьвяціцца ў цемры. Я аглядаю сябе ў люстры, вітальня заваленая абуткам, я хаваю чаравікі ў шафу — права, якім можа пахваліцца зусім ня кожны зь сёньняшніх гасьцей. Не хапала яшчэ, каб у маім абутку дахаты паехаў які-небудзь віталік. Яна шэпча, што Марына прывяла сёньня свайго кавалера, таго самага Ракіціна, камсамольскія крыўляньні якога мы калісьці

мелі няшчасьце назіраць па ГТВ. Я яшчэ раз гляджу ў люстра: гэта сапраўды дапамагае, сузіраньне сябе, нязьмененага, звыклага, адразу супакойвае, стары парнограф меў у чымсьці рацыю. Янка ўваходзіць у залю першая, у поўнай цішыні дэманструе мой падарунак. Нарэшце нехта зь віталікаў ужо добра падпітым голасам гундосіць: “Ды навошта ён табе? Радыяцыя гэта... ды й проста раскоша. Я кажу — раскоша...”

Я праходжу ў залю за Янаю й ціха вітаюся. Віталікі ажыўляюцца. Мая глотка сплочвае штраф. Галіна Іванаўна глядзіць на мяне такімі добрымі вачыма, што становіцца жудасна.

— Ну, таста чакаем, — зьдзекліва кажа Віталік. — Самаволка з паста — дык давай таста!

— Праўда што, — кажа Міхаіл Самсонавіч. Яны, ня лічачы, можа, Ракіціна, выпілі яшчэ толькі па адной, а ён, на старыя, відаць, дрожжы, ужо хмяльны. Прадпрыемствы змагаюцца за выкананьне чагосьцітам, паседжаньні ў міністра ледзь ня кожны дзень. Я падымаюся над сталом. Калі мы пажэнімся, мы будзем любое ўласнае сьвята адзначаць толькі ўдваіх. Спадзяюся, да таго часу ўсе бацькі перамруць.

— Героі, замест якіх жывем мы... — міжволі зьлятае ў мяне з вуснаў. Я закрываю рот рукой і чырванею.

Героі, замест якіх жывем мы, сядзяць за гэтым раскладным сталом. Яны глядзяць проста перад сабой, глядзяць невідушчымі, засяроджанымі на чымсьці вышэйшым за нашую сьлепату паглядамі. Яны не дакранаюцца да ежы, іх рукі ў шоўку складзеныя на грудзёх, іхныя грудзі ў ільне ня рухаюцца. Я перакідваю праз плячо сурвэтку, я буду прыслужваць ім — толькі такая роля адведзеная мне сёньня. На тварах герояў дзе-нідзе яшчэ відаць ледзяная луска. Слухаць герояў — пачэсны абавязак.

— Тая, хто жыве замест мяне, — кажа гераіня цёткі з прыгараду, — траціць свае дні бяздарна й тупа. Нарадзілася пасьля вайны. Яе назвалі Бэла. Яна дагэтуль блытае Сталіна з Ісусам Хрыстом. Калі яе прынялі ў камсамол, яна пісала лаянку на жыдоўскіх хатах. Яе найвышэйшай марай заўсёды была пасада старшай пасудамойкі ў сталовай лесапільні. Калі ёй прапанавалі заняць гэтае месца, яна адмовілася, бо “недастойна”. Яна заўсёды вучыла Янку: ня лезь куды хочацца, лезь куды дазволена. Кірылічны тэкст мусіць быць тэлепраграмай, каб яна здолела яго прачытаць. Яна вучыла Янку: удзень руйнуй крыжы, уначы маліся. Яна перакананая, што самы мудры чалавек — гэта бацюшка Якаў. Яна дагэтуль упэўненая, што жыве ў СССР, толькі “Брэжнеў загадаў, каб усё вакол пераназвалі”. Яе

таемны страх: мінэт. Яе таемная любоў: вялікі й злы міліцэйскі сабака, на якога ёй аднойчы пашэнціла паглядзець зьнізу. Яе нянавісьць: беларускае радыё, бо там часта гавораць па-беларуску. Яе мара: памерці бяз болю. Свайго першага мужа, баптыста, яна здала ворганам. Другі муж уцёк ад цёткі Бэлы сам. Яе падарунак Яне: яна зьбіралася падарыць ёй дзесяць даляраў, але ўчора на тралейбусным прыпынку цётку Бэлу нахабна абрабавалі, і таму яна без падарунку й займае апошняе месца ў нашым гіт-парадзе.

— Тая, што жыве замест мяне, — кажа гераіня Галіны Іванаўны, — хацела ў маладосьці многага. Яна чытала "Дружбу народаў" і "Новый мір", займалася спартовай стральбой і альпінізмам, вучыла гішпанскую мову, праклінала Пінаочэта й захаплялася Гемінгуэем. Доўга не магла выйсьці замуж, была кіраўніцай студэнцкага хору "Поюшчіе мікрофоны", цноты яе пазбавіў кубінец Мануэль у нумары свайго гатэлю. Была актыўнай камсамолкай, уступіла ў партыю, неяк па партыйных справах пазнаёмілася з эканамістам Мішам, маладзейшым за Галю на чатыры гады. За два гады сямейнага жыцьця нарадзіла дзьвюх дачок, і пасьля гэтага пераканалася, што галоўнае ў сьвеце — муж з добрай працай і здаровыя дзеці, а жанчыны — толькі мэханізмы для камфортнага пражываньня чалавечых самцоў. Старалася прышчапіць гэта дачкам. Калі не атрымалася, раззлавалася на ўвесь сьвет. Хваробы пачаліся яшчэ ў трыццаць. У трыццаць два спрабавала скончыць жыцьцё самагубствам — успарола сабе вены. Выратавала суседка-алькагалічка. У трыццаць восем, ужо замужняя, уцякла ў Казахстан з Касымам Халімбаевым, трыццаціпяцігадовым наркаманам. Месяц паліла траву ў мясцовых стэпах. Калі Касым памёр, вярнулася да Мішы. Таго шкадавалі, пасоўвалі па службе. Пяць абортаў. Упэўненая, што дачок трэба аддаць замуж за членаў Маладзёжнага Саюзу — Марына распавядала, у іх там забясьпечаная будучыня. Перакананая, што ў сьвеце даўно ўсё расьпісана, і нічога ня зьменіш, і ня нам вырашаць, як нам жыць. Таемны страх: зяць-жабрак. Таемная любоў: Карэл Гот.

Нянавісьць: рок-музыканты. Мара: выдаць Янку за замежніка. Яе падарунак Яне: кніга кулінарных рэцэптаў і нібыта ад Міхаіла Самсонавіча — асеньнія чаравікі.

— Тая, што жыве замест мяне, — кажа гераіня цёткі Веры, — заўсёды баялася жыць. У дваццаць год прыдумала сабе штодзённы плян, ад якога яна па магчымасьці не адступала да нараджэньня сына. У ва ўсім пагаджаецца са сваёй сястрой Галяй. Калі нарадзіўся Віталік (ад аднаго разанца, што быў у камандзіроўцы), махнула на жыцьцё рукой. Цяпер за сабой не глядзіць, затое можа за дзень

прыгатаваць дваццаць тысяч пяцьсот чатырнаццаць бліноў. Калі Веры было пятнаццаць, яна нарадзіла дзіця ад віетнамца і ўтапіла ў кар'еры на будоўлі. Таемны страх: што напрыканцы жыцьця хтонебудзь пра гэта дазнаецца. Таемная любоў: дзейны прэзыдэнт краіны. Нянавісьць: Янін хлопец, бо займаецца чымсьці бессэнсоўным, а атрымлівае столькі ж, колькі яна. Мара: каб Віталік ажаніўся й купіў ёй дом за горадам. Яе падарунак Яне: дваццаць тысячаў і набор шклянога посуду.

— Той, што жыве замест мяне, — кажа герой Міхаіла Самсонавіча, — заўсёды любіў лічыць. Лічыў сябе геніем. Часта лавіў сябе на тым, што любіць прамаўляць ўслых лічбы. Да трыццаці гадоў быў пэўны, што дзеці нараджаюцца ў залежнасьці ад таго, займацца любоўю ў адзеньні ці без. Бацька памёр падчас перабудовы. Таемны страх: што пасодзяць. Таемная любоў: дачка міністра, якую аднойчы бачыў аголенай у лазьні на міністравым лецішчы, і спартовая статыстыка. Нянавісьць: жонка. Мара: "Барсэлёна" — пераможца Лігі чэмпіёнаў. Падарунак Яне набыла жонка — асеньнія чаравікі.

— Той, што жыве замест мяне, — кажа герой Янінага дзеда, — аднойчы ўжо ў сталым веку выпаў з восьмага паверху. Пасьля гэтага забіў суседзкага ўнука за тое, што малы не хацеў ісьці гуляць на двор. Прызнаны псыхічна хворым. Пасьля лекаваньня стаў народным доктарам. Ведае ўнівэрсальны рэцэпт супраць псарыязу: у 16.59 любога веснавога дня выйсьці на лясную паляну, памачыцца ў накірунку Ўсходу, на месцы лужыны раскапаць ямінку, пакласьці туды сабачы хвост, вымачаны

ў віне "Беларуская амброзія", пасыпаць зьверху ёдаванай солі й накрапаць сопляў немаўляці. Праз два дні адкапаць гэта, гучна памаліцца, павярнуцца да Захаду, прамовіць: "Крэкс, пэкс, фэкс" і йсьці дахаты. Смактаць хвост двойчы на дзень ня менш за пяць хвілінаў, чытаючы брашуры Парфірыя Іванова. Таемны страх: вайна з амэрыканцамі. Таемная любоў: дачка Верка. Нянавісьць: прыватныя мэдыцынскія цэнтры. Мара: каб Гагарын вярнуўся. Падарунак Яне: рэсьпіратар.

— Тая, што жыве замест мяне, — кажа гераіня Марыны, — прачытала неяк у вадным рамане радкі, якія ёй надзвычай спадабаліся. "— Ведаеш, Джэйн, — сказаў Хоўл, выходзячы на вэранду й праціраючы пісталет ейным станікам. — Што б там ні казалі пра рамантыку, усё на сьвеце вырашаюць толькі грошы". З таго часу Марынка не чытала нічога мудрэйшага. Таемны страх: зацяжарыць да шлюбу. Таемная любоў: брат Валодзі Ракіціна, першы сакратар гарадзкога камітэту Саюзу. Нянавісьць: малодшая сястра. Мара:

кватэра, машына, улада. Падарунак Яне: залатыя завушніцы.

— Той, хто жыве замест мяне, — кажа герой Віталіка, — багоміць дарагую аўдыётэхніку. Ён спрабуе стаць бандытам, аднак робіць у гэтай справе толькі першыя стрэлы. Таемны страх: што Кілбасьнік скончыць яго ўжо цяпер. Таемная любоў: жонка Кілбасьніка. Нянавісьць: пісьменьнікі, бо дармаеды й педзікі. Мара: заняць месца Кілбасьніка. Падарунак Яне: пяцьдзесят даляраў.

— Той, хто жыве замест мяне, — кажа герой Ракіціна, — ня ведае нічога саладзей за ложкавыя практыкаваньні. Бывае, так захочацца, што проста пад сталом у прэзыдыюме пачынае: туды-сюды, туды-сюды, і потым употай выцерці сьцягам. Штогоду езьдзіць за мяжу, падалей на Захад, кіраўніком валанторскага атраду. Запісвае спакушаных суайчыньніц у зялёны блякнот, замежніц — у чырвоны, прастытутак пазначае кружочкамі, цнатлівак — крыжыкамі. Начамі сядзіць на офісе Саюзу, лазіць па парнасайтах. Займаецца тэквандо, на сьвята гораду арганізоўвае конкурсы “Хто далей плюне” і “Прызыўнік03”. Хворы на рак мозгу, але яшчэ ня ведае пра гэта. Чытае па складах, трымае дома бязлапага хамяка. Таемная любоў: яна мусіць прыхільна ставіцца да любові без прэзэрватыву. Таемны страх: імпатэнцыя. Нянавісьць: брат. Мара: каб адразу з шасьцю, і каб хапіла моцы. Падарунак Яне набыла Марына.

— Той, хто жыве замест мяне, ня ўмее нічога акрамя як размаўляць па-кудзінску. Такая здольнасьць не дае яму аніякіх выгодаў і нічога не зьмяняе ў сьвеце. Ён ня мае ні страхаў, ні таемных упадабаньняў, ён ня любіць нікога й не ненавідзіць, ён мае мару: застацца зь Янаю апошнімі людзьмі на гэтай плянэце, перад сьмерцю адпусьціўшы нарэшце рычаг рэгулятара тэмпэратуры.

— Тая, што жыве замест мяне, ня верыць у маё існаваньне. Яна размаўляе па тэлефоне.

**10.**

Калі на двары ўжо сьветла і я ўрэшце, не прачынаючыся канчаткова, ратуюся ад прахалоднага дотыку вуліцы пад коўдрай, мне сьніцца музыка, што барахтаецца ўнутры падушкі. Я доўга ляжу, засяроджана раскладаючы пасьянс дрымоты і явы, нерухомею, прыраслы да канапы, у дзіўнай позе — намаляваны на прасьціне скачучы чалавечак. “Трыццаць тры”, — злосны голас маці за валасы выцягвае мяне з гэтага бязважкага нябыту. Высьвятляецца, што нехта пабудзіў мой тэлефон, я бяру яго, яшчэ не да канца ўзгадаўшы,

што робяць у такіх выпадках. Вакно дыхае колкім паветрам сьвітанку, але сьляпучы блакіт неба даводзіць, што сёньня зноў будзе горача, што лета ўсё яшчэ моцна трымаецца за саломінку.

— Я вас пабудзіла?

Гэта Валерыя, яе голас упэўнены ў сваёй беспакаранасьці.

— Алё? Гэта Валерыя. Алё?

— Алё.

— Прабачце, вядома ж... Зусім адвыкла, што ёсьць людзі, якія сьпяць уночы.

Не хапала мне яшчэ аднаго Макса. Той не дае заснуць, а гэтая будзіць на досьвітку.

— А вось Барыс Барысавіч уначы праяўляе здымкі. Як ён вам, дарэчы?

— Паслухай, Валькірыя, я яшчэ сплю.

— Не, вы прачнуліся. Ну вы ж у любым выпадку ўжо не засьнеце.

— Валерыя, ты што, п’яная? Зараз шэсьць раніцы, і я твой выкладчык. Скажы свайму Барысычу, каб ён... а то я...

Я пазяхаю так, нібы вырашыў праглынуць тэлефон. І нашто я даваў ім усім свой нумар...

— Што — вы?

— Я кладу слухаўку.

— Ну не сярдуйце. Вы што, думаеце, я ў Барыса Барысавіча? Ды ў мяне зь ім нічога няма. Ну і думкі ў вас, у любой жанчыне бачыце распусьніцу. Трэба вам завітаць на сэанс фотатэрапіі. Я дома, перад кампутарам, за сьцяной тата й мама, Барсік пад нагамі блытаецца. У Барыса Барысавіча новая мадэль, то бок пацыентка... Я гляджу ягоныя апошнія працы, я іх і раней бачыла, але хочацца яшчэ паглядзець. Супэр.

— Я кладу...

— Не! Рэч у тым, што я тэлефаную па справе... Проста саромеюся вельмі.

— Дзевяць дзевяноста дзевяць! — стогне маці на парозе майго пакоя.

— Ну што, што?

— Рэч у тым, што... Наша кудзінская група, мы сёньня едзем за горад, на Пціч. І мы падумалі й запрашаем вас далучыцца. Можаце зь нявестай паехаць. Нічога такога, проста паплаваем, пазагараем. Лета ж засталося — два дні й кірдык. Я чула прагноз. У Крыме дык цяпер файна. Аксамітны сэзон працягваецца. Дык паедзеце?

— Вядома, не паеду. Валерыя, мне ўжо...

— Ой, толькі не кажыце пра свой узрост. Вы на шэсьць гадоў старэйшыя за нас. Вы ж зусім яшчэ малады. Жанчыны разьвіваюцца хутчэй, так што мы з вамі амаль што аднагодкі. Паедземце. Будзе весела. Загарыце хаця б, а то вы вунь які бледны. Значыць, вы згодныя. Плаўкі не забудзьце, а забудзеце, дык можна й бязь іх. Там ёсьць мейсца, дзе можна арганізаваць сапраўдны нудысцкі пляж. Сустракаемся а дзявятай на вакзале пад таблё. Не спазьняйцеся, добра? І піва купіце.

— Не паеду я нікуды, — я канчаткова прачынаюся і адключаю Валерыю ад майго ранку. Тут жа тэлефон блее зноў. Макс, хто ж яшчэ. Вось вазьму й не падыму. І паспрабуйце даляцець да маёй плянэты на сваіх дапатопных караблiках.

— Я не зарана? — клапатліва пытаецца ён. — Слухай, гэта што ж атрымліваецца, а?

— А што?

— Я ўчора ўвесь дзень думаў, і сёньня прыйшоў да такой высновы. Чаму гэта жанчына мусіць абавязкова нараджаць дзяцей? Адкуль гэты абавязак? Гэта ж натуральнае прыніжэньне. Іх выкарыстоўваюць як нейкія інкубатары. Дзе свабода чалавека? Дзе права распараджацца сваім целам, сваім арганізмам? Ты скажаш: ня хоча, можа не нараджаць. Аднак жа прымушаюць. Грамадзтва прымушае. Нібыта жанчына мусіць сплочваць нейкі доўг.

— Ніколі раней не заўважаў у табе фэмініста.

— Прычым тут фэмінізм. Проста атрымліваецца такая вось папярэдняя заняволенасьць. Людзі мусяць быць свабоднымі ад пачатку, а ня жыць усё жыцьцё пад грузам доўгу. Нашае прызначэньне — цешыцца з жыцьця, лашчыць нашыя целы і ўсё такое. Прынамсі, самім вырашаць, што нам рабіць са сваімі целамі. А то што атрымліваецца: мы з табой можам спакойна пырскаць направа й налева, а Валька вось, напрыклад, ледзь што — адразу зацяжарыць. І ўсё — любові капец? Любові, я кажу, капец?! Пачнецца там адразу доктары ўсякія, грошы, кармёжка, ніякіх гарачых начэй больш нашых ня будзе. Вось і жыві ў пастаянным страху.

“Ну дык стэрылізуй сваю Вальку”, — раптам раззлаваўшыся, думаю я. “Вярзеш тут гэтую псэўдафілязофскую лухту, фашысцкая дупа”. Аднак кажу:

— Такія законы прыроды. Дура лекс, як кажуць, сэд лекс.

— Гэта што?

— Суровы закон, але закон.

— Дастаў ты мяне сваёй мярцьвячынай. Гэта лаціна? Вось ужо дзе бескарысная навука. Ёсьць у табе нешта нэкрафілічнае. У ва ўсіх

тваіх гэтых праблемах зь Янінай, і ў працы тваёй нікому не патрэбнай, і ў табе самім.

Ня ўмееш ты цешыцца з жыцьця. А я табе пра жыцьцё якраз і кажу, пра радасьць жыцьця, пра тую свабоду, якую яно мусіць даваць. А яно ня ўсім, выходзіць, дае. Несправядлівасьць. Мая Валя — не дзетанараджальная машына, а здаровая баба, якая жыць хоча, якую я шчасьлівай хачу зрабіць. А якое шчасьце ў дзецях? Значна справядлівей было б, калі б людзі атрымлівалі магчымасьць нараджаць сабе падобных перад сьмерцю. Тады ўсё лягічна: перадача эстафетнай палачкі, натуральнае чаргаваньне, пажыў — дай другому. А так — дзе справядлівасьць? Колькі нам адпушчана на жыцьцёвую радасьць? Гадоў дзесяць, калі ня менш. А потым — працуй, працуй, пашы на чалавекагадоўчай фэрме. Каб у канцы атрымаць ад дзетак сумнеўную падзяку. Ніякай справядлівасьці. Вось ты і я. У нас з Валькай — шчасьце, нам бы радавацца. А ў цябе з тваёй гэтай, як яе... праблема за праблемай. Не пярэч — праблема за праблемай. Я ж бачу. Ты ж змрочны ўвесь час, як не патэлефаную — голас замагільны. Я заўсёды спадзяюся перад тым як пазваніць, што ты хаця б на гэты раз нармальна пагаворыш. Моманты выбіраю. Ні хера. Дык вось, я ад тэмы адхіліўся. З чаго ўсё пачалося. Заехаў я да Скандала...

Больш мне не ўдаецца ўставіць ані слова. З тэлефонам пад вухам і зубной шчоткай у роце я даслухваю ўсё гэтае трызьненьне. Ушчэнт зьняможанага, Макс нарэшце пакідае мяне ў спакоі. Я тэлефаную Яне, але яна сваім фірмовым тонам, што прымушае забыць нават пра імітацыю намаўленьняў, забараняе мне прыязджаць сёньня.

— Мне трэба адысьці ад учорашняга. Галава баліць ад гэтага паршывага віна.

— А як жа тэлефон?

— Падключу заўтра. Слухай, мне й праўда хочацца паваляцца сёньня адной.

— Тады, Надзея Канстанцінаўна, Валодзенька паедзе сёньня на ўік-энд з трыма дзяўчынамі. На Пціч. Саўнарком застаецца на вас.

— Няхай Валодзенька коціцца куды хоча. Хоць зь дзясяткам.

— Жарт, жарт, — я насамрэч палохаюся такой абыякавасьці. — Мяне студэнты запрасілі. Дык я зьезджу?

— Што ты пытаешся дазволу? Рабі як хочаш. Я што табе, маці?

А дзявятай я глухну пад вакзальным таблё ад шчабятаньня маіх масяняў. Сяргей, не адводзячы вачэй ад гітары, журботна найграе нешта падобнае да “Лесьвіцы ў нябёсы”. Валерыя выходзіць з

жывот. Валерыя казыча мне плячо сваімі бездакорнымі пасмамі.

— Я ўсё-ткі выкладчык, — намагаюся я прамовіць пастражэй.

— Ды які ты выкладчык, — Валерыя далікатна, але спрытна засоўвае мне ў плаўкі божую кароўку. Я сьціскаю зубы, каб не падскочыць. Інсэкты — ворагі чалавецтва.

— Э-э, — толькі й застаецца сказаць. Лепш гэта, чым сьмешнае дарослае абурэньне. Ім толькі такое й падавай. Засьмяюць з ног да галавы.

— Які ты выкладчык? Чаму ты нас вучыш? Што, нам прыдасца гэтая кудзінская мова? — Валерыя кладзецца побач. — Я, напрыклад, калі скончу ўнівэрсытэт, хачу знайсьці нармальную працу, а не нудзець за грошы пра кудзінскія дзеясловы, якія, наколькі я зразумела на тваёй лекцыі... ну, пазаўчора... і самім кудзінам нафіг ня трэба. І Сяргей, праўда, Сярожка? Не, не, нічога, сьпі далей.

Я прысоўваюся бліжэй да Валерыі. Мне ня хочацца ад яе нічога такога звыш. Ляжаць і слухаць. Няхай усе яе словы — бязглузьдзіца, няхай яна чалавек нячулы і абмежаваны, але яна жанчына, а зь імі можа быць добра й без інтэлектуальных намаганьняў. Масяні вішчаць у вадзе, да нас нават далятаюць пырскі, коляць абгарэлую скуру.

— І адкуль вы такія бярэцеся? — Валерыя нахіляецца па-нада мной. — Чаму ўскладняеце ўсё, так страшна, жудасна, пачварна ўскладняеце. На сьвеце ж усё проста. Так проста. Проста, проста, проста. Скажы проста.

— Проста, — кажу я паслухмяна.

— Ідзем купацца. Ня хочаш — як хочаш.

Яна з разьбегу нырае, зьяўляецца на паверхні, шумна адплёўваецца кавалачкамі сонца. Я выпростваюся побач зь Сяргеем.

— Слухай, ты паліш? Не? Я таксама кінуў. Але бывае хочацца.

Некалькі хвілінаў мы сядзім моўчкі. Недалёка ад нас смажаць шашлык з па-курынаму бледнай жанчыны. Яе дзеці, карыстаючыся гэтым, вывучаюць анатомію адно аднаго. Я падыходжу да берага. У вадзе калыхаецца мой адбітак.

— Слухай, а ты ведаеш, можна й на чатырох струнах... — вяртаюся я да Сяргея. — Хочаш пакажу.

— Навошта ты яе так мучаеш?

Я гляджу на яго са зьдзіўленьнем. Ён пазірае кудысьці ў бок таго берагу, спакойны, халодны, нібыта ў ягоным календары люты.

— Каго? Валерыю?

— Яну.

Напэўна, у такія хвіліны неабходна душыць чалавека да апошняга ўздыху. Я саджуся проста насупраць ягоных вачэй, каб

гэтыя зрэнкі давялі мне іхную сур'ёзнасьць. Сяргей маўчыць. Я даю яму магчымасьць патлумачыць, але ён, падобна, і не зьбіраецца болей нічога казаць. Што ж…

— Ты даўно зь ёй сустракаешся? — кусаю я вусны. Рукі, якія дакраналіся да маёй Яны, складзеныя на каленях, яны зусім не дрыжаць, ногі, якія яна абвівала сваімі, стаяць на зямлі трывала, рот, які зводзіла ад усёдазволенасьці, утварае на твары адзін рашучы, тонкі, ружовы працяжнік. Сьпіна, якой яна прыкрывалася ад мяне нібыта люкам, мае — раней я не заўважаў — папросту каралеўскую паставу. Вочы, якія дасьледвалі васальныя мне закуточкі Янкі, бесстаронна абмінаюць усе мае сьцены. Сярожа. Маўклівая пустэльная гадзіна. Сьмерць студэнтам!

— Перастань, — ён гідліва крывіцца, і нарэшце рот ягоны ламае горкая складка. — Я дагэтуль памятаю, я сьню дагэтуль той вечар, калі мне дазволена было дакрануцца да яе. А ты… табе дадзенае такое шчасьце…

Плач, плач, жалезны дрывасек. Маленькі Сярожа, што аднойчы заблудзіўся ў Краіне Яніных Адбіткаў. Калі б я мог, я абняў цябе. Але я не люблю людзей. Калі б любіў — ставіўся б да сябе абсалютна інакш. Песьціў бы, рамантаваў у час, ахоўваў бы ды перасьцерагаў ад перанапружаньняў. І калі б нехта пераважваў мяне на шалях гэтага змаганьня, я падкладаў бы на свой бок самыя простыя рэчы й перамагаў бы ў рэшце рэшт. Але сэнс у маё жыцьцё ўносіць толькі любоў да адлюстраваньняў.

**11.**

Калі я ўжо здымаю Валерыю з прыступак вагону, горад раптам выбухае навальніцай. Мы настолькі адвыклі за верасень глядзець на неба, гэты інструмэнт катаваньня, што й не заўважылі, што нашу электрычку ад самае Пцічы суправаджаў хмарны канвой. Мы шалеем ад радасьці, вада лупіць нас па сьвежанамаляваным загары, я нават дазваляю Валерыі пацалаваць сябе ў шчаку, яе бессаромна лапае ейная ж уласная сукенка, масяні сьпяваюць нешта па-ангельску, Сяргей беспасьпяхова імкнецца схаваць гітару пад маёй посьцілкай.

Дома я перш-наперш іду ў душ. У пятніцу мы зь Янай дамаўляліся выправіцца паглядзець кватэру. Цяпер у нас якраз хапае, каб заплаціць за два месяцы наперад. Такога выпрабаваньня ў маім жыцьці яшчэ не было. Я стаю пад цёплымі струмянямі, сам чырвона-бел-чырвоны, як латыскі сьцяг, і ўяўляю сабе нас: мы прыязджаем на

вуліцу, якую столькі разоў прамінані на тралейбусе або трамваі, няздольныя ацаніць яе будучую каштоўнасьць, уваходзім у дом, які столькі разоў лаялі за безгустоўную афарбоўку; адпіхваючы адно аднога, урэшце разам цісьнем кнопку званка. Нам адчыняе інтэлігентны дзядуля ў акулярах і вязаных шкарпэтках, гэстам белагвардзейскага афіцэра запрашае ўвайсьці. Кватэра досыць дагледжаная, толькі ўсё адно пахне тут утульнай, але трывожнай старасьцю. Мы прагонім гэты пах — мы арганізуем на бальконе музэй дываноў, мы напоўнім у першую ж ноч гэты ліпучы посуд у запыленым буфэце выбухоўкай “Ахашэні”. Тут будзе пахнуць потам нашага спляценьня. Тут будзе пахнуць таннымі пяльменямі й старажытнымі кудзінскімі мапамі, канапы будуць заселеныя Янкінымі майткамі й станікамі, на фатэлі расьсядзецца вагністы леў, а тэлевізар мы разьбярэм на часткі й сабярэм зь яго цудоўны хатні більярд. Не, мы набудзем відэамагнітафон. Мы зачнем тут дзіця. Мы будзем па восем гадзін на дзень ляжаць у ваньне, як тыя японскія мядзьведзі, што зімуюць у гейзэрах. — А самі вы куды? — спытаем мы ветліва ў дзядулі, пакуль ён будзе правяраць на сьвятло нашыя даляры. — Я? Не хвалюйцеся, маладыя людзі, — адкажа ён з усьмешкай, акуратна памрэ, без турботаў возьме сябе на рукі ды, разьвітаўшыся, аднясе ў крэматорый. Мы будзем шчасьлівымі, у нас няма іншага выбару. Маці кліча мяне да тэлефону.

*2003*

# НІЯКАЙ ЛІТАСЬЦІ ВАЛЯНЦІНЕ Г.

## 1. Утаавасэ

Непрыемнасьці пачаліся яшчэ ў банку. Сума, якую абыякава назвалі зашклёныя вусны касыркі, апынулася нечакана важкай, нібы валіза з чужымі грашыма. Хадок нават хацеў перапытаць, ці не падвёў яго слых, набраў паветра, але азірнуўся й знайшоў сябе на чале нерухомай і таму яшчэ больш пагрозьлівай чаргі, выдыхнуў і таропка расплаціўся. Па дарозе сюды яму здавалася, што ад заробку мусіць застацца прынамсі палова. За апошнія месяцы Хадаку і ў галаву не прыходзіла зірнуць на рахункі, паштовую скрыню ён адчыняў рэдка, калі выносіў сьмецьце, выцягваў наравісты папяровы ком і ня гледзячы затыкаў ім стракаты смурод вядра. Ён ведаў, што ўсе тыя строгія лісточкі знаходзяцца там, туляцца вераломнымі закладкамі між бясплатных дадаткаў і рэклямных улётак, паршывенькія лісточкі, што нагадваюць, колькі ты зжор газу й вады ў гэтай зусім не шыкоўнай рэстарацыі, ды паведамляюць, што твае адкіды камусьці давялося абясшкоджваць. “Упэўнены”, — думаў ён, прапускаючы перад сабой у дзьверы істоту няпэўнага полу, якая каціла перад сабой каляску — ці то дзіцячую, ці то інвалідную, “упэўнены, у дадзенае імгненьне які-небудзь марсіянін выйграў у галяктычную лятарэю парачку астэроідаў. І жылкамунгас тут ні прычым, ніпрычым”.

Ад такіх сунутых пад язык думак лягчэй яму ня стала. На вуліцы яго не пакідала адчуваньне, што некалькі хвілін таму над ім было зьдзейсьненае прыніжальнае, хуткае, спраўнае рабаўніцтва, каля тэлефону-аўтамату вобраз гэты ўжо ператварыўся ў своеасаблівы псэўдаўспамін, досыць, зрэшты, жывы: прыстаўленая да горла халодная сьцяна, напнуты на твар блазенскі цень, паўкола маладых вясёлых дыханьняў перад самым носам.

— Гэта Хадок, — прамовіў ён хрыпла. — Там хтонебудзь да мяне зьбіраецца сёньня?

Па-беларуску Хадок размаўляць не любіў, з расейскамоўнымі — цярпець ня мог, бо нават тыя зь іх, хто да белмовы ставіўся прыхільна, зазвычай пачыналі замілавана квахтаць пра яе сумнеўную прыгажосьць, а на зьмест гутаркі не зьвярталі ўвагі. Ды апрача расейцаў знаёмых ужо й не было. Прыгажосьць: больш за ўсё Хадака вырубалі лісьлівыя нашэптваньні пра нібыта праведзенае недзе дасьледваньне, якое прысудзіла гэтай мове першае месца па

мілагучнасьці. Распавядалі пра перамогу часьцей за ўсё па-расейску работнікі дамоў культуры й вясковыя вучыцелькі, мова зь якіх была ў юнацтве назаўжды выдаленая, як апэндыкс. Уяўляўся пэўны конкурс, сумесь папсовага Эўрабачаньня й кастынгу ў публічным доме: вось да гэтай з ільнянымі валасамі толькі вычварэнец палезе, затое сьпявае яна прыго-о-о-жа, дамо ёй прыз! Як можна назваць адну мову мілагучнейшай за другую, заставалася злой загадкай. Хіба што старшынём журы быў беларус і прыз за мілагучнасьць быў суцяшальным. Раздражняла такое трызьненьне невыносна. Не любіў Хадок гаварыць па-беларуску, але гаварыў, глытаў словы, шмат не балбатаў, скалочваў простыя, як драўляныя шыбы, сказы, гаварыў, бо нейкія старажытныя, напаўзабытыя прынцыпы не давалі зьняць з шыі гэтае ярмо і ўздыхнуць спакойна. Як звычка паліць.

— Ясна, ясна. Дык зьбіраецца хто-небудзь да мяне? Ага. Шмат іх там? Ну, я еду.

“Страдаю” — па-латыску значыць працую. Раней Хадок нават не здагадваўся, што сваю працу можна так ненавідзець. Так, яму было зусім не напляваць на той самазабойчы, бязглузды занятак, які даваў двойчы на месяц сарамлівыя грошы й пастаяннае, звыклае ўжо, невылечнае пачуцьцё рэгулярнага зьдзяйсьненьня паскуднага блуду. Хадок ставіўся да працы сур’ёзна — ён ненавідзеў яе сьвядомай, мэтанакіраванай нянавісьцю, якая адна й надавала ягонаму цяперашняму існаваньню сэнс. На шляху да працы ён штодня, штовуліцы, штопрыпынак, штотвар знаходзіў усё новыя й новыя канкрэтныя прычыны, якія жывілі ягоную нянавісьць, і ўсе яны былі слушныя, усе паліравалі нянавісьць да бляску, усе трапна выводзілі вінаватых на чыстую ваду (тапіць іх, тапіць), але толькі праз гэта так ненавідзець немагчыма. Хадок ненавідзеў сваю працу перш за ўсё проста так, за тое, што такая існуе і ён яе робіць.

Літкансультант, так яны, здаецца, гэта называюць, так, відаць, і запісана ў хадаковай працоўнай кніжцы, заглядваць у якую ён лічыў ніжэй за сваю годнасьць. Хадок працаваў у вялікай, бруднай і пустой да гулу ў скронях газэце, спачатку — некалькі бяспамятных, сонных месяцаў — карэспандэнтам, затым перайшоў на палову стаўкі: прастытутка — шкодная прафэсія. Адзінае, чаму ён лёгка й непрыкметна навучыўся, было ўменьне імітацыі, пісаць ён так-сяк умеў і дагэтуль, а вось у сэнсе засваеньня мастацтва імгненнай мімікрыі й перайманьня тут была, як высьветлілася, вышэйшая школа. Балькон рэдакцыі выходзіў на невялікае, але па-савецку добротна змайстраванае жыцьцё, узятае рэдактарам у доўгатэрміновую арэнду, разьмеркаванае паміж карэспандэнтамі ў

выніку патаемнай продразьвёрсткі й не падлеглае перагляду. Абавязак то станавіцца п’янай удавой з траурам пад вачыма, пішучы нэкралёг, то дубам-зелянбудаўцам, то мянтом зь ніцшэанскімі замашкамі, то маркотным кентаўрам-чыноўнікам, то танцуючым на дзяржаўным кручку прадпрымальнікам прывяла да таго, што ў вадзін цудоўны панядзелак Хадок адчуў, што ні ягоная галава, ні ягоная правая рука, што апладняе футурысам шэрыя палосы, яму больш не належаць, яны сталі проста інструмэнтамі, якія здаюцца напракат любому, хто мае сталічную прапіску. Незадоўга да гэтага ён, па-першае, сыйшоў з дому, незваротна, бясьсьледна, а па-другое, даслаў у тоўсты прэстыжны часопіс выпадковы вершык, драбязу, кароткае самаўзгараньне напрыканцы выходнага дня. Вершык надрукавалі, і потым яшчэ некалькі нумароў па старонках часопіса паўзло рэха. Калегі даведаліся, зазайздросьцілі, прызналі Хадака абазнаным у пісьмовым прыгожстве. Нават рэдактар на некалькі дзён расьцьвіў, і калі Хадок папрасіўся на волю, прапанаваў стаць літкансультантам. З таго часу Хадок не напісаў анічога. Новая праца была нічым ня лепшая за старую. Яна была горшая. Хадака хапіла толькі на адно канкрэтнае дзеяньне. Літаб’яднаньне пры газэце, якое ўзьнікла яшчэ за камуназаўрамі й час ад часу існавала як міт, мела назву “Пламя”, што ў новых варунках пахла маразмам. Хадок не марудзячы зрабіў у слове нешта кшталту ракіроўкі. “Пляма” — гэта гучала весела, па-маладзеваму, паэтычна й пабеларуску, то бок абсалютна не пасавала зьместу хадакоўскага клюбу. Тыя, хто прыходзіў на хадакову “Пляму”, сваёй бяздарнасьцю выклікалі нават нешта кшталту павагі. Ад літаратуры іхныя творы, зарыфмаваныя з большай ці меншай ступеняй цяжкасьці, знаходзіліся на адлегласьці ў некалькі сьветлавых гадоў. А гэтыя людзі ўсё таўкліся, мяняючыся абліччамі, таўкліся ля Хадаковага жыцьця, нібы ля абменьніка, дзе трэба абавязкова зьдзейсьніць exchange сваіх радочкаў на ягоную, Хадака, любоў. І ніхто не зьвяртаў увагу, што запаветны пункт даўно зачынены, ваконца запавуціненае, а ўнутры на прагнілым крэсьле камянеюць хлебныя крошкі.

Літкансультант — так яны, здаецца, гэта называюць. Хадок меў трапнейшае слова. Рабства. Рабства. Рабства. Страдаю. Пякучыя словы, галерны гімн. Праца была ненавязьлівай, звышнамаганьняў не патрабавала, пакідала досыць вольнага часу ды яшчэ сувала ўпотай, нібы бацька цяжарнай дачцэ, нейкія грошы ў Хадакову кішэнь, але — ён задыхаўся ў бясслоўе, калі меўся выказацца сам перад сабою пра сваю нянавісьць. Самое адчуваньне ўласнага існаваньня ў зусім не табой вызначанай сыстэме, адноснасьць сваёй абсалютна

неагрэсыўнай свабоды балела, і боль пакрысе выпіваў Хадака праз саломінку. Адлюстраваньні, што суправаджалі Хадака, нагадвалі яму ілюстрацыі ў мэдыцынскім даведніку — праца высушвала, праца няўхільна ператварала досыць яшчэ маладога чалавека ў шкілет з пранізьлівым позіркам: стома дваццаць чатыры гадзіны на содні, начная разгрузка пудовых сноў, ранішняя млосьць, праглынутае ўкрыжаваньне.

Ён хуценька скаціўся у мэтро, гадаючы, хто завітаў сёньня на “Пляму”. Гадзіна пік саступала ўжо месца гадзіне трэф, але пасажыраў было яшчэ багата, людзі вярталіся з працы, Хадок плыў супраць плыні. Каля пераходу на другую лінію ён чарговы раз пачуў, як поруч абмяркоўваюць вялізны рэклямны шчыт — патэлефанаваўшы па пэўным нумары, можна слухаць казкі на замову. Раздрабніўшы выяву Хадака на сто маленькіх, аднолькава злых карцінак, эскалятар скінуў яго на плятформу. Тры хвіліны ў шыхце, пяць — у гурце, колькі крокаў — і Хадок ужо падымаўся па прыступках на другі паверх рэдакцыі.

Насустрач яму спускаліся супрацоўнікі, хавалі пры выглядзе Хадака на цёмных бакох месяцовых твараў заўсёдныя свае дзіўныя ўсьмешачкі. Відаць, на іхны погляд карэспандэнцкая й рэдактарская праца была нечым вышэйшым за капаньне ў вершападобнай нудоце. Хадок так не лічыў. Любая праца, і гэта відавочна, ёсьць рабствам, а рабом нельга быць больш ці менш. Літарадурное аб’яднаньне “Пляма” зьяўлялася для рэдакцыі чымсьці падобным на старую показку для ўнутранага спажываньня. Хадок ведаў, што сярод супрацоўнікаў дзейнічала адмысловае правіла: закранаючы ў размовах літаб’яднаньне і літкансультанта, трэба зрабіць ідыёцкі выраз, па мікімаўсаўску пасьміхнуцца, павесьці левым плячом і сплюнуць пра сябе. Што ж, ягоныя кліенты таго заслугоўвалі. “Нічога дзіўнага, што мяне тут лічаць ціхім вар’ятам”, —адзначыў ён у тысячны раз, апынуўшыся на другім паверсе й зірнуўшы на сёньняшніх паэцінаў.

Бразгаючы зубамі, перад дзьвярыма адзьдзелу культуры хадзіў туды-сюды высокі гарбун Эдуард Рапухін; на мокрым чале паэта, нібы засмажаная ў алеі, блішчэла гладкая нямытая пасма. Ля шарага вакна, прысланіўшыся каленямі да сьвежапафарбаванага падваконьня, стаяла найпрыстойнейшая з прыстойных жанчын Раіса Сяргееўна; не заўважаючы Хадака, яна дэманстравала жорсткаму газэтнаму інтэр’еру запакаваную ў элегантны пінжак сьпіну, на якой галяктыкамі бялелі тынкавыя плямы, і ногі зь дзьвюма страснымі дзіркамі на калготках. Трэцяй была бадзёрая старая Ірына Маратаўна Пфайфэльбоймэр. У гэтай абалонка была ў парадку, і паэтка, раз-

пораз з пагардай пазіраючы на калегаў, махала чысьценькай сіняй насовачкай перад носам кожнага з супрацоўнікаў, якія праміналі ейную сьціплую, амаль незаўважную постаць — разьвітвалася. Усе тры сёньняшнія вершары былі добра знаёмыя паміж сабой, але чамусьці адно аднога страшэнна саромеліся й зазвычай па-змоўніцку падміргвалі Хадаку: як вы іх церпіце?

Хадок коратка павітаўся й зазьвінеў ключамі. Жанчыны кінуліся да яго, Эдуард Рапухін жа, насупраць, Хадака быццам і не заўважыў, дастаў з нагавіцаў, стрэліўшы гузікам, лусту блякноту, прыпячатаў да сьцяны. — А вы? — павярнуўся да яго Хадок. Эдуард спалохана адскочыў, потым пад спакойным поглядам Хадака сутаргова выхапіў асадку, узброіўся ёй як нажом і пачаў наносіць блякноту рваныя раны.

— Паэма? — запытаўся Хадок спагадліва, адчыняючы дзьверы.

— Я ведаю, — таямніча кінуў Рапухін і, трымаючы сваё багацьце на ўзроўні прарэху, кінуўся да дзьвярэй.

Жанчыны селі за суседнія сталы, Рапухін апусьціўся на падлогу, хаця ў апусьцелым кабінэце, па якім блукалі тытунёвыя здані дзённых супрацоўнікаў, крэслаў хапіла б на цэлы Саюз пісьменьнікаў. Хадок выцягнуў ногі.

— З каго пачнем...

“Чаму я мушу іх любіць, любіць гэтых псыхаў зь іх цягай да “прэкраснава” й “геніяльнымі” белымі сьпінамі ды тлустымі валасамі”, — пакутліва думаў Хадок, сочачы лянотным нібыта позіркам за тым, як Раіса Сяргееўна дрыжачымі рукамі вылоўлівае ў валізцы сшытачак. — “Што гэта за мода пайшла на даўнаў? Не зьбіраюся я нікога любіць, мікраарганізмаў гэтых дзёўбаных, іх нават паважаць няма за што, а я тут, і ўвесь — увага... Які ж я адзін, такі адзін, пасярэдзіне між нармальных і ідыётаў...”. Рапухін змрочна калупаўся ў носе.

— Я баюся, што... — прамямліла Раіса Сяргееўна й з надзеяй паглядзела на рукі Хадака. — Тут з памерам ня ўсё ў парадку...І канцоўка зусім ня выйшла...

— Чаго ўжо там, ляпі, — закашляўся раптам Рапухін у сваім куце, і Хадок здрыгануўся, уявіўшы, што давядзецца праслухаць яшчэ й рапухінскую паэму. Раіса Сяргееўна паднялася як школьніца, расправіла сьцёгны:

— Старасьць мая заблудзілася недзе...

“Зноў”, — скрывіўся ў вакно Хадок, але адразу ж павярнуўся, расчулена шчэрачыся:

— Прабачце, зуб баліць. Праўда.Працягвайце, прашу.

Гэты ня надта апраўдальны рокат прымусіў абедзьвюх вяршарак кінуцца да сваіх валізак, а Рапухіна спыніць досьледы ў занядбаных насавых адтулінах. Неўзабаве перад Хадаком на стале ляжаў асьпірын, а Рапухін павучальна казаў, дабрадушна навісаючы:

— Салам яго, алейкам і салам.

— Дзякуй, ужо адпусьціла. Не турбуйцеся, Ірына Маратаўна, у прыбіральні вада адключаная. Ну добра, добра. Раіса Сяргееўна, калі ласка.

На няпрошаны асьпірын, які ўсё ж давялося пакласьці пад іклы, адразу ж зьбегліся пякотка, камень у страўніку й агідная аскоміна ў роце. Зуб і праўда раптам заныў — хутка на сківіцу наваліўся адзін трапны, бязьлітасны ўкус, боль рэхам адгукалася ў кутох; потым знайсьці эпіцэнтар стала ўжо немагчыма. У вушах Хадака зазьвінела, нібыта камору напоўнілі камары.

— Старасьць мая заблудзілася недзе,
Марна шапоча пра фініш лісьцё.
Пырсьні, акорд вечаровае медзі!
Хіба надзеі вы мне не дасьцё,

Вулкі, чыім я вачам бесстароньнім
Не шкадавала ніколі журбы,
Успыхні, сьвітанак мой, белымі коньмі!
Як у маленстве...
Увы...

Можа быць вы мне падорыце гэта —
Трошкі вось тут пастаяць, памаўчаць,
Трошкі яшчэ — нескладаная мэта,
Лёгкая просьба...

Хадок адразу ж дарыфмаваў у думках непрыстойнае слова й груба пасьміхнуўся ў цыфэрблят гадзіньніку.

Лятаць
Я не прашу навучыць мяне зноўку! —
Так я прасіла ў дрэў.
Быццам бы спрынтэр на стомэтроўку,
Не дачакаўшы, цяпер

Выйшла ў парк — на ягоных дарожках
Усё пачыналася: жарты, любоў.
Я ў бязважкасьці. Дзе мая старасьць?
Плаваю між гадоў.

Да неўміручай паркавай рэчкі
Зноў я іду па адказ...

Раіса Сяргееўна замаўчала, змахнула сьлязу. Рапухін, які на працягу ўсяго чытаньня натхнёна жаваў булачку, спыніў гэты занятак і апасьліва паглядзеў на Хадака, але пераканаўся, што вочы таго апушчаныя долу, і паспрабаваў пракаўтнуць зьмесьціва свайго роту. Хадок паволі ўзьняў галаву. Ірына Маратаўна з рэўнасьцю сачыла за ягонымі вуснамі, нават прыўстала — ат, трэба было чытаць першай.

— Ну што ж вы, Раіса Сяргееўна, — прамовіў Хадок, аблізнуўшыся. — Працягвайце, ня дайце нам памерці ад нецярпеньня. Трэба быць больш стрыманай, плакаць мусяць вашыя вершы. Вады?

— У прыбіральні вада адключаная, — усхліпнула Раіса Сяргееўна. — Я... Ох... Ведаеце, так шмат укладваеш сябе ў гэтыя творы...

Хадок расьсеяна паківаў галавой.

— Я хацела, каб вы мне падказалі, ну... як лепей закончыць.

— Бярэце мяне ў сааўтары, а? — Хадок падняўся, паправіў гальштук. — Вялікі дзякуй. Я не паэт, толькі кансультант. Папрацуйце, закончыце сустрэчай з гэтай самай вашай... старасьцю.

— Вам спадабалася? — зашыпела, як мокрае палена, усьцешаная Раіса Сяргееўна.

— Добра, — млява кінуў Хадок, рукі ягоныя скочылі ў кішэні, і своечасова, бо з пальцаў Хадака ўжо пляліся, выкручваліся, вытыркаліся хвігі ды розныя іншыя непрыстойныя знакі. Ён падыйшоў да цёмнага вакна, выбраў такі ракурс, пры якім ніхто з трох сёньняшніх візытантаў не трапляў у кадр, адзначыў, як файна сядзіць на ім чорны гарнітур. — Добра, — дадаў ён на тон ніжэй, больш строга. — Добра, — гэта было прамоўлена ўжо зусім сувора, як асуджэньне. — Але вось тое, першае, што вы нам хацелі прачытаць сёньня, па-мойму, значна лепшае. Зь яго можа нешта вартае атрымацца, так.

Паэты зьдзіўлена нахмурыліся.

— Ну, гэтае, — Хадок пакутліва наморшчыў лоб. — Тут з памерам ня ўсё ў парадку, і канцоўка зусім ня выйшла... Вельмі

моцна сказана. Вам ачко, Раіса Сяргееўна, за ўдалую імправізацыю. Тут з памерам ня ўсё ў парадку, і канцоўка зусім ня выйшла... — голасам Еўтушэнкі прадэклямаваў Хадок, прайшоўся між сталоў, з задавальненьнем адзначыўшы, як намагаюцца рухацца зь ім у нагу зрэнкі вершатворцаў — зусім як галовы котак, якія сядзяць ля стала, на якім разьбіраюць курыцу. — Запішу я ў сваю цятратку: “Мне паэзія ваша — што дышла”. Жартую, Раіса Сяргееўна, не прымайце на свой конт. Ну што ж, хто хоча выказацца?

— Сачыняеце? — у пакой ціха, з драпежнай асьцярожнасьцю, зазірнуў рэдактар Князькоў. — Добры вечар, — павітаўся ён, прайшоў на сярэдзіну, з агідаю зірнуўшы на Рапухіна, які выціраў аб джынсы пальця рэшткі булачкі. — Вось, трымайце, чарговыя шэдэўры. Хутка будзеце папаўненьне прымаць.

Хадок моўчкі прыняў у рукі тонкую капэрту, сунуў ня гледзячы ў кішэнь.

— Женшчіна? — пацікавілася Ірына Маратаўна. Яна друкавалася ў газэце яшчэ калі Хадок сядзеў за бацькава хуліганства ў матчыным чэраве, з Князьковым была на ты і ў прысутнасьці супрацоўнікаў старалася называць рэдактара Валодзем.

— Мужык, — стомлена й зь нейкай горлавай злосьцю адказаў Князькоў, пакруціў у руках забыты на стале кімсьці з карэспандэнтаў “Плэйбой”. Рэдактара, відаць, ужо ванітавала ад дзевяцігадзіннага сузіраньня мужыкоў — сёньня ў рэдакцыі былі на практыцы курсанты з міліцэйскай газэты, і Князькова цягнула хутчэй спрятать голову в мягкое, в женское. — Валерый... нейкі там, — рэдактар ушрубаваў нябачную лямпачку.

— Володя, может чаю?

— Пабег, пабег, спасіба, — замахаў рукамі Князькоў. — Дзьверы не забудзьце, і... Ну, удачнога вам вечера, сьвершэній.

Рэдактар спатыкнуўся аб рапухінскія ногі й зьнік. Хадок катаваў сябе ўспамінамі: на чым жа яны спыніліся? Ён кашлянуў і сказаў:

— Дарэчы, слова “увы” мы ў мове ня маем. Ёсьць “на жаль”.

Раіса Сяргееўна з жахам утаропілася ў сшытак.

— А я вот спрасіць хацела, — Ірына Маратаўна ўключыла электрычны імбрык. — Эдзік, што вы давіцесь всухамятку? Сейчас будзет чяй. Какім разьмерам напісаны вашы сьціхі, Раіса Сергеевна? Штота я не магу апредзеліць.

Вызначыць памер ня здолеў ніхто, і Хадок зноў апынуўся пад перахросным вагнём трох паглядаў.

Ён ніколі ня бачыў ніякай сувязі паміж веданьнем літаратурных тэрмінаў і творчасьцю, аднак адказваць было трэба.

— Гэта бурундзій, — прамовіў ён як мага натуральней і салодка, салодка прымружыўся. — Так, бурундзій. Вельмі рэдкі памер.

— Бургундзій, — паспрабавала на язык загадкавае слова Раіса Сяргееўна, гордая як нявеста. — Праз два “у”?

**2. Сэдока**

Ён хацеў бы кожную раніцу знаходзіць пад падушкай дваццаць даляраў. Прачнуцца, з усьмешкай пазнаць столь над ложкам, і зноў заплюшчыць вочы, пакуль новы дзень ідэнтыфікуе ягоную асобу, а потым падняцца, удала прайшоўшы фэйс-кантроль, і зрабіць чатыры дзеяньні, даведзеныя да аўтаматызму: аблегчыць мачавы пухір, пачысьціць зубы, запаліць цыгарэту й дастаць з-пад зьняможанай ад таўхатлівых сноў падушкі няновую паперку з партрэтам прэзыдэнта Эндру Джэксана. Дваццаць даляраў, ня больш, навошта Хадаку больш, ён даўно разьлічыў, што дваццаткі хопіць на задавальненьне ўсіх дзённых патрэбаў. Ежа, прыстойны алькаголь, праезд, добрая кніга, цыгарэты й рэшту аддаць Сэнсэічу — усё астатняе ў Хадака ёсьць зусім бясплатна.

Усё яшчэ не расплюшчваючы вачэй, ён пасьміхнуўся ружоваму сьвятлу сьвету, якое пакуль што саграваЛа ягоную ўтульную ранішнюю сьлепату. Усё астатняе ён мае зусім бясплатна... А сёмай раніцы пад цёплай коўдрай прыемна пацешыць сябе такімі перабольшваньнямі.

Бяскрыўдны смоўжык, які ўсё сваё носіць з сабой, а на ноч адчапляе свой дамок і кладзецца ў аплочаны чужы ложак. Хадок асьцярожна прыадкрыў вочы, нібы дзьверы ў абрабаваную кватэру.

Уся ягоная маёмасьць, што праўда, займала плошчу ня больш у два квадратных мэтры. Маленькі куток у захламленай Сэнсэічавай спачывальні. Вось ён, сьпіс матэрыяльных аб’ектаў, якія належалі Хадаку (на плянэце шчасьлівай Стамудры Хаддок, між бяскрайніх прастораў Сусьвету, кожны школьнік сапліві і кожны хот-дог, кожны камень і стог мусяць знаць назубок, што напісана ў бібліі гэтай!). Два дарагіх чорных гарнітуры, чатыры ільняных кашулі, два прыручаных гальштукі нэўтральных колераў. Джынсы, шэры, шырокі й доўгі швэдар грубай вязкі. Вывадак майтак, вывадак шкарпэтак. Туфлі з натуральнай скуры. Вайсковыя высокія боты на шнуроўцы (haute couture! — Есть от кутюр, товарішч капітан!). Зубная шчотка, паста, мыла. Чорны ручнік. Набор бязрукага: супэртрывалыя талерка, кубак і кілішак, а ў прыслугу ім відэлец ды лыжка — усе разам яны ўтваралі

адмысловую скульптурную кампазыцыю, на якую глядзець было прыемна, бо яна выпраменьвала дух адразу трох рэчаў, безь якіх для чалавека жыцьцё не жыцьцё: лякарні, турмы і цягнікоў дальняга сьледваньня. Складны нож. Гадзіньнік. Асеньне-зімне-веснавы плашч. Запальнічка. Асадка. Чэкавая кніжка, якая пры бліжэйшым разглядзе апыналася блякнотам за тысячу дзьвесьце. Крэдытная картка, якая пры такім жа разглядзе апыналася тэлефоннай. Расчоска й нажніцы, іголка ды ніткі. Дзевяць кампактных кніг, якія можна перачытваць да бясконцасьці й штораз знаходзіць новы халадок ва ўласным хрыбце. Пашпарт. Усё вышэйпералічанае лёгка хавалася на патрэбу ў смаўжовую заплечную хатку зь непрамакальнага матэрыялу.

Уся астатняя маёмасьць зьяўлялася нематэрыяльнай, але ня менш каштоўнай. Некалькі тысяч прачытаных раманаў, дзьве замежныя мовы, адна свая, некалькі старых мараў, даўгавечных як нямецкая тэхніка, такі-сякі жыцьцёвы досьвед. Пара-тройка хваробаў, якія знаходзіліся пакуль у самым пачатку свайго творчага шляху.

Хіба што-небудзь яшчэ патрэбнае для свабоды? Насамрэч ёй хапае двух квадратных мэтраў, каб узьвесьці свой лягер.

Але — эс страдаю.

У вакно залятае, прынесшы на крылах некалькі ўдыхаў халоднага, сырога паветра, птушка Сацыяёляг, садзіцца на падсьвечнік, робіць ка-ка, адкашліваецца й пытае, торгаючы галавой, нібы баючыся, што нехта падслухае:

— Добры дзень, служба сацыяльна-палітычных і грамадзкіх дасьледваньняў. Будзьце ласкавыя, адкажыце на пытаньне: што для вас шчасьце?

— Это, — не задумваючыся адказвае Хадок, адціскаючыся на падлозе, пятнаццаць, шасна-а-а-ццаць, — когда тебя понімают.

— І ўсё-такі? — не адстае мярзотны птах.

— А, ну так, — скrandчае свае фрыкцыі і апранае майткі Хадок. — Счастье — это мірное небо над головой.

— Шуточкі шутіте, — крыўдзіцца птушка.

— Касмэтыка ад Макс Фактар? Любовь к бліжнему? Штобы не было войны? — гадае Хадок, адчыняючы вакно, каб праветрыць пакой, які здольны за пяць хвілін забіць чалавека з алергіяй на пыл. — Сям'я? Здароўе родных і блізкіх? Зноў няправільны адказ? Рэалізацыя творчых памкненьняў? Не апісаць словамі? Вера-надзеялюбоў? Не?

Птушку не прагнаць. Урэшце яны вывальваюцца з вакна й падаюць у нейкае таксі, едуць у мастацкі музэй. — С птіцамі запрашчено, — кідаецца ім насустрач Ірына Маратаўна, аднак пазнае Хадака й прапускае іх у залі. Шпаркай хадою, з Сацыёлягам на

плячы, Хадок прамінае ўсе галерэі, апынаецца ў сховішчы, запальвае сквапнае сьвятло. Сацыёляг чыхае. Хадок вырывае з птушынага хваста пёрка й доўга чысьціць ім нейкі холст.

На карціне вясковы дамок з дымком, без намёку на дамком, куратнічак, хлявок, гарод, гаражык. На даху араукарыя, а ў яе сетчатым цені — Хадок у позе лётасу. Побач распачатая пляшка віскі, пачак “Жытан” і раман Пруста. А вакол дому калючы дрот, па якім бяжыць драпежная электрычнасьць. Сацыёляг губляе прытомнасьць і шмякаецца на падлогу. А Хадок ахайна бярэ яго за ножкі Буша й перапраўляе ў куратнік. Выключае сьвятло й разводзіць у каміне вагонь. Рыхтуе спэцыі.

Шчасьце ёсьць адзінотай.

Ён прайшоў у прыбіральню — дзьверы суседняй лазьніцы былі адчыненыя, закрывалі ўваход на кухню, але Сэнсэіч ужо адчуваўся там, скразьнякі ганялі па кватэры рэзкі дым прымы бяз фільтру, пах нахалестэрыненай яешні ды гаспадарскіх ранішніх пукаў. Падножжа ўнітазу было заваленае папяровым камеччам, вядро ляжала ніцма — відаць, уначы тут зноў адзначалі дзень народзінаў пацучынага караля. Хадок перайшоў у лазьніцу, асьцервянела пакруціў у роце шчоткай.

— Прачнуўся, салдацік? — прашамкаў, жуючы, Сэнсэіч, не падымаючы вачэй ад кніжкі, што рыхтавалася спаўзьці зь ягоных сівых старэчых каленяў. — Яешню бяры, пакуль цёплая, сто грам налівай сабе. Зімна сёньня, восень-та прыйшла, а, салдацік?

Хадок з апэтытам пачаў упіхваць у сябе тлустую бледную мяшанку зь яек і сала. Сэнсэіч наліў сабе безвач гарэлкі, закінуў у глотку й нарэшце схаваў свае тонкія ногі ў спартовых чорных майтках пад стол, паставіў кілішак на захлопнутую кнігу, паправіў акуляры.

— Добрая твая кніжка, — паднес ён да вачэй кавалак яешні на відэльцы. — Але ж не разумею я ў ёй анічога, салдацік. Ты за хату-та ўчора заплаціў? Пяня пойдзе.

Хадок жыў у Сэнсэічавай двухпакаёўцы ўжо амаль год, раўніва патрабуючы ад гаспадара выкананьня ўмоваў, якія яны заключылі падчас знаёмства. Згодна з гэтымі ўмовамі Хадок мусіў аплочваць жыльлёва-камунальныя паслугі й тэлефон — за гэта яму дазвалялася жыць у вадным з пакояў і карыстацца душам, кухняй ды прыбіральняй. Ад Сэнсэіча Хадок жа хацеў аднаго: каб той ня лез у ягонае жыцьцё ды не надакучваў размовамі. Збольшага абодва бакі пагадненьне выконвалі, праўда, за кватэру Хадок плаціў калі хацеў, а Сэнсэіч у дні атрыманьня пэнсіі аж зубамі рыпеў — так яму хацелася “паабшчацца” пад бутэлечку. Зрэшты, пакуль становішча для Хадака

было прыймальным, ягонае жыцьцё толькі зрэдку прытармажывала каля нясьпешна шыбуючага па ўзбочыне пэнсыянэра, і Хадок ветліва апускаў шкло, каб праз хвіліну пусьціцца ў свой улюбёны адзінотны шлях. Падабаліся Хадаку такія мэтафары, аўтамабільныя ды вакзальныя — было ў іх нешта ад вечнага падарожжа, неадчувальнага, нібы рух Зямлі. Аднак чым далей дзьве чалавечыя асобы ядуць ды сьпяць пад адным дахам, тым немагчымей становіцца іхная адасобленасьць адно ад аднаго, нават калі першы зь іх Хадок, а другі — пэнсыянэр-прапойца. Былі б яны розных палоў, даўно б ужо падзялілі б сафу ў пакоі Сэнсэіча, а так пачалі разам сьнедаць, абменьвацца фразамі, за якімі ў апошні час пагрозьліва намаляваліся абрысы нейкага сэнсу. Да таго ж яшчэ ўлетку Хадок заўважыў у сэнсэічавых вачох дзіўную, раней нябачаную цікавасьць да сваёй асобы, усё часьцей, мыючы посуд ці падымаючы з падлогі непакорлівую чайную лыжачку, ён, Хадок, раптоўна абарочваўся й засьпяваў на сабе ўважлівы погляд гаспадара, хутчэй няўхвальны, чым абыякавы. Прыемная нэўтральнасьць кудысьці падзелася, усе дзеяньні гаспадара й кватаранта сталі набываць у Хадаковай сьвядомасьці жудасную двухдоннасьць. Аднойчы Хадок сам ня ведаючы навошта падарыў Сэнсэічу некалькі набытых у гэтым месяцы кніг, а потым стаў забясьпечваць няпростага старога раманамі штозаробак. Дый не такім ужо старым быў Сэнсэіч, адзначыў цяпер пра сябе Хадок, назіраючы, як гнецца луста хлебу пад моцнымі жоўтымі разцамі гаспадара.

— Сьмецьце не забудзь як пойдзеш, — Сэнсэіч зьняў з адрыўнога календара на 1979 год луску нейкага даўно прамінулага панядзелка, на Хадака зірнула мумія далёкага аўторка, пафарбаванага чахотачным румянцам невядома калі сканалага сьвята. — Я сёньня да Марыйкі-та схаджу, прыбяру ў яе, грамулю налью, цукерку пакладу якую, кароўкі яна любіла. Народзіны ў яе сёньня, у Марыйкі ў маёйта. Восемдзесят два споўнілася б. Ты куды?

Хадок схадзіў у свой пакой, дастаў зь пінжака капэрту, што даў яму ўчора Князькоў, прынес на кухню, сеў, касавурачыся на гару посуду ў мойцы. Можна падумаць, тут жыве цыганская сям’я, а не халасьцяк з удаўцом. Што ж там за Валерый? Выцершы пальцы, поўнячыся нядобрымі прадчуваньнямі, ён дастаў складзены ўдвая ліст са сьлядамі хворай пішучай машынкі.

— А, работа, — уздыхнуў Сэнсэіч супакоена. — Ты там скажы сваім у газеце, каб праграму давалі правільна, а то ўчора хацеў кіно паглядзець, а там прэзідэнт, а потым блядзі скакалі да панарамы. Напісана Кіно, а там прэзідэнт і блядзі. Дык нашто Кіно пісаць?

Напісалі б: прэзыдэнт і празьнічны канцэрт.

Хадок дастаў цыгарэту, чыркнуў гаспадарскай сярнічкай. Ніякі гэта быў не Валерый, Валянціна Г. — вось хто не паленаваўся сесьці ў абед за машынку начальнікавай сакратаркі, сарамліва згорбіць бескарысныя плечы, тыкаць усю гадзіну пальчыкам у раздражнёныя клявішы, нібыта ўпершыню ў жыцьці дакранаючыся да мужчынскіх прычындалаў, інстынктыўна выстаўляць наперад грудзі, як быццам засланяючы ад чужых вачэй настуканае, як быццам не выдае цябе чырвоны жах хуткай расплаты на шчаках. Паэтка, блін. Ён яшчэ не чытаў дасланага, але ў сьвядомасьць Хадака ўжо заскочылі такія-сякія скрайнія словы, на якія мімаволі ўпаў ягоны пагляд. Словы не ўнушалі надзеі: нейкія небы, хлебы, чаканьні, спатканьні...

Праз два дні Хадаку трэба было падрыхтаваць чарговую старонку з чарговымі шэдэўрамі сяброў літ-аб'яднаньня “Пляма”. Абцяжарваць сябе роздумамі не выпадала: у гэты выпуск “Плямы” пойдуць Рапухін са шматом сваёй паэмы, Раіса Сяргееўна зь яе старасьцю ў вышуку, Ірына Маратаўна з вершам пра Князькова ды дзьве прадавачкі цума, паэтычна алчушчіе багдановіча. Месца для Валянціны Г., а менавіта такі варыянт свайго мяна прасіла паставіць над апублікаванымі вершамі новая аўтарка, на паласе было. Але трэба выбраць вершык, выправіць памылкі, падправіць крыху, зьдзейсьніць сваю кароткую, адказную, мярзотную працу бажка раённага маштабу. Ён разгарнуў ліст.

Калісьці, у вадзін дажджлівы вечар, калі на паседжаньне “Плямы” ніхто з заўсёднікаў не зьявіўся, і Хадок, які недзе з гадзіну чытаў ля калярыфэра “Амэрыку”, ужо наважыўся пакінуць пустую й халодную рэдакцыю, дзьверы кабінэту вусьцішна расчыніліся й ля ягонага стала спыніўся маладзён гадоў дваццаці зь дзявочы тварам, потнымі далонькамі й ненатуральна здаровымі, густымі й доўгімі валасамі. Зьлізваючы ваду з вуснаў, назваўся Сямёнам і ўручыў Хадаку вучнёўскі сшытачак. Сямён гэты папрасіў гарбаткі, а калі сутыкнуўся са зьедлівай адмоваю Хадака, заварыў сабе сам, у рапухінскім кубачку. Адсутнасьць піражных так раззлавала юнага наведніка, што ён доўга тупаў нагамі, але потым супакоіўся, толькі сеў перад Хадаком і сказаў зморана: “Па ганарар я прыйду ў пятніцу, недзе ў гэты ж час...”. Ад няма чаго рабіць Хадок пагартаў сшытачак, распаласаваны ўсімі мажлівымі колерамі стрыжня, яшчэ ў мэтро. Гэта быў проста трыюмф жудасьці. Але адарвацца было цяжка. Сямён пісаў дзёньнік. У ложку, папіваючы таннае брэндзі, Хадок прачытаў гэтую пачварную, сьлязьлівую, страшную, маніякальна-дэбільную, але ўсё-такі прозу, ад коркі да коркі, за дзьве фантастычныя

гадзіны, і калі б Хадок не затупляў сябе бурым прагорклым алькаголем, ён бы абавязкова ня вытрымаў бы, яго званітавала б на прасьціну, або ён выкінуў бы ў вакно ўсе свае дзевяць недатыкальных кніг. Але лямпа сьвяціла, і пакой пахнуў гарачым дрэвам стала, і зусім блізка, у гэтым жа горадзе, у адной бляшанцы з Хадаком і Сэнсэічам, атрымліваў цеплыню й пахнуў чалавекам хлопец Сямён. “Я увіділ эту девучку в тралебусе і сматрел на іё кагда ана пасматрела на міня я атвірнулся і патом вышал сьей, на астанофку і ана міня нівіділаі тада я давёл іё к домуа патом фбежал влівт і нажом ударіл фспінку плахой Семён плахой нельзя., патом я папрасіл прасченія убоженькі і поударял ісче попісял і ана гаваріла я пашол дамойна трале тралебус деревья светілісь в темноте, і мне казалось за каждым із ніх прячется кто-то влажный і тявкаюшчій. Мoі отраженія выгляделі подозрітельно, но я был беспечен, і нікто не обрашчал на меня вніманія. Однако мука уже дергалась где-то под языком, будушчая мука, назойлівая муха бессонніцы осужденного быть двадцатілетнім, черемуха генія, которого поймут только спроеціровав его тень на белое полотно времені мама міня атруга і я сел штотапаісял ілёхспат.эта точка 15 апреля, час двенаццать ночі”, — пісаў Сямён, і кожнае слова ў ягоных запісах мела свой колер. Праз два дні, ходзячы як з бадуна пасьля вывучэньня дзёньніка й ня ведаючы, што рабіць, у рубрыцы “Пяро на пульсе” уласнай газэты Хадок натрапіў на паведамленьне, што ўчора на досьвітку за спробу забойства дзяўчыны ў ліфце высотнага дому недзе на ўскраіне арыштаваны нехта Сямён Ж., які ўвечары таго ж дня прызнаўся ў шасьці падобных, але зьдзейсьненых злачынствах. Хадок адыходзіў ад гэтага месяц, адпойваў сябе дарагімі каньякамі, загойваў запэцканую душу кнігамі, і ўрэшце ачмурэньне растала.

— Не спі, замерзнеш, — над яшчэ не чытаным лістом завіс дым Сэнсэічавай прымы. — Пра што задумаўся, салдацік?

— Ды так, думу думаю, — нехаця прамовіў Хадок і шчыра паспрабаваў паглыбіцца ў плён мастацкіх рэфлексыяў Валянціны Г. Але цяпер выдастаныя з капэрты лісткі выглядалі ўжо зусім агіднымі, нібы нехта даслаў яму па пошце кавалак скарыстанай туалетнай паперы. Ён уздыхнуў і пацягнуўся па цыгарэты. Узьняў вочы й зноў наткнуўся на пільны, нядобры позірк; зьявілася адчуваньне, што яму, Хадаку, выпала сёньня пераначаваць у Сэнсэіча, маючы ў жываце залатую цагліну, і ён толькі што падзяліўся з гаспадаром гэтым сакрэтам.

— Слухай, салдацік, — Сэнсэіч выпусьціў дым праз ноздры. — У мяне сябра ёсьць, стары сябра, служылі калісьці разам. Дык ён гэта,

таксама там, па паэзіях усялякіх... Ён у саюзе пісьменьнікаў вялікая, я табе скажу, шышка. Яшчэ па адной?

Хадок млява махнуў рукой.

— Ну як хочаш, — Сэнсэіч кульнуў кілішак. — Дык я к чаму. Магу табе пратэкцыю зрабіць. А то хто ты такі, пра цябе ня ведае ніхто. А так будзеш кніжкі пісаць, крытыкаваць там. Я ж бачу, ты ў нас кніжкі любіш...

Вочы ў Сэнсэіча зрабіліся чырвонымі, як на кодакаўскіх фатаграфіях. Ён весела памахаў пальцам у Хадака пад носам, потым рука ягоная аслабела ляпнулася на кнігу.

— А то ў часопісе мог бы ён цябе, даа... Грошай, канешне, з гэтага — даа... Але — даа! Я ж бачу, салдацік, табе грошы трэба, хаця ты, сука, і не прызнаешся... А захочаш — і на радыё перадачу, табе арганізуе, даа, мой Косьцік.

— А... — пачаў было Хадок, аднак брудна-жоўты, нібы зьвязаны з танюсенькіх, таўшчынёй у волас, нітак палец апераджальна торгаўся перад ягоным носам.

— Не стоіт благадарнасьці, баец.

— А ці не пра Костуся Ермалайчыка гаворка? — халодна спытаў Хадок.

— Пра яго, пра Косьціка, — засьмяяўся Сэнсэіч, пляснуўшы далоняй па стале. — Пра Канстанціна Пятровіча Ермалайчыка. Праўда, рэдка нам у апошнія часы даводзіцца чарку кульнуць, але ж... Даа. Шчыры беларус, Косьцік, у нас у кампаніі яго так і звалі, братка-беларус, ён мову — во так знае. А, стой. Я ж яму жызьнь аднажды спас. Справа была ў Таганрогу... Як цяпер помню...

І пакуль Сэнсэіч круціў у руках апусьцелую бутэльку, раз-пораз у яе зазіраючы, і распавядаў пра тое, як яшчэ ў шасьцідзесятыя два сяржанты пабіліся на таганрогскай танцпляцоўцы зь мясцовымі пралетарамі, Хадок ясна ўзгадаў маленькага вяртлявага старыкана ў пісьменьніцкім барэце, істоту з заўсёды падазронымі вочкамі, нешта сярэдняе паміж шпіцам і шпегам, што шчыпала незамужніх супрацоўніц за грудзі й заўсёды пры размове імкнулася паднесьці, стаўшы на мыскі ног, свае павенчаныя мокрай плямай пад носам губы да самага вуха субяседніка. Ермалайчык быў частым госьцем у рэдакцыі, прыносіў свае асьвечаныя членствам у эспэ вершы, што выходзілі неўзабаве на апошняй старонцы пад рубрыкай “І музы страстное прізнанье...”. Прычым творчасьць Косьціка абмінала Хадаковы злыя рукі, ён працаваў непасрэдна з Князьковым, і Хадок толькі пагардліва пасьміхаўся, гартаючы сьвежы нумар — рэдактар баяўся аддаваць Хадаку члена эспэ, але шчырым, тупым як

бурачкоўская дудка радкам Ермалайчыка месца было якраз у “Пляме”. Ермалайчык спрабаваў ставіцца да Хадака паблажліва й з вышыні, і было відаць, што ледзяная хадакова абыякавасьць паэта неімаверна злавала. Неяк К.Ермалайчык зрабіў спробу падарыць Хадаку свой чарговы, дваццаць першы зборнічак пад арыгінальнай назвай “Вясну спаткаем!..”. Пад цьвёрдай вокладкай ужо расьпірала ад пыхі махравы аўтограф: Маладому крытыку ……… з пажаданьнем працягваць справу Беларускую, каб ня ўмёрлі! ды подпіс, у канфігурацыі якога ўгадваўся голы дзед з разяўленым ротам. Быў мірны палудзень; намесьнік адказнага сакратара прынесла Хадаку на сподачку кавалак торту пасьля ўчорашняга сьвяткаваньня ейнага юбілею.

— Давайце я ўпішу, — пырснуў сьлінай у вуха Хадаку Ермалайчык, адначасова абмацваючы вачыма састарэлыя вабноты намесьніка. — Давайце, — ягоная паэтычная рука, дробна дрыжучы, навісла над сталом, з кулачку вылезла асадка. — Давайце ж, як вашае прозьвішча, ці па імені?

У гэтай руцэ, а асабліва ў асадцы, што пунсова, сьлізка варочалася між успацелых пальцаў Ермалайчыка, было нешта настолькі непрыстойнае, што Хадака ледзь ня вывернула на зборнічак. Быццам Хадок ішоў па парку ды пабачыў зьнянацку, як нехта спускае перад дзіцём штаны. Намесьнік адказнага сакратара нічога не заўважала.

— Толькі талерачку трэба аддаць, гэта з набору, — прамовіла яна, і сподачак важна засьвяціўся, далучаны да журналісцкае справы. — Перакладзі яго на што-небудзь, — і тут ужо сподачак зусім заганарыўся: замежнікі, аказваецца, зацікавіліся.

Хадок наўздагад разгарнуў зборнік, выдраў парачку старонак з разнастайнымі “Беларусу” і “Мой быстры лёс не дараваў…”, узяў торцік і паклаў на ЕПТКС (ешчёпахнушчіетіпографскойкраскойстраніцы).

— Ну дык што? — падняўся зь месца Сэнсэіч. — Званім?

Трэба сказаць, згаданы выпадак быў адзіным рэвалюцыйным вопытам Хадака. Тут хутчэй адыграла сваю цёмную ролю стыхійнае супадзеньне яго нянавісьці да той браніраванай выспы ў сьмярдзючым акіяне квазілітаратуры, што гадавала, гадуе й працягвае гадаваць у сваіх хатах-чытальнях такіх вось ермалайчыкаў, з мімолетным віденіем юрлівай асадкі па-над яйкавіднымі пальцамі й чудным мгновеніем зьяўленьня торціка. Звычайна тых членаў, якія завітвалі ў рэдакцыю, Хадок папросту ігнараваў, часам зборнічкі з ружовай пшаніцай і зялёнымі дзеўкамі на вокладцы даводзілася

прымаць — у гэтым выпадку яны не марудзячы пераходзілі ва ўласнасьць Сэнсэіча. Здаралася, Хадок быў вымушаны браць ногі ў рукі й перціся ў кабінэт Князькова, цярпець на сваіх плячох мазолістыя ад літаратурнага ананізму рукі, уварочвацца ад напраломнай памады якой-небудзь Лаўрылаўрэаткі, выслухваць усё тое трызьненьне, на якое дае права членскі білет Санвузла пісьменьнікаў.

— Ведаеш, Сэнсэіч, пайду я ад цябе, — прамовіў Хадок, абмахваючыся складзенымі лісткамі. — Заўтра ж ураньні й пайду. Буду новае жытло шукаць.

— Чаго? — Сэнсэіч сеў, памахаў над кілішкам пустой бутэлькай. — Ты што, баец? Што ты вярзеш? Канчай. Зараз Косьціку пазванім…

— Ты толькі нагадай, каб я ключы аддаў, — наморшчыў лоб Хадок і раздавіў на талерцы цыгарэту.

— Салдацік, — Сэнсэіч падсунуўся бліжэй. — Я ж цябе як роднага. Ты чаго?

— Бо лезеш ты, Сансаныч, не ў свае справы. Я калі дапамога спатрэбіцца, папрашу, а пакуль — паведамляю вам, мон жэнэраль, пра ўвядзеньне мараторыя на размовы. Дваццацічатырохгадзіннага. Хто парушыць, той і зьесьць.

Разьвітвацца з Хадаком у пляны Сэнсэіча аніяк не ўваходзіла. Стары падняўся, падыйшоў да мойкі.

— А посуду ж!.. Херава туча. Ты, салдацік, не крыўдуй, я ж ад чыстага сэрца. Дапамагчы думаў. Ня хочаш — ня трэба. Я зараз пайду, да Марыйкі да сваёй. А ты працуй, працуй спакойна. Ну ўсё, усё, маўчу, маўчу.

Ня цешачы сябе ніякімі надзеямі, Хадок прыняўся за Валянціну Г. Дасланае настолькі не вылучалася з агульных спараджненьняў удзельнікаў літаб’яднаньня, што на сэкунду Хадок нават падумаў, што пераблытаў капэрты. “Дабрыдзень, шаноўнейшая рэдакцыя! Мне ўжо сорак тры, і я ня ведаю, якая Боская сіла прымусіла мяне ўзяцца за пяро. Хаця я пішу ўжо даўно, спачатку пастаянна пісала ў стол, таму што саромелася таго, што я пішу. Аднак мае вершы выходзілі ўжо ў некалькіх часопісах і газэтах. Аднак нядаўна мой вялікі сябра і таварыш, каторы аказвае мне пастаянную і важную маральна-псыхалягічную падтрымку, член Саюза кампазытараў Валерый Піскуноў параіў мне накіраваць вершы ў вашу газэту, так як яна зьяўляецца вядомым і аўтарытэтным сродкам масавай інфармацыі. Высока ацаніў мае творы таксама паэт, член Саюза пісьменьнікаў з 1979 года, аўтар кніг “Пачакай, мая шыпшына”, “Вераснёвы водар вее”, “Рунь дарог спрадвечных”, “Любая, мілая, сьветлая”, “Голас твой, Сакоўшчына”, “Малінавых зорак сьвітальная песьня”, “Васямнаццаты

аўтобус”, “Чацьвертае падарожжа”, “Споведзь паглядаў”, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Змітрок Аглаблёвы. Прашу, не судзіце строга. Творы мае падпісваю так — Валянціна Г. З надзеяй на разуменьне — ваша адданая чытачка.”

Падобных лістоў Хадок за час сваёй працы кіраўніком “Плямы” перачытаў штук каля пяцісот. Звычайна яны былі вытрыманыя ў замілавальнай манеры маладых жабрачак, што бадзяюцца ў мэтро, зьбіраючы “на апэрацыю”, і толькі прыхаваная пагроза ў выглядзе ўплывовых знаёмых членаў выдавала ісьцінныя намеры аўтара. Хадок пачаў чытаць далей. Першы ж верш разбудзіў на ягоных вуснах адмысловую хадакову ўсьмешку, якая зазвычай прымушала супрацоўніцаў газэты, калі тыя незнарок апыналіся побач, круціць пальцам ля скроні — напаўзабыты, зрэшты, цяпер гэст.

Мільён гадоў — хіба гэта чаканьне?!
Пясчынка часу для майго каханьня.
Няхай нябачным пылам стане цела.
Калі кахала — не яму балела.

Адолее маё чаканьне ўсё —
Яму, загартаванаму, ня трэба,
Ні плоцкага няўстойлівага хлеба,
Ні стрэлкі на гадзіньніку ныцьцё.

Сярод крывавых вогнішчаў эпох
З усьмешкай раствaруся ў парываньні…
Каханьне — вось той добры, сьветлы, вечны Бог,
Якому я ў ахвяру, далібог,
Прынесена.
Хіба гэта чаканьне?!

— білася ў нейкай манаскай істэрыцы аўтарка. Якім жа было зьдзіўленьне Хадака, калі на наступным лісьце ён прачытаў:

Каханьне — вось той гнеўны Бог,
Якому я прынесена ў ахвяру.
Каханы мой! Ты — тая кара,
Якую лёс мне напасьледак прыбярог.

За плоцкі хлеб, які з табой дзяліць
Я стала, пазабыўшы запаветы,
І цеплынёй тваёй, няшчасная, сагрэта,
Забыла я каханьне затушыць.

Расьсьмяяўшыся, Хадок выклікаў зь перадпакоя п’яны твар Сэнсэіча, але нічога не адказаў на падміргваньні й з пустой і вясёлай душой прачытаў наступны верш:

Зноў салаўі і зорны грэх,
І ціхі сьмех начных уцех.
І твой уход, і хмары мар,
І дзённы боль. Які кашмар!

Хадок сьмяяўся бязгучна, нібы седзячы ў адказнай засадзе, сьмех ламаў яго й масажаваў у сваёй сьлёзавыціскалцы. Лісткі, кінутыя на стол, імгненна напіталіся тлушчам і алеем, і сталі падобныя на малюнкі старых і нямоглых жырафаў. Потым ўсе гэтыя пухіры глупай і таннай радасьці лопнулі, засталася адна пустата. Хадок прайшоў у свой пакой, апрануўся, раючыся зь люстрам, палюбаваўся на сябе ў лазьніцы. Сэнсэіч спаў у сваім пакоі, выставіўшы указальны палец. Вершы як вершы. Ня горш і ня лепш за Раісу Сяргееўну, Ірыну Маратаўну, Рапухіна й многіх, многіх, занадта многіх Другіх. Будзе ім літарадурная старонка. Хадок уявіў сваё прозьвішча ўнізе газэтнай паласы.

Нядаўна ён спаймаў сябе на тым, што пасьля знаходжаньня ў рэдакцыі заўсёды пачуваецца брудным, нібы шахтар. На вуліцы яму здавалася, што ягонае цела сьмярдзіць, і сустрэчныя глядзяць на яго з агідай. Дома ён адразу ж лез пад душ, і цер сябе, цер, цер, пакуль не пачынала балець скура. Але сьверб яшчэ доўга перасьледваў Хадака, кладучыся зь ім у ложак, кароткімі перабежкамі перамяшчаючыся ад пятак да вуха. Адчуваньня ўласнай гразі не было толькі зранку. Хадок паправіў гальштук і нахіліўся, каб абуцца. Тут жа на яго ўпаў ломкі, хісткі прадаўгаваты цень.

— Чуеш, Хадок, — Сэнсэіч пачасаў локаць аб касяк дзьвярэй. — А што ты будзеш рабіць, калі твае гарнітуры зносяцца?

## 3. Сабі

У гэтую раніцу мары зноў распараджаліся ягонымі снамі. Ён з

асалодай выварочваў на сьляпуча-зялёную траву тлустую веснавую зямлю, трымаць лапату было радасна й лёгка, прыемна балелі рукі, ён так і сяк абсмоктваў прадчуваньне хуткага перапынку, калі можна будзе вухнуцца ў выстаўлены на двор фатэль, глынуць віскі, удыхнуць свайго й больш нічыйнага неба, зрабіць першую глыбокую зацяжку, акунуцца ў Пруста, на якога цяпер няма ні часу, ні раўнавагі, — акунуцца, адчуваючы пад сваім задам моцныя крылы свабоды.

З гэтай ідыліі яго вытыркнуў Сэнсэіч, які, на шчасьце, кудысьці сыходзіў — паголены, важны, і прасіў Хадака абавязкова (вельмі прашу, салдацік) вымыць посуд ды падмесьці на кухні. Хадок падняўся, пера лічыў грошы — вынік гэтай працэдуры настройваў на філязофскі лад. Сьняданак сёньня быў арыстакратычны — фэльдфэбэльская гарбатка й рулет з варанай згушчонкай, з тых, якімі былі заваленыя ўсе крамы. Надта прытарна, але тэрцыюм нон датур, Хадок разгарнуў тоўстую кнігу пра Нюрнбэргскі працэс і адрэзаў сабе палову рулету.

Потым ён паліў і разважаў пра тое, якая ж усё-ткі ўмоўная гэтая велічыня — Значнасьць Гістарычных Падзеяў, вось ён, зусім не адчуваючы гістарычнага нігілізму, спакойна крышыць салодкі сьвітак рулету на старонкі, запоўненыя дакумэнтамі найбуйнейшага чалавечага суда дваццатага стагодзьдзя, нібы на нейкі пошлы дэтэктыў. Ніхто не забыты, нішто не забытае — гэтыя слоўцы з водарам савецкай мярцьвечынкі, а зь імі й нечалавечыя жарсьці перадапошняй сусьветнай вайны, як бы ні стараліся іх цягаць за сабой з году ў год, па большасьці прыціснутыя ўжо зьверху напластаваньнямі часу, і толькі сьведкі тых падзеяў пакрыкваюць на няшчасных студэнтаў, якіх замест бульбы сагналі на археалягічныя раскопкі. Ліпучыя крошкі падаюць на звараныя ў фатаграфічнай смале твары ўсьмешлівых катаў і дзяржаўных бандытаў. Паняцьце часу вечнае, як сусьвет, а кашчунства — выдуманае людзьмі, гэтаксама як рэлігія. Калісьці ў рэдакцыю завітала пагодным травеньскім днём адна бабулька, якая ніяк не магла давесьці чыноўнікам, што зьяўляецца былым вязьнем фашыстоўскага канцлягеру. Нягледзячы на млявыя запэўніваньні карэспандэнтаў у тым, што “мы вам верым, верым”, нямоглая наведніца раптам задрала да шыі сукенку, сьцягнула другой рукой майткі — усе, апрача Хадака адвярнуліся, ня маючы моцы сузіраць аголеную зьнявечаную старасьць, запраныя, запрэлыя кіляграмы скуры. Яна, мусіць, адыйшла ўжо ў свой ціхі рай, а хацелася ж ёй аднаго — грошай. Імя жакея — Абсурд, мянушка жарабца — Нонсэнс. Дык чаму ж нельга паесьці рулету над партрэтам Зоі Касмадзям’янскай, над коучам зборнай Беларусі па

нацыянальным адраджэньні, над пашпартнымі выявамі нейкіх расейскіх падводнікаў, а пачвякаць над хаця б тым жа Спартаком — калі ласка? Напэўна, калі чалавецтва навучыцца глядзець на сябе вачыма абярнуўшыхся далёкіх нашчадкаў, гэта будзе першай ягонай перамогай за ўвесь час існаваньня. Хадок уявіў сабе, як саркастычна пасьміхаецца, кладучы ў рот чарговую, неўміручую, бяскосную вінаградзінку, муза Кліо, назіраючы за шумлівымі намаганьнямі хадаковых суайчыньнікаў, за ўсім гэтым усталяваньнем мэмарыяльных дошак (раз дошчечка, два дошчечка, будут помніть-то!), занясеньнем у энцыкляпэдыі, усаджваньнем помнікаў на антыгемараідальныя пастамэнты, напампоўваньнем архіваў.

Вось і зь літаратурай тое самае, падумаў Хадок, даядаючы рулет, і тысячы братоў гэтага кулінарнага цуду скінулі свае крошкі на незьлічоныя пысы надзьмутых клясыкаў, што хаваюцца ў школьных падручніках, нібы перастарэлыя пэдафілы. Выцягнутыя за вушы дужымі ідэалягічнымі рукамі з самых глыбіняў Мора Бяздарнасьці, паднесеныя да блізарукай, брыдкай дзяржаўнай морды, прызнаныя карыснымі “на дадзеным этапе палітыка-эканамічнага разьвіцьця краіны”, песьняры ляжаць у сваіх музэях-маўзалеях, і іхны прах, што красуецца на пажоўклых паперынах, быццам селядзец на газэтцы, цешыць вока непераборлівых кіраўнікоў (для якіх той селядзец — вышыня эстэтыкі). Вельмі зручнае й лёгкае становішча. Значна цяжэй прызнацца нарэшце самому сабе, што той мужык, які гучна й груба ўсклікнуў калісьці:“А хто там ідзе?”, насамрэч быў сьляпым, што да літаратуры, а другі мужык, з абавязковым батанічным псэўданімам, не ўмеў пісаць прозы, а трэцяга праз пяцьдзесят гадоў не надрукавала б нават тая антылітаратурная газэта, дзе працаваў Хадок, настолькі цьмянае ўяўленьне пра мастацтва слова меў клясык.

А за гэтымі трыма — чарга, бясконцая чарга, хвост якой губляецца за даляглядам, потныя ручонкі сьціскаюць рукапісы, нібы аплочаны квіток на славу, у пачатку чаргі яшчэ любілі радзіму, у хвасьце цяперака кахаюць хлопчыкаў; зрэшты, гэтая чарга — пачвара двуполая, на десять девчонок по статистике девять ребят; зрэшты — адзінае, што прыводзіць ва ўзбуджэньне тых, хто тут стаіць, ёсьць грашыма. Чарга рухаецца павольна, яе піянэры даўно памерлі (безумоўна, за выключэньнем “горцаў” айчыннай літаратуры), ахвочыя да славы суайчыньнікі зь мінашукальнікам набліжаюцца да магілаў — на сьвятых месцах чарга далікатна раздвойваецца, каб пасьля самкнуцца, ламаючы рэбры. І самае жудаснае, што панурыя, бледнадушыя халерыкі, якія складаюць чаргу, гіпнатызуюць сваім выглядам усё новых і новых небаракаў. І кідаюць небаракі рыбарскія

сеткі ды лапаты, ды становяцца, прыстройваюцца ззаду, патыліца ў патыліцу. Імя ім — Ліга чэмпіёнаў, чэмпіёнаў па гульні ў літаратурны працэс. Цягнецца іхны караван, караван без канца й краю, цягнецца туды, за бархан, дзе, паводле легенды, пад помнікам Міхаілу Фрунзэ Дунін-Марцінкевіч закапаў некалькі запаветных сольда. Цягнецца, прамінаючы самотных вандроўнікаў, што валакуць за сабой свае таленавітыя цені.

Хадок спаласнуў посуд, які ўсё адно немагчыма было адмыць ад тлушчавага лаку (Сэнсэіч пры ўсёй сваёй прагрэсыўнасьці не давяраў мыючым сродкам, лічыў Фэйры атрутным інсэктыцыдам), паставіў румзаць у старую шафу з наклеенай на яе выявай міс Салігорск-86. Лянотна пагладзіў венікам курадымную кухню, адчыніў фортку, на ручцы дзьвярэй заварушыліся дзьве ўчарнелыя, нібы яны былі лёгкімі гэтага маленькага пакоя, торбы. Апранаючыся, Хадок яшчэ раз з задавальненьнем адзначыў, што ня лічыць сябе ні пісьменьнікам, ні паэтам, ні крытыкам. Насунуць на сваю бедную галаву каску аднаго з гэтых войскаў значыла прызнаць іхнае існаваньне ў гэтай краіне. Начышчаючы да злога бляску туфлі, Хадок у каторы ўжо раз прыгадаў тых лічаных людзей, якія сапраўды стваралі Літаратуру ва ўбогай гэтай мясцовасьці. Асабіста зь імі знаёмы Хадок ня быў, дый жаданьня збліжацца асабліва не было, іхная пісьмовая прысутнасьць на сьвеце проста цешыла Хадака, як быццам бы ён адшукаў адбітак невядомага пальца на адным з тысячы чыстых і абсалютна аднолькавых панылых прадметаў.

Ці ненавідзіце вы літаратуру так, як ненавіджу яе я? Калі літаратура здольная ўзвышаць чалавека, то лянотнае палёжваньне апошняга зь лекавымі мэтамі ў калялітаратурных гразях можа яго толькі зьнішчыць. Тое, што Хадака ня ведалі ні крытык Ш. (балбатлівая бляндынка, якая пісала стракатлівыя кніжкі пра празаіка Я. як пра сэкс-сымбаль чагосьці айчыннага), ні празаік Я., які ў душы моцна дзівіўся такім высновам, бо з сэксуальным жыцьцём даўно меў праблемы й таму выкідаў на кніжны рынак адзін за другім парнаграфічныя зборнікі, ні паэт Р., які беспрабудна бухаў ужо восьмы год і таму лічыўся геніем і пазашлюбным сынам Купалы, напаўняла сэрца дзікай, ні з чым не параўнальнай радасьцю. Нібы Хадок пражыў тры гады ў зачумленым горадзе, гэткім беларускім Аране, так і не скарыўшыся перад ягонай галоўнай славутасьцю. Несумненна, аднак, што й Раіса Сяргееўна, і Ірына Маратаўна, і дзьве прадавачкі цуму, і нават мяцежны Рапухін, і, цалкам імаверна, як яе там, новенькая, гэтая Валянціна Ы. былі пэўныя: Хадок з Ш. сьпіць, зь Я. шуткі шуціць, а з Р. гарэлкі расьпівае. І Хадок іх не расчароўваў.

Бо давялося б надта доўга напружваць свой артыкуляцыйны апарат. Тудыць яго, Хадачка, растудыць.

Ён знаходзіўся ўжо ў бясьпечнай блізкасьці да рэдакцыі, калі позірк ягоны прыцягнулі зялёныя плямы ў вакне аднаго з кабінэтаў. Звонку яны выдавалі на лісьце нейкіх кветак. Хадок дапаліў на прыступках цыгарэту, сплёўваючы ў запоўненую макулятурай сьметніцу, прычым пасьля кожнага пляўка дзьверы расчыняліся, выходзіў хто-небудзь з карэспандэнтаў ды зьдзіўлена адказваў на хадакоўскае прывітаньне: “Здаровались жа ўжэ! Ну, с харошым чалавекам...”. Ён падняўся, зайшоў у кабінэт з падазронай зелянінай. Ля вакна стаяў гаішнік са сваімі атрутна-салатавымі палосамі на форме і цярпліва чакаў, пакуль Мітрыенка перапіша сабе дадзеныя апэратыўнай зводкі за тыдзень. “Цябе Князькоў шукае”, — і Хадок, на якога ніхто больш не зьвяртаў увагі, патэпаў да стомленага дэрмантыну рэдактарскіх дзьвярэй. За сталом сядзелі сябры рэдкалегіі, калупаліся ў насах, падфарбоўвалі вусны, прадзіралі заспаныя вочы, чакаючы, пакуль Князькоў выправадзіць кагосьці залётнага.

— Это будет очень, очень достаточно неплохой, — крычаў Князькову ў вуха барадаты чалавек зь сівымі хайрамі й белымі плямамі на сініх нагавіцах. — Умоляю, пришлите кого-нибудь посерьезнее. Цвет района, можно сказать рабочая элита, мы хотим, чтобы это прозвучало. И пожалуйста, пожалуйста, не забудьте про хоровод!

Князькоў моршчыўся празь ветлівую ўсьмешку, нібы сядзеў у крэсьле добрага зубнога лекара, мнуў працягнутую руку, ківаў, па сантымэтры непрыкметна выціскаючы барадатага з кабінэту, але той за нейкае імгненьне вяртаў сабе страчаную прастору, і зноў хапаў суханькую лапку Князькова, і лез потым сабе пад пахі, і вымаў фотаздымкі, і цапаў з рэдактарскага стала амаль сувэнірны “Паркер”, і пісаў нешта, сыплючы на князькоўскія паперы перхаць:

— Товарищ редактор, Владислав Сергеевич, это должна быть совершенно значимая статья!

Хадок прысеў каля адказнага сакратара Інгі Філіпаўны, дастаў блякнот, намаляваў там непрыстойны малюнак. Інга Філіпаўна адсунулася, россып танных пярсьцёнкаў на яе пальцах, якія чамусьці так і карцела назваць заганнымі, успыхнуў і згас. Нарэшце Князькову ўдалося адной рашучай атакай выцясьніць праціўніка за межы кабінэту, здаць на рукі аднаму з тых супрацоўнікаў, што мелі карму прабягаць у гэтыя хвіліны міма, і ён бразнуў дзьвярыма, з уздыхам націснуўшы кнопку замка.

— Так, часу ў нас мала, — таропка загаварыў Князькоў, пляснуўшыся на крэсла. — Інга Філіпаўна, што ў нас на суботу йдзе?

— Праграма, — упэўнена прамовіла Інга Філіпаўна, — А яшчэ…
Яна пакапалася ў сваім тоўстым, як “Уліс”, нататніку.
— Першая паласа: хроніка здарэньняў, інтэрвью з дырэктарам мясаперапрацоўчага заводу, перанос на другую, здаецца, так, потым гэтая, рубрыка “Пріятно слышать”…
— Гэта ваш адзьдзел, Віктар Леанідавіч, што даеце?
— Ну, там, значыцца…
— Меней лішніх словаў, — жоўта жаўнуў рэдактар.
— Адрамантаваны магазін “Судьба”, школа-інтэрнат нумар 1265 здала на бібліятэку грошы, адкрыты помнік…
— Ясна. З “Судьбой” паасьцярожней, яны ў нас, самі ведаеце. Далей.
— За бугром, фатаграфіі, канешне, — працягвала Інга Філіпаўна, утаропіўшыся ў адну кропку. — Рэклямка… Навіны мэрыі…
— Другая.
— Палітыка, рэпартаж з Прылукаў, рэклямка, інтэрвію з галоўным канструктарам гэтага, Парашутнага заводу, матэрыял з салёну сотавай сувязі…
— Трэцяя.
— Фотавэрнісаж, спорт, навіны Таварыства інвалідаў, “Пісьма нашіх чітателей”…
— А там што йдзе?
— Э… Так. “Гвардии нелюди”. Ліст у рэдакцыю вэтэрана воф. Там пра бэнээфы ён, жвава так… “Три цвета извергов: белый, красный, белый”… Аўтар — Савет гарадзкога аб’яднаньня вэтэранаў-падпольшчыкаў вайны й працы. Калектыўны, я хацела сказаць, аўтар…
— Інга Філіпаўна, ня сьпіце. Далей.
— Хардкор-партія…
— Старлеевай?
— Так.
— Глядзіце каб яна там… І паменей англійскіх букў.
— Афіша, рэклямка…
— А чаму гэта спорт і афіша на трэцяй?
— А чацьвертая ў нас літаратурная…
— А, так, так, праба… Што ў нас на літаратурнай, дарэчы?
Сябры рэдкалегіі загарнулі блякноты, намесьнік адзьдзелу памахала рукой з налакіраванымі пазногцямі. Хадок невыразна прабубніў:
— Раіса Палуянава, Ірына Пфайфэльбоймэр, Эдуард Рапухін, Галіна Сяміцьвет, Алена Пугачова, Алег Царадворцаў, мае камэнтары, мой уступ.

— Усіх ведаю, акрамя гэтага... Алега, — падняўся зь месца Князькоў, і ўсьлед за ім зарыпелі крэслы, зашчоўкалі валізкі, зашаргаталі паперы — рэдакцыйная калегія шумна накіравалася да дзьвярэй. — Адны й тыя імёны.

— Царадворцаў друкаваўся ў нас, узімку, — без інтанацыі прамовіў Хадок і таксама падняўся.

— Падумай над маімі словамі, — зморана сказаў Князькоў, наліваючы ў імбрычак вады з графіну. — Трэба пашыраць кола. Шукаць новых імёнаў. Вобшчам, ало — мы ішчам таланты. А як там той, як жа яго, дай бог памяці...

Рэдактар задумаўся, вочы яго затуманіліся, было відаць, што ён пакутліва намагаецца ўцяміць, што ж навяло яго на ўспаміны, потым уздыхнуў і сьмела вымавіў:

— Валянцін. Я табе аддаваў капэрту.

— Ён зусім не Валерый, — сказаў Хадок, зусім ня маючы ахвоты тлумачыць. — Ну, і гэта таксама пастаўлю ў літаратурную старонку, калі трэба.

— Што значыць калі трэба. Каму трэба? Нічога не разумею.Трэба... Літаратурная старонка не табе й ня мне патрэбная, а чытачам. Ну так, ён не Валерый. Чаму ён мусіць быць Валерыем.

— Вы яго Валерыем тады назвалі. А ён, дакладней... Князькоў нецярпліва пакруціў у руках асадку.

— Гэта жанчына. Валянціна... Валянціна Г., — працягваў Хадок.

— Чаму Г.?

— Відаць, каб ніхто не здагадаўся.

— Операция Ы. Так, ха-ха-ха. Ну і? Вершы хоць прыстойныя?

— Ды якое там. Вы ж ведаеце. Калі ў нас выходзілі прыстойныя...

— Як гэта калі прыстойныя? Ты паменей кіруйся ўласным густам. Літкансультант і крытык мусіць быць аб’ектыўным. Мастацтва. як і любая навука, паддаецца аб’ектыўнаму аналізу, ці ня так? Дык што там за вершы ў гэтай Валянціны Г.?

— Лухта.

— Дык навошта ты ўключаеш іх у літаратурную старонку? Адсекчы.

— Калі б усё было так проста, то...

— Так, давай адказвай канкрэтна. Ідзе яна ў літаратурную старонку альбо...

Хадок з палёгкай уздыхнуў. Адным клопатам меней. Хопіць зь яго Раіскі ды Маратаўны. А Рапухін адзін чаго варты. А цумаўкі? А Царадворцаў, куляшоў яго дзяры? Яшчэ й Валянціну гэтую гэ на сябе

ўзвальваць. Пайшла яна...

— Не, — ён пастараўся выглядаць пры гэтым крыху сумным. Маўляў, шкада, але нічога не папішаш, не адрэдагуеш. — Няможна яе ставіць. Сырая.

— Вось гэта адказ. Графаманаў — адсякаць. Калёным жалезам. У нас саліднае выданьне. Хай папрацуе над сабой. А то панапісваюць, а потым адразу ў газэту шчэмяцца. Ты паймі...

Князькоў падняўся, адначасова запілікаў тэлефон, і імпэратарскім гэстам Хадок быў адпушчаны.

Яшчэ спускаючыся на першы паверх, ён густа й прагна запаліў, выдыхаючы дым у твары сустрэчных, пахмельныя, шэрыя твары, на якіх дагнівала прафэсыйная гордасьць. Недзе на сьвеце была прастора, у якой не існавала аніякіх Раісаў Сяргееўнаў, Князьковых, літаратурных старонак і дырэктараў мясаперапрацоўчых камбінатаў. Недзе паперу выкарыстоўвалі для таго, каб друкаваць на ёй чароўныя, сур’ёзныя, балючыя кнігі. Недзе жылі істоты, якія ўспрымалі б, надумай Хадок апісаць ім сваё цяперашняе жыцьцё, ягоны аповед як суцэльны анэкдот. Толькі вось дзе гэтае месца, як прабрацца туды, якія неабходна скрасьці мапы ў прыбярэжнай карчме, які наладзіць карабель, каб адшукаць на газэтных палосах жыцьця гэтае недасяжнае эльдарада. Колькі ні ўглядайся ва ўласны компас, ён — пас, і стрэлка боўтаецца ад норду да зюйду, круціцца каруселяй, быццам няма аніякіх магнітных палёў, да якіх бы імкнулася душа, навогул зьніклі ўсялякія прыцяжэньні, і любы прадмет, што хістаецца на пасьляштормавых мутных хвалях, любы абломак любога жыцьця мае на сваім баку шыльдачку з надпісам “Арыентыр”, а значыць не існуе аніводнага арыентыру, усё абыякавае й бесстароньняе, і вось падае на галаву ветразь, апынуўшыся проста вялікай грубай коўдрай, якую, як высьвятляецца, адківае са свайго цела нехта яшчэ сонны, зь перапоўненым мачавым пухірам. Адзінае, што ты адчуваеш — слабасьць і млосьць. Хадок выйшаў на ганак.

— Прывітаньне, — сказаў нехта, стоячы ля сьметніцы.

— Здаровалісь жа ужэ. Ну, з харошым чалавекам... — прамовіў Хадок не абарочваючыся й ступіў у горад.

Ягоная праца на сёньня пакуль скончылася. Наперадзе была шматгадзінная, голая свабода, вабноты якой захінала толькі туманная тога пошукаў нейкага занятку. Найперш Хадок нясьпешна прагуляўся да праспэкту, назіраючы за сваімі адлюстраваньнямі ў вітрынах і вокнах, засьведчыў сваю пашану некалькім лавачкам, пакінуўшы каля кожнай рытуальны недапалак. Трапіўшы на галоўную вуліцу, ён знайшоў вольны столік пад парасонам, замовіў сабе тры сьмярдзючыя

беляшы, выпіў дробнымі глыткамі недарагое зеленаватае піва з капной бруднай пены. Паклаў перад сабой цыгарэты й запальнічку, адзеў цёмныя акуляры. Назіраў за людзьмі. Зрэдку зьяўлялася адчуваньне, што і яго аглядаюць з усіх бакоў, абмацваюць, нібы тканіну, — юнацкае, беспадстаўнае адчуваньне, якое хутка мінала: насамрэч нікому ў гэтым натоўпе ён ня быў цікавы, малады яшчэ чалавек у добра пашытым чорным гарнітуры, цудоўных туфлях, шыкоўным гальштуку, хто яго ведае хто, з ружай скамечанай сурвэткі на пустой плястмасавай талерцы, зь недапітым півам, якое прагнуў уцягнуць з сабой вецер. За столік да Хадака па чарзе падсаджваліся жанчына з крыклівым дзіцём, якое жыўцом праглынула булачку й потым стала ціхім і задаволеным, як удаў па абедзе, затым хлопец прыкладна адных з Хадаком гадоў, з партфэлем карлікавай пароды, так званай барсэткай, — гэты ўспрымаўся як нешта лішняе між бутэлькай колы й хот-догам, заціснутымі ў ягоных руках, і праўда, маладзён неўзабаве сыйшоў, пакінуўшы й тое, і другое недаспажытым. Потым за столікам Хадака ўратаваліся ад кампаніі дабрадушных дэбілаў дзьве студэнткі, якія сарамліва зьелі разагрэты ў мікрахвалевай печцы шашлык і пайшлі да альмавай мацеры.

У натоўпе між тым прасьлізгвалі раз-пораз знаёмыя твары — колішнія сакурсьнікі з прыкметна пацяжэлымі жыватамі, сакурсьніцы без намінак на жывот, выпадковыя прыяцелі, якія ніколі ня памятаюць твайго імя, прашмыгвалі пісьменьнікі, прафэсыю якіх выдавалі іхныя вочы — вочы параноікаў ад словаблуду. Прадэфіляваў празаік Я., трывожна торгаючы галавой: няўжо ніхто так і не папросіць аўтографу? Выйшла з падземнага пераходу Інга Філіпаўна, зьнікла ў гуме, праз чвэрць гадзіны зьявілася зноў, балбочачы па мабільніку, з пакетам, адкуль маркотна тырчалі нечыя вушы. Хадок не пашкадаваў грошай на платную прыбіральню, потым завітаў у кнігарню. Грошай заставалася ўсяго нічога. Між двух хісткіх стэляжоў ім была заўважаная “Гісторыя габрэяў”, кішэннае выданьне ў мягкай вокладцы, яно мусіла быць не такім дарагім, як аднайменны раскошны том з залатымі літарамі, што мудра глядзеў з высокай паліцы на шчанячую мітусьню пакетбукаў у руках пакупнікоў. Хадок асьцярожна, бачком праціснуўся між драўляных грудзей, на якіх цьмяна мігцелі бутэлечным шклом кніжкі “Азбукі”, двума пальцамі пацягнуў “Гісторыю габрэяў” на сябе, але тут цёмныя акуляры плаўна, нібы санкі, выехалі з нагруднай кішэні пінжаку, Хадок сутаргава рвануўся, каб злавіць іх у палёце, локаць ягоны дружалюбна тыцнуў правы стэляж у бок, і перш чым той грымнуўся на падлогу, сэрца Хадака ўжо востра ёкнула, а вочы з жахам назіралі за ўяўнымі

вынікамі немінучай катастрофы.

Кнігі валяліся маляўніча, некаторыя вокладкамі ўверх, некаторыя ніцма, зь іхных сьпінаў асуджальна глядзелі халодныя твары аўтараў, іншыя скарысталі гэтае зусім не сьмяротнае падзеньне артыстычна, ляжалі разгорнутымі, падагнуўшы пад сябе некалькі дзясяткаў старонак, не раўнуючы пасьля жорсткага растрэлу. Хадок кінуўся зьбіраць, і незнарок наткнуўся на вельмі сымпатычныя жаночыя ногі, якія не зьбіраліся нікуды адступаць. Ён узьняў галаву й не палічыў сябе расчараваным. “Трыпуціна Святлана, прадавец” — было напісана на яе грудзёх.

— Так і будзеце тут сядзець? — спытала яна зьбянтэжана. — Ну падымайцеся ж.

Звонку гэта, напэўна, сапраўды выглядала ня надта прыстойна. Хадок сядзеў на кукішках перад найшыкоўнейшымі маладымі нагамі ў калготках цялеснага колеру, у некалькіх сантымэтрах ад яго роту сьпявалі пра касьмічную радасьць жыцьця круглыя каленкі, сваёй дасканаласьцю павяргаючы ў пыл разнастайныя змрочныя выпарэньні сур’ёзнай літаратуры. Хадок адчуў сябе пэрсанажам бяздарна напісанай, хмурай і беспаветранай аповесьці. Ён паволі падняўся, растаптаўшы нейкі раман Буніна. “Трыпуціна Святлана, прадавец” застагнала й кінулася да ягоных ног. Цяпер яны памяняліся месцамі, але сытуацыя як і раней была абмакнутая ў соус пікан.

— Падыміце ж нагу!

Хадок падняў нагу, расставіў рукі, балянсуючы; ля самага ягонага калена, ледзь не дакранаючыся шчакой да хадаковых нагавіцаў, сядзела на кукішках сама гармонія. Ён заплюшчыў вочы. Імгненьне было ўнікальнае. Расплюшчыў. Іх абступілі наведнікі, тупа чакаючы разьвіцьця падзеяў. Гармонія зьдзімала з прыніжанага раману адбітак хадаковай падэшвы, намагаючыся ўтрымаць сваю спадніцу, што ўпарта лезла на талію.

— Марыянна Канстанцінаўна! — закрычала дзяўчына, павярнуўшыся, некуды ўглыб гандлёвай залі. — Марыянна Канстанцінаўна!

Сэрца Хадака, які паглядзеў уніз і пабачыў там гармонію яшчэ больш гарманічнай, ужо ня проста калацілася, яно лупіла па грудной клетцы, як па баксёрскай грушы.

— Ды апусьціце ж нагу! — сказала дзяўчына прыцішана, усё яшчэ застаючыся сядзець ля ног Хадака, зьбіраючы кнігі ў адзін бязладны стос. Хадок нехаця апусьціў.

— Бяжыце!Ды бяжыце ж! — тэатральна прашыпела прадавец Сьвятлана Трыпуціна, і Хадок скочыў наперад, і бабулька з валявым

падбародзьдзем паспрабавала схапіць яго за рукаў, а нейкі мужчына, падобны на Вазьнясенскага, ужо намацваў праведнымі пальцамі хадакову шкірку, намагаючыся любым спосабам затрымаць злачынцу, але Хадок выкруціўся, вырваўся, і праз хвіліну ўжо сядзеў у кавярні насупраць, чакаў свой кілішак гарэлкі й шчасьліва пасьміхаўся, разгортваючы "Гісторыю габрэяў".

**4. Кіока**

Іх звалі Даша й Маша. Даша сутулілася, каб ніхто не заўважыў, што пад яе швэдрам ужо нахабнічаюць і хуліганяць, самасьцьвярджаючыся, важкія грудзі, Даша прыйшла ненафарбаванай, без завушніцаў, з пагрызенымі пальцамі, Даша маўчала й толькі паглядвала з-за сваіх беспамерных валасоў, нібы з-за фіранак, на Машу, паглядвала з абажаньнем. Маша была худая, даўжэзная, на бутэльку гарэлкі вышэйшая за Хадака, мела падбародзьдзе булыжнікам і макіяж нядаўна эксгумаванай прыгажуні. Маша хмыкала й пакрыўджана аблізвала вусны, Маша выстаўляла сюд-туд плоскую грудную клетку, дэманструючы з гордасьцю пачак кіму ў маленькай кішэні.

Прывяла Дашу й Машу Раіса Сяргееўна. Хадок ужо раздаў цумаўкам нумары зь літаратурнай старонкай, і тыя, прымусіўшы Хадака вымавіць салодкае "аўтарскія асобнікі", пабеглі дахаты выразаць, і наклейваць, і перачытваць!, і! і! і!, Хадок выслухаў, гасячы позехі, дзяжурны шэдэўр Рапухіна пад назвай "Не ідэй гэта здрада, а душаў…", Хадок нават выходзіў у калідор пашаптацца з Ірынай Маратаўнай, якая прызналася яму пад страшным сакрэтам, што ёсьць адно выдавецтва, якое вельмі зацікавілася яе творчасьцю, і нават зрабіла адну надзвычай цікавую прапанову, але ж я прашу вас, нікому ні слова, а то ж вы самі разумееце, зайздрасьць чалавечая, інтрыгі пачнуцца, Раіса-та Сяргееўна, нічога пра яе благога сказаць не магу, наадварот, шаную надзвычайна, але ж, прабачце, яна ж інтрыганка, гэта ж усе ведаюць, ды ўвогуле, — не сурочыць бы. Што ж, у калідорным паўзмроку можна было прынамсі спакойна пазяхнуць. Нарэшце Хадаковы шапакляксы разьвіталіся, ён з задавальненьнем прыслухаўся да сваёй адзіноты, пакапаўся ў стале кагосьці з карэспандэнтаў, знайшоў шакалядку й павольна зжаваў, шпурнуўшы ў вакно траскучую фальгу, пагуляў у рызыкоўныя хованкі са сном… і тут у кабінэце зьявілася Раіса Сяргееўна са сваімі юнымі гасьцінцамі.

— Дзяўчаткі ў нас яшчэ школьніцы, — беспасьпяхова імкнулася

намацаць Машыну галаву рука Раісы Сяргееўны, — школьніцы, і Элізабэт Бэнэдыктаўна вельмі хваліла, гэта настаўніца, вельмі таленавітыя дзяўчаткі, і вершы пішуць, так.

— Прыемна, — кісла прамовіў Хадок і гэстам усадзіў Машу й Дашу на крэслы. Раіса Сяргееўна ўладкавалася воддаль, замілавана склала на каленях рукі, гледзячы, як Хадок, закінуўшы нагу за нагу, разгортвае вясёлкавы сшытачак і пагружаецца ў чытаньне. Натуральна, нікуды ён насамрэч не пагружаўся, затаіўся ля паверхні, цікуючы за тварамі гэтага дзьвюхгаловага дракончыка, які ў сваю чаргу пільна назіраў за хадаковымі вачыма, выглядаў у іх хаця б наймалую зьнічачку, думаючы, што ў вачах можна ўпаляваць ісьціну.

— Ну што ж, — Хадок паглядзеў на дракончыка ва ўпор. — Выдатна.

Машу ледзь не званітавала шчасьлівай усьмешкай, яна адвяла позірк і шмыгнула носам. Даша, якая, відаць, успрымала Хадака выключна як нейкі бязглузды, але ў сілу пэўных абставінаў неабходны лятарэйны барабан, радасна сьціснула Машыны пальцы. Яны, напэўна, зразумелі слова “выдатна” як школьную адзнаку. Але ж, здаецца, цяпер у іх дзесяцібальная сыстэма…

Галава Хадака між тым усё глыбей угрузала ў соннай багне. Можа быць, які-небудзь пралетар і заснуў бы без праблемаў на Хадаковым ложку апошняй ноччу, глушачы ўсе гукі сусьвету сваёй сьвятой стомаю пасьля цяжкага працоўнага дня, але Хадаку, прафэсару лайдацтва й змагару за правы гультаёў, давялося да ранку танчыць на балі ўласнай вымушанай бяссоньніцы. Прычынаю быў Сэнсэіч. Гаспадар прыперся апоўначы зь нябачнай жанчынай, спачатку Хадок толькі кусаў вусны, трываючы невыносна блізкія, голыя, грубыя крыкі на кухні, жаночы рогат, звон посуду, Сэнсэіч называў жанчыну на вы, пасьля некалькіх шклянак прапанаваў руку й сэрца, і зноў рогат, і шумная куча ідыёцкіх фразаў, якія налазілі адна на адну, зрабіўшы некалькі няўдалых спробаў спарыцца, затым была аварыя двух маналёгаў, якія ў шаленстве сутыкнуліся на кухоннай аднакалейцы, і потым — кропкаю з коскай — у цішыні ўзьніклі вельмі выразныя словы Сэнсэіча, занадта чутныя й цьвярозыя:“Стоп, стоп, давай, золатка, ціш-шай, ціш-шай, у мяне кватарант там сьпіць. Ды ня бойся, кватарант, кватарант, малец адзін”, і стала спакайней. Над кватэрай вісеў настойлівы пах прымы, ад яго дохлі сны й балела галава. Аднак хутка Сэнсэіч з жанчынай перамясьціліся ў гаспадарскі пакой, мерна зарыпела, зарыкала, заўздыхала падлога, неўзабаве Хадок разабраў больш тонкія гукі: нібы нехта прыцішана, скарагаворкай маліўся, то захлынаючыся, то зноў

пускаючы шаргатлівы славесны ручайчык. Забулькатала, раптам жаночы голас прамовіў гучна й глыбока: “Іспалкоме і ты знаеш ужэ чэрез неделю”, і сам спалохаўся сваёй гучнасьці. Рыпы аднавіліся, аднастайныя, быццам на старой радыёле забылі спыніць кружэлку. Хадок ляжаў, абыякава думаючы пра тое, што заўтра Сэнсэіч абвесьціць яму пра свае матрыманіяльныя намеры й папросіць зьехаць да канца месяца. “Яшчэ адна была, я памятаю”, — раздражнёна загрымеў Сэнсэіч, і тут жа зьдзьмуўся далікатна: “Тссс, тссс, кватаранта разбудзім”. “Ну і? Твая кварціра”, — зморана адказала госьця. Хадок паспрабаваў узгадаць нядаўні выпадак у кнігарні, раскруціў столь за няйменьнем століку, выклікаў дух Сьвятланы Трыпуцінай, прадаўца. Перад вачыма чамусьці паплылі літары, захісталіся ў паветры, на тытунёвых прымавых колцах, нібыта пасажыры затанулай “Азбукі” на ратавальных “О”... За сьцяной зноў захадзіў хадуном ложак, добра што не Хадаком. Ён падняўся, пад ім мяўкнулі спружыны. У суседнім пакоі ўсё сьціхла, і жанчына прамовіла весела: “О! Вдохновілі мы твоего квартіранта!”. За вакном пасьвятлела, неба расплюшчыла правае вока, Хадок халодна падумаў пра канфіскаваны ранак.

— Выдатна, — паўтарыў Хадок і ў рэшце рэшт да яго павярнулася нават Даша. — Проста выдатна, што ў наш час знаходзяцца яшчэ маладыя людзі, якія цягнуцца да паэзіі, да мастацкага слова. Гэта сьведчыць прынамсі пра тое, што людзі вы хаця й маладыя, але думаючыя, чулыя. Ведаеце, Марыя, і вы, Дар’я... Паэтам можаш ты ня быць...

— А гражданином быть обязан... — сьмела сказала Маша й зьедліва ўсьміхнулася.

— І гражданіномъ не обязанъ. Галоўнае — разумець, што паэзія — рэч ня менш важная за працу, напрыклад, хірурга, або настаўніка...

Не зважаючы на ўсе стараньні Хадака, з роту ягонага вылез ільсьністы позех, Хадок нават не пасьпеў заткнуць нягодніка далоняй — відовішча, па ўсёй бачнасьці, атрымалася ня надта прыстойнае, дракончык, ва ўсялякім выпадку, адвярнуўся, зморшчыўшыся, нібы Хадок прадэманстраваў раптам дзяўчаткам свае новыя плаўкі. Раіса Сяргееўна нічога не заўважыла, задрамала, хутчэй за ўсё, толькі на твары ейным вісела, як пазалеташняя афіша, колішняя блажэнная ўсьмешка.

А што ён мог яшчэ ім сказаць? Не тлумачыць жа Машы й Дашы свае погляды на літаратуру. Не ставіцца ж, далібог, да ўсяго гэтага сур’ёзна. Яны ўсе лічаць мяне амбасадарам, хаця я толькі ўцякач,

актор, які прыхапіў з сабой пасьля звальненьня судзейскую мантыю, яны лічаць, што завіталі ў невялікі й камфартабэльны храм, хаця сядзяць хіба на першым паверсе хмарачосу, на лавачцы ля бюро прапускоў. Раіса Сяргееўна! Кіньце дурное. Ідзеце дахаты, зрабіце рамонт, і выкіньце свае сшытачкі ў сьмецьцеправод. Гэта штука, Раіса Сяргееўна, пастрашней за сьнід і атыповую пнэўманію. Маша й Даша, вам яшчэ рана заражацца такімі хваробамі, іх наступствы — бязь-дзетнасьць і голад. Дый не заразіцца вам ужо, надта ўдалымі былі прышчэпкі, ні рубца не засталося, ні рубца, ні плямкі. Дайце мне спакойна атрымаць свае грошы, але не прымушайце мяне вам нешта тлумачыць.

— Я так разумею, гэта вашы вершы? — Хадок кіўнуў Машы і асьцярожна пасьміхнуўся, гатовы ў любое імгненьне затрымаць позеха-нелегала.

— Мае, — выставіла падбародзьдзе Маша.

— На жаль, нічога добрага да таго, што я сказаў, дадаць не магу, — Хадок пацёр вочы. — Вершы слабыя. Вам, Маша, трэба трошкі разабрацца для пачатку з тэорыяй...

— Паэзія — не матэматыка, — горда й звонка прамовіла Маша й пераможна зірнула на Хадакоў гальштук. Даша недаверліва й гнеўна скасавурылася на Хадака: как он смеет?..

— Але й не лепет грыпуючага немаўляці, — усьміхнуўся Хадок. — Схадзіце ў бібліятэку, паглядзіце, што такое рыфма, рытм, вэрлібр, вольны верш... вершаваны памер...

На гэты раз пазяхнуць атрымалася акуратна й стрымана. Бярушы. Як жа гэта ён раней не зразумеў. А лепш — аддаць чатыры тысячы, колькі ж там застанецца, ааа... І прадрыхнуць сэнсэічава каханьне да самага фіналу.

— У вас усё атрымаецца, — мякка дадаў ён, аўтаматычна запісваючы на паперцы: вэрлібр, памер, рыфма... Князькоў нэрвова ўвайшоў у пакой, заўважыў Раісу Сяргееўну, праглынуў нешта гучнае, махнуў рукой Машыдашы.

— Займаецеся? Маладое пакаленьне? — ён падыйшоў да стала, узяў сшытачак і тут жа кінуў яго назад. — Выдатна, выдатна, дзякуй, што прыслухаўся. Тут, ведаеш...

Раіса Сяргееўна заварушылася, засаромелася, пачала терзать гузікі на кофце.

— Тут мне званіла гэтая... — рэдактар схапіўся за скроні. — Башка як гарматнае ядро, раска-а-лываецца. Гэтая, якая не Валерый... Дзякуй.

Князькоў закінуў мігрэні два мячы й зь перакошаным тварам

рынуўся міма Раісы Сяргееўны да графіну з мутнай, як самагон, вадой.

— Фу... Карацей, званіла мне сёньня Валянціна твая... на гэ прозьвішча... Вельмі імпазантная дама, і характар, я табе скажу... Не разумее, вобшчэм, чаму яе вершы ня выйшлі. Так што ты гэта... пазвані ёй, яна свой тэлефон пакінула. Паабшчайся, падкажы штонебудзь разумнае, прааналізуй, яны гэта любяць. Давайдавай, не ламайся, ня будзем сварыцца з чытачамі. Ты ўсё-ткі заведуеш у нас літаб'яднаньнем. Вось тэлефон, заўтра й пазвані. Ну, пабег.

— Дык што вам не спадабалася? — спытала высакамерна Маша — дракончык навогул з задавальненьнем выслухаў Князькова й цяпер аж сьвяціўся салідарнасьцю зь невядомай ахвярай бяздарнага, хітрага, эгаістычнага й подлага літкансультанта.

— Ну вось паслухайце, паслухайце свой верш у маім выкананьні, — прамармытаў Хадок, праціраючы запаленыя вочы. — Вось што вы пішаце, Маша: узыйшлі над зямлёй месяц і зоркі я стаяў той парой думаў пра лёс свой горкі пра дзяўчыну-красу што мне сэрца паланіла пра дзяўчыну ту адну якая мне так міла. Пралятаў над маёй галавой ветрык-гарэза ён свабодны быў герой пабачыў мае беды. І спытаўся...

— Гэта я яшчэ зімой пісала, — задрыжалі Машыны вусны. — Гэта мы праходзілі песьню...

— Окей, давайце возьмем другі. Белорусія от края і до края, Нет мілей на свете мне тебя, Для тебя, моя держава, я не пожалела б і себя. Наступная старонка. Не, вы слухайце, слухайце, самі пісалі. Хе... Гэта ўжо цікавей. Дзядуля мой, як буду я сумаваць, што няма цябе больш з намі, некаму будзе мне больш расказаць, якімі ў школе займалася дзяламі. Не к каму будзе мне езьдзіць, вазіць гасьцінцы, навошта, мой дзедка родненькі, павезьлі цябе ў бальніцу. Старонка пяць. Та-а-а-к. Дзядзя ты мой Матвей, усе гаворацъ людзі, чаму ж цябе забраў божанька да сябе, чый цяпер Мурзік будзе. Плачам мы плачам, і цэлы дзень мама з Ягорам ходзяць па магазінах, цётка Ядвіга прыедзе да нас, і нават цётка Зіна. Гэта ўжо зусім цікава. Пляменьнік мой, Антон Задонскі, у труне маленькай ляжыць, за што яго ўзяў на небка, той анёл, які нас старажыць. Раіса Сяргееўна, вы чуеце? Шкада што Князькоў пайшоў, ён бы вас, Маша, адразу б на працу ўзяў, нэкралёгі пісаць, у вас, Маша, да гэтага прыродны проста дар. Талент. Вы не з школы-інтэрнату часам? Што ў нас тут далей ідзе? Дайце я здагадаюся. Папаша мой, Раман Задонскі, хаця характар меў ты конскі, але й цябе нібыта сілас, карга гарбатая скасіла.

— Перастаньце, — усклікнула Раіса Сяргееўна, засланяючы сабой Машу.
— Прабачце, прабачце, — Хадок закрыў рот далоняй. — Прабачце, Маша, прабачце, Раіса Сяргееўна. Ня выспаўся. Нэрвы не вытрымліваюць. Даруйце, зрабіце ласку.
— Я ж іх па часу напісаньня, — раптам жаласьліва загаварыла Маша, і Хадок, ня верачы, заўважыў у яе вачох здрадніцкія сьлёзы. — Гэта раньняе... Сваякам падабалася, калі я вось так... на дзень нараджэньня. ...або на пахаваньне. Гасьцям чыталі, усе хвалілі. І Элізабэт Бэнэдыктаўна сказала, што...
— Ды ну, Машка, — грэючы Хадака сваёй нейкай электрычнай нянавісьцю, хутка прамовіла Даша, і потым паўтарыла: ды ну,маша, ды ну, маша, ды ну.
— А вы падлец, — Даша ўзяла са стала сшытак.
— У, — ціхенька ўзвыў Хадок і ўзьняў рукі. — Яшчэ раз прашу прабачэньня. Ды не забірайце сшытак. Я пагляджу яшчэ. Калі гэта раньнія.
Аднак драконччык ужо кульгаў да дзьвярэй.
— Больш чытайце добрых кніг! — сказаў Хадок драўляным голасам.
Раіса Сяргееўна, зрэшты, здавацца не зьбіралася. Ее шушуканьне з драконччыкам ля дзьвярэй скончылася тым, што чырвоная, але ўжо не навальнічная Маша была адзьдзеленая ад Дашы, падыйшла да хадакоўскага стала й паклала сшытачак.
— Мір? — спытаў Хадок, якому зусім расхацелася спаць.
— Мне так паўсюль гавораць, — са злосьцю працадзіла Маша. — А вы навучыць ня можаце? Чытайце, сьмейцеся, давайце, я разумею.
— Маша...
— Ладно, мір.
Драконччык пакінуў поле бітвы. Хадок, са страхам думаючы пра сумесны шпацыр да мэтро з Раісай Сяргееўнай, замкнуў кабінэт.
— Я й ня думала, што вы такі, — гулка тупала Раіса Сяргееўна, якая недзе — хто ведае дзе? — пасьпела ўжо запэцкаць рукаў кофты й цяпер намагалася ўзяць Хадака пад руку. — Такі злы.
Хадок аддаў ключы вахтору. Ён прапусьціў Раісу Сяргееўну наперад, запаліў цыгарэту, прыкрываючыся машыным сшытачкам ад ветру.
— Хаця я вось цяпер падумала, — летуценным голасам працягвала Раіса Сяргееўна. — Можа быць, гэта ня злосьць. Можа, вы такі бескампраміссны?
Хадок закашляўся.

— Ведаеце, гэта добра, што вы такі бескампрамісны, — схапіла Хадака за локаць Раіса Сяргееўна. — Правільна. Прабачце вы мне, што я дзяцей прывяла… на нашае літаб’яднаньне… Няхай толькі таленавітыя будуць з вамі… Ведаеце…

Яны ўвайшлі ў сквэр. “Раптам ёй са мной па дарозе?” — раздражнёна падумаў Хадок, і тут жа невядомыя анёлы прыйшлі яму на дапамогу. Абрысы змрочнага каштана, які навісаў справа, выплюнулі на алею каржакаваты сьмярдзючы цень.

— Слышишь!

Хадок спыніўся. Надта ўжо малады голас у гэтага ценя.

— Вы ідзіце, Раіса Сяргееўна, — ён падштурхнуў яе ў мяккую, з падкладкай, сьпіну. — Усяго найлепшага. Ідзіце, ідзіце хутчэй у мэтро. Раіса Сяргееўна!

Яна паглядзела на яго з захапленьнем і пайшла — дробнымі, намагнічанымі крокамі.

— Не торопись, земляк! Хадок ступіў насустрач ценю.

— Слышишь, тут мая малая к тебе подходила, — сказаў цень даволі дабрадушна. — Машка мая. Стишки свои показывала. Да не дрожи ты, земляк, я без всякіх там. Понимаешь, земеля, ты Машку не обижай, ладно? Добазарились, земеля? Она класная девка, понял? Печатай там её, только хорошо печатай. Есть, земляк? Дошло? Давай без понтов. Тебя как зовут. Меня Паша. Давай так. Или ты её не обижаешь, или я тебя обижаю. Хорошо. Ну, дай сигарету и будь здоров.

Ён апусьціўся ў мэтро, выйшаў у цэнтры, прайшоўся пехатой да кнігарні, пастаяў ля цёмнага вакна, за якім хаваліся чорныя, нібы абвугленыя, кнігі. Выпіў дзьвесьце грамаў гарэлкі ў падазрона ціхай, але перапоўненай кавярні. Зьеў катлету па-кіеўску, зразумеў, што грошы скончыліся, запаліў апошнюю цыгарэту й стаў чакаць старасьць.

**5. Фукагуса**

Бо што яшчэ застаецца ім, хадакам, як не чаканьне ратавальнай старасьці, — ім, маладым, але ўжо такім змораным. Жыцьцё звалілася ім на галовы, калі яны толькітолькі навучыліся паліць, толькі звыкліся, разнасілі свае зручныя целы, толькі пачалі нешта разумець, звалілася, руйнуючы першыя пабудаваныя імі паветраныя піраміды, жыцьцё села ім на твары ў той час, калі ў гэтых маладзёнаў зьявілася ўпершыню зманлівае адчуваньне ўласнай дарослаесьці. Не, яны,

безумоўна, паспрабавалі знайсьці тут сваё месца, арганізаваць нейкае змаганьне, тэлефанавалі, дамаўляліся, крычалі, дабіваліся прыязнасьці, шукалі, рваліся, заводзілі карысныя знаёмствы, недасыпалі, падпрацоўвалі, наладжвалі кантакты, пашыралі колы, вялі барацьбу за прызнаньне, закладалі падмуркі — ёх-хо-хо! раз-пораз ім нават здавалася, што яны здольныя разгледзець у тумане, як усё ж выглядае іхная мэта, тая, дзеля якой і трэба было праяўляць ініцыятыву; яны імкнуліся ўдаць зь сябе кагосьці сталага й дасьведчанага, мяркуючы, што адно такіх запрашае на свае лецішчы магутны success, каб прадставіць там сярод шумнай вечарынкі абаяльнай story, і гэтае ўдаваньне было першай саступкай старасьці — той старасьці, якая цяпер такая жадана-недасяжная для іх — трыццацігадовых. Усьвядоміць, што адзінае пакінутае для цябе ёсьць жаданьнем найхутчэй састарэць, можа зусім ня кожны. Ня ў кожнага хопіць мазгавых раненьняў прызнаць сваю паразу, сваю бескарыснасьць. Сэнтымэнтальныя алькаголікі і адукаваныя дармаеды, слабыя, непрацаздольныя з прычыны адсутнасьці ў іх гена працы, разбэшчаныя й слабыя, вартыя жалю й пагарды, добрыя да ванітаў, прагныя да грошай, кніжныя чарвякі, якія сьпяць з ілюзіямі: выкладчыкі, прадаўцы нікому не патрэбных ведаў, рэдактары часопісаў, якія ніхто не чытае, карэспандэнты шматтыражак, адміністратары стратных кінатэатраў, масавікі-забаўнікі, спэцыялісты па народнай творчасьці й дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, псыхолягі ў рабочых інтэрнатах, дыктары заводзкіх радыё. Літкансультанты. Усіх нас па інэрцыі корміць дзяржава. Корміць і будзе карміць. А мы будзем з надзеяй чакаць старасьці, прыціснутыя да сьценаў вясковага клюбу танцуючым натоўпам аднагодкаў. Бо старасьць дасьць нам спакой, павагу, магчымасьць узаконена лайдачыць. А яшчэ дасьць нейкія грошы, дасьць як і раней. Не, мы стараемся, мы напінаемся, мы напружваемся, але не стае моцы; мы выглядаем папросту сьмешна, лезучы вышэй, чым хацелі б — як конь перад кампутарам. Насамрэч жа нам ня хочацца араць усе гэтыя палі славы, а хочацца толькі рэгулярна есьці, чытаць любімыя кнігі, слухаць музыку, глядзець добрае кіно, паліць цыгарэты, зрэдку выпіваць, кахацца і абменьвацца лянотнымі думкамі, можна ў пісьмовай форме. І спаць, спаць пабалей. Чалавек створаны для шчасьця. Цяпер мы самотныя, ну, хіба што кніжку маем з друкарні пана якога-небудзь Маскоўскага Выдаўца, а ў старасьці займеем добрага, адданага сябра, Гемароя Прастатытыча Рак-Варыкозава. І пачнем чокацца зь ім недзе пад Заслаўем, праклінаючы юнацтва, ламаючы плястмасавы кубачак. Але пакуль

што нам цесна й душна ад прыяцеляў і знаёмых, і мы ствараем культ адзіноты, чакаючы першых дэфэктаў сардэчнай мышцы.

— Даа, — Сэнсэіч дастаў запалку й калупнуў ёй зуб. З Хадаком ён ужо некалькі хвілінаў пазьбягаў сустракацца поглядам, нібы той сказаў што-небудзь дурное й да таго ж яшчэ непрыстойнае. — Ну ты даў, салдацік. Дык вось яно што, значыцца. Вось пра што ты, значыцца, думаеш, служывы. Старасьць. Дапівай.

Але Хадок ужо спаў, мірна абняўшы вуркатлівы халадзільнік, замачыўшы на ноч гальштук у пяльменным булёне. Сэнсэіч вытрас з бутэлькі апошнія кроплі ў паўпусты хадакоў кілішак, кульнуў і асьцярожна куснуў сябе за далонь.

— Такая была жэншчына, — прамовіў ён, хітаючы галавой. — Эээ...

Сэнсэіч падняўся. Хадок скалануўся ў сьне. З роту ягонага выпаўз ручаёк сьліны.

— Старасьць, — Сэнсэіч выцер вусны Хадака анучкай, потым расставіў рукі, растыркаў пальцы й працяжна паўтарыў, скрывіўшыся:

— Ста-а-а-расьць...

Сэнсэіч ціха засьмяяўся, стаў у какетлівую позу й жэманна прабляяў тое ж слова.

— Што ты ведаеш пра старасьць, шчанюк?

Ён зноў сеў, ня гледзячы зьняў з паліцы над галавой нерасьпячатаны пачак “Прымы”, ускрыў яго й спраўна раскамечыў. Нахіліўся да Хадака, выцягнуў з унутранай кішэні ягонага пінжаку газэту. Хадок чмокнуў губамі.

— Давай, давай, — ухвальна прашаптаў Сэнсэіч, разгортваючы старонкі. — Хаця б у сьне... Ну, што там у нас пішуць?...

### 6. Татоэ-ута

Рукі Князькова прыкметна дрыжэлі. Ён плячом зачыніў шафу й драўляным крокам падыйшоў да стала. Хадок, раскінуўшыся ў гасьцявым фатэлі, як падатковы інспэктар, панура лыпаў вачыма. За ягонай сьпінай заслужаным пакараньнем налівалася сонца.

— Фух! Не распляскаў ні кроплі! — Князькоў ганарліва паставіў кілішкі на стол. — Таму што застаюся ўраўнаважаным у ва ўсім, у ва ўсім ведаю меру. І табе раю. А то, ведаеш... Ты, я гляджу, эцім та дзелам злоўжываеш... Эй, ты жывы там?

Хадок махнуў рукой. Князькоў падыйшоў да дзьвярэй,

праверыў, ці замкнутыя. Тут жа за ручку паторгалі, аднак дастаткова баязьліва, і рэдактар сеў за сол.

— Не бядуй! Ведаеш, у чым твая бяда? Ты з тых людзей, якіх нейкая там абстрактная праблема, або праблема сусьветнага маштабу можа давесьці да дэпрэсіі, а адсутнасьць каўбасы ў краме не закранае. Не спрачайся!.. Слухай, што шэф кажа. Вось калі жратвы ня стане навогул, тады ты на зямлю й спусьцішся. Ага! А злоўжываць — гэта доля слабых, дарэчы. Паглядзі на сябе. Ты ж малады здаровы мужык!

Хадок паспрабаваў кіўнуць, але гэта, як высьветлілася, было небясьпечна: не ківай — убьёт! Ён разглядваў свае туфлі й пакутліва думаў пра тое, куды лепш бляваць, калі прыйдзе момант: на дыван пад ногі або кінуцца да кветкавых гаршчкоў. Сёньня ў палудзень ён прыехаў у рэдакцыю, вываp ачаны й залеплены, каб перахапіць у каго-небудзь пяцёрку да заробку, пракаціўся па ламанай траекторыі, нібы вышчарблены більярдны шар, скрозь некалькі кабінэтаў, пакуль не ўпёрся тварам у твар зьніадкуль узьніклага Князькова. Рэдактар адразу расшыфраваў пасланьне, напісанае водарамі хадаковай пашчы, дзіўным чынам расчуліўся й пацягнуў да сябе. Цяпер Хадаку даводзілася, седзячы насупраць двух парцалянавых зайцаў на рэдактарскай паліцы, цярпець балбатню Князькова й цешыць сябе адчуваньнем, што ў гэтым кабінэце яго, Хадака, ня толькі палечаць, але й грошай дадуць. Толькі ня трэба пярэчыць.

— Я так думаю… — пачаў Князькоў, потым усьміхнуўся раптам, бліснула золата ў сховішчах роту. — Не, давай лепш спачатку. Сасуды пашырым. Фух! Ну што, палягчала?

Хадок пахістаўся трохі, моцна сьціснуўшы зубы, алькаголь паскакаў туды-сюды, пакіпціў нёба, але потым зьмірыўся, уклаўся, уладкаваўся ўтульным зьверам у хадаковых нетрах, мэсір Каньяк, воін-вызваліцель, слава яму, слава!.. Цяпер толькі дачакацца, пакуль рэдактар скончыць несьці сваю лухту, успомніць пра грошы, і тады можна будзе вярнуцца на родны беляшова-піўны бераг, наталяючыся прыбоем палёгкі, назіраючы за праспэктам, ня думаючы ні пра што.

— Я так думаю, — Князькоў працягнуў Хадаку цыгарэты. — Табе пісаць трэба. Пісаць. Ты ж свой талент, сволач ты такая — ты ўжо даруй старому, я любя, любя! — талент свой закопваеш у зямлю. Пісаць. Ты ж цудоўны журналіст, дый мала таго — ты ж паэт, надта, я лічу, здольны. Так што — пісаць, і нікакіх гвазьдзей. Што для гэтага трэба? Па-першае, дахаты вярнуцца. З бацькамі адносіны наладзіць. Па-другое. Я цябе вазьму зноў карэспандэнтам, толькі скажы. Па-трэцяе. Баба табе трэба. Жаніся, закладай падмурак, ствараў сям'ю.

Чуеш мяне? Я ж табе, такі ты растакі, дабра жадаю. Ды з такімі сувязямі… Ды з такой працай… Ты мяне паслухай. Каго там нялёгкая?

Князькоў нехаця ўзяў слухаўку. Хадок зноў адкінуўся ў фатэлі, пасыпаючы пінжак попелам. Ручка дзьвярэй чарговы раз задрыжэла, сьпярша асьцярожна пакланілася, затым заматлялася роспачна, потым нарэшце тарганулася й з сумным ляскатам шчоўкнула, вярнуўшыся ў гарызантальнае становішча.

— А, добры дзень, добры дзень, — Князькоў цьмяна пасьміхнуўся, драпежна паглядзеўшы перад сабой. — Ну, што ж не заходзіце, даражэнькі? Зачакаліся. Так, так, галоўнае — чытачы зачакаліся… Так, канешне. Чыталі, што пра вас пішам? Пра тэрапэўтычнае ўзьдзеяньне вашай творчасьці? Называлася “Гаючы радок”. Так.

Ермалайчык.

— Мы з вамі, Кастусь Пятровіч, заўсёды можам пасядзець культурненька, вы ж ведаеце. А чаму не? Чаму не? Ды хаця б у пятніцу. Да… да… Дамовіліся. Я к чаму. Чытачы чакаць ня могуць. Вершаў новых просяць. А вы думалі! Не. Не. Та-а-ак! Ну-ну-ну. І? А божачкі ты мой! І што? А ён? Дык… Не, я… Аяяй… Не. Ён?! Так. Так. Та-а-ак. Так. Да вы что? Зачэм? Как жа вы маглі? Ну-у, міленькі мой Кастусь Пятровіч… Шкірленка. Самуйловіч. Навошта? Так. Так.

Князькоў замаўчаў, падміргнуў Хадаку, жывот якога неяк надта гучна пачаў бурчэць нешта бурлацкае. У дзьверы пагрукалі. Хадок выцягнуў руку й пагрукаў у вадказ. Па той бок стала ціха, потым нерашучы грукат паўтарыўся. Хадок адказаў барабанным дробам. За дзьвярыма пашапталіся й вырашылі адступіць.

— Дамовіліся. І вам, і вам таго ж, — Князькоў цяжка паклаў слухаўку, пачакаў, пакуль вобраз Ермалайчыка канчаткова растае, задуменна паглядзеў на пустыя кілішкі, узяў іх і схаваў у стол. — Так, дык на чым я…

— На дабры.

— На чым? А… Ага. Пісаць. Пісаць. Перш-наперш будзем друкаваць цябе ў нашай газэце, будзеш, так бы мовіць, даваць жывы прыклад нашым пачаткоўцам і другім паэтам. А то, ведаеш, у мяне ўжо многія пытаюцца, тэлефануюць: што гэта за вядучы ў вас у літаратурнай старонцы, ды адкуль ён узяўся, і па какоўскаму такому праву… А тут пабачаць, што ёсьць у газэты свой штатны геній. Слухаю. У нас планёрка, званіце пазьней. Задзяўблі! Дык вось. Потым рэкамэндацыі возьмем, ня дасьць Ермалайчык, дасьць Шкірленка, ведаеш Язэпа Шкірленку, я думаю, і твой той вершык ня ўсе забыліся. Толькі не лянуйся, рабі што-небудзь, дзейнічай. Ты ж прападзеш з

такім жыцьцём. Вось дзе ты зараз жывеш? Ўсё яшчэ па тым тэлефоне, што даваў тады? Дзе? Ну ня хочаш казаць, ня трэба. Можа, на вакзале сьпіш? Ты скажы, калі што...

Князькоў падсунуў да сябе адзін з матэрыялаў, што набіраліся актуальнасьці на ягоным стале, схапіў асадку й тут жа з абурэньнем, нібыта і асадка, і паперчына былі вынікам нечай сьлізкай і брыдкай мімікрыі, адкінуў усё гэта на край.

— Я зь цябе пісьменьніка зраблю, паэта! Лі-та-ра-тара! Толькі пачні нешта рабіць. Не, тваё літаб'яднаньне — гэта добра, яно газэце прыносіць... гэтыя... дывідэндзі... апредзеленные... Але ж ты сам... Э... Пачынай што-небудзь рабіць, і ад дэпрэсіі тваёй мокрага месца не застанецца.

— Ды няма ў мяне ніякай дэпрэсіі, — пазяхнуў Хадок. — І грошай няма, і дэпрэсіі.

— А я кажу ёсьць! — усклікнуў Князькоў. — Ай! Ён дастаў кілішкі, падыйшоў да шафы й наліў яшчэ.

— Разнэрваваў ты мяне. Я кажу ёсьць дэпрэсія, ёсьць. Я ж бачу, я не сьляпы. Давай.

Яны выпілі.

— Ты ж ня пішаш нічога. А ты пішы. А ты пішы. Зусім разлюбіў творчасьць. Ты ж відаць, і чытаць ужо перастаў. Ты вось што чытаеш на дадзены момант. Я вось...

Князькоў зноў палез у стол.

— Дзе ж яна... Дзе... Сёньня ж была... Тут ляжала... Ну, неістотна. Гэта Адамовіч. Глыба, я табе скажу. Глыба.

— А члена саюзу зь мяне зробіце? — спытаў Хадок, прыкрыўшы вочы.

— Ну дык а я табе пра што талкую, дур'я ты башка! Я ж кажу — пісьменьніка! Я табе мэханізм ужо растлумачыў. Па-першае...

Кафка Франц Германавіч. Член Саюзу аўстра-вугорскіх пісьменьнікаў з 1912 г. Ляўрэат Дзяржаўнай прэміі імя прынца Фэрдынанда, Габсбургскай прэміі "Дружба народаў". Працаваў страхавым агентам Ашчадбанку, рэдактарам чэскага адзьдзелу выдавецтва "Аўстра-Вугорская літаратура". У часы першай сусьветнай вайны — удзельнік партызанскага руху. Аўтар сцэнарыяў мастацкіх фільмаў "Лісты да Бацькі народаў", "Суд у Слабадзе", "Жэўжык", "Прыгоды Язэпа К.".

Джойс Джэймс Іванавіч. Член Саюзу брытанскіх пісьменьнікаў з 1904 г. Ляўрэат Каралеўскай прэміі ІССР (за раман "Сьцяпанава адысэя"). Аўтар кнігі "Партрэт студэнта".

Сартр Жан-Поль (псэўданім Івана Паўлавіча Шаўца). Член Саюзу

французскіх пісьменьнікаў з 1939 г. За раман “Мілосьць” уганараваны прэміяй Акадэміі навук ФССР. Аўтар трылёгіі “Цяжкі шлях да нашай волі”.

І гэтак далей.

— ...і ўсё, — сказаў Князькоў задаволена. — Ну, давай па трэцяй, мы ж не на памінках. Паехалі. Слухай, можа, табе грошы трэба? Вазьмі, вазьмі пяцёрачку, не ламайся як дзеўка. Слухаю. Перазваніце празь дзесяць хвілін, я заняты. Калі ўжо Ірачка з водпуску выйдзе? Зусім без сакратаркі кепска... Зацяжараць тут, а ты ім замену шукай... А хто пойдзе на такі аклад... Слухаю. Добры. А, гэта вы. Ну як жа, як жа. Ён што, так і не перазваніў? Ну, ведаеце, заняты. Працы ў нас хапае. Зараз я яго запрашу, ён якраз у мяне. Што вы, што вы, усё ў парадку, гэта вы мне даруйце...

Князькоў шчыльна прыціснуў слухаўку да грудзей, ікнуў і прамармытаў:

— Гэта твая Валянціна, тая, якая гэ. Ты што, так і не перазваніў?

Хадок схаваў кашалёк і азірнуўся на дзьверы.

— Пагавары, пагавары, — Князькоў працягнуў яму слухаўку й накіраваўся да дзьвярэй, замёр перад люстрам і потым рашуча адамкнуў сябе для прагнага сьвету. Хадок абагнуў рэдактарскі стол. “Як на ланцугу”, — падумаў ён, змагаючыся з тэлефонным провадам.

— Слухаю.

— Добры дзень. Я размаўляю зь літкансультантам?

Голас у Валянціны Г. быў маркотны, ціхі, на паверхні чорнымі чаінкамі ляжала стома, на дне асела дзіўная гордасьць. Нягледзячы на тое, што гаварыла яна спакойна й нягучна, і словы яе, і інтанацыі былі нібыта замацаваныя адмысловым сталёвым каркасам; адразу адчувалася, што расхістаць яе будзе складана. Яна нагадала Хадаку вайсковую субмарыну.

— Так. Я слухаю.

— Па вялікім рахунку, гэта я павінна вас слухаць... Але вы, відаць, гэтага не разумееце... Што ж, шкада. Колькі вам гадоў?

— Вы тэлефануеце, каб...

— Зразумела. Не крычыце так, у мяне баліць галава. Вы прачыталі маю падборку?

— Прачытаў, і хачу вам сказаць...

— Хто вас выхоўваў, малады чалавек? Вы мяне так бесцырымонна перапыняеце... Перш чым так безапэляцыйна ацэньваць чужую творчасьць, вы бы навучыліся слухаць. Проста па-чалавечаму слухаць. Бяз гэтага ў вас нічога не атрымаецца. І яшчэ парада —

навучыцеся трымаць сябе ў руках. Інакш нічога ў жыцьці не дасягнеце. Мяркую, што дзякуючы свайму ўзросту я маю права даваць вам парады. Супакоіліся? Цяпер паслухайце ўважліва й, калі ласка, ня дыхайце так, у мяне, як я ўжо сказала, баліць галава. Ваша газэта — не самае прадстаўнічае выданьне з тых, зь якімі я супрацоўнічаю. І вашае стаўленьне да маіх вершаў, а хутчэй, іх поўнае ігнараваньне гонару вам ня робіць. Тым ня менш, я спадзяюся пабачыць іх у наступным выпуску літаратурнай старонкі, а лепш — у бліжэйшых нумарох. Я выказалася, цяпер можаце гаварыць вы.

— Ммм... Вы сур'ёзна лічыце, што вашы вершы ўяўляюць сабой сапраўдную паэзію?

— Вы так ня лічыце?

— Разумееце, па тэлефоне...

— Не ўхіляйцеся ад адказу. Растлумачце мне спакойна й прама, што ў маіх вершах вас зьбянтэжыла. Малады чалавек, не маўчыце, я вас ня зьем, я проста дапамагу вам разабрацца.

— Я лічу іх недасканалымі. Не, я ня думаю, натуральна, што ўсё настолькі безнадзейна, але вам трэба працаваць. Яны...

— Ну-ну, працягвайце, прашу вас.

— Яны сырыя. Яны... як бы вам сказаць... Вось калі б яны ляжалі перада мной...

— А чаму іх няма перад вамі? Можа быць, вы іх згубілі?

— Што вы...

— Малады чалавек... І вы заяўляеце мне пра недасканаласьць маіх вершаў, нават не праспрабаваўшы іх прачытаць? Безумоўна, я веру, што вы іх праглядзелі, пагарталі, так бы мовіць... Але паэзію так не чытаюць, паверце. Ведаеце, адзін мой сябар, цудоўны паэт Анатоль Аламян, настолькі любіў паэзію, што мог, толькі раз зірнуўшы на радкі, запомніць іх на ўсё жыцьцё й потым неаднойчы зьдзіўляў нас падчас нашых сямейных чытаньняў... Быў час, была эпоха... Чалавек жыў паэзіяй, але яму даводзілася працаваць з ранку да ночы бухгальтарам у нейкім будтрэсьце, а ў рэдакцыях сядзяць такія як вы... Калі б кожны быў на сваім месцы... Добра, жывіце пакуль, аднак лірычныя адступленьні скончаныя. Вы зразумелі мае пажаданьні? У бліжэйшых нумарох. Лепш за ўсё ў суботнім.

— Баюся, вы сябе пераацэньваеце. Вашыя вершы...

— А вы ня бойцеся. Ня бойцеся творчасьці. Ня бойцеся сьмеласьці й палёту. Бязь іх паэзія немагчымая. Помніце пра гэта, калі сёньня ноччу возьмеце ў рукі аловак.

— Я сумняюся, што вашыя вершы зьявяцца ў нашай газэце. Дасылайце нам што-небудзь новае, можа, пойдзе, а гэтыя вершы...

— Малады чалавек, не хаміце мне. Вы пашкадуеце. Дайце слухаўку рэдактару.

— Ён выйшаў.

— Тады намесьніку.

— Ён па іншым тэлефоне. Запісвайце: 24…

— Малады чалавек, вам будзе сорамна. Я магла бы кінуць слухаўку, як жанчына я маю на гэта права, але адчуваю, што цяпер проста вымушаная надрукаваць свае вершы ў вашай газэце. У імя ўсіх паэтаў, адрынутых такімі вось, прабачце за выраз, літаратурнымі кансультантамі. Усяго вам найлепшага. І помніце: перад вамі могуць зачыніцца многія дзьверы.

**7. Аварэ**

Такім чынам, вёска. Невялікая, і каб аніякай моладзі. Пятнаццаць двароў, па якіх сноўдаюць дабрадушныя дзяды ў ватніках і спартовых нагавіцах, з акулярамі на сэрцы й мазалямі замест рук, ды бабулькі, што пахнуць хлебам ды шчарбата сьпяваюць немудрагелістыя песьні. Роварна-дранікавая вёска. Але чаму вёска? Лепш хутар. Глухі, сярод міннага поля балотаў і дыснэйлэнду пушчы. Журавінавы рай. Не, вёска. Бо ў доме Хадака мусіць быць электрычнасьць. Ад лядоўні, сьвятла ды інтэрнэту адмаўляцца глупа. Вёска, дзе не было б ніводнага цікаўнага жыхара. Хадок чалавеку люпус эст. Вёска, таму што гараж, а ў гаражы старэнькі форд, прыдатны, аднак, для паездак у горад па ўсё тое неабходна-прыніжальнае, што не заменіш дранікамі. Скрыні віскі ў падвале й кніжныя альпы на гарышчы. Двухмэтровая агароджа й кулямёт максім. Вангогаўскія сланечнікі заглядваюць з-за сьпіны ў кнігу: “Салодкае адчуваньне шырокай хваляй разьлілося па мне, здавалася, без усялякае нагоды. Яно ўмомант напоўніла мяне безуважнасьцю да жыцьцёвых нягодаў, зрабіла іх бяскрыўднымі, а хуткаплыннасьць існаваньня — прывіднай, кшталту таго, як гэта робіць любоў, напаўняючы мяне нейкай каштоўнай сутнасьцю: ці, дакладней, сутнасьць гэтая была не ў ва мне, яна была мной. Я перастаў адчуваць сябе пасрэдным, выпадковым, сьмяротным. Адкуль магла прыйсьці да мяне гэтая магутная радасьць?”

Кантраст паміж тым аповедам, які цягнуў у апошнія гады за сабой прывязанага Хадака, і гэтымі невыносна прыгожымі, чыстымі, як першая чалавечая сьляза, словамі, якія ён, Хадок, раптам успомніў цяпер з такой рэзкай яснасьцю, прымусіў яго адплюшчыць вочы й

застагнаць. Сьпіна сьвярбела ад прасьціны, нібы пасьцель за ноч абрасла мужчынскай шчэцьцю. Хадок прыпадняўся, ложак быў поўны сухіх колкіх крошак. Галава гарэла, ён адчыніў фортку й прачнуўся канчаткова: тысячы дэталяў навакольнай рэчаіснасьці ўспыхнулі й, балюча джаліўшы зрок, сталі на свае месца. Ён апусьціў ногі на падлогу, ад яго спалохана, але грацыёзна адскочылі ў бакі зьбітыя ў шэры пух пылінкі. Калісьці й гэтая сьцяжынка вяла ў накірунку да Свана, але яму захацелася збочыць, і цяпер шчодрая душа Марсэля — раскоша, але не дыханьне.

— Галоўка бо-бо, салдацік? — рыпнуў дзьвярыма Сэнсэіч, досыць, зрэшты, асьцярожны й з напісанай на твары рашучасьцю тут жа рэтыравацца, калі ён апынецца непажаданым. — Пасьнедаем? Не, ты скажы, калі што, я надакучваць ня буду.

На стале ўжо астывала нешта тлустае, чорнае, плявучае. Хадок выпіў гарэлкі, паклаў віскліві кавалачак на кавалак хлебу, але потым скінуў назад і адсунуў ад сябе кілішак. Сэнсэіч зірнуў на яго недаўменна, але не сказаў нічога й працягваў жаваць, раз-пораз зацікаўлена дасьледуючы языком свой рот.

— Гарбата ёсьць? — спытаў Хадок, адвярнуўшыся. — Я па піражныя схаджу.

Сэнсэіч разьвёў рукамі й падняў вочы ўгору: кожны сам сабе пан. Хадок накінуў кашулю й з агідай да сваіх адлюстраваньняў выбег з кватэры. На кожнай лесьвічнай пляцоўцы стаяла па пэнсыянэры, яны лавілі ротам паветра, Хадок пераскокваў прысланёныя да парэнчаў торбы, сонечныя блікі блыталіся пад нагамі. Ён набыў два мядовых і два пакецікі “Ахмаду”, але адстаяў такую чаргу, быццам скупіў увесь мясны адзьдзел. Сэнсэіч піў ваду з эмаляванага кубку.

— Ды я толькі адкушу.

Хадок адрэзаў нажом палову, і Сэнсэіч далікатна зачвякаў. На пліту быў грохнуты стары Сэнсэчаў імбрык, Хадок чыркнуў запалкай, уключыў газ, і тут жа у суседнім пакоі загуло — страшна, прасьцюжана, трывожна.

— Тэлефон, — прамовіў Сэнсэіч і зьдзіўлена цокнуў. Хадок прапусьціў яго ў передпакой і прыбавіў агню.

— Цябе, салдацік, — уздыхнуў Сэнсэіч, вяртаючыся. — Маці, відаць, а?

Хадок прайшоў да тэлефона, выцер рукавом слухаўку:

— Слухаю.

— Добрай раніцы, — сказала Валянціна Г. нязмушана, — вы чаму не на працы?

Хадок набраў у лёгкія паветра.

— Зрэшты, вашая працоўная дысцыплінаванасьць мяне не хвалюе. Магу вам паведаміць: любіць вас ваш рэдактар, ня ведаю толькі, за што. Сказаў, што наконт вершаў трэба размаўляць выключна з вамі.

— Вы адкуль даведаліся мой нумар тэлефону?

— Ад рэдактара, натуральна. Дарэчы, ён жа патлумачыў, што мае вершы цалкам могуць пайсьці ў суботні нумар. Спадзяюся, вы ўжо абдумалі нашу ўчорашнюю размову і зьмянілі сваё стаўленьне да маёй творчасьці?

— Паслухайце, — нэрвова сказаў Хадок. — Чаму вам так карціць надрукавацца менавіта ў нас? І чаму гэта навогул для вас так істотна — надрукавацца? Зразумейце, сэнс паэзіі ня ў гэтым. Урэшце, можна нідзе не друкавацца й быць сапраўдным паэтам, а можна штодня бачыць сваё ймя ў розных выданьнях і быць пры гэтым звычайным падмайстрам ад літаратуры.

— А цяпер вы паслухайце, малады чалавек. Я вам ужо казала, што давяду справу да пераможнага заканчэньня хаця б з прынцыпу... каб такія малакасосы, як вы, не заміналі творчым людзям самавыражацца, рэалізоўвацца. Вось так. Калі вы чыталі мой ліст...

— Чытаў, чытаў...

— Мусіць, гэтак жа ўважліва, як і вершы. Дык вось, калі вы яго чыталі, то ведаеце, што кампэтэнтныя экспэрты думаюць пра маю творчасьць. Вам знаёмыя імёны Валерыя Піскунова, Зьмітрака Аглаблёвага?..

— Дзякуй богу, не.

— Не хаміце. Я вам в матері гожусь. А празаіка Я., а крітіка Ш.?.. А Константіна Петровіча Ермолайчіка?... Что скажете?

“Ура”, — стомлена падумаў Хадок. — “Яна злуецца. Яны заўсёды, калі раздражнёныя, пераходзяць на расейскую, нават самыя зацятыя байструкі гэтага дзяўбанага адраджэньня”.

— Што, маўчыце? — голас Валянціны Г. палагаднеў. — Вось бачыце, такія таленавітыя людзі — і падтрымалі мяне. А вы тут прыкідваецеся знаўцам паэзіі... Сорамна. Ну скажыце шчыра: вы што, праўда думаеце, мае вершы слабейшыя за тыя, якія выходзяць на гэтай вашай літаратурнай старонцы?.. Ну што вы зноў маўчыце?...Вы, малады чалавек, параўнайце, вазьміце зараз жа газэту й параўнайце. Што, перакаваліся? Мае вершы напісаныя пра-фэ-сій-на! Ну што вы маўчыце? ..Ня можаце нічога адказаць?.. Дык я вам усё патлумачу. Рэч у тым, што ўсе гэтыя вашыя аўтары прыходзяць да вас на паседжаньні, у рот вам заглядаюць, ходзяць

перад вамі, прабачце, на задніх лапках, і вы, ваша ягамосьць, ласкава дазваляеце ім зрэдку пацешыцца. Бедныя графаманы... А вам прыемна, што вы для іх і цар і бог. Вы ж друкуеце толькі тых, хто пад вас, так бы мовіць, душэўна кладзецца... хто сплочвае падатак сваёй любоўю і сваімі прыніжэньнямі. А я, дарэчы, ужо напісала трыста чатырнаццаць вершаў і восем паэмаў, і ніколі ні перад кім не прыніжалася, і ўсе яны былі надрукаваныя ў розных часопісах і газэтах. Так што я бы вельмі не хацела, каб у каго-небудзь склалася ўражаньне, што наша размова — гэта дыялёг крытыка й паэта, рэдактара й паэта. Наша размова — дыялёг паэта і беднага закамплексаванага хлопчыка, які чамусьці лічыць, што мае права распараджацца чужымі душамі. Як сказаў аднойчы Толік Аламян...

— Па шчырасьці, вы мне надакучылі... Здаюся, — перапыніў яе Хадок і дэманстратыўна пазяхнуў. — Вы мяне ўзялі ізморам. Хочацца вам надрукавацца — калі ласка. Калі б ад гэтага хаця б што-небудзь залежала... Паверце, ад таго, што вашы вершы выйдуць у нашай газэце, ня зьменіцца анічога — ні ў вашым жыцьці, ні ў маім, ні ў чыім-небудзь іншым. Усё. У суботнім нумары. І, спадзяюся, вы ад мяне адчэпіцеся.

— Нічога вы не зразумелі, — уздыхнула Валянціна Г. — Нічога. Калі-небудзь усё да вас дойдзе. Навучыцеся адрозьніваць добрую паэзію ад кепскай. Бывайце здаровыя.

Да піроўжных ён не дакрануўся, задуменна выпіў астылую, алеістую гарбату, якую прыгатаваў клапатлівы Сэнсэіч, вымыў посуд, прыняў душ. Пад гаспадарскі кашаль з суседняй прыбіральні пачаў вынішчаць мярзотныя рудыя валаскі на падбародзьдзі, адзначыўшы, што не зашкодзіла б з заробку наведаць цырульню. Няўжо надыйшоў час паставіцца да ўсяго гэтага сур’ёзна? Можа, мае рацыю гэтая Валянціна блін гэ, можа, і праўда, надта ўжо шмат ён на сябе бярэ. Аднак Хадок тут жа шырока пасьміхнуўся свайму адлюстраваньню, узгадаўшы пошлы, танны, няўмелы, вобмарачны містыцызм опусаў старой калоды, іх псэўдафілязофію й кішэнны размах. Так, навешваць на людзей цэтлікі я ўжо навучыўся добра. Аднак які ж выдатны аб’ект гэтая бяздарная ідыётка. “Які кашмар!”. Нічога ня скажаш, чалавек заслужыў права на такі тон у тэлефонных размовах. Талент якіх мала. За магчымасьць надрукавацца такая паэтка, відаць, зь лёгкасьцю дала б усёй рэдакцыі ўключна з вахторкай і прыбіральшчыцай. Ды ну яе ў дупу, падумаў Хадок і парэзаў сабе шыю.

Толькі апынуўшыся зноў унутры свайго чорнага гарнітура, Хадок набыў былую ўпэўненасьць. Сэнсэіч не спыняючыся вымармы-

тваў захапленьне тым, што пасьля стогадовага перапынку ў ягонай кватэры ўваскрос тэлефон. Сапраўды, за ўвесь час існаваньня кватаранта між гэтых сьценаў званілі, бадай, хіба аднойчы — гаспадару наконт пераносу дня выплаты пэнсіі. Валянціна гэ вось на пэнсіянэрку не падобная, ёй, хутчэй за ўсё, гадоў сорак пяць, маладжавая, поўная праведнай моцы, можа быць, нават паліць цыгарэты з мэнтолам, тоненькія такія, нібы шпрыцы. Жыве сабе алавянным салдацікам, мае ў шафе вечаровую сукенку й вышэйшую адукацыю, жыве сабе пажывае, паміж дзецьмі, мужам і працай штампуючы неўпрыкмет клімактэрычна-гістэрычныя радочкі пра блізкую вечнасьць і бразыльскае каханьне. Валянціна Г. Ён выйшаў з дому, уяўляючы дзіўнае відовішча — шыкоўны дарагі гарнітур, глазураваныя пылам туфлі, крывавы парэз зьлева ад кадыка, гальштук “Мара снайпэра”, вочы алькаголіка-аматара, сэнсэічава прыма ў зубах, у руках — вядро са сьмецьцем, прыгожа накрытае бясплатным дадаткам да нейкай газэткі. Сьмецьце паляцела ў кантэйнэр, вядро — у хмызьняк, а сам Хадок быў закінуты ў калектар мэтро й выпхнуты адтуль памятым калекам праз дваццаць хвілін у цэнтры гораду.

Прадавец Сьвятлана Трыпуціна стаяла над вальерам Паўла Каэльё і, трымаючыся рукой за край прылаўку, балянсуючы на высокіх абцасах, цярпліва дапамагала строгай жанчыне ў аранжавым (хто ведае, магчыма, Валянціне Г.) выбраць кнігу. Хадок схаваўся за расейскай клясыкай, Дастаеўскі расправіў плечы, Талстой распушыў бараду, ты одін мне надежда і опора, велікій русскій язык.

— Думаеце, яму спадабаецца? — сувора пыталася пакупніца, зь недаверам пазіраючы на брашурку ў белай манішцы. — Думаеце, ён любіць пра алхімікаў?

— Моладзь добра раскупае, — дыпляматычна адказвала Сьвятлана й глядзела ў вакно.

— А вось ён яшчэ казаў тады… У мяне запісана, — пакупніца зь нечаканым спрытам вынула блякнот. — Рычард. Рычард Бах. Можа, лепш Баха? Усё-такі музыка. Ён у мяне музыкант.

— Ёсьць і Бах.

— Не, давайце лепш гэтага Каэллі. Вох, толькі б спадабалася. Пляменьнічак у мяне, каб вы толькі дзевушка зналі…

Жанчына ў аранжавым пайшла да касы. Хадок надзеў акуляры й вызірнуў з-за славутых сьпінаў.

— Дэвюшка… — ён узьняў указальны палец. — Мэнья інтэрьесуэт уан поэт, поджалюста. Он есть дженчіна. Ірына Пфайфэль-боймэр, поджалюста. Экстралірік. Собраніе сочіненій.

Не даючы дзяўчыне апомніцца, ён схапіў яе за локаць і пацягнуў за штабэлі майстроў сусьветнай прозы.

— Гэта руская паэтэса? — агаломшана спытала прадавец Сьвятлана Трыпуціна, прыціскаючыся да сьцяны.

— Сатурніанская, — таропка рыкнуў Хадок. — Вы мяне пазнаеце? Я той злачынца, зьневажальнік мудрых кніг, які падманам да цябе пранік, і растаптаў, паганы прайдзісьвет, твой абярог — гранатовый браслет... Тургенеў, срэбра бунінскіх алеяў — хрусьцелі пад туфлямі бармалея... Які кашмар! Дык пазнаеце мяне?

— А, вы той самы пакупнік, які тады нарабіў тут вэрхалу? — яна засьмяялася, потым стала сур'ёзнай. — Слухайце, а вы часам не прыхапілі з сабой...

— За каго вы мяне прымаеце? — Хадок пакрыўджана ўзяў у рукі “Альхіміка”.

— Не, я... А жарты ў вас глупыя.

— Канспірацыя. Спадзяюся, я ўключаны ў якія-небудзь чорныя сьпісы? Упэўнены, што мой фотаробат маецца ў кожнага супрацоўніка вашай кнігарні. Даводзіцца маскіравацца. Як вам, дарэчы, Каэльё? Мне... Я навогул ненавіджу кнігі...

Ён сустрэў яе а восьмай ля кнігарні. Высьветлілася, што яе літаратурныя прыхільнасьці не сягаюць вышэй за Ільлю Стогава, што скончыла яна бібліятэчны факультэт інстытуту культуры, што ў кнігарні працуе толькі месяц, а да гэтага тырчэла ў загадкавым філіяле недзе на ўскраіне, што жыве яна з бацькамі, любіць Ванэсу Мэй і марціні. Хадок знайшоў у яе кішэні бэджык прадаўца, начапіў сабе на штрыфель і ў такім выглядзе давёў пад руку прадаўца Сьвятлану Трыпуціну да самага парку імя Луначарскага. Яны выпілі там кавы, Хадаку давялося дзесяць хвілін стаяць, быццам малпе, за прутамі агароджы і назіраць, як ягоную спадарожніцу ўзьбівае ў сваім міксэры хмуры атракцыёншчык. Потым Сьвятлана набыла піва, яны прыселі на лавачку пад нейкім заслужаным дубам, дзе непрыкметна перайшлі на ты й выкурылі ў гонар гэтага цыгарэту на дваіх.

— Ты чаму не замужам, такая эксклюзыўная? — запінаючыся, спытаў Хадок, выцягнуўшы ногі ўпоперак дарожкі й гледзячы на палаючае кола агляду.

— Я — гэта мае праблемы, — усьмешка Сьвятланы трохі паблякла. — Ты скажы, чаму ты адзін, у тваім веку?

— Які там век, — халодна прамовіў Хадок. — Разумееш...

Яна паглядзела на яго зацікаўлена.

— Разумееш, — працягваў Хадок без асаблівай ахвоты. — У

мяне, відаць, занадта высокія патрабаваньні... да той жанчыны, якой я дазволіў бы... Мне патрэбная ня жонка...

— Ага. Ня жонка. А хто ж? Муж?

Хадок паморшчыўся.

— Ня жонка, не каханка, ня маці... Не дзелавы партнэр... Не пакаёўка... Не машына для нараджэньня нашчадкаў...

— Усё гэта разам?

— Не зусім. Мне патрэбная змоўшчыца, паплечніца па вялікай змове супраць гэтага сьвету. Вось, напэўна, так яно найбліжэй да ісьціны. Разумееш?

— Не.

— Ну і правільна. Лухту нясу ўсякую.

Ён ня стаў больш нічога распавядаць пра сябе, патэлефанаваў зь яе мабільнага на працу. Там ужо чакалі Рапухін, Раіса Сяргееўна і Ірына Маратаўна. На запрашэньне паехаць зь ім Сьвятлана пагадзілася не адразу, ён абыякава адвярнуўся, калі яна, хмурачы пад ветрам сумненьняў лоб, размаўляла зь нейкім Пашам і кімсьці яшчэ, жаночага полу, гучным і брахлівым. “Пабачыш такое шоў”, — Хадок закатваў вочы й цягнуў яе ў мэтро. Хутка яны ўжо ўваходзілі ў кабінэт, і Сьвятлана чырванела пад двума падазронымі позіркамі. Адзін Рапухін не бянтэжыў яе ўвагаю, увесь час нешта нагаворваючы на ўяўны дыктафон. Рапухін. Хадаку часам здавалася, што перад вачыма Рапухіна заўсёды знаходзіцца нябачны нікому, акрамя гэтага паэціны, вялікі й бліскучы чырвоны шар, і Рапухін пастаянна нацэлены поглядам на пунсовую сфэру, а шар пераліваецца бліскучай лявою, успыхвае й гасьне, і калі Рапухін адвернецца хаця б на імгненьне, яму кірдык.

— Наш новы аўтар, — урачыста абвясьціў Хадок, уладкоўваючыся на сваім крэсьле. — Алівія Траянская. Прашу любіць і жалаваць. Алівія сёньня чытаць нічога ня будзе, яна паслухае нашых мэтраў. Хто пачне?

— Яны ж ненармальныя ўсе, — шапнула Алівія Траянская Хадаку на вуха, калі Рапухін, пырскаючы сьлінай на замерлых плямавак, чытаў свой найсьвяжэйшы, як толькі што злоўлены карп, шэдэўр. Хадок прыўзьняў у адказ бровы. Перад імі сядзела Раіса Сяргееўна, са сьледам алею на спадніцы, маляўнічай дзіркай на калене й рамантычнай кропляй кетчупу на бюсьце, сядзела й нібыта паўтарала пра сябе нешта, біла кулаком па стале ў такт. Ірына Маратаўна часала сабе падпахі й цёрла нагой аб нагу, праважаючы вачыма жоўтыя пырскі рапухінскай сьліны, што падалі на яе сшытак. Рапухін хадзіў тудысюды па праходзе, сьмярдзеў і крычаў, як

дырэктар прыватызаванага заводу. Сам Хадок давяршаў, несумненна, гэтую карціну — рукі ў кішэнях, паўзучая ўсьмешачка, даўжэзныя ногі, кудлам на галаве: плод страсьці Мэфістофэля й Пэпі Доўгая панчоха. Яму раптам стала гідка, ён захацеў зараз жа спыніць уласнаручна распачаты перад сваёй спадарожніцай фарс, але вось ужо падымалася зь месца Раіса Сяргееўна, а потым Ірына Маратаўна, высакамерна агледзеўшы прысутных, доўга тыкала ў нос Хадаку вострымі, як лёзы, лістамі, і Рапухін крышыў сабе за пояс булку. Сьвятлана не сьмяялася, яна спачатку сачыла за хадаковым актывам спачувальна й жыва, аднак хутка пачала гуляць сама з сабой у камень-нажніцыпапера, вывучаць свае пазногці, гартаць газэты на сталах. Хадок маркотна глядзеў на яе ногі й разумеў, што вінаватыя ў існаваньні сёньняшняга дня толькі яны.

— А чаму ты з такой агідай называеш іхнія імёны? — запыталася Сьвятлана, калі яны паволі йшлі праз сквэр. — Я б на іх месцы пакрыўдзілася…

— Нічога асабістага, — змрочна патлумачыў Хадок. — Я проста ненавіджу імёны па бацьку. Ведаеш, імёны па бацьку — гэта такія груваcткія жалязякі, якія прыкутыя ланцугом да шыі кожнага дарослага грамадзяніна гэтай краіны, бессэнсоўныя й вельмі цяжкія, і кожнаму, хто тут жыве, даводзіцца да сьмерці цягаць іх за сабой. Так што радуйся, пакуль не прыкавалі.

— Што ж ты прапануеш? — спытала Сьвятлана без асаблівага інтарэсу.

— Ня ведаю. Вось за мяжой — там… Сіньёр, містэр, пан, герр… Прыгожа й лёгка. Гэткія зручныя заплечнікі, якія ніколі ня выйдуць з моды… Вось так, сіньярына Траянская.

Яны даехалі да пераходу на другую лінію. Хадок выйшаў разам зь ёй, насупраць іх праехаў пусты, але асьветлены цягнік. Яму падалося, што яна прымаруджвае крок.

— Да якой нам станцыі? — спытаў ён нязмушана.

— Мне ў другі бок, — хутка сказала яна й спынілася. — Ня трэба мяне праважаць, праўда. Калі ты гэта меў на ўвазе.

— А тэлефонны нумар, каб заўтра без праблем набраць яго і з сумам прамовіць: “Жэ ву зем!”?

— Слухай, прабач, але нічога не атрымаецца. Праўда. Не крыўдуй. Я ж не змоўшчыца й не тэрарыстка, а галоўнае — у мяне ёсьць свае… мэты… мэты ў жыцьці. Даруй. Ну, усё. Я пайшла. Ну. Ну паслухай, я — гэта ня тое, што табе трэба. Будзь мужчынам. Быва-ай.

Яна чмокнула яго кудысьці ў скронь, рэзка, ледзь ня страціўшы раўнавагу, павярнулася й зацокала ўніз па прыступках. Хадок глупа

ўсьміхнуўся сустрэчнаму міліцыянэру. Калі б ён лячыўся ў мэдыцынскім цэнтры “Медеяплюс”, абавязкова выйграў бы гэтую бітву. Эфэктыўнае лячэньне катаракты, міжрэбравай нэўралгіі, гемарою, бясплодзьдзя, хадакізму, скалёзу, літкансультантызму, злаякасных літаратурозаў галаўнога мозгу, алькагалізму...

— Пачакай, — ён кінуўся ўсьлед за ёй. Яна стомлена павярнулася, адна з дваццаці аднолькавых імклівых сьпінаў, раздражнёна ўздыхнула.

— Можа, пазычыш мне пару тысяч? — пяшчотна спытаў Хадок, любуючыся яе правым вухам. — Я аддам.

— Натуральна, — сказала яна ледзяным тонам і адкрыла валізку. — Можаш не аддаваць.

Хадок сунуў грошы ў кішэнь і прамяніста ўсьміхаючыся пайшоў прэч.

**8. Тадагота-ута**

Існуюць і іншыя кнігі. Перад вачыма Хадака практычна кожную хвіліну знаходзіўся ягоны ўласны index librorum prohibitorum, які папаўняўся з жахлівай рэгулярнасьцю. Вясёлкавыя соплі так званых жаночых раманаў і пратухлая крывянка так званых мужчынскіх. Амэрыканскія дэтэктывы — дэтэктары чытацкага густу: ці здолееш дачытаць да разьвязкі. Палітычныя дэтэктывы, якія назваць літаратурай можна хіба за вялікія грошы. Расейскія дэтэктывы, пра якія лепш не казаць зусім нічога. Так званая эратычная літаратура — папяровая прылада для пасьпяховага рукаблуду. Фэнтэзі разам з фантастыкай, паразыты, створаныя інфантыльнымі баязьліўцамі. Беларуская літаратура, што эфэктыўна адбівае ўсялякую ахвоту чытаць навогул. Так званая клясыка, якая зьяўляецца насамрэч ні чым іншым, як толькі бяздарнымі высокамаральнымі выдзяленьнямі купкі самазванцаў. Модныя кніжонкі, дзе коітус спрабуюць прадставіць філязофскім паняцьцем, а прыроджаны садызм — праявай рэвалюцыйнасьці. Школьныя сачыненьні маладых наркаманаў, якія быццам бы гавораць ад імя нейкіх там сумнеўных пакаленьняў. Замаскаваная пад літаратуру журналістыка. У вагонь яе, разам з аўтарамі. А Хадака — у кіпячую смалу, за тое, што займаецца іх гадоўляй.

Хадок сядзеў у тым самым кабінэце рэдакцыі, дзе па вечарох адбываліся паседжаньні літаб’яднаньня, і гартаў суботні нумар. Стол, які ён заняў, належаў Мартыновічу, аднак той з раніцы паехаў у прэс-

цэнтр; насупраць карэспандэнтка па прозьвішчы Сушкіна набірала на кампутары курсавую для сына. Трэці жыхар кабінэту, немалады цнатлівец зь вечна мокрай верхняй губой, быў на бальнічным. Хадок марна спрабаваў засяродзіцца на зьмесьце газэты, дзе оды дзейнай уладзе перамяжаліся з панылымі развâ жаньнямі на тыя нудотныя тэмы, якія Князькоў называў маральна-сацыяльнымі. Людзі на фатаграфіях глядзелі змрочна і хваравіта, быццам гэта былі здымкі зьняволеных. Відавочна, суботні нумар мусіў карыстацца посьпехам у пэдафілаў: на восьмай старонцы разьмяшчалася досыць выразная выява голых дзяцей — не стрымаўшыся, фатограф схапіў іх буйным плянам. Подпіс абвяшчаў: “Бывай, лета!.. Восемдзесят гадаванцаў дзіцячых садоў гораду адпачылі сёлета на азоўскім узьбярэжжы”. Хадок, ціха радуючыся, адклаў ад сябе газэту. На стале пад шклом ляжалі разнастайныя паперкі, і на кожнай — тэлефонны нумар. Людзі, людзі, тысячы людзей. Вы жылі сабе спакойна, чэсна падманвалі астатніх, усталёўвалі на гэтай зямлі шчасьлівае рабства, сумленна кралі й ламалі чужыя жыцьці, здраджвалі й забівалі веру, без наркозу ампутавалі сумненьні ў непакорных. І гадаць не гадалі, што ў пэўны дзень у вашым сусьвеціку зьявіцца, выціраючы ногі, карэспандэнт Мартыновіч і нагадзіць на вашу ўлюбёную, утульную адзіноту — ляжа з вамі ў ложак, прылепіць вам нейкія незразумелыя думкі, сходзіць па маленькаму на вашыя звычкі, выкатае ў смале й пер’і, зьесьць усе запасы ў лядоўні, зробіць дзьве памылкі ў вашым прозьвішчы і адну — у імені, кіне апаганенымі на ўсеагульны сьмех ды атрымае за гэта ганарар. Карэспандэнт. Гучыць як назва зубной пасты. Хадок здолеў унікнуць гэтай падаючай на яго пасады. А Мартыновіч нават не спрабаваў. Мартыновіч скончыць рэдактарам. Хадок скончыць самагубствам. Не цяпер, натуральна. Бо пакуль што яму занадта цікава, што скажуць пра яго, пайдзі ён на такі крок, што ўспомняць, ці ўспомняць навогул. Відаць, чалавек сасьпеў для самагубства, калі яму ўжо зусім напляваць на тое, якімі словамі яго памянуць. А ён, Хадок, яшчэ надта зялёны фрукт на гэтым чорным пякельным дрэве.

А й сапраўды, цікава, што сказаў бы на ягоных памінках Сэнсэіч, і зь якімі вачыма піў бы Князькоў, і плакала б Раіса Сяргееўна, і якой прамовай прарвала б Ірыну Маратаўну, і што напісаў бы Рапухін, і ці прыйшла б Сьвятлана Трыпуціна, хрыстапрадавец, і ці засумнявалася б ва ўласнай велічы Валянціна Г.? І ці адбыліся б навогул яны, гэтыя памінкі... Пакуты маладога робата Вэртэра. А як жа мары пра хутарок і Пруста ў шклянцы зь віскі? Хадок паварушыў нагой, і ў мартыновіцкім стале салодка дзынькнула. Раніцай у

нядзелю ён зноў бачыў сябе на сваім хутары, але нешта зьмянілася. Ці то вёсачка падступіла надта блізка, ці то ў віскі падсыпалі атруты, ці то на агароджы накрэмзалі мацернае слова. Самагубства. Калі б Хадок быў пісьменьнікам, абавязкова напісаў бы раман з наступным сюжэтам. Чалавек сасьпеў для таго, каб адправіць сябе на той сьвет, роспач у ім кіпіць, аднойчы ён уваходзіць у будынак гарвыканкаму, выпадкова апынаецца ў падвале, натыкаецца на таямнічыя дзьверы і апынаецца ў мінулым. Гадоў так на трыццаць назад. Яму прыходзіць геніяльная думка: ён знаходзіць сваіх бацькоў, намагаецца перашкодзіць ім сустрэцца й пабрацца шлюбам і такім чынам замінае свайму нараджэньню. Прасторы для прозы болей чым дастаткова. І суровыя будні таталітарызму, і зласьлівасьць героя — ён жа ведае, чым скончыцца таталітарны трылер, і каханьне, і гумар. А напрыканцы — што-небудзь цьмянае. Хай здагадваюцца.

У кабінэт увайшоў Мартыновіч. Хадок падняўся й падыйшоў да вакна.

— Што, на плянэрку? — Мартыновіч кінуў шалік на газэтную падшыўку.

— Пагрэцца зайшоў, — адказаў Хадок не абарочваючыся.

Па вуліцы марудна праехаў грузавік. У кодабе на кучы чырвана-сьцяжнага лісьця сядзелі жанчыны ва ўніформе жылкамунгасу й прытрымлівалі рукамі вялізныя чорныя пакеты. Расчлянёны труп лета.

Па той бок дзьвярэй пачулася далікатная валтузьня, Сушкіна ліхаманкава сьціснула мышку. Адначасова зазваніў тэлефон, Мартыновіч падняў слухаўку і адрывіста загаварыў пра хваробы цэнтральнай нэрвовай сыстэмы. Хадок азірнуўся.

Спачатку ў кабінэт, лёгка закрануўшы пустуючы стол, заехала інвалідная каляска й спынілася ля самага ўваходу. За ёй стаяў цяжкаадрозны паміж шафамі мужчына ў скуранай куртцы й прэзыдэнцкіх вусах. Саму каляску займала невысокага росту жанчына ў сьветлым вязаным швэдры й доўгай спадніцы ці то цёмна-сіняга, ці то чорнага колеру. На выгляд жанчыне было гадоў сорак, сьпіна яе была горда выпрастаная, хаця было прыкметна, што такая пастава даецца наведніцы зь цяжкасьцю. На твар быў намертва прыклееены гідлівы, сумна-арыстакратычны выраз. Зрэшты, кароткая стрыжка, сухія сьціснутыя вусны, вузкія скулы й вялікія вочы, якія сьвяціліся своеасаблівым блакітам палаючага газу, рабілі яе досыць прывабнай. Відавочна, сапраўдны яе ўзрост сягаў за пяцьдзесят, але брыдкія паўсотні аніяк не стасаваліся зь ейнымі плянамі.

— Дзякуй, Мішаня, ты можаш пачакаць звонку, — прамовіла

жанчына, і яе рыкша, кінуўшы на каляску поўны пашаны погляд, хадою апальнага візіра падаўся назад і выйшаў. — Ну што ж, добры дзень работнікам пяра. Давайцек’я ўгадаю, хто з вас вядучы літаратурнай старонкі.

Сушкіна з палёгкай паглядзелася ў люстэрка й зашаргатала лістамі. У суседнім кабінэце раскацiста засьмяяліся. Мартыновіч паклаў слухаўку й зьдзіўлена скасавурыўся на Хадака. Яны міжволі выцягнулі рукі па швах. “Як быццам дэбют стрыптызёраў у жаночым клюбе”, — адзначыў Хадок. Жанчына-інвалід думала нядоўга — яна апусьціла вейкі, напружыла плечы, пакутліва выдыхнула й з хваравітай усьмешкай пад’ехала да вакна.

— Ну канешне ж гэта вы, — мезенец яе правай рукі зрабіў кароткі дырыжорскі рух. — Прыкладна так я вас, малады чалавек, сабе і ўяўляла. Гэтыя дзіцячыя губы... гэты чорны касьцюм... гэтая разьвязнасьць...

— А вы, значыць, Валянціна... Валяціна ге, — сказаў Хадок, хаваючы вочы й падсоўваючы да сябе попельніцу.

— Толькі ня трэба гаварыць, што вы забыліся пра сваё абяцаньне, — паморшчылася Валянціна Г. — З суботай, я гляджу, вы мяне элемэнтарна падманулі. Аднак шанец у вас, малады чалавек, яшчэ ёсьць.Толькі што я была ў рэдактара, і ён, ведаеце, зусім ня супраць, каб мае вершы выйшлі ў наступным нумары. Я скажу больш: ён прагне, каб яны найхутчэй зьявіліся на старонках вашай газэты. І гэта яшчэ ня ўсё: ён лічыць, што для газэты было вельмі карысна, каб вы ўзялі ў мяне інтэрвію, а вершы суправадзілі фатаграфіяй і кароткімі біяграфічнымі зьвесткамі. Вось так, дарагі мой юны аматар паэзіі. Але перш-наперш я бы хацела выслухаць ад вас, шаноўны літкансультант, справядлівую і аб’ектыўную крытыку маіх твораў. Што ж такога крамольнага знайшлі вы ў маіх радках?

— Хвіліна А, — Мартыновіч дэманстратыўна зірнуў на гадзіньнік, шалік сам скочыў яму на шыю. — Наташ, табе купіць штонебудзь на абед? Я ў краму.

— Твікс, — прамармытала Сушкіна, асьветленая кампутарам, і з падвоенай энэргіяй налягла на клявіятуру. — Грошы ёсьць? А то мне ў валізку лезьці...

— Окей, — Мартыновіч пачціва абагнуў каляску й выйшаў.

— Ну жа, сьмялей, — насьмешліва прасьпявала Валянціна Г., і каляска бязгучна пад’ехала амаль ушчыльную да жывата Хадака. — Даставайце мае вершы, я спадзяюся, яны скрозь пакрэсьленыя чырвоным.

Хадок узьняў вочы ўгору, на шчаках ягоных зацяплілася

папераджальная чырвань. Яму захацелася ўзяць аберуч гэтую каляску ды выкінуць у вакно, на праезджую частку шэрай і пустой вуліцы, сьмярдзючай, як высахлая рака. І няхай Мішаня пазабаўляецца з канструктарам “Валянціна леГ.а”, зьбіраючы свой ідэал па костачках. Надакучлівая старая, паэтэса херава. Cerebral celebrity.

— Дзе ж мае вершы? — Валянціна Г. ужо не ўсьміхалася. — Я даслала вам мае вершы, вы іх атрымалі? Атрымалі. Дык дзе ж яны? Я размаўляю з вамі, малады чалавек, ужо трэці раз, і ніяк не магу дабіцца адказу. Вы іх што, згубілі? Адказвайце. Дзе ваш стол? Гэты? Гэты? Вы тут навогул працуеце, у гэтай рэдакцыі? Дзевушка, он здесь работает? Работает? А мне здаецца, ён тут на нейкай сінекуры... Малады чалавек, я з вамі размаўляю. Скажыце мне прама, вы іх згубілі? Вось, вазьміце ксэракопіі. Не згубілі? Дык дзе ж яны? Дурдом нейкі. Літкансульта-а-ант! Як вам ня сорамна.

Хадок пасьля млявай, карыкатурнай барацьбы ўсё ж вымушаны быў прыняць празрыстую тэчку з ксэракопіямі й марна намагаўся засунуць іх у кішэнь пінжаку. Сушкіна шчоўкала клявішамі ўсё мацней. Урэшце Валянціна Г. адкінулася на сьпінку каляскі й прыклала далонь да сэрца.

— І не паліце тут, — прастагнала яна, Хадок тарганууў рукой, і попел зь ягонай змарнаванай цыгарэты адразу ж абрынуўся на калені паэткі. — Вакно адчынілі б... Адчыніце хутчэй вакно!

У дзьвярах як па камандзе зьявілася вусатая пыса Мішані.

— Вы прастудзіцеся, Валюша, — прамовіў ён малітвенна, але тут жа зрабіў хэндэ хох і зьнік. Хадок адзьдзёр фортку ад шыбы й затушыў цыгарэту. Валянціна Г. пад’ехала да вакна.

— Калісьці і я магла паліць цыгарэты, — прашаптала яна летуценна. — Пісала ўночы... Цыгарэты такія былі, на кожным кутку прадаваліся... Море... Вы напэўна яшчэ пад стол хадзілі... Кава, цыгарэты, ноч... Каханьне... Караценюць зімовыя ночы, і даўжэюць зімовыя дні, Толькі б студзень-магнат не сурочыў, Наша шчасьце не паланіў... Гэта маё раньняе, не зьдзіўляйцеся...Я, ведаеце, позна пачала пісаць, калі ўжо дзіця школу скончала... Якраз пасьля таго тыдня ў санаторыі... А вершы, паэзію заўсёды любіла. У нас дома цэлая шафа была адведзеная пад паэзію, у бабуліным пакоі стаяла. Кніг з аўтографамі было-о... Добра. Бачыце, колькі я вам ужо дэталяў дала для матэрыялу. Запісвайце, пакуль я так... разоткровеннічалась...

Хадок схапіўся за галаву.

— Добра. Значыць так, — на твар Валянціны Г. вярнуўся колішні высакамерны выраз. — Вершы выйдуць у наступным нумары

— я так разумею, гэта будзе чацьвер. А інтэрвію мы з вамі зробім потым... Падрыхтуемся, настроімся... І прашу вас, пастаўцеся да справы сур'ёзна.

Хадок адкашляўся.

— Валянціна Платонаўна, дарагая...

— Не хаміце мне! — раптам віскнула Валянціна Г. — Што ў вас за тон!

— Даруйце, — Хадок пабачыў, як у кабінэт зноў зазірнула насьцярожаная галава Мішані. — Ну падумайце самі: ад таго, што ў газэце выйдуць вашыя вершы, лепшымі яны ня стануць. Шануючы вашу любоў да паэзіі, хачу зазначыць, што вам трэба працаваць над сваімі вершамі, бо тое, што вы мне даслалі, — гэта пакуль усяго толькі перайманьне ня самых лепшых узораў, ня ведаю ўжо, якіх канкрэтна. Калі праз вашы радкі прагляне вашае, вашае і толькі вашае аблічча, нічыё іншае, калі вы, замест таго, каб пісаць як прынята, пачнеце пісаць як вам хочацца, як у вас баліць...

— Вы мне кажаце пра боль? — Валянціна Г. ажно паспрабавала прыўстаць, але потым, ціха войкнуўшы, апусьцілася й колькі сэкундаў пасядзела моўчкі. — Вы мне кажаце пра боль... Ды што вы пра яе ведаеце? Я тры гады як прыкутая да інваліднага крэсла. Нават больш...

— Тры гады два месяцы чатырнаццаць дзён, — прагрымеў з-за дзьвярэй голас Мішані.

— Вы сабе ўяўляеце, ШТО гэта такое?... Што гэта такое — тры гады быць залежнай ад любячых цябе людзей, ня мець магчымасьці жыць паўнацэнным жыцьцём, існаваць, цягнуць сваю лямку сярод спачуваньня і абыякавасьці, ня мець магчымасьці дапамагаць сыну, ня мець магчымасьці жыць і... і кахаць!.. Паэзія — вось мой адзіны паратунак. Калі б ня творчасьць, я бы даўно б ужо ляжала дзе-небудзь у Чыжоўцы... Але мае вершы — гэта... Гэта ня проста аддушына, гэта тое, у ва што выліваецца мой боль, мае ўспаміны, гэта тое, што ператварае адмоўную энэргію майго болю ў тую іскру, дзякуючы якой жывіцца мая воля...воля да жыцьця... да каханьня, да сьвятла... да Бога, у рэшце рэшт... Божа мой праведны, Божа мой міласэрны!.. За што мне такі лёс?.. За што? Усё жыцьцё я старалася жыць па тваіх запаветах, расьціла дзіця, ня крала, не падманвала... Ведаю за што, ведаю. За той тыдзень у санаторыі... І вы мне кажаце пра боль? Уся мая паэзія — боль! Суцэльны боль. Гэта адзінае, што падтрымлівае мяне на гэтым сьвеце... Як жа вы ня можаце гэтага зразумець? У вас што, ніколі не было маці?

— Ну пры чым тут маці?.. — ляпнуў Хадок і сарамліва

адвярнуўся. У пакой убег Мішаня, зарыкаў, падхапіў каляску і, абдаўшы Хадака, а зь ім за кампанію і Сушкіну цыстэрнай гневу, выкаціў Валянціну Г. на калідор.

— Да-а, шкада жанчыну, — зьбянтэжана прамовіла Сушкіна, адарваўшыся ад кампутара. Хадок прысеў за стол Мартыновіча й смурна скрыжаваў пальцы. Тут жа ў кабінэце зьявіўся ўладар стала, уручыў Сушкінай твікс і сеў за вольны стол.

— Плача інвалідка, — сказаў Мартыновіч, акуратна здымаючы накрыўку зь вежачкі “Данону”. — Давёў ты яе. А падавалася такой жалезнай лэдзі.

— Яе што, праўда ніяк нельга... ну, надрукаваць, — спытала Сушкіна.

— Як гэта нельга? — Мартыновіч аблізнуў лыжачку.

— Ты ж чула: шэф сказаў друкаваць, значыць друкуем.

Хадок выглянуў у вакно. Мішаня загружаў Валянціну Г. у белыя, расьпісаныя гразьзю жыгулі. Адзін з карэспандэнтаў цярпліва трымаў дзьверы. Кампутар ёкнуў, нібы сэрца.

**9. Надзораэ-ута**

У доме нехта быў. Хадок зразумеў гэта, калі спыніўся абцерці з ілба пот, на якім яго, нібы на алеі, ужо гадзіну пякло палудзеннае сонца. Ён колькі імгненьняў не абарочваўся, каб нічым ня выдаць захопніку таго, што той выкрыты. П’яны мат-перамат пеўня зь вёскі ледзь не прымусіў Хадака здрыгануцца, але Хадок працягваў стаяць да дому сьпінай. Вецер марадзёрыў у кустох агрэсту. Хадок счакаў, пакуль надыйдзе цішыня, потым рэзка павярнуўся. Між паўадчыненых аканіцаў мільгануў цень, палоска сьвятла, што да гэтага лянотна паўзла праз паўзмрок, раптам кінулася на прыхадня, але тут жа адмовілася ад паліцэйскіх абавязкаў і яе павяло кудысьці пад камін. Відавочна, на хутар нехта пралез. Слухаючы, як скардзяцца на раматус палавіцы, Хадок асьцярожна ступаючы прайшоў у гараж, глынуў для храбрасьці віскі, узяў сякеру й падняўся на ганак. На кухні, за тонкай перагародкай, засквармэла, шматгалоса зашыпела, быццам Хадаку пляскала перапоўненая канцэртная заля. Ён рэзка адчыніў дзьверы.

— Слухай, а дзе соль? — голасам Эўфрасіньні Полацкай спытала жанчына ў паранджы й выліла на патэльню чарговае яйка. — Усё знайшла, а солі няма. Калі што, давядзецца табе ў магазін... Тут ужо й боршч саліць пара...

— Мама, — прамовіў Хадок і, спатыкнуўшыся, наляцеў на лядоўню.

— Ну якая ж я мама, — сказала жанчына, насоўваючы паранджу на нос. — Злая цыбуля, злая… Вось, боршч амаль гатовы. Я сёньня да нас гасьцей запрасіла. Усю вёску, усе Дрынцавічы. Хай людзі адпачнуць, сьвята ўсё ж такі…

Яна адшпіліла правую нагу, памяшала ёй у рондалі й Хадок закрычаў.

— Здарылася што, салдацік? — Сэнсэіч стаяў на парозе, не наважваючыся зайсьці.

— Усё ў парадку, — Хадок падняўся і адчыніў фортку. У пакоі пачалі пераклічку вулічныя будаўнікі.

— Я вось заўважыў: ты раней заўсёды на сьпіне спаў, а цяпер — усё ў позе зародыша, — Сэнсэіч патаптаўся, пачасаў шыю.

— Сочыце, як я сплю? — Хадок сунуў ногі ў адсырэлыя тапкі.

— А ты што, думаеш я ўначы дрыхну, салдацік? — Сэнсэіч адкалупнуў са сьцяны шпалернае пер’е. — Мне на ноч пачак прымы трэба. Сьнедаць няма чым, халадзільнік пусты. Толькі хлеб у хлебніцы. Табе тут званілі з працы. Я так ад тэлефону ўжо адвык, думаў, можа ната бамбёжкі пачало, хэ-хэ…

— Вашыя б словы, — Хадок узяў расчоску, — ды богу, як кажуць, у вушы.

— Слухай, салдацік, можа тышча будзе? — Сэнсэіч пайшоў за ім у перадпакой. — Няма? Вось жызьня паблядуха. Не, не, я кажу: такой бяды зь імі, з грашыма, у нас яшчэ бульба ёсьць, не падохнем. Ну звані, звані, а потым я сястры ў Караганду, нешта ўспомніў сёньня, тэлефон зазваніў, і я ўспомніў…

Хадок набраў нумар рэдакцыі, і слухаўку адразу ж зьняла адказны сакратар Інга Філіпаўна.

— Добра, што пазваніў, — яна чыхнула. — Пардон. Паслухай, дык што там за вершы ты хацеў на чацьвертую паласу? Нам жа адсылаць ужо, так што давай вырашай хутчэй. Яны набраныя хоць?

— Якія вершы?

— Ды я ж адкуль ведаю! Мне тут Мартыновіч нешта казаў, што вершы нейкія ты хацеў на чацьвертую паставіць…

— Паслухайце, Інга Філіпаўна, спытайце ў боса, ставіць іх ці ня ставіць, і што за вершы…

— Ды няма Князькова сёньня, ён на сэмінар рэдактарскі ў Магілёў паехаў, казаў, будзе заўтра пасьля абеду…

— Ага.

— Слухай, нумар стаіць. Будуць вершы на чацьвертую?

— Я…Так. Не, вершаў ня будзе.

— Ня будзе? Усё, тады пытаньні зьнятыя. Бай! Натуральна, Хадок цалкам усьведамляў, што нечаканая праблема пад назвай “Валянціна Г.”, якая выскачыла, нібы чыр, на ягоных бледных працоўных тыднях, насамрэч сьмешная, сьмяшней за рапухінскія паэмы. Зьмірыцца, пацярпець некалькі раніц, не зважаць — і лопне, загоіцца, быццам не было. Ды толькі глядзець на тое, як тваю пячору імя Аладзіна, куды ты ўласнаручна перацягнуў усе сусьветныя літаратурныя дыямэнты, каб у адзіноце наталяцца імі пры дрогкім сьвятле свайго бездакорнага густу, твой прыватны бункер, тваю Альгамбру загрувашчваюць нейкімі бясконцымі пустымі картоннымі каробкамі й фанэрнымі скрынямі — о, гэта для Хадака было невыносна: балюча ў галаве й мулка на душы. Пасьля візыту Валянціны Г. у рэдакцыю ён доўга разважаў над тым, як жа яму выкруціцца зь неспадзяванага павуціньня, і ўрэшце прыйшоў да высновы, што трэба здавацца. Цяпер ён трымаў у руцэ слухаўку й сам сябе аглядаў са зьдзіўленьнем. Паспрабаваў ператэлефанаваць Інзе Філіпаўне, было занята, у ягоным распараджэньні мелася яшчэ чатыры тэлефонных нумары, аднак Хадок пажаваў кменнага хлебу й вырашыў нічога не зьмяняць.

Палячы сэнсэічаву прыму, ён да вечару шпацыраваў па горадзе; Хадок гуляў так доўга, што сустрэў ажно трох малазнаёмых знаёмых, стрыжанае рэха колішняга сумнеўнага прыяцельства. Адзін зь іх неахвотна пазычыў Хадаку некалькі тысяч, другі пачаставаў півам, і толькі трэці ўпёрся, як баран, — давялося ўзяць зь яго даніну прыстойнымі цыгарэтамі. А восьмай Хадок быў у рэдакцыі, прабоіна ў ягоным страўніку была заткнутая шасьцю піражкамі зь нясьвежай капустай, нагрудная кішэня напітвалася пахам давідофф, у руках ён трымаў знойдзены на лавачцы ў парку расейскі літаратурны часопіс. Настрой яго быў баявым, а сэрца — халодным.

— А хто ў нас будзе ў суботняй старонцы? — хорам спыталі Раіса Сяргееўна і Ірына Маратаўна, але нават не пасьміхнуліся — толькі адсунуліся адна ад адной падалей. Рапухін сядзеў у куце, адганяў рукой назаляючае стракатаньне лямпаў і нешта хутка пісаў на каленях, рвучы паперу.

— Актыў, — Хадок па-царску абвёў прысутных вачыма. — У мяне яшчэ ляжаць вашы вершы, Ірына Маратаўна, і вашы, Раіса Сяргееўна, і Эдуарда вершы ляжаць, ды яшчэ Царадворцава я ўчора знайшоў…Яны ўсе не выходзілі яшчэ. Дык што вы нам хацелі пачытаць сёньня, Эдуард Васілевіч? Я ж так разумею, ні вы, Ірына Маратаўна, ні вы, Раіса Сяргееўна, сёньня…

— Рэтраграды, рэтра-гады, манкурты! — маланкава ўскочыў на ногі Рапухін. — Як жа вам не баліць, каршакі, Назіраць, як крывавыя путы беларускія вяжуць шляхі! Як жа можаце спаць вы і есьці, у той час, калі родны прастор хоча чорнаю сеткай аплесьці зьмей расейскі, бандыт Чарнамор…Як вы можаце дзетак люляці, калі вораг бацькоўскіх лугоў, на краіну наслаўшы закляцьці…

— А скажыце калі ласка, — нахілілася праз стол да Хадака Ірына Маратаўна. — Мне вось цікава: як там той новенькі, вершы якога вам прыносіў Валодзя? Як узровень?

— Вашы вершы на галаву вышэй, — сур'ёзна адказаў Хадок. — Чэснае піянэрскае.

— Я чула, у вас праблемы, — прашаптала Ірына Маратаўна. — І новенькі таму прычынай. Валерый… Ня ведаю, як прозьвішча.

— Ніякіх праблем, — раздражнёна прамовіў Хадок. — Хто вам сказаў?

— Гавораць, — Ірына Маратаўна азірнулася. Раіса Сяргееўна, якая раўніва сачыла за гэтай размовай, падсунулася бліжэй:

— А я чула, што гэта не ён, а яна! Гэта праўда?

— Рэч у тым, што гэта транссэксуал, — лёгка кінуў Хадок. — Ведаеце, што азначае гэтае слова? Дзякуй, Эдуард Васіліч. Цудоўна. Але ёсьць заўвага. Гэтае ваша калі з націскам на першым складзе…А вы прачытайце яшчэ раз і самі сябе ўважліва паслухайце. Ну вось чуеце: калі, калі…Праблема, Эдуард Васіліч.

**10. Монда-ута**

— Ну добры вечар, малады чалавек. Спадзяюся, я вас не разбудзіла. Калі вы сапраўды паэт, у такую ноч вы ня можаце спаць.

— А што такога надзвычайнага ў гэтай ночы? Ноч як ноч. Дый не паэт я. А вось гаспадара вы, я гляджу, разбудзілі. Прабачце, Сэнсэіч.

— Ён што ў вас, японец?

— Амаль.

— Ноч як ноч. Ну, можа, у вас і ноч як ноч, а ў мяне… Я за горадам жыву. Вакол лес, сасёнкі маладыя зусім блізка ад вакна. Бабіна лета, але як жа халадком цягне. Зусім як у маім жыцьці. Тут Мішанін катэдж. Зорак сёньня на небе…Сярод іх ёсьць адна, якую мне калісьці прысьвяціў адзін чалавек. Хочаце, я вам растлумачу, дзе яна, і вы яе знойдзеце?

— Не хачу.

— Добра, ня хочаце па-харошаму, перайдзем да справы. Ну і як гэта разумець? Вам жа рэдактар загадаў!

— Нічога мне ніхто не загадваў.

— Ня хлусьце. Гэта заганна. Вершы ня выйшлі, і вы за гэта адкажаце. Не разумееце вы нічога, мілае маё дзіця...Усё-такі як гэта жахліва — у такім юным узросьце быць такім цынікам, так бязьлітасна душыць іншых. І галоўнае — мець такое высокае меркаваньне пра свае паўнамоцтвы ў гэтым складаным сьвеце. Вы ж не разумееце паэзіі, як вы можаце займаць такую пасаду? Яна патрабуе ад чалавека чуласьці, тонкасьці, паэтычнага слыху. Мае вершы станоўча ацэньвалі людзі са значна больш тонкім слыхам, чым у вас, і са значна большым літаратурным, ды й жыцьцёвым вопытам. Прашу вас, мой юны крытык, мой бедны юнак, не, я патрабую — не ламайце парасткі ў людзях, парасткі добрага, сьветлага. Я ж не пра сябе думаю — пра сотні такіх вандроўнікаў душы, якія дзякуючы вам беспрытульныя сярод гэтай мярзоты. Чуеце мяне?

— Угу.

— Ну паслухай, глупыш, ну хіба мае вершы горш за ўсё тое, што выходзіць у вас у гэтай вашай літаратурнай старонцы? Ну вось давай шчыра: горш?

— Прыходзьце на паседжаньне нашага літаб'яднаньня “Пляма” у аўторак, у 20.00.

— Прыйшла б, прыйшла, толькі ў мяне рэжым. Я інвалід, разумееш ты, ідыёт малады? Ты можаш сваім дзіцячым умішкам уцяміць: ін-ва-лід. У мяне адзінае, што ў жыцьці добрага ёсьць, гэта паэзія, творчасьць. Ты ведаеш, што такое інвалід?

— Ведаю.

— Дык чаму ж ты мяне мучаеш? Маўчыш. Куды табе паэта зразумець. Вось ты дрых, відаць, калі я пазваніла, а ты ж літкансультант. Ад слова літаратура. А ты дрыхнеш, мацць тваю за нагу. А я, такая на тваю думку нявартая, верш напісала, бо ноч — гэта такая крыніца рамантыкі. Ведаеш ты, што такое рамантыка?

— Не-а.

— Ня ёрнічай. Нібы ясенінскі сабака, на месяц я гляджу ў сьлязах, там зоры ў слуцкіх паясах, там ведаюць, што значыць плакаць. І мірна круціцца зямля, не суцяшаючы пясчынку, і зоры таюць, быццам льдзінкі, і недзе сярод іх мая. ...

— ...

— Ну што ты маўчыш? Ці, можа быць, праняло? Ну давай, давай, што ты скажаш?

— Нічога.

— Як гэта нічога? Ты ж літкансультант! Або ты пра паэзію размаўляеш толькі на працы?

— Толькі на працы. Вы сапраўды хочаце, каб я сказаў штонебудзь пра ГЭТА?

— Гэтамі называюцца драўляныя японскія сандалеты. Можаце спытаць у свайго японца. Ну правільна, адкуль жа вам гэта ведаць, вы ж, відаць, нічога не чытаеце, акрамя слоўніка літаратурных тэрмінаў. Я хачу каб вы сказалі мне зараз жа, што думаеце пра мой ВЕРШ. Дарэчы, ён напісаны за хвіліну да таго, як я набрала ваш нумар.

— Калі ласка. Заўвага першая. Вы доўга раздумвалі, што вам зрабіць зь няшчаснай чацьвераногай істотай у першым радку. Бо вам хацелася, каб яна была жаночага полу. Але пісаць: нібы ясенінская сучка, на неба я гляджу ў сьлязах вы не наважыліся. Працягваць?

— Ах ты сапля! Да как ты смеешь?

— Самі напрасіліся.

— Ды гэты верш праз месяц будзе надрукаваны ў “Заходняй Дзьвіне”! Вось пабачыш. Паглядзім, як ты тады засьпяваеш. Сучкай мяне абазваць. Бачылі вы яго. Нічога, Мішаня, нічога. Ну зачыняй, зачыняй, а то й праўда па нагах ужо цягне. Ідзі, ідзі. Нічога, сама разьбяруся. Ты вось не баішся, лішэнец, што я зараз нашу размову на дыктафон запісваю? У судзе гэта было б цудоўным доказам.

— Згодны.

— Ды хто ты навогул такі? Адкуль ты ўзяўся? Ты што, думаеш, у мяне ня хопіць сілаў цябе раздавіць? Ты не глядзі, што я інвалід. Наша сіла ў адзінстве. Я гэтага так не пакіну. Ніхто ня мае права ў нашай краіне трэціраваць хворага чалавека. Тым больш усялякія падонкі. І адмарозкі! Адмарозкі! Адмарозкі!

— Адмарозкі на сувязі.

— Слухай, ты не п’яны, хлапец? А можа ты яшчэ й колешся?

— Сказаць, што я п’яны, было б, відаць, перабольшаньнем, але і ад праўды гэта ня вельмі далёка. Мне можна пайсьці спаць?

— Калі. У. Суботнім. Нумары. Ня. Будзе. Маіх. Вершаў. Короче, пеняй на себя.

— Пяняю, бо іх ня будзе.

— Але чаму?!! Мішаня, дай мне цыгарэту. Я памру, калі ты мне не дасі цыгарэту. Ладна. Ладна. Растлумач мне, па якім праве ты душыш маю творчасьць, і калі я зразумею, то можа быць, я пайду табе насустрач і дашлю што-небудзь новае.

— Бліжэйшае паседжаньне літаратурнага аб’яднаньня “Пляма” у аўторак а дваццатай гадзіне.

— Ну што ты прычапіўся са сваёй плямай! Я ў цябе пытаюся пра маю творчасьць!

— Прыватныя кансультацыі платныя.

— Ну ўсё, цяпер ты мяне па-сапраўднаму раззлаваў. Ты кем себя возомнил, пацанёнок?

— Добрай ночы.

— Я же с тобой по-человечески хочу поговорить. Слушай, давай по-русски, а?

— На жаль, я не валодаю замежнымі мовамі.

— Сволач ты.

— ...

— Я табе ад усёй душы зычу, каб з тваёй маці як мага хутчэй здарылася тое ж, што са мной. А лепш, каб ты сам апынуўся на тры гады ў інвалідным крэсьле, фашыст.

— Паслухайце, ну вы ж самі сказалі, што вашы вершы неўзабаве выйдуць у "Заходняй Дзьвіне". Дык навошта вам наша газэта? Яе й не чытае ніхто. А "Дзьвіна" — паважаны часопіс, дванаццаць падпісчыкаў, ён ганарары плоціць...Ну на які хрэн вам публікавацца менавіта ў нас?

— А я табе казала ўжо. З прынцыпу. Аніводнае выданьне ня мае права вось так адмахнуцца ад маіх вершаў. Пагатоў твая дурная газэтка. Не за сябе змагаюся — за ўсіх паэтаў. Так, мне ўжо надакучыла гаварыць пра адно й тое...

— Мне таксама. Ну дык што, добрай ночы?

— Слухай, ну а табе якая розьніца: будуць мае вершы апублікаваныя або не. Ну я ж цябе не данос падпісаць прашу. Або ты настолькі ідэаліст, што памерці гатовы за сваю літаратурную старонку? Ды табе насраць на яе.

— Вельмі трапна прыкмечана. Хочаце праўду? Я ваш крэўны вораг. Калісьці ваш прадзед закалоў кінжалам майго стрыечнага дзядзьку, і наш род пакляўся адпомсьціць. Нішто не забытае! Вэндэтта о муэртэ! Я ўжо даўно за вамі сачу. Так што мая нянавісьць вытрыманая, як добрае віно.

— Нясьмешна. Вы можаце размаўляць сур'ёзна?

— Вы зноў на вы? А, спалохаліся. Спалохаліся помсты.

— Чаму вы мяне так ненавідзіце?

— Вох, паважаная Валянціна Платонаўна, насамрэч я вам вельмі спачуваю й нават вас люблю. Хаця б за тое, што вы прынесьлі ў маё жыцьцё прыемную разнастайнасьць. Давайце пойдзем спаць. Утрус вечэрус мудрэнэум — ведаеце такую лацінскую прымаўку?

### 11. Саругаку

Князькоў вярнуўся з рэдактарскага сэмінару, выпраменьваючы нейкую нездаровую актыўнасьць, — можна было падумаць, яму ў Магілёве зрабілі пераліваньне крыві, і донарам выступіў шэф “Нью-Ёрк таймс”. На панядзелкавай плянэрцы рэдкалегія сядзела ціха, як мышы, і панура слухала разьюшаныя сэнтэнцыі пра тое, што “журналіст ня можа дазволіць сабе творчага крызісу”, што “развучыліся працаваць”, што “канвэер жыцьця чакаць ня будзе”, што “мы не лісток для тых, каму за семдзесят”, што “рабочае месца рэпарцёра — вуліца”, што “мала матэрыялаў для моладзі”, што “за такія загалоўкі трэба вешаць”, а “за такую падачу інфармацыі адпраўляць на пэнсію”. Затым рэдактар паведаміў прысутным пад страшным сакрэтам, што на двары ўжо дваццаць першае стагодзьдзе, а на насу — новы год. Хадок сядзеў сярод зьдзіўленых твараў і ўсе сілы свайго непахмеленага арганізму траціў на тое, каб ня дыхаць на Інгу Філіпаўну, якая чарговы раз выпадкова апынулася праваруч. У кішэнях ягоных было пуста, у галаве — лёгка, вычышчаныя ўчора перад паходам у горад пінжак і гальштук выгодна прэзэнтавалі Хадака на шкле князькоўскай люстранай шафы. Ён спакойна выслухаў гістэрычныя выгукі рэдактара, а затым масонскае абмеркаваньне памеру газэтных фатаграфіяў — Князькоў лічыў, што здымкі надта вялікія з прычыны лянотнасьці пішучых карэспандэнтаў. Усё гэта паўтаралася з панылай рэгулярнасьцю: раз на месяц шэф езьдзіў кудысьці, прыязджаў злы, нібыта Ленін са Швайцарыі, пагражаў “кардынальным зьмяненьнем канцэпцыі”, запускаў арбітальныя лёзунгі “Няма прагрэсу — няма прэсы!”, а на наступны дзень супрацоўнікі зноў бачылі свайго добрага Валодзю, вечна зморанага і ў чымсьці кранальнага, а галоўнае — штохвіліны занятага далёкімі ад газэты справамі.

— Нас жа ніхто не чытае! — патэтычна ўсклікнуў нарэшце Князькоў і зьнясілена адкінуўся на сьпінку фатэлю, вымаючы насоўку. Сябры рэдкалегіі апусьцілі вочы, робячы выгляд, што да глыбіні душы ўзрушаныя гэтай навіною. Хадок маркотна думаў пра туманны горад за вакном, растварыцца ў якім яму заміналі ўжо цэлых сорак пяць хвілінаў.

— Ну добра, паехалі, — рэдактар махнуў рукою й рэдкалегія паднялася зь месцаў. Ножкі крэслаў згралі на паркеце нешта апакаліптычнае. — І давайце не адкладваць на заўтра тое, што можна

пачаць сёньня. Гэты тыдзень павінен даць такі плён, каб... Хадок, застаньця.

Няйнакш наймілейшая Валянціна ге пасьпела ўжо наскардзіцца. Князькоў высмаркаўся й сабраўся быў прамовіць штосьці, як раптам за вакном заравела, распырскаваючы свой лямант па ўсіх закутках будынку, залямантавала голасам павялічанага да памераў слана немаўляці невядомая сырэна. Дзіўным чынам гэты енк адразу ж агаліў зацятыя, маўклівыя, замкнёныя душы сяброў рэдкалегіі, што тапталіся ля дзьвярэй, ужо трымаючы ў іртах уздыхі палёгкі. Першай да вакна кінулася Інга Філіпаўна.

— Пажар! — закрычала яна радасна. — У прамтаварах пажар!

У гэтую хвіліну адказны сакратар была амаль прыгожым чалавекам, і Хадок зацікаўлена паглядзеў на яе юную шыю, аўтаномны край якой нечакана ўзьнік пад узьнятымі валасамі й адсунуў у цень друзлаватую шчаку, на выраз сукенкі...Астатнія сябры рэдкалегіі, усе — заўчасна пастарэлыя журналісты з дваццацігадовым стажам, таксама падбеглі да вакна, стаўкліся там, абменьваючыся ўражаньнямі.

Школьнікі.

— Мянты прыехалі, а хуткай усё няма!

— А вунь едзе...

— Дзе, дзе? Ды дайце ж мне паглядзець!

— Што вы як дзеці? Цікава, людзі ёсьць?

— Выносяць! Глядзіце, выносяць...

— І яшчэ!

— Эмчээсаўцы. Вунь маёр...

— Гэта Калодкін.

Адзін толькі начальнік адзьдзелу эканомікі падыходзіць не сьпяшаўся, але калі рэдактар сам, намагаючыся захаваць стрыманасьць, рушыў да вакна, ён таксама наблізіўся, выцягнуў галаву й, падскокваючы, абапіраючыся на жаночыя плечы, здолеў ухапіць сваю долю відовішча й сказаў:

— Паслаць каго-небудзь трэба!

— Вось вы каго-небудзь і пашліце са сваіх карэспандэнтаў, — імгненна павярнуўся да яго Князькоў, які стаяў у шчыльным жаночым атачэньні. — Так, усё, усё, разыходзімся, працаваць, працаваць. А пра пажар, Леанід Мацьвеевіч, каб на заўтрашні нумар пайшло. Апэратыўнасьць, апэратыўнасьць!

— Вы як хочаце, а я на вуліцу, — шапнула Інга Філіпаўна й рэдкалегія адхлынула ад вакна й панеслася да дзьвярэй.

— Як дзеці, як дзеці, — заблішчэў задаволена вачыма Князькоў.

— Так… Дык пра што гэта мы?

Хадок, які ўвесь гэты час прасядзеў у крэсьле, прыўзьняў бровы.

— Ага, — Князькоў зноў высмаркаўся. Дзьверы бразнулі. — Гэтая твая паэтэса, Валянціна Г. … Мы зь ёй ужо некалькі разоў шчыльна так обшчаліcь… Яна мне і сёньня ўжо пасьпела пазваніць, да. Я ёй абяцаў, што мы паставім яе вершы на чацьвер, а ты… Я думаў, ты скеміш, што тут за справа. А вершы жа так і ня выйшлі, ні ў чацьвер, ні ў суботу… Што ж ты тармазіш?

— Мы ж, здаецца, размаўлялі ўжо пра гэта, — адказаў Хадок цяжка.

— Пра што пра гэта? — раздражнёна спытаў Князькоў. — Мы дамовіліся, што ты з чалавекам пагаворыш, падкажаш што-небудзь карыснае, папрацуеш, падрэдагуеш, як спэцыяліст. Усталюеш кантакт з патэнцыяльным аўтарам. А ты што? Мне гэтая Валянціна сказала, што ты ёй хаміш, ад размоваў ухіляешся. Я, натуральна, разумею, што гэта ўсё бабскія перабольшаньні, я ведаю, што ты нахаміць нікому ня здольны…тым больш — жанчыне… І ўсё-такі, усё-такі… Чалавек усё ж інвалід, да інваліднай калясцы прыкуты… ужо некалькі гадоў. Няўжо там такая ўжо графаманія? У цябе з сабой яе вершы? Дайк’я пагляджу.

— Дома, — сказаў Хадок.

— А вось гэта дрэнна, гэта няправільна, — Князькоў уздыхнуў. — Трэба, далібог трэба табе стол у рэдакцыі выдзеліць. Вось хаця б у кабінэце Мартыновіча. У падвале мусіць стол быць, так, я бачыў, там стаіць стол. Усё. Заўтра ж трэба яго перацягнуць да Мартыновіча, і будзеш там за ім працаваць. Ты ўсё ж штатны супрацоўнік. Зь дзевяці да гадзіны каб быў як штык на месцы. І матэрыялы ў рэдакцыі будуць, і ты будзеш актыўней уключацца ў агульную працу. Ты ж зразумей, Хадок, я для нашай газэты стараюся. Не маёй, а нашай. Мне ж хочацца, каб мы як адна каманда… Дарэчы, ты абдумаў маю прапанову? Памятаеш нашу апошнюю размову?

— Ды ня трэба мне нічога, — кісла сказаў Хадок. — Я ўсім, усім, усім задаволены. Працай, заробкам, жыцьцём. У мяне абсалютна няма праблемаў. Няхай усё ідзе як ідзе. Хаця, вядома ж, дзякуй вам, Уладзімір Пятровіч.

— Э-э, — горка паматляў пальцам Князькоў. — Бачу я, дружа, што ты яшчэ недастаткова падумаў. Падумай яшчэ, я не ганю. Аднак вернемся да нашых бараноў, як казаў масье Паклен. Ты думаеш, вершы гэтай Валянціны такія ўжо слабыя? Я ня ведаю… Яна паказвала мне штосьці, калі заходзіла… І я мяркую… Ну гэта натуральна ня Лермантаў і не Багдановіч, але… Я лічу, мы маглі б…

Ня проста маглі б. Гэта наш абавязак!

Князькоў нерашуча паглядзеў на Хадака, пачакаў ягонай рэакцыі, аднак Хадок глядзеў на рэдактара ва ўпор яснымі дзіцячымі вачыма.

— Валянціна Г., — Князькоў закаціў вочы, узважыў гэтыя словы, пастукаў касьцяшкамі пальцаў па іх абалонцы. — Валянціна ге…Ва-лян-ці-на…Паслухай, можа, я памыляюся, але была такая жанчына пры саюзе яшчэ… таксама валянціна, і таксама ге. Ці то касманаўтка, ці то трактарыстка-гераіня…Нешта я такое памятаю… са старых падшывак…

— Я разумею, пра каго вы кажаце, — сказаў Хадок неахвотна. — Пра лётчыцу Валянціну Грызадубаву. Нарадзілася ў 1910, палкоўнік авіяцыі, герой Савецкага Саюзу. Член капээсэс з 1941 году. У другую сусьветную вайну камандзір авіяцыйнага палку. Гордасьць савецкіх жанчын трыццатых гадоў. У 1938 разам з Пэ Асіпенкай і Эм Раскавай зьдзейсьніла беспасадачны пералёт Масква-Уладзівасток.

— Адкуль такія энцыкляпэдычныя зьвесткі? — агаломшана спытаў Князькоў.

Хадок літаральна ўчора выпадкова адгарнуў у букіністычнай краме Вялікую савецкую энцыкляпэдыю на старонцы з артыкулам пра Грызадубаву. Гэты знак звыш у той момант Хадака спалохаў, але цяпер ён толькі крыва ўсьміхнуўся:

— Магу толькі дадаць, што пісьменьнік Аксёнаў напісаў пра яе ў вадным з раманаў: дзяўчына з тварам хакейнага абаронцы.

— Ну, нашая Валянціна ге пасымпатычней будзе, — задумаўся Князькоў, пазіраючы на Хадака зь няўхвалай. У пэўны момант нават падалося, што позірк рэдактара стаў падобным на засьпінныя позіркі ў адрас Хадака ўсіх астатніх супрацоўнікаў газэты — позіркі здаровых бацькоў на чужога дзіцёнка з хваробай Даўна. — Няшчасная жанчына, а ўсё ж змагаецца за жыцьцё, вершы вось піша…

Хадок маўчаў.

— Не, — пахітаў галавой рэдактар. — Не, не і яшчэ раз не. Ня можам мы кінуць гэтага чалавека ў бядзе. Чаго мы тады вартыя, наша праца, наша газэта… Журналіст ня толькі праваднік інфармацыі, журналіст мусіць быць яшчэ й правадніком маралі, міласэрнасьці… гуманістам! Наш абавязак — дапамагчы чалавеку. Падтрымаць. Можа быць, тое, што мы апублікуем гэтую бедную Валянціну, надасьць ёй моцы, дапаможа перадолець хваробу. Няшчасная жанчына адчуе сябе патрэбнай. А то ёй, відаць, нясоладка цяпер прыходзіцца… я ж ведаю… у такія моманты здаецца, што ўвесь сьвет ад цябе адвярнуўся. А мы р-раз — і павернем жыцьцё да яе

сонечным бокам. Не. Ня маем мы права так кінуць інваліда. Друкуем, Хадок, друкуем, і ніякіх дыскусіяў тут быць ня можа.

— Дык мы яе друкуем, таму што яна таленавітая, ці таму што яна інвалід? — Хадок доўга не наважваўся гэта сказаць, але — вырвалася, выцекла, гермэтычнасьць парушаная, і хутка вада дойдзе да горла.

— Ну як жа ты ўсё спрашчаеш, як спрашчаеш, — раздражнёна замахаў рукамі Князькоў. — Я ўпэўнены, што нічым яна як паэтэса ня горшая за тую ж Іру Пфляўмцыммэр. Дык чаму б яе не надрукаваць? Нармальныя вершы. Ня трэба так ідэалізаваць гэтую тваю літаратурную старонку. Урэшце, літаратура павінная ў такой жа ступені дапамагаць людзям, як і журналістыка. Вось няхай твая старонка зробіць хаця б раз добрую справу, сапраўдны чалавечы ўчынак. На тым сьвеце такія ўчынкі ведаеш як цэняцца! Зразумей ты мяне, дарагі мой чалавек, у цябе ёсьць шанец зьдзейсьніць акт міласэрнасьці, сапраўды паўплываць на гэтую рэальнасьць сваёй дабрынёй, нешта зьмяніць у сьвеце, хаця б для адной чалавечай асобы. Без дапамогі людзям літаратура ня значыць ні-чо-га! Нуль. Пустое крэмзаньне. Так што ніякіх сумненьняў. Не па-хрысьціянску гэта будзе — адштурхнуць даведзенага да адчаю. Як там нехта казаў, памятаеш: нічога ня вартае мастацтва, калі з-за яго пралілася хаця б адна сьлязінка дзіцяці. Нельга, Хадок, нельга падмяняць каштоўнасьці. Ты кажаш: паэзія, графаманія. Гэта ўсё аб… аб… а-аб…

Князькоў выбухнуў, як ручная граната, пасьпеўшы, аднак, выхапіць з кішэні насоўку:

— …абстракцыі! А Валянціна — жывы чалавек. Яна тут, сярод нас, яна дыхае адным з намі паветрам, ёй балюча й самотна, і самае галоўнае — на яе месцы ў любы момант можам апынуцца й ты, і я. Так што давай, бязь лішніх размоваў, бярэм і…

— Дык значыць, кожнага бязногага, бязрукага, паралізаванага — у паэты? — задуменна спытаў Хадок. — Так у нас неўзабаве не застанецца здаровых аўтараў. Яны ж усе за магчымасьць надрукавацца гатовыя сябе пакалечыць.

— Што ты ўсё перабольшваеш! Перакручваеш усё на нейкі свой капыл, якога я ніяк не магу зразумець! Табе трэба ўсьвядоміць адно: усе гэтыя людзі — такія ж як і ты, усе мы аднолькавыя, бо жывем тут і маем аднолькавыя целы, і ў кожнага ёсьць душа. Мы ўсе дадзеныя адно аднаму, і выбіраць мы ня можам. Таму неабходна запомніць на ўсё жыцьцё адзін закон: нам адно ад аднаго нікуды не падзецца, не схавацца. Нашае чалавечае атачэньне — гэта дадзенасьць, і ня ў нашых сілах яе зьмяніць. Чалавек створаны, каб жыць сярод людзей,

людзі навогул жывуць зграямі, толькі зграямі, такія ўжо яны жывёлы. І няма іншай магчымасьці жыць сярод людзей прыстойна й плённа працаваць, як толькі пастарацца існаваць у міры, узяўшы як найслушнейшы закон узаемадапамогу, міласэрнасьць, любоў. Калі не прымірыцца з рэчаіснасьцю, зь людзьмі, з наяўнасьцю менавіта гэтых вось, менавіта гэтых — ня іншых, а вось гэтых людзей вакол, то ты застанешся адзін і ўрэшце, не прывядзі Гасподзь, самаліквідуешся. Бо ўсе што ў цябе ёсьць — гэта людзі наўкола, яны — твой сэнс. Зразумеў, небарака?

Князькоў падняўся й закашляўся.

— Фу, даўно не размаўляў так доўга. Я ж, ведаеш, і ў журналісты пайшоў, бо рана спасьціг гэтую простую, у рэшце рэшт, ісьціну. Няма нашых і ня нашых людзей, існуюць толькі гэтыя вось...

Князькоў разьвёў рукі так шырока, што Хадок нават зьдзівіўся — ён і ўявіць ня мог, што рэдактар можа займаць столькі месца ў прасторы.

— ...гэтыя вось людзі, і іх трэба любіць. Дапамагаць ім, і тады ад іх таксама будзе табе шчасьце. Простае, чалавечае, нелітаратурнае. Апрача чалавечага жыцьця няма больш каштоўнасьцяў, усё — эфэмэрнае, усё змайстраванае чалавекам у час кароткага адпачынку... Ну, разгаварыўся я. Так. На аўторак мы яе паставіць ужо ня можам, можам на чацьвер... Ці ня можам на чацьвер?

Ён падыйшоў да стала й, пасьлініўшы палец, пачаў гартаць свой тоўсты нататнік.

— На чацьвер можам паставіць. Здымем пра мастачку гэтую, усё адно яно састарэла,а вершыкі паставім. Падрыхтуй. Проста вершы, і ўсё, яна там нешта пра інтэрвію казала, але гэта пачакае... Слухаю. Так. Так. Ведаю, ведаю. Вось абмяркоўваем з нашым літкансультантам... Пойдуць, натуральна. Надзвычай таленавітая жанчына. Шчыра ёй спачуваем. А ўжо на гэтым тыдні. Так. Не, што вы...Так. Усяго найлепшага, дзякуй за званок. Дзякуй.

— Старшыня раённага Савету таварыства інвалідаў званіў, — рэдактар ледзь бачна ўсьміхнуўся. — Добры мужык. Мы зь ім калісьці любілі ў лазьню хадзіць. Ведаеш лазьню на праспэкце Цанавы? Ды не перажывай ты так. Цікавіўся пра Валянціну тваю. Што ж, кажа, ушчэмляеце правы інвалідаў? Не турбуйся, хлопча. Карона не ўпадзе. Ну падумаеш, вершам больш, вершам менш. Дробязі ўсё гэта. Да таго ж памятаеш мае словы — нам патрэбныя новыя імёны. Гарбаты пап’ем?

## 12. Івai-ута

Спачатку Хадаку падалося, што каля рэдакцыі разгружаюць мэблю, і толькі калі ён прамінуў сквэр і спусьціўся па сьлізкіх сходах на тратуар, карціна стала зразумелай. Падыход да будынку быў забарыкадаваны інваліднымі калясками. Людзей, якія сядзелі ў іх, язык не паварочваўся назваць ахвярамі лёсу — надта ўжо актыўна яны сябе паводзілі. Большасьць была апранутая ў непрамакальныя аранжавыя курткі; інваліды гучна размаўлялі, пілі каву з плятсмасавых кубачкаў і раз-пораз рухаліся туды-сюды, ад прыступак рэдакцыі да бардзюру — відаць, каб ня зьмерзнуць. Мужчынаў прысутнічала больш, чым жанчын — пераважна гэта былі атлетычнага целаскладу маладзёны, гладка паголеныя й румяныя. Цяпер, калі Хадок пераходзіў вуліцу, яны чамусьці нагадалі яму лыжнікаў. Недалёка стаяў пусты аранжавы аўтобус, засланяючы інвалідаў ад ўчарнелых бэтонных сьценаў колішніх “Прамтавараў” — у ваконных праёмах згарэлай крамы з задаволеным выглядам, нібыта яны й былі віноўнікамі пажару, сядзелі вароны. Адзін з інвалідаў нешта весела распавядаў па мабільным тэлефоне. Зьлева ад гэтай маляўнічай групы дыміў цыгарэтай малады міліцыянэр, які, відавочна, не зусім разумеў, што за парадак ён мусіць ахоўваць на такім спэцыфічным мерапрыемстве.

Была раніца чацьвярга. Дзень намячаўся сьвяточны, нягледзячы на ўсе крывапраліцьці серады, — сёньня супрацоўнікі рэдакцыі атрымлівалі аванс. Хадок скарміў ненатольнай пашчы мэтрапалітэну апошнія грошы, і цяпер ня меў нават цыгарэтаў. Але запаветны фінанс ляжаў ужо блізка, хвілінаў праз пятнаццаць Хадака чакала прыемная працэдура, амаль сьвяшчэннае дзеяньне: таропкі росчырк у ведамасьці, нэрвовае запіхваньне кучы дробных купюраў у кішэнь — і вось, вось, тая кампанія Вялікіх Спакусаў за столікам у вакна, якая яшчэ нядаўна нават плюнуць не пажадала б у твой бок, цяпер паглядвае на цябе ўсё больш зацікаўлена, какетнічаючь паўапушчаныя вейкі, зазыўна кладзецца нага на нагу, праз будзённае паветра да цябе ляціць шанец, пакуль яшчэ лёгкі, як паветраны пацалунак. Маэстра, музыку! — сёньня Дзень авансу, шчасьлівы Дзень самазабыцьця.

А пра сераду ўспамінаць ня трэба. Учора пасьля ранішняга тэлефанаваньня Князькова галодны й п’яны Хадок некалькі гадзінаў шукаў па сэнсэічавай кватэры лісты з шэдэўрамі Валянціны ге, іх

мусіла быць даволі шмат, адстуканых на машынцы й ксэракапіяваных, але натрапіў толькі на пустую тэчку пад лядоўняй. Сэнсэіч, расчулены Хадакоўскімі пакутамі, браў у пошуках пасільны ўдзел, але й сам дрэнна трымаўся на нагах, бо за дзень да гэтага яму ўдалося загнаць амаль дваццаць кіляграмаў макулятуры. Князькоў званіў яшчэ і яшчэ, патрабаваў вершы, крычаў пра зрыў нумару, але праклятыя опусы нібы ў вырай паляцелі. Нарэшце Хадок наважыўся ўтапіцца ў ваньне зь лютай, амаль калодзежнай вадой, працьверазеў і, заглушаемы жорсткім прыступам мігрэні, пагаварыў з Князьковым сур'ёзна. Давялося тэлефанаваць у Таварыства інвалідаў, але там ніхто не падымаў. Пошукі Валянціны ге па іншых канала таксама засталіся марнымі. "Успомні, што яна там пісала!" — лямантаваў у слухаўку непрымна грубы рэдактар, і Хадок, руйнуючыся як Сабор Васілія Блажэннага, напружваў сваю эканомную памяць. Аднак перад вачыма хісталіся адно вобразы цёплай падушкі й халоднага піва, а таксама скакалі, быццам па тэлеэкране, вясёлыя словы: "Які кашмар!". "Кашмар, кашмар!" — хрыпеў Князькоў. — "Сам зараз будзеш пісаць за Валянціну, раз згубіў!". Сэнсэіч хадзіў вакол на дыбачках. "Ладна", — кінуў урэшце Князькоў. — "Заўтра разьбярэмся". І заўтра апынулася тут як тут.

У руках некаторыя інваліды трымалі вялікія чорнабелыя плякаты, павернутыя да вокнаў рэдакцыі. Толькі наблізіўшыся да калясак, Хадок змог даведацца пра іхны зьмест, хаця даўно ўжо здагадваўся, што там напісана. Ён налічыў каля пяці плякатаў з патрабаваньнем "Зрабіце пандус!", на трох, самых вялікіх, было напісана "Не міласьціна, а партнэрства", самая ж шматлікая група давала прыцэльную кулямётную чаргу па рэдакцыйных вокнах: "Свабоду слова Валянціне Г.!". Хадок паспрабаваў праціснуцца да ўваходу ў будынак. Ніякага пандусу там, натуральна, не было. Можа, гэта пакуль і ратавала супрацоўнікаў ад уварваньня й пагрому. Ён сьмела ступіў у гушчыню аранжавых куртак, але тыя сядзелі спартанцамі ля Тэрмапілаў.

— А што здарылася, мужыкі? — міралюбна запытаўся Хадок. — Супраць чаго стаіцё?

— А ты хто, карэспандэнт можа? — спытала адна з аранжавых куртак, і астатнія тут жа спынілі размову.

— Ды не, я што, падобны на пісаку, — усьміхнуўся Хадок. — Я з падатковай інспэкцыі.

— А, — уздыхнулі інваліды. — Ну праходзь. Дайце там чалавеку прайсьці.

— Дык чаго бастуеце? — Хадок прасунуўся ў самы цэнтр пікету.

— А тут працуе хрэн адзін, — неахвотна адказаў інвалід з завушніцай. — Не дае адной жанчыне надрукавацца, сука. А ў яе вершы такія...І ногі паралізаваныя. А падла гэтая ўпёрлася: вы, гаворыць, інваліды, ну і друкуйцеся ў сваім “Партнёрстве”, а я інвалідаў друкаваць не зьбіраюся. Падпісацца не жадаеш? Эй, Влад, дай сюды ліст з подпісамі. Вось. Патрабаваньне не адкладваючы надрукаваць Валянціну Г. Падпішашся?

— А шмат ужо подпісаў?

— Вазьмі паглядзі. Бачыш? Сто шаснаццаць. Мы, калі што, да прэзыдэнта дойдзем.

— Падпішуся, натуральна, — Хадок успомніў, навошта ён прыехаў сюды, і з задавальненьнем накрэмзаў на лісьце сваё ймя й прозьвішча. — А вы ня ведаеце, хто ж гэта за падла такую паэтку файную друкаваць ня хоча?

— А нам якая справа, — пад’ехала да іх жанчына ў вязаным каптурку. — Кажуць, яму ўжо пад шэсьцьдзесят. Ну як, скажыце, можна ў такім веку зразумець памкненьні такой маладой паэтэсы, як Валянціна Г.?

— Ну й гадзіна гэты карэспандэнт, — заківаў Хадок. — Што ж, посьпехаў у барацьбе. Я яго як пабачу, пярдуна гэтага,пагавару памужчынску.

Ён пралез да прыступак і хутка апынуўся ў нязвычна ціхай рэдакцыі. Праўда, цішыня трывала нядоўга. Хадок адчыніў дзьверы бухгальтэрыі, і голас Князькова абрынуўся на задымленыя, гулкія рэдакцыйныя калідоры, забразгаў нават на першым паверсе, дзе сядзеў напалоханы вахтор. Супрацоўнікі зь вінаватым выглядам атрымлівалі грошы й хутчэй імкнуліся выбегчы з калісьці такога прыемнага, а цяпер жудаснага пакою. Хадок ведаў, што настолькі грымотным і разьюшаным Князькоў бываў хіба што на плянэрках ў першы год свайго рэдактарства, і ў гэтыя хвіліны карэспандэнты баяліся не пікету ўнізе, а пачварнага пераўтварэньня дабрадушнага боса ў гістэрычнага чыноўніка.

— Дажыліся! — крычаў рэдактар, стоячы за сьпінай бухгальтаркі. — Дакаціліся! Зрабілі з газэты навінкі! За што грошы атрымліваеце, журналісты, вашу маць! А, прыйшоў? Заходзь, заходзь. Чаго ты стаў? Давай, заходзь, віноўнік, панімаеш, таржаства! Заходзь і тлумач, што мне рабіць з усім гэтым?

Хадок моўчкі паклаў грошы ў кішэнь пінжаку, і ўладкаваўся за сталом, распухлы, аднагруды. Згорбленыя фігуры ўваходзілі й выходзілі, Князькоў праваджаў іх адсутным позіркам. Апошнім у кабінэце зьявіўся Мартыновіч, непрыязна паглядзеў на Хадака й па-салдацку

выцягнуўся перад рэдактарам:

— Званіў глава адміністрацыі раёну. Ён прыедзе праз гадзіну.

Князькоў завыў і паваліўся на крэсла. Нарэшце кабінэт апусьцеў, бухгальтарка асьцярожна спытала:

— Уладзімір Пятровіч?...

— Не да грошай мне цяпер, Мікалаеўна, не да грошай...— прастагнаў рэдактар. — Ідзі.

Мікалаеўна зачыніла сэйф ды выйшла.

— І ты ідзі з глаз маіх далой, — кінуў Князькоў. — Гэта канец.

— Яны як, з дазволам? — ціха спытаў Хадок. — А то можна...

— Што можна? — ускінуўся Князькоў. — Інга званіла. Усё дазволена. Абсурд нейкі. У адміністрацыі ім дазволілі пікет да чатырнаццаці гадзінаў. Абсурд... Я так асьцярожна заўжды, так акуратна, ніякай апазыцыі, правільны ўзгоднены курс, вэтэранаў іхных друкаваць — заўсягды пажалуста, гарвыканкам — наце, бэпэсээм — падавіцеся, усё мірна, ціха, пра інвалідаў толькі за гэты год дзесяць матэрыялаў, пра падшэфныя гаспадаркі — дваццаць, інтэрвію з главой — два, усё на першай паласе, усё выверана, ад курсу ні на грам... Так лявіраваў умела, ніхто не падкапаецца, з аднаго боку — газэта як газэта, з другога — не дачэпішся... І воўкі сытыя, і авечкі... А тут — інваліды. Я ж заўсёды думаў, што галоўная пагроза ад Мартыновіча ідзе, апазыцыянэра гэтага блін, ад гэтага твайго Царадворцава, хто ён там, сацыял-дэмакрат ці хто... Але каб інваліды... Госпадзі, ну чаму я?

— Я лічу, што фактычна... — пачаў Хадок, але Князькоў раптам залямантаваў:

— Што фактычна? Фактычна па нашай рэпутацыі грохнулі з гаўнамёту! Цяпер не адмыешся! Ты хоць разумееш, што цяпер любы гараджанін пры згадваньні нашай газэты адразу ўспомніць: а, гэта тая, каля якой інваліды дэманстрацыю пратэсту арганізавалі... А ты ведаеш, колькі ў горадзе інвалідаў? А ведаеш, колькі сярод нашых падпісчыкаў інвалідаў?... Вось так.

З вуліцы пачулася нешта бязладнае, але пагрозьлівае. Хадок, загарнуўшыся ў фіранку, як рымлянін у тогу, асьцярожна вызірнуў у вакно. Інваліды, уздымаючы воблакі пары, выкрыквалі нешта пра Валянціну Г.

— Ты вінаваты, — паволі прамовіў Князькоў. — Ну што ж ты заўпарціўся? Ідэалы вырашыў абараніць. Малакасос. Цэлую газэту паставіў пад удар, з традыцыямі газэту. Мы тут сёньня безь цябе правялі экстрэнны сход працоўнага калектыву... Нельга было ставіць свае інтарэсы вышэй за добрае імя газэты. Ты ж не сябе губіш, ты ж

газэту губіш. А тут людзі працуюць, якім есьці трэба, а іншыя людзі яе чытаюць, і ўжо паўстагодзьдзя, дарэчы, чытаюць. І тут ты са сваёй літаратурай... Хадзем каньячку хлабысьнем, скаціна ты...

Глава адміністрацыі прыехаў раней, чым абяцаў. Хадок ведаў яго толькі па фатаграфіях. Звонку глава, натуральна, быў поўным клонам прызначанага для сябе гісторыяй куміра, і, што самае галоўнае, павадкі адпаведныя яму пераймаць не давялося — з кумірам у іх былі амаль ідэнтычныя біяграфіі, хіба што ў главы дасягненьні былі значна больш сьціплымі. Глава спартовым крокам прайшоў у кабінэт і сеў у той фатэль, які калісьці займаў Хадок. Сьвіта разьмясьцілася за сталом. Князькоў стоячы апраўдваўся й навільжняў главу абяцаньнямі выправіцца.

— Што жэ вы, рэбята, дзелаеце? — глава гаварыў пяшчотна, але пяшчота гэта была адмысловая, дзяржаўная, такая хітрая пяшчота мужыка, які рыхтуецца прырэзаць кабанчыка. — Разьве можна так? А ешчо журналісты. Гасударства інвалідаў падзьдзержывает, пасьледняе ім аддаёт, а вы нос вараціце. Ну напісаў чэлавек стацью, ну дык напячатайце. Для каго ў нас прэса сушчэствует? Для народа. Што вам, жалка стацью даць у номер? Я шчытаю так. Праблемы зьдесь быць не можат. Перад людзьмі ізьвініцца, стацью напячатаць у бліжайшы номер, даць аправерждэніе, а чалавека, каторага абідзелі, у рэдакцыю прыгласіць, пагаварыць... Ну вы ж узрослыя людзі. Чайку там папейце ўмесьце, пагаварыце, паіньцерэсуйцесь, как чэлавек жывёт, чэм дышыт. Эта глаўнае. Я ўсегда, кагда ка мне прыходзят, с чалавекам пагавару, пра жызьнь параспрашываю...

Князькоў, захлынаючыся, паабяцаў пачаць адразу ж. Глава папіў гарбаты, узяў рэдактара з сабой і яны адправіліся ў народ. А палове на першую інваліды разыйшліся. Затое начальнік адзьдзелу эканомікі прыцягнуў у кабінэт Князькова сьвежы нумар “Газэты №1”. Хадок якраз зьбіраўся вярнуць рэдактару пазыку, корпаўся ў тоўстым пачку сваіх пярэстых папяровых любімцаў, а шэфа насьціг чарговы ўдар. Пад рубрыкай “Чытацкая пошта” Галоўная Газэта Краіны, у прыватнасьці, пісала: “Ніякімі эстэтычнымі меркаваньнямі не магу апраўдаць дзеяньні гэтай калісьці паважанай, а цяпер з кожным днём дэградуючай газэты. Бо, відаць, паняцьце міласэрнасьці для яе супрацоўнікаў, якія, мабыць, лічаць сябе нашчадкамі Вісарыёна Бялінскага (праўда, невядома, на якой падставе) — пусты гук, у лепшым выпадку моднае славечка. Канешне, тое, як паставіліся гэтыя працаўнікі пяра да жанчыны-інваліда, юрыдычна ў нашай краіне не караецца. Аднак я лічу, што за чэрствасьць душаў, за абыякавасьць да безабаронных ахвяраў сьляпога лёсу, за фармалізм у

дачыненьні да самага асноўнага нашага багацьця — чалавечай асобы, — за ўсё гэта “літкансультанты” і “журналісты” названага выданьня павінны панесьці кару ад нас, шараговых чытачоў. І яны яе панясуць. Таму што самае страшае — гэта абыякавасьць, а ў дадзенай сытуацыі яна, на мой погляд, пастрашней за любое крымінальнае злачынства. Спадзяюся, чытачы “Газэты №1” пагадзяцца з такім меркаваньнем. Скончыць бы хацелася радкамі нашага вядомага паэта Кастуся Ермалайчыка:

Якой бы страшнае тугі
Ня быў ты цяжарам сагнуты,
Прымі ў гнёздышка рукі
Чужыя, як свае, пакуты.

Зьмітрок Аглаблёвы, член СП.”

**13. Аусака**

Сума, якую назвалі зашклёныя вусны касыркі, апынулася нечакана важкай, нібы валіза з чужымі грашыма. Хадок нават хацеў перапытаць, ці не падвёў яго слых, але азірнуўся, знайшоў сябе на чале маўклівай і таму яшчэ больш пагрозьлівай чаргі, выдыхнуў і таропка расплаціўся. Вы няправільна мяне зразумелі, там, за вітрынай, я замаўляў зусім ня гэтых людзей. Але давядзецца задаволіцца тым, што ёсьць. На бязраб’е й Рапухін — чалавек. Побач хаця б нехта дыхае — дзякуй ім, дзякуй. І ўсё ж я створаны такім чынам, што магу дзякваць, бадай, содні запар, паўтараючы як “харэ крышна” паганае, крывадушнае гэтае слоўца, якое насамрэч зьяўляецца грубым вайсковым загадам, дзякваць без перапынку на абед, а тым часам усё адно пакутліва думаць пра сваіх суседзяў па кабінэце: хто зь іх варты ключоў ад маёй старасьці? Вось Ірына Маратаўна калупаецца ў зубах вырваным са сшытку кутком ліста — хіба яе можна падпусьціць да сябе бліжэй чым на мэтр? Пад суседнім сталом рукі Раісы Сяргееўны сарамліва папраўляюць якуюсьці бунтуючую частку гардэробу, а можа, зацiскаюць адтуліну, праз якую да чужых азонавых слаёў імкне лятучая маладосьць, — вам загарнуць? Алег Царадворцаў, рэдкі госьць на гэтых ідыёцкіх паседжаньнях, седзячы ля вакна, патыхае кабяліным дэзадарантам і таннай пагардаю, плюгавенькі эратаман, што калісь прынес Хадаку тоўсты альбом сваіх паэтычных шэдэўраў з уласнымі ілюстрацыямі й

жадаў зьявіцца на літаратурнай старонцы пад псэўданімам Эрот Казаноўскі (на шчасьце, Князькоў не дазволіў) — ад такога сябра і “Тайд” не адмые. А Рапухін ужо на лініі агню, недайбожа ў наступным радку маецца што-небудзь гексагенна-губное, кшталту “б” або “п” — заплюе да ўдушша. А што, можа, і праўда, пасябраваць з Рапухіным, бадзяцца штодня ля ўнівэрсытэту, дэклямуючы пажылым выкладчыцам Блока за хлеб, плявацца ў жыцьцё й шчасьліва вар’яцець ад бясконцых чырвоных шароў перад вачыма, ад іхнай няспыннай, нетутэйшай гульні? Прадавачкі-цумаўкі шэпчуцца каля сьцяны, трымаюцца за рукі, прапануюць на суботу плод сваёй любові, выкідыш калектыўнай творчасьці: ажаніцца з адной зь іх, і хадзіць па нядзелях у госьці да другой, піць зь яе мужам гарэлку і ўхіляца ад адказу наконт уласнай працы. А яшчэ можна вярнуцца ў бацькоўскі дом, у марсэлевы абдымкі, і тады шчасьце зноў стане тым, чым яно, па сутнасьці, ёсьць для любога чалавека — успамінамі пра лазурнае маленства ...памірыцца з маці, паціснуць руку Начальніка, чмокнуць сястру ў дарослыя вусны, мірна састарыцца, прамяняўшы віскі пад сланечнікам на могілкавыя уік-энды... яны даруюць, бо так прынята. Або пайсьці вучнем да Князькова й зрабіць бліскучую журналісцкую кар’еру. Або... Стаць крытыкам, крытыкам-адкрытыкам, адкрыць сьвету Валянціну гэ й хутка ўступіць у саюз па яе рэкамэндацыі. Такія лэдзі занадта жалезныя, каб быць злапамятнымі. Пачаць можна ўжо заўтра, бо ў суботу вершы яе мусяць выйсьці, і заўтра ён патэлефануе, і будзе перад гэтым выбіраць тон як гальштук, і адбудзецца сустрэча, і ўжо пасьля абеду вершы яе будуць адлітыя ў вадкіх крысталах, а пасьлязаўтра — о, пасьлязаўтра перад нерухомымі вачыма яе вершаў пройдуць шарэнгамі чытацкія твары, і зайграе туш аркестр інвалідаў у аранжавых куртках. Вось у каго трэба вучыцца дасягаць свайго.

Аднак — і Хадок нутрана пасьміхнуўся — ён ня прыме ніводнага з гэтых ветлівых запрашэньняў. Бо менавіта адсюль і толькі адсюль, з вакна халоднага рэдакцыйнага кабінэту, можна высунуцца, навіснуць над горадам, паздымаць накрыўкі з кіпячых дамоў, зазірнуць у чужыя нянавісьці й пераканацца, цьвёрда пераканацца, што існуюць і іншыя людзі, людзі тыя, на якіх некалі распадзецца твой панядзелак. Адсюль, маючы на сьпіне закахаваную ў цябе пляму, няма прычынаў сумнявацца ў такім выніку. Яны знойдуць цябе, ў іх ня будзе гэтай паталягічнай патрэбы пырскаць на твае бровы сваёй паэтычнай сьлінай, гэтага славеснага сатырыязу, камунікацыйнай німфаманіі, яны ня будуць жэрці твае вочы, гадзіць на твае вечары, мацаць пульс тваёй волі. Вашы адзіноты будуць штодня ладзіць шыкоўныя воргіі. Яны высмакчуць паветра з Валянціны гэ.

— Я быў. Я ёсьць. Я тут. Я буду! — скончыў Рапухін, абмяк і з гнюснай усьмешкай споўз на падлогу.

— Дзякуй, — прамовіў Хадок, вытрымаўшы паўзу. — Выдатна.

Ірына Маратаўна з Раісай Сяргееўнай паглядзелі на яго з падазрэньнем. Вопытныя плямаўкі, яны чакалі, пакуль за першым "выдатна", вясёлым як вясельная карэта, выкаціцца другое, якое ўжо штурхае ў зад "выдатна" трэцяе, змрочнае нібы катафальк. Аднак Хадок вырашыў адступіць ад традыцыі.

— Сапраўды выдатна, — сказаў ён лёгка. — Праўда, перагукаецца з Караткевічам.

— Гэта што, пойдзе ў суботні нумар? — перагнулася праз стол Ірына Маратаўна.

— А чаму б і не? — уступілася Раіса Сяргееўна. Рапухіну, мяркуючы па ўсім, было ўсё адно, што думаюць пра ягоны верш. Ён пазяхнуў, і Хадок адвярнуўся, каб не адчуваць магільнага паху рапухінскага роту. Відаць, чырвоныя шары на некаторы час адступілі, бо Рапухін заплюшчыў вочы, дастаў грушавую карамэльку й паклаў за шчаку.

— Пойдзе, — прамовіў Хадок, разбаўляючы цішыню, і паглядзеў на гадзіньнік. Час ужо каму-небудзь падавацца дахаты.

— А чаму перагукаецца з Караткевічам? — сарамліва запытала адна з цумавак. — Што перагукаецца? Караткевіч жа раманы пісаў.

— Аповесьці, — шапнула другая цумаўка і апусьціла вочы.

— І вершы ён пісаў, і паэмы, — Хадок паправіў гальштук. — Ніхто не чытаў ягонага "Быў. Ёсьць. Буду"? Не чыталі. Хто-небудзь хоча яшчэ выступіць?

У вадказ яму пачуўся адно лёгкі шэлест. Хадок разьвёў рукамі й дапіў гарбату. Нарэшце голас падаў Царадворцаў:

— У Рапухіна занадта доўгі верш. Яму б скараціць яго да адной страфы. Бярыце прыклад зь японцаў. Вось дзе лянанізм, а які выразны. Я нядаўна набыў зборнічак эратычных хайку. Геніяльна. Сам думаю ўзяцца. А вы цягнеце, цягнеце, на нейкія прыземленыя тэмы. Навошта так доўга рассусольваць?

— Потому что іскусство поэзіі требует слов! — нечакана ясным голасам усклікнуў Рапухін.

Хадок здрыгануўся. Раіса Сяргееўна і Ірына Маратаўна міжволі прыціснуліся адна да адной.

— Я одін із усталых, угрюмых послов второсортной державы, связавшейся с этой... — прагудзеў Рапухін і выпаўз у калідор.

— На Валодзю не нарваўся б, — заклапочана сказала Ірына Маратаўна. — А то падумае п'яны, ды прыкрые нашае літаб'яднаньне.

— Ён цяпер можа, — уздыхнула Раіса Сяргееўна. — Я яго бачыла сёньня, калі па ганарар прыходзіла. Злы як чорт. Даўно я яго такім ня бачыла.

— Усё з-за гэтай гісторыі з інвалідкай, — прамармытала Ірына Маратаўна. — Вы нам не распавядзеце, чым там усё скончылася? А можа, і пра сутнасьць, так бы мовіць, канфлікту?

Яны абярнуліся да Хадака.

— Раскажыце, — забляялі цумаўкі. — Пажалуста! Хадок спачатку зыркнуў на іх злосна, але потым падумаў: хрэн зь ім, і распавёў усю гісторыю. Царадворцаў, засумаваўшы, сыйшоў пад шумок, але жанчыны прынялі аповед зь цікавасьцю прыхільнікаў мыльных опэр. Празь пяць хвілінаў на Хадака няўхвальна глядзелі тры пары абураных вачэй, і толькі Раіса Сяргееўна падыйшла да вакна ды ўладкавала свой пахілы адбітак між залатых квадрацікаў дому насупраць. Неўзабаве на Хадака ніхто ўжо не зьвяртаў увагі. Ірына Маратаўна, вымаючы з валізкі пігулкі, таропка, каб не перапынілі, дзялілася ўспамінамі пра паралізаванага бацьку, цумаўкі ў два галасы выкрыквалі, чырванеючы, гісторыю пра маладую жанчыну, якую няўдала праапэравалі хірургі адной з гарадзкіх лякарняў. “Нельга так”, — сказала нарэшце Ірына Маратаўна й цумаўкі як па камандзе сьціхлі.

— Карацей, мы бачыліся з Валяй, — павольна прамовіла Ірына Маратаўна. — Мы размаўлялі і...

Раіса Сяргееўна імгненна абярнулася й працягнула да яе руку. Ірына Маратаўна высакамерна ўзьняла падбародзьдзе, бліснула вачыма, і рука ўпала на стол.

— Хто гэта — мы? — узяўся за лоб Хадок.

— Мы — гэта я, Галя й Лена, — адказала Ірына Маратаўна, і затым дадала ўжо больш вінавата:

— Валя патэлефанавала нам, спачатку мне, потым Галі... і потым Лене...

— Яна чытала нам свае вершы! — віскнула Галя, засаромелася й прыкрыла рот рукой. Ірына Маратаўна паклала рукі на стол і нізкім голасам, які так не стасаваўся зь яе бліскучымі вачыма, абвясьціла:

— І мы лічым, што Валя...што Валянціна Плятонаўна — дастойная жанчына і цудоўны паэт! І просім вас...

— Мы плакалі, калі яна чытала нам свой цыкл пра каханьне! — хорам усхліпнулі цумаўкі.

— І просім вас не замінаць ёй, — скончыла Ірына Маратаўна і адвярнулася.

Вось яно, значыць, як. Раіса Сяргееўна глядзела на яго, як яму

падалося, са спачуваньнем.

— Чым жа вас так ачаравала гэтая паэтка? — спакойна спытаў Хадок, спрабуючы суняць дрыготку.

— Мы, канешне, не спэцыялісты... — пачала Ірына Маратаўна, і тут жа яе перапыніла Галя, вакол якой ўжо пляла сваю сьпіраль блізкая гістэрыка:

— Ну паслухайце, калі я плакала...і Лена плакала... калі напісанае чалавекам можа выклікаць у другога сьлёзы... Хіба сьлёзы — гэта не самы ісьцінны крытэрый ацэнкі? Хіба яны ня сьведчаць, што перад намі сапраўднае мастацтва?

— Нехта плача і перад тэлевізарам, калі паказваюць мэксыканскі сэрыял. Гэта што, таксама азначае, што перад намі чароўнае ўзьдзеяньне мастацтва? — насьмешліва спытаў Хадок. — Ці не здаецца вам, дарагія мае дзяўчаты, што ўсё залежыць ад узроўню кожнага асобна ўзятага чалавека? І што зусім ня кожныя сьлёзы служаць доказам эстэтычнай вартасьці твора? А, Галя?

— Мы, канешне, не спэцыялісты, — дрыжачым голасам прамовіла Галя. — Але ў яе такія вершы...

— Нам ніколі так не напісаць... — Ірына Маратаўна зірнула на Хадака з выклікам.

— А вы што скажаце, Раіса Сяргееўна? — ён падыйшоў да стала, за якім сядзелі абедзьве жанчыны. — Вас таксама ачараваў гэты геній?

— А м-мне... Мне ніхто не званіў, — зьбянтэжана прамармытала Раіса Сяргееўна, адкручваючы гузік зь пінжаку. — І вершаў яе я не чытала... Але ведаеце...

Яна павярнулася да астатніх, пагрозьліва слухаючых і безнадзейных.

— Але ведаеце... Я веру ў нашага літкансультанта... У ягоны густ... І ў ягоную здольнасьць справядліва ацэньваць нашу творчасьць...

Ірына Маратаўна ўстала, прайшлася нэрвова па кабінэце й села паблізу ад цумавак. Не хапала тут яшчэ парляманту.

— Ну што ж, можаце павіншаваць Валянціну Платонаўну, — фальшыва ўсклікнуў Хадок і таксама падняўся. — Яе цудоўныя, цудоўныя вершы неўзабаве зьявяцца ў нашай газэце, і ніякія падкопы падступных літкансультантаў не перашкодзяць мастацтву зграць пераможны марш! На гэтай, як кажуць, мажорнай ноце дазвольце скончыць нашае сёньняшняе паседжаньне й разьвітацца з вамі са спадзяваньнем пабачыцца ў аўторак.

Як заўсёды, Хадок наўмысна адстаў ад сваіх апекаванак, якія

ўжо спускаліся па лесьвіцы, памахаў ім ручкай і ўдаў, што ніяк ня можа замкнуць кабінэт. Ён пачакаў, пакуль яны выйдуць на вуліцу, з палёгкай павярнуў ключ і пайшоў па цёмным калідоры. Унізе бразнулі дзьверы. Ён сунуў руку ў кішэню, вялікая лямпа над лесьвіцай раптам сьціхла, потым ўздыхнула й загудзела наноў. Хадок ступіў на прыступку, і тут нейкая ягоная частка, нязначная, але вельмі істотная частка, пра наяўнасьць якой Хадок ня ведаў, але здагадваўся, частка ці то душы, ці то цела, супэрдаўгавечны падарунак першабытнага чалавека, пранізьліва прасыгналізавала пра мімалётны рух у куце перад асьветленымі сходамі, за сьпінай. Тут жа ён тарганууся, і руцэ, якой стрэліла цемра за плячыма, замест Хадаковай шыі дасталося толькі плячо. Хадок разьвярнууся і адразу ж атрымаў удар кулаком у вока. Ён спатыкнууся на прыступках, губляючы раўнавагу, новы ўдар не прымусіў сябе чакаць — на гэты раз ён быў нанесены нагой. Хадок канчаткова згубіў апору й паляцеў па прыступках уніз. Яго імгненна дагнаў хлопец гадоў дваццаці, нахіліўся над паверженым Хадаком, схапіў за валасы, прыпадняў Хадакову галаву, дыхнуў ў вочы:

— Я ж тебе говоріл: ты Машку не абіжай. Я ж тебе говоріл, жівотное, а, іli не говоріл? Она мне сказала: ты ні разу её не пропечатал. Я ж за Машку убіть могу, понімаешь, уродец?

Вахтор ужо бег да іх са страхам наўскідку. Машкін хлопец яшчэ раз апусьціў кулак на твар Хадака:

— Ты меня понял?

Хлопец ускочыў, кінууся насустрач вахтору, адштурхнуў яго й выбег на вуліцу. Дзядзька Вася, па ўсім відаць, быў задаволены такім вынікам здарэньня й перахрысьціўся дробна на дзьверы.

— Ён мне сказаў, што да цябе на літаб'яднаньне. Я ж ня ведаю, хто там да цябе ходзіць. Розныя бываюць, а тут на табе!

— Нічога, нічога, — Хадок падняўся, адсунуў дзядзівасіны рукі, прайшоў у прыбіральню й збольшага прывёў сябе ў парадак. Ён выйшаў на вуліцу. За кожным дрэвам сквэру хавалася па Машыным кавалеры. Мастацтва вымагае ахвяраў, а вецер холодіт былую рану. “Можа, таксі выклікаць?” — клапатліва спытаў вахтор, але Хадок махнуў рукой і рушыў у сквэр.

Сьмешна, думалася яму, надзвычай сьмешна, што ягоны нядаўні крыўдун накінууся ня з мэтай пажывіцца Хадаковым кашальком, і ня проста так, ад няма чаго рабіць — гэта асноўная прычына такіх нападаў, і нават ня з рэўнасьці... Ён нанес Хадаку нешматлікія цялесныя пашкоджаньні выключна таму, што хоча дапамагчы сваёй Машцы надрукавацца, хоча ёй набыць на гэтых жыцьцёвых ждановічах новы строй — папярова-літарны. Няўжо для

іх усіх гэта так важна? Няўжо такая недарагая слава зробіць іх шчасьлівымі? Або гэта таксама натуральная патрэба чалавека, такая як ежа, сон, сэкс і дэфэкацыя — хаця б раз апынуцца па-над усімі, зірнуць на сьвет з газэтнай паласы, або з тэлеэкрану, падміргнуць тысячам людзей з пачуцьцём уласнае перавагі: гэта Я. Машкін хлопец, па сутнасьці, зьдзейсьніў рамантычны учынак, гэта праява вялікага каханьня, і, безумоўна, у яе вачах цяпер гэты гопнік нападпітку — сымпатычны антыгерой, зь якім можна яшчэ некалькі разоў падзяліцца сваім юнацтвам: бацькі ў гасьцёх, давай хутчэй, хутка вернуцца, давай заўтра ў мяне, мой стары ўжо месяц як бухае, яму насраць. Але гэта любоў, целы склееныя юнацкім потам, мая малая, мой парень. А гэта Хадок, якому, бачыце вы, падавай змоўшчыцу, гэта Хадок ідзе праз пустэльны сквэр, не разьбіраючы анічога на сваім шляху.

— Ну здароў, кансультант!

На алею, бразгаючы ключамі, не сьпяшаючыся выйшаў Мішаня. Агрэсыўная чорная касуха на ім яўна блефавала, маючы працягам унізе спартовыя нагавіцы й сьветлыя летнія туфлі. Відавочна, недзе паблізу знаходзіўся і ягоны жыгулёнак, і Мішаня не хацеў пакідаць машыну надоўга ў такі час, у такім месцы. Ён брыдка ўсьміхаўся ў вусы й паглядваў заклапочана ў бок мэтро. Хадок не прыдумаў нічога лепшага, як кінуць “Добры вечар” і паскорыць хаду.

— Не сьпяшайся, — Мішаня падбег да Хадака й схапіў за рукаў. — Не сьпяшайся, Хадачок. А то пасьпееш.

Ён біў Хадака нядоўга, але прафэсыйна, у асноўным па нырках і жываце. Хадок спачатку паспрабаваў абараняцца, але адзінае, што яму ўдалося, гэта ўшыбіць указальны палец аб грудную клетку Мішані, якая апынулася сталёвай. Там, за гэтай клеткай, біўся — торшкі часьцей, чым звычайна, але марудней, чым у прысутнасьці Валянціны гэ — барвовы й рытмічны, нібы “Левы марш”, кумпячок каханьня, прыватная ўласнасьць прыгожай жанчыны ў інваліднай калясцы, меч у яе капрызных руках, акрываўленая павязка на ейных вачах. Мішаня выконваў свой доўг мэтадычна й з задавальненьнем, быццам кулакі ягоныя, сухажыльлі ды цягліцы цяпер ўспаміналі напаўзабытую маладосьць. Мішаня цешыўся сваёй мышачнай памяці й прыгаворваў раз-пораз:

— Ты што, думаў, гэтую жанчыну няма каму абараніць?.. Ты што, можа быць, думаў, што за яе няма каму заступіцца?.. Ты, напэўна, думаў, дурань, што раз яна ў калясцы, яе кожны можа пакрыўдзіць?.. Дык вось не, не, не!

Міма прайшоў нехта няпэўнага полу, запрэжаны ў тоўстую

гаспадарчую торбу — наблізіўшыся да месца катаваньня, ён адвярнуўся й затым амаль бягом кінуўся да слабых вагнёў ратавальнага мэтро. Нарэшце экзэкуцыя была скончаная. Мішаня паклаў Хадака на лаўку, клапатліва выцер ягоныя разьбітыя вусны, а сам сеў ва ўзножжы й запаліў. Хадок адчуваў сябе толькі што выдаленым нэрвам; ён ляжаў, паступова вяртаючыся ў прытомнасьць пасьля перажытага шоку, ловячы штуршкі крыўднага, гарачага, пякучага болю, якія разьбягаліся па целе, і жахлівей за ўсё быў для Хадака іхны хаос, іхная непадуладнасьць. Боль мог выскачыць у любым месцы, і Хадок, знаходзячыся на самым сьвітанку супакаеньня, спрабаваў знайсьці найбольш параненыя вобласьці, то тут, то там натыкаючыся на глыбокія варонкі й бязьлітасныя віры. Трохі ачуняўшы, ён здолеў мысьленна павандраваць па сваім выбітым, нібы дыван, целе — жыць буду.

— Нічога, жыць будзеш, — нібы пачуўшы думкі Хадака, прамовіў задышліва Мішаня. — Ну, можа крывёй крыху пасцыш... Гэта нічога, гэта пройдзе.

Ён выпусьціў задаволены струмень дыму ў змрок.

— Я ведаю, — Мішаня выцер лоб, — я ведаю, што ты бы дорага б даў цяпер за тое, каб мяне ня стала на сьвеце. Ты цяпер больш за ўсё жадаеш, каб навогул са мной больш ніколі не сутыкацца. Ты, можа быць, жадаеш у гэтую хвіліну прачнуцца і ўспомніць мяне толькі як страшны сон. Ты бы зусім не хацеў мяне ведаць. Ты мяне, мусіць, ненавідзіш і думаеш: як было б файна, калі б Мішаня гэты праваліўся скрозь зямлю. Цябе б пусьці зараз на пару тыдняў назад, ты б зрабіў усё, каб са мной не сустрэцца. А, Хадачок? Дык вось што я табе скажу...

Мішаня зрабіў доўгую паўзу, кінуў цыгарэту пад ногі й растаптаў яе як Хадакову годнасьць.

— Не атрымаецца ў цябе нічога! Ня выйдзе! Вось ён я — сяджу тут, размаўляю з табой, і нікуды табе ад мяне не падзецца! Вось, глядзі — гэта Я. Жывы, моцны, са здаровым сэрцам і агромністым херам, з талковай башкой і ўмелымі рукамі. І я ня проста ёлупень які-небудзь, я й кахаць магу. Ведаеш, як я Вальку кахаю? Куды табе...

Мішаня паляпаў па Хадаковым калене. Хадок застагнаў і неімаверным намаганьнем скінуў паганую руку.

— Я тут, побач, я дакранаюся да цябе. Я жыву блізка, дыхаю й прымушаю цябе падстрайвацца пад сябе. І як бы ты не хацеў, Хадачок, прыкінуцца адзінотным, схавацца ў сваю шкарлупіну, заплюшчыць вочы на маё існаваньне — хрэн табе! Сутыкнула нас жыцьцё, і тут ужо пішы прапала. Ніколі ты цяпер мяне не забудзеш. І

гэта не таму, што я тут цябе павучыў трохі, і не таму, што з-за Валянціны Платонаўны, дай ёй бог шчасьця, такі скандал усчаўся…Не. Папросту калі сустрэў чалавека, ніколі яго ўжо не забудзеш, заўсёды ён будзе ламаць тваю шкарлупіну. Пагатоў я. Ты ж мяне слухаеш, я ж бачу. Ня хочаш, а вымушаны.

Мішаня зморана пацягнуўся.

— Гэх! Даўно хацеў сказаць каму-небудзь што-небудзь падобнае. Думкі аж сьвярбелі… А тут ты падвярнуўся. Я цябе за гэта нават люблю. Ну, не крыўдуй. Можа, хаця б пасьля ўсяго гэтага ўцяміць твая дурная галава, што ад людзей не адмахнешся. А яшчэ — навучышся цаніць таленавітых людзей. Такіх як Валянціна Платонаўна. Ведаеш, як мы пазнаёміліся? Я быў на мяжы практычна, хацеў ужо паміраць, або, думаў, можа, у манастыр пайсьці… Жонка кінула, дзяцей няма, і, галоўнае, сэнсу няма, разумееш, сэнсу няма ў ва ўсім гэтым… Усё пытаешся: навошта, навошта, у сябе пытаешся… У каго я такі нарадзіўся? Вечна пытаньні задаваў, з маленства пачаў і да таго моманту… І ўсе пытаньні, ведаеш, як у пустэчу. Я тады ў санаторыі рабіў, інструктарам фізкультуры. І аднойчы прыехала туды Валя… Валянціна Платонаўна. Там у яе нейкі раман быў, з мужыком адным… А я адразу ў яе закахаўся, зь першага погляду. Раней думаў, што гэта ўсё бабскія казкі, ды й лічыў, не ў маім веку ўжо закахвацца так… Але што са мной рабілася! Шаленства нейкае. Дык вось, з тым мужыком, прафэсар ён быў, ці хто, не, не прафэсар, а гэты, літаратурны крытык, — з тым мужыком у Валянціны Платонаўны спачатку было ўсё добра, а потым ён зьехаў, нават не разьвітаўшыся, адрэсы не пакінуў, і тэлефону не пакінуў… Валя да мяне на заняткі хадзіла, ладная такая, з фігуркай, хаця ёй ужо сорак было. Душа радавалася, калі яе бачыў, ажно гаварыць ня мог. І вось крытык зьехаў, а ў яе яшчэ ў санаторыі два дні заставалася. І яна прыходзіць на заняткі, маркотная такая, а потым неяк непрыкметна пралазіць у распранальню… Я’т заўважаю, іду ціхенька ўсьлед за ёй, а яна вешацца сабралася. Ну, я, натуральна, ратую, яна ў гістэрыцы… Увечары прыходзіць і плача ў мяне на плячы, як водзіцца…Вось тады я й зразумеў: гэта мой лёс. Мы разьвіталіся, я ня ведаў, дзе яна, што зь ёй, пакуль не сустракаю яе аднойчы ў горадзе. Гляджу, а яна ў інваліднай калясцы. Я кажу: здрасьці, Валянціна Платонаўна, яна мне пазнае, а потым пазнала і ў госьці да мяне паехала. Ну, думаю, значыць праўда лёс. І вырашыў я: сябе не пашкадую, усё сваё жыцьцё на яе патрачу, але яна ў мяне ня будзе пачувацца кінутай і забытай. Думаеш, мы зь ёй сьпім? Ні храна. У нас з Валенькай… з Валянцінай Платонаўнай пля-та-ніч-ны-я адносіны. Чыстыя.

Мішаня задумаўся. Нечакана аднекуль з-за дрэваў, ля мэтро, заверашчала роспачна машына. Спрацавала сыгналізацыя. Мішаня заклапочана панюхаў паветра.

— Ну, я пайду. Ты давай не ляжы тут доўга — зьмерзьнеш. Зіма на насу.

Мішаня падкінуў на далоні ключы й шпаркім крокам пайшоў у накірунку сьвятла. На паўдарозе ён, відаць, азірнуўся, крыкнуў “Прывітаньне ад Валянціны Г.!”, але, магчыма, усё гэта было створана ачунялай Хадаковай фантазіяй. Хадок, зрабіўшы непрыемнае намаганьне, падняўся й сеў, намацаў у кішэні пакамечаныя цыгарэты.

— Асьцярожна, — пачуўся зь цемры шэпт. — Ня бойцеся, гэта я.

Хадок не паверыў вачам. Перад ім стаяла Раіса Сяргееўна, мокрая, азяблая. Яна кінулася да яго, на хаду дастаючы з валізкі бінт і ёд, паспрабавала абмацаць Стахавы сінякі. Ён груба абарваў гэтую непатрэбную пяшчоту.

— Што вы тут робіце? — сказаў ён, устаўляючы ў непаслухмяны рот цыгарэту. — Гэта мае праблемы, сам разьбяруся.

Тут жа, зь першай зацяжкай, галава ягоная закружылася, і Хадок рухнуў на дзіравыя калені Раісы Сяргееўны. Яна села побач і ўзяла яго пад руку.

— Асьцярожна, — паўтарыла яна. — У вас можа быць сатрасеньне.

Хадок ляжаў на яе каленях, і раптам пах мокрых калготак гэтай сьмешнай плямаўкі нагадаў яму, рэзка, нясьцерпна, пах маці. Нішто не забытае. Ён пацерся аб калені шчакой.

— Паляжыце тут, — Раіса Сяргееўна акуратна зьняла ягоную галаву й паклала шчакой на лаўку. — Я хутка, зьбегаю таксі знайду.

Думаць Хадаку было балюча, і таму ён зь нейкай асалодай праваліўся ў забыцьцё. Вярнуўся ў прытомнасьць ён ужо ў таксі, якое зьдзекліва трэслася на ўхабінах, і Хадаку здалося, што ён Страшыдла, зь якога зараз высыпецца ўся салома. Раіса Сяргееўна трымала яго за руку.

— Дасталася вашаму сыночку, — энэргічна казаў кіроўца, паглядваючы ў люстэрка задняга агляду. — Зусім яму, я гляджу, паршыва. Ведаю я гэты сквэрык. Тут часта такое адбываецца: то бойка, то рабаўніцтва, то згвалцяць каго. Нядаўна вось хлопца прышылі: адзінаццаць нажавых. Шмат забралі?

— Ш-што? — ня слухаючы спытала Раіса Сяргееўна.

— Шмат, кажу, у кашальку было? — кіроўца завярнуў на праспэкт.

— Ды так, толькі глупая свабода й трошкі самаўпэўненасьці, — сказаў Хадок і прыпадняўся. — Раіса Сяргееўна, вы што, сочыце за мной? І адкуль вы ведаеце, куды ехаць?

— Я проста калі-нікалі гуляю па горадзе, — вінавата ўсьміхнулася Раіса Сяргееўна, — і часам сустракаю вас. І аднойчы вырашыла прагуляцца так... побач з вамі... не падыходзіць, а так, паспрабаваць паглядзець на горад вашымі вачыма... Быццам з вамі, а ў той жа час і паасобку. Так знайшла ваш дом. А сёньня... Я проста хацела дачакацца вас ля мэтро, і выказаць сваю падтрымку. Я хацела сказаць... Ня слухайце вы іх... Яны бяздарныя людзі... І гэтая Валянціна... У яе, можа, і цудоўныя вершы... Але вы маеце права на апошняе слова.

Дома Раіса Сяргееўна адразу ж паразумелася з Сэнсэічам — пагатоў сьціплая розьніца ва ўзросьце гэтаму спрыяла. Хадака распранулі й паклалі ў ложак, аднак Раіса Сяргееўна, пабачыўшы стан прасьціны й коўдры, запатрабавала пасьцяліць сьвежае. Сэнсэіч пабурчэў, але потым прынес са свайго пакою пахнучы нафталінам бялізнакамплект. Хадок тым часам быў адпраўлены ў ванну, дзе перасільваючы сябе ён распрануўся, правёў інвэнтарызацыю шкоды й прамыў сінякі. Сэнсэіч даведаўся, што Раіса Сяргееўна піша вершыкі, пранікся да яе павагаю, і з гэтай нагоды пазычыў у Хадаковай збаўцы грошай — зьбегаў у начнік і вярнуўся з бутэлькай. Хадок апусьціўся на дно ложку й сам не заўважыў, як розум ягоны загіпсавала дрымота. Ён прачнуўся сярод ночы, за сьцяной хроп Сэнсэіч, Раіса Сяргееўна сядзела ля Хадаковай галавы й несла гордую вахту.

— Я ўжо зусім нармальна пачуваюся, — ціха сказаў ён, слаба ўсьміхнуўшыся. — Мэрсі вам, Раіса Сяргееўна. Вы сапраўдны сябра.

— Вам тут не баліць? — заклапочана спытала яна, лёгка дакрануўшыся да Хадаковых рэбраў.

— Не, — Хадок мягка пацісну́ў яе руку. — Я ж кажу, усё окей.

— Вы не перажывайце, — Раіса Сяргееўна пагладзіла ягоны мокры лоб. — Час усё расставіць па сваіх месцах.

— А я й не перажываю, — Хадок нацягнуў коўдру на шыю. Цела ягонае невыносна ныла, ён хацеў перавярнуцца на іншы бок, прыняць такое палажэньне, у якім усе болі спаўзуць уніз і праляжаць так да раніцы, але скінуць гэтую старую далонь ён баяўся. — Вы чаму ня сьпіце?

— Ваш гаспадар прапанаваў мне спаць зь ім, — Раіса Сяргееўна задумалася, разважаючы, відаць, крыўдным альбо не гэта мусіць выглядаць у вачох Хадака. — Але я адмовілася...

— Правільна зрабілі, — сказаў Хадок. Некалькі хвілінаў яны правялі моўчкі.

— Паслухайце, Раіса Сяргееўна, — Хадок перавярнуўся да яе тварам. — Што рабіць чалавеку, калі яму нічога ня хочацца ад гэтага жыцьця?

— Як гэта нічога? Так не бывае, — Раіса Сяргееўна перасела на ложак. — Я, канешне, веру ў бесьсьмяротнасьць душаў, але... толькі мёртвым нічога ня хочацца.

— Ня хочацца нічога, — Хадок утаропіўся ў столь. — Ніякіх амбіцыяў, ніякіх памкненьняў. Сон волі. Пошукі апраўданьня жыцьця ні да чаго не прывялі. Мары апаганеныя коламі інваліднай каляскі. Анічога не хвалюе.

Анічога. Назавіце мне любую рэч. Стаўлю ўсё, што маю: яна мяне не цікавіць.

— Гэта ў вас гаворыць злосьць, — пяшчотна сказала Раіса Сяргееўна. — Звычайная, будзённая злосьць. Мітусьлівая злосьць. Яна ўляжацца, і ўсё праміне. А яшчэ ў вас творчы крызыс. Гэта нармальна для паэтаў.

— Я не паэт, — хутка прашаптаў Хадок. — Рэч у тым, што я дагэтуль ня ведаю, хто я й кім хачу быць. І ня ведаю, што мне рабіць.

— Усе паэты так кажуць.Рабіць трэба тое, што падказвае жыцьцё, — яе голас, у якім зьяўлялася ўсё больш старэчых нотак, быў спакойны. — Вам сустрэліся я, Ірына Маратаўна, Валодзя Князькоў, Эдзік Рапухін, іншыя людзі — працуйце з намі, сьцьвярджайце праз нас сваё існаваньне. Вы натрапілі на Валянціну — даводзьце ёй сваю рацыю. Змагайцеся. І ня кідайце нескарыстаных людзей у пошуках новых. Кожны з нас — прыступка на вашым шляху. Я хацела напісаць пра гэта, і ў мяне нічога не атрымалася. Як вы думаеце, я сапраўдны паэт?

— Безумоўна, — зь лёгкай душой схлусіў Хадок.

— І яшчэ гэтая дзяўчына, — Раіса Сяргееўна нахілілася, каб паглядзець яму ў вочы, але Хадок захінуўся цемрай, і нават спыніў на некалькі імгненьняў дыханьне. — Прабачце, гэта не мая справа... Але змагайцеся за яе. Я вас бачыла толькі адзін раз. Гэта было... гэта было... Зусім я ўжо старая, не памятаю... Здаецца, у аўторак.

— Вам трэба паспаць, — сказаў Хадок і паспрабаваў падняцца на локці. — Давайце я пайду да Сэнсэіча, а вы тут.

— Ды ў мяне й так штоночы бяссоньніца, — і ліхтар, які раптоўна загарэўся на вуліцы, асьвяціў яе ўсьмешку. — Ты за мяне не перажывай, ужо чатыры,хутка транспарт пачне хадзіць, і я пайду, а ты сьпі.

Яе рука сьлізганула пад коўдру, утульна нырнула Хадаку ў майткі.

— Паслаб ногі, — Раіса Сяргееўна глыбока ўздыхнула. На паверсе вышэй заплакала дзіця. — Прыемных сноў.

**14. Карумі**

Яе сьлядамі быў ушпіляны ўвесь хутар, незвычайнымі, вар'яцкімі сьлядамі мокрых колаў, моцных колаў, на які цісьне высакародны цяжар, сьляды часта абрываліся, нібы нехта прыпадымаў каляску, а потым зноў ставіў яе на месца, сьляды ад колаў, нібы мноства арыфмэтычных знакаў роўнасьці, ад брамы да гаража, па яшчэ не зусім высахлым пасьля начнога дажджу бэтоне, на сточанай тысячагодзьдзямі да амаль ідэальнай гладкасьці зямлі, на халоднай падлозе кухні, перад камінам і на кухні, перад кніжнай шафай і пад сталом, на якім чакае ачмураных пальцаў кампутар, роўна-роўна-роўна, яна прыйшла й панаставіла знакаў роўнасьці паміж сабой і ім, паміж сабой і ўсім, пра што ён дагэтуль не задумваўся, паміж сабой і ягонымі сумненьнямі, роўна, роўна, роўна, хутар быў скрозь і спрэс апаганены яе сьлядамі, сьлядамі, якія ніколі ня высахнуць і ні з чым не сальюцца, сьлядамі невынішчальнымі нібы крапаючая кроў бесьсьмяротных, сьлядамі яе каляскі — сьлядамі Валянціны гэ. А Хадок ішоў ды йшоў празь вёску, а хутар усё не набліжаўся, ён затрымліваўся ў кожнай хаце на стагодзьдзе, на два, піў і еў, і бяз сораму прымаў пачастунак, і вёска расла, ператвараючыся ў горад, а там, на хутары, які працягваў існаваць насуперак усім законам, кожная рэч была залапаная яе рукамі, паўсюль былі адбіткі яе пальцаў, на бутэльцы, на агромністым, нібы гара, томе, на сланечніку й пачаку цыгарэтаў “Жытан”, на ваконным шкле й на клявіятуры, адбіткі яе пальцаў — пальцаў Валянціны гэ.

Першае, што ён зрабіў у суботу, быў паход па газэту ў падземны пераход станцыі мэтро. На шляху дахаты Хадок ледзь стрымліваўся, каб не разгарнуць старонкі, газэта ж ніяк не хацела ладкавацца ў кішэні, крычала усечанымі рукавом загалоўкамі, быццам ёй зацiскалі рот. Дома ён прыгатаваў сабе каву, зачыніўся ў сваім пакоі й, зграўшы самому сабе на губах нешта футурыстычнае, пацягнуў газэту за край. Аніякіх умяшальніцтваў д'ябла за пятніцу так і не адбылося. Між старонак сядзела Жанчына, Якую Ён Ненавідзеў, і нарасьпеў, някідка чытала: “Які кашмар!”. Хадок прабег вачыма па знаёмых радках, адпіў кавы. Жанчына, Якую Ён Любіў, прачытала

ўсё, што жадала: была надрукаваная ўся падборка, і толькі фатаграфія, якую ўчора сьпешна рабіў сам Хадок у сквэры перад будынкам рэдакцыі, атрымалася змазанай — па ёй ніяк нельга было вызначыць нейкія індывідуальныя рысы аўтара вершаў. Суцэльная шызая пляма з чорнымі падпалінамі. Аднак Жанчыне, Якую Ён Ненавідзеў, было, па ўсёй бачнасьці, напляваць на якасьць фота, яна, відаць, на дадзены момант занятая тым, што падшывае газэтны ліст у адмысловую тэчку зь якім-небудзь вэнзэлем і напісаным праз трафарэт просьценькім словам "Стіхі". Учора яна была такой маўклівай, Жанчына, Якую Ён Любіў, усё гуляла ў кагосьці з патэнтаваных куміраў жаночага роду, не зьвяртала ўвагі на клапатлівага Мішаню, які ўсё падтыркаў плед на яе каленях, я полынь трава, горечь на словах... Сквэр начапіў рудую бараду, і пры позірку на тую лавачку, дзе ў чацьвер адбывалася зьбіцьцё, Хадок не адчуў нічога. А сёньня газэта выйшла. Валянціна Г. атрымала што хацела. Цяпер яна пакіне ягоную арбіту, а Хадок так і не адарвецца ад зямлі.

Ад сузіраньня падборкі яго адарваў Князькоў. Рэдактар тэлефанаваў з дому й, няйнакш, сьвяткаваў там мірнае завяршэньне вайны. Голас ягоны, радасна-узбуджаны, хвастаў Хадаку па вушах, і давялося трымаць слухаўку на адлегласьці.

— Усё нармальна! — крычаў Князькоў. — Вершы выйшлі, ніхто на нас не крыўдуе, а інваліды за парачку матэрыялаў пра іхныя імпрэзы паабяцалі даслаць нам афіцыйную падзяку таварыства за асьвятленьне іхнага жыцьця. Глава запэўніў, што газэту ніхто перасьледваць не зьбіраецца. Праўда, у іх усіх адна ўмова: звольніць цябе. Па ўласным, вядома ж. Я ж табе ня вораг! Я пагадзіўся, бо сам разумееш, іншага выйсьця ў мяне не было, але ты не зьдзіўляйся, што я гэта ўсё кажу такім радасным тонам, я табе — ты мяне чуеш? — я табе ўжо знайшоў працу. Праца проста выдатная, ты ведаеш, мы ўсе табе нават трохі зайздросьцім, белай, канешне, зайздрасьцю. Ведаеш, куды цябе бяруць карэспандэнтам? Здагадайся. Ну? Ну што, разгублены? У "Газэту №1"! Ну як? Літкансультант у іх ужо ёсьць, але ён ужо божы дзьмухавец, на ладан дыхае, папрацуеш карэспандэнтам, а там можна будзе й паўстаўкі літкансультанта ўзяць! Скажы дзякуй дзядзьку Валодзю!

Хадок маўчаў, але Князькова гэта не засмуціла.

— Шкада, натуральна, што ты сыходзіш, — працягваў трашчаць рэдактар, — тут, ведаеш, я ўчора табе забыў сказаць, мне даслалі такія вершы, абавязкова трэба паставіць на наступную суботу, дзіўныя, праўда, але цікавыя... Бяз рыфмы, як там гэта называецца, калі бяз рыфмы? Вось паслухай. Ня ведаю, як ты да гэтага ставішся,

але на мой пагляд…

— Гэта я напісаў, — суха прамовіў Хадок.

— Ты? — Князькоў памаўчаў, пахмыкаў, але потым працягваў ранейшым голасам:

— Тым больш надрукуем. Я так рады, што ты мяне паслухаў, так рады, што ты зноў пачаў пісаць. Я ў цябе верыў, я ведаў… Толькі вось дзіўная форма, можа лепш у рыфму, усё-такі тут адчуваецца нейкая ўсходняя традыцыя, даволі чужая, хаця…

— Я проста п’яны быў, — цьвёрда сказаў Хадок. — Гэта ўсё поўная фігня. Выкіньце й пастаўце лепш паболей Раісы Сяргееўны.

— Раісы? — Князькоў закашляўся. — Зь якіх часоў ты так яе палюбіў? Ладна, разьбярэмся. Слухай, твае посьпехі трэба адзначыць. Мы сёньня зь Ермалайчыкам сустракаемся ў яго на лецішчы, гадзін у сем, вып’ем трошкі, пагаворым, там у яго лазенка маецца, і мы памаемся… Паехалі, Хадок! Я Косьцю сказаў, ён, безумоўна, падзьмуўся, але потым здаўся, хай, гаворыць, прызджае, ён добры хлапец, трэба мірыцца, нам, кажа, паэтам і крытыкам, трэба быць разам. Ён якраз ганарар за сваю апошнюю кніжэнцыю атрымаў, грошы ёсьць, брэндзі будзем піць, ананас кушаць. А яшчэ…

Хадок выслухаў адрэсу, месцазнаходжаньне, лецішча было ў прыгарадзе, недалёка, у тым самым раёне, які яшчэ ня горад, але ўжо й ня вёска, контрапункт, лінія фронту. Ён сказаў халодна “Чаму б і не?” і павесіў слухаўку. П’яны з ранку Сэнсэіч мыў у ваньне швэдар бамаўскіх часоў, часам выпускаючы яго з рук і потым доўга ловячы ў пухірыстай вадзе, нібыта рыбіну. Хадок дапіў каву й заваліўся да вечара на канапу з “Гісторыяй габрэяў”. Газэта, якая ляжала на падлозе, раз-пораз прымушала яго ўздымаць галаву й моршчыцца ад болю пад рэбрамі — чорная пляма на развароце прыкоўвала позірк. Урэшце ён зьлез з ложку й загарнуў яе. На кухні закугікала радыё.

Потым ён ніяк ня мог прыгадаць, у які ж момант ён адстаў ад Майсеевага племені, кароткачасовая памяць захавала толькі пустое поле, безжыцьцёвае як абгладаная костка, якое прасьціралася да самага далягляду, панылы сабачы брэх недзе зьлева, за няўтульным лясочкам, абрысы шматпавярховікаў там, дзе бледнае з блакітнымі пражылкамі неба пераходзіла ў шарасьць і сінь, ды яшчэ у руцэ церліся адзін аб адзін чыгуначныя каменьчыкі. Вакол быў зусім незнаёмы яму раён, Хадок нават ня мог сказаць, ці далёка ён ад гораду, і пагатоў загадкай для яго было, як ён трапіў сюды — зрэшты, менш за ўсё яму хацелася шукаць адгадку. Ён пайшоў проста праз поле наперад. Дзень непрыкметна згас, надыйшоў вечар, ветраны, туманны. Празь нейкі час Хадок выйшаў да дзіўнага паўразваленага

плоту, за якім віднеўся прасторны двор, а далей агляд быў засланёны двухпавярховым прыватным домам. Вокны дому былі асьветленыя, і гэта дазваляла рагледзець некаторыя дэталі: драцяную клюмбу, ровар, што ляжаў на зямлі, драўляны, укапаны ў зямлю стол. Зьлева да дому прымыкала невялікая гаспадарчая пабудова — падыйшоўшы да яе амаль ушчыльную, Хадок зразумеў, што гэта гараж. Ля дзьвярэй, прысланёныя да сьцяны, стаялі лапата, граблі, малаток і хакейная клюшка. Хадок наблізіўся да вакна й зазірнуў унутр дому.

За сталом сядзеў чалавек прыкладна адных гадоў з Сэнсэічам, папраўляючы раздражнёна акуляры, ён хутка пісаў нешта ў раскінутым на стале сшытку, ды, відаць, думка яму не давалася, круцілася ў ягонай галаве, як гульльныя косьці ў кубку. Чалавек быў апрануты ў цёплую хатнюю безрукаўку, зробленую з шарсьцяной кофты, і сам быў цёплы, жывы, хатні, аж да агіды. Натхненьне, якое струменіла па ягоным лобе й блішчала ў сьвятле лямпы, здавалася, мела нават свой пах, які, нягледзячы на зачыненыя вокны, дражніў Хадака, прымушаў дрыжэць рукі.

Чалавек адкінуў асадку, і яна прыгожа пракацілася па стале, цудоўна ўпісаўшыся ва ўсе дарожкі між раскладзеных там кніг і блякнотаў. Ён адчыніў шуфляду, дастаў адтуль сьветла-брунатую, простую файку колеру карабельнага дрэва й тытунь, любоўна ўпакаваны ў пакет, упрыгожаны нейкай бюргерскай лацінкай, і пазяхнуў. Словаў няма, матэрыял атрымліваўся неблагі, і можна нават даць стопрацэнтную гарантыю, што Сухонскі яго возьме, праблема ўладкаваньня маладых аграномаў заўсёда цікавіла раёнку, і па папулярнасьці ў рэдактара магла спаборнічаць хіба з навінкамі трактарабудаваньня, але душа прагнула чагосьці вышэйшага, хацелася хаця б раз адыйсьці ад канкрэтыкі, напісаць што-небудзь высокае, вось, скажам, апісаць фэрму ў Рыблянах — стварыць такі славесны нацюрморт, людзей паказаць, таго ж дзеда Кірыла, скажам... Дзе ж запалкі? Толькі запальнічка ляжыць у кішэні, але ж так можна й файку сапсаваць, а рэч жа дарагая, падарунак. Ён павярнуўся, і Хадок ударыў яго малатком па цемені.

Хадок прайшоўся па доме, звыкаючыся з чужымі пахамі й звычкамі, запальваючы паўсюль сьвятло. Хутка ўвесь дом, досыць прасторны, набыў такую атмасфэру, быццам чакаў гасьцей. У спачывальні на палозе спала вечным сном пухнатая жаба. У доўгім калідоры на сьцяне віселі дзіцячыя лыжы. У лазьніцы стаяла батарэя ласьёнаў і адкрыты балёнчык пены для галеньня, на вяршыні якога раздзьмуўся белы сьмятанкавы шар.На кухні, якая, відаць, не ацяплялася, і магла служыць узімку вялікай лядоўняй, ён знайшоў

бутэльку кіслага таннага віна, глынуў, ледзь ня выплюнуў, але потым пракаўтнуў і адразу адчуў сябе больш упэўнена. Ён сеў за стол, крэсла яшчэ захоўвала цеплыню, паспрабаваў прачытаць тое, што ляжала перад ім, але літары не складваліся ў словы. Пастаяў ля кніжнай шафы, узяў адну з кніг — пасьля доўгіх намаганьняў Хадок здолеў прачытаць цэлы сказ: размова йшла пра рабаваньне нейкага маскоўскага банку, далей было яшчэ горш — пошла й сьмярдзюча ад крыві. Ён узяў другую кнігу, разгарнуў — там распавядалася пра пчолагадоўлю. Хадок гідліва адсунуў нагой убок тое, што замінала яму сесьці за стол як сьлед, і зноў апусьціўся на крэсла. Ён пасядзеў крыху нерухома, потым выдраў са сшытку чысты лісток і пачаў хутка запаўняць яго імёнамі. Ірына Маратаўна — напісаў ён і з задавальненьнем закрэсьліў прыгожай тлустай паласой. Праз паўадчыненыя дзьверы ён заўважыў, як раптам згасла сьвятло ў спачывальні. Князькоў. І гэтага таксама насадзіць на рыску. Патух калідор. Раіса Сяргееўна. Лопнула лямпачка на кухні. Лена-Галя — і адначасова выбухнулі сьвяцільнікі ў прыбіральні й лазьніцы. Сэнсэіч. Настольная лямпа паміргала, успыхнула й згасла. Мішаня — і ліхтар на вуліцы ўключыўся ў гэтую вясёлую гульню. Валянціна Г. — напісаў Хадок, падумаў трохі дзеля прыстойнасьці, потым рашуча правёў кончыкам зырка-фіялетавага стрыжню ўздоўж дзіўнага слова, і вакол наступіла выратавальная, бяз праблёскаў, неаспрэчная цемра.

*2003*

*У назвах главаў выкарыстаныя паняцьці традыцыйнай японскай паэтыкі:*

Утаавасэ — паэтычны турнір

Сэдока — памер 5-7-7-5-7-7 (т.зв. “песьні грабцоў”) Сабі — эстэтычны прынцып “смутку й спакою” Кіока — гумарыстычная паэзія (“вар’яцкія вершы”) Фукагуса — вобраз адзіноты (“густая трава”)

Татоэ-ута — песьні-параўнаньні

Аварэ — эстэтычная каштоўнасьць верша (“знайсьці схаванае”) Тадагота-ута — урачыста-строгая песьня

Надзораэ-ута — песьня-загадка Монда-ута — песьня-дыялёг

Саругаку — абрадавы танец ( “малпавы гульні”) Іваі-ута — песьні-славаслоўі

Аусака — вобраз гары, сымболя сустрэчы закаханых Карумі — эстэтычны прынцып “лёгкасьці”

## АЦАЛЕЛЫ

*Маёй жонцы Ксеніі*

У мяне з шафы зьнік гальштук. Недарагое, набытае калісьці ўсяго за пяць эўра, зусім, калі задумацца, бескарыснае прыстасаваньне сталёвага колеру зь сінімі пражылкамі. Я даведаўся пра ягонае зьнікненьне ў суботу апоўдні, і, вядома ж, пры іншых абставінах толькі стомлена махнуў бы рукой, аднак існавалі дзьве акалічнасьці, якія замінаалі мне паставіцца да гэтай падзеі абыякава. Па-першае, увечары мы з Мартай чакалі гасьцей. Рэч у тым, што колькі дзён таму, вяртаючыся, як заўсёды, з Пагостава, я сустрэў у тралейбусе старога сябра А., зь якім ня бачыўся ўжо гадоў сем ці восем. Спачатку А. не пазнаў мяне й з гідлівым зьдзіўленьнем утаропіўся на маю бародку, калі я, прамінуўшы ўсе чалавечыя жорны, вырас над ягонай ужо даволі прыкметнай лысінай, аднак потым па твары яго прабегла сутарга пазнаваньня... было відаць, што ён рады нашай сустрэчы. Сам ня ведаю, што прымусіла мяне праціснуцца да А., бо асаблівай ахвоты гаварыць зь ім я ня меў — відаць, мне падалося, што А. пазнаў мяне першы, і стала няёмка.

Мы разам даехалі да мэтро, выпілі на лаўцы рытуальнае піва, мы не сьмяяліся й ня пляскалі адзін аднога па плячах — ёсьць прычына, зь якой такія дзеяньні для нас табу, але пагаварылі, прыглушана, нібыта шпіёны, абмяняліся сакрэтнай інфармацыяй пра нейкіх даўно забытых аднакурсьнікаў. Па сутнасьці, гэтая сустрэча была нашым знаёмствам, бо пяць гадоў таму мы былі абсалютна іншымі — нават страшна становіцца часам, наколькі зьмяняюцца вось так раптоўна ўсплываючыя людзі, даводзіцца па-новаму факусаваць свой душэўны зрок, пановаму наладжваць слых. Калісьці А. быў ваяўнічым разьдзяўбаем — цяпер ён вяртаўся з аўтарынку ў Пагоставе й вёз у пакеце пражэктар... а можа, інжэктар? Ну, нешта падобнае. Высьветлілася, што нядаўна А. сустрэў гэтак жа выпадкова Б., і яны абмяняліся тэлефонамі. Б., хто б мог падумаць, мае ў горадзе свой невялічкі бізнэс. Мы падняліся з лаўкі і, раз-пораз разьвітваючыся, разам дайшлі ажно да плошчы. На прыпынку дамовіліся, што варта было б паспрабаваць аднавіць матэматыку нашых былых стасункаў: чаму б а і бэ не прыехаць да цэ, гэта значыць мяне, у суботу? Падаючы А. руку ў соты раз, я нарэшце успомніў, што так і не пацікавіўся ягоным цяперашнім заняткам.

— Ды я так, — паціснуў адным плячом А. і ў голасе ягоным пачулася нейкая сарамлівасьць. — Ну што ты глядзіш як баран? Ну

мент я, мент…

А. патэлефанаваў мне на наступны дзень, пазнаёміўся па тэлефоне з Мартай, якая сказала пра яго, што ў А. непрыемны голас. Б. з радасьцю пагадзіўся, — прабубніў у слухаўку А. “І вось у нас яшчэ якая прапанова”, — ён суха засьмяяўся. “Давай усе апранем касьцюмы. Гальштукі там, усё такое. Ты як?”. Цяпер, за некалькі гадзінаў да прыходу гасьцей, мне было сорамна пра гэта ўзгадваць, але тады я з імпэтам пагадзіўся ды яшчэ зь непрыстойнай шчырасьцю разьвіваў глупыя ідэі наконт сьвята адраджэньня сяброўства. І вось высьвятляецца, што гальштук зьнік.

Гэта ўсё было па-першае. А па-другое… Яшчэ зранку гальштук вісеў на месцы. Ён быў накінуты на крук той вешалкі, дзе, сьціпла апусьціўшы рукі па швох, у расшпіленай кашулі, як госьць на трэці дзень вясельля, памяшчаўся мой касьцюм. Мая памяць, звычайна такая неахайная й лянотная, на гэты раз чамусьці чэпка зафіксавала вобраз гальштуку, што цьмяна пабліскваў у паўзмроку адчыненай шафы. Можа, таму, што сёньня субота, і я ехаў на працу ў шчасьлівым прадчуваньні заробку, які нам, распаўсюднікам кніг, плоцяць штотыдзень, можа, і хутчэй за ўсё, таму, што касьцюм ужо быў на гэты момант зьвязаны ў маёй сьвядомасьці з чаканьнем гасьцей, але я ясна памятаю, што а сёмай раніцы гальштук вісеў на належным месцы. Натуральна, першым маім памкненьнем быў пошук гальштука пад касьцюмам, там, дзе стаялі каробкі з нашым сьвяточным абуткам, прыпасеным для рэдкіх, убогіх нагодаў кшталту пахаваньня або паходу ў недарагія рэстарацыі. Я нават дастаў усё гэтае таннае, лякіраванае, штучнае, белае й чорнае, як шахматы, з абцасамі й без… зазірнуў унутр кожнага, быццам гальштук мог утульна скруціцца ў якой-небудзь пантофлі. Потым, раззлаваўшыся, учыніў грубы, але напраўду даволі хвалюючы дагляд сукенак Марты, якія складалі кампанію майму касьцюму. Праверыў зьмесьціва ягоных кішэняў, аднак знайшоў толькі зламаную цыгарэту й падазрона чыстую на выгляд, але з водарам поту насоўку ды яшчэ тэлефонны рахунак паўгадовай даўніны. Разьюшаны, я пачаў выварочваць з шафы на падлогу ўсё тое, што складала наш з Мартай небагаты гардэроб. Некалькі разоў мне здавалася, што я знайшоў уцекача, але ў твар мне зьдзекліва пасьміхаліся або незнаёмыя мужчынскія шкарпэткі з надпісам “Дынама”, або нейкія загадкавыя кавалкі шэрай тканіны — што яны тут робяць? Лежачы ў ненатуральнай, як у мерцьвяка, позе пад канапай, я адшукаў сярод павуціньня шкілецік, зь якім калісьці любіў гуляць сын — калі гэтую сымпатычную жудасьць патрэсьці, яна вельмі сьмешна трашчала.

Гэта неймаверна: ня могуць у чалавека вось так проста зьнікаць з уласнай шафы сярод белага дня гальштукі. Марта засьпела мяне ў той момант, калі я зь ліхтарыкам корпаўся ў карзіне з бруднай бялізнай.

— Ты бы яшчэ вогнішча разьвёў, — флегматычна прамовіла яна. — Цёмна? Не каб лямпачку новую ўкруціць. Левая ўжо месяц як перагарэлая. Ідзем абедаць.

— Ты гальштуку майго ня бачыла? — высунуўшыся з карзіны й стоячы на каленях, я цяжка дыхаў. — Гальштук мой зьнік.

— У шафе ён, ты ж яго на касьцюм кідаеш заўсёды.

— У шафе? — мяне апанавала шаленства. Я схапіў Марту за руку, падцягнуў да шафы й ледзь ня носам тыцнуў у касьцюм. Яна, відавочна, пакрыўдзілася.

— Прабач. Зьнік гальштук, не магу знайсьці.

— Я ня брала. Калі буду вешацца ад жыцьця з табой, знайду што-небудзь больш надзейнае.

— Ну ён ня мог зьнікнуць вось так, разумееш? Містыка нейкая. Ён яшчэ раніцай быў там. А цяпер я не магу яго… Марта!

— Ну што?

— Ну падумай. Ну можа, ты яго таго, у пральнай машыне…

— Хто ж гальштук у пральнай машыне мые!

— Ну падумай, ну Марта. Можа, давала яго каму… ну, панасіць?

— Слухай, адчапіся. Ня ведаю я, дзе твой гальштук.

— Ну Марта! Ты ж у курсе… Да нас сёньня…

— Дык схадзі й купі новы! Што гэта, далёка? Адзін прыпынак. Астыла ўжо ўсё. Абедаць будзеш?

За сталом я абражана маўчаў, а выпіўшы гарбату, абвясьціў, што раз гальштук мой зьнік, то ўвечары буду сустракаць гасьцей у ашыйніку. Калі сыну споўнілася тры, мы завялі сабаку, але праз месяц, здаецца, гэты сьмярдзючка, пароду якога я так і парупіўся вызначыць, ад нас уцёк (я пра сабаку ). Зусім як мой гальштук сёньня. А ашыйнік вось застаўся. Мусіць ляжаць у тумбачцы на бальконе. А магчыма, і ён разам з гальштукам… Брэмэнскія музыканты! Не, тут было не да жартаў. Больш за ўсё мяне злавала, што так не бывае. Ня можа гальштук нікуды зьнікнуць без дапамогі чалавека, і калі я не дакранаўся да яго, то значыць, гэта справа рук Марты. А яна, зь нейкіх бязглуздых прычынаў, прызнавацца ня хоча. Што ж, тым горай для яе.

Калі да прыходу гасьцей заставалася паўгадзіны, я пасьпеў ужо перакапаць і паставіць тарчма добрую палову нашай нядаўна арэндаванай кватэры. Седзячы на зімовым паліто, якое рэзка пахла псінай, я, з пыльнымі ўскудлачанымі валасамі, у майцы і ашыйніку,

думаў пра свой страчаны гальштук. За час маіх пошукаў памяць пра яго, здавалася, выветрылася з сьценаў гэтай кватэры, і на мяне наскоквалі ўжо цалкам вар'яцкія думкі: а можа, і не было ў мяне аніякага гальштуку… сталёвага колеру, зь сінімі пражылкамі, за пяць эўра… і Марты ў мяне не было… і сына… і сам я — толькі згублены гальштук у бяскрайняй кватэры кагосьці, да каго прыходзяць па вечарох не А. ды Б., а каханьне, здрада й сьмерць. Праўда, Марта, якая наўмысна гучна рыпела дзьверцамі шафаў, бязладна запіхваючы назад тое, што я так жорстка выкінуў на падлогу, — Марта раз-пораз нагадвала мне пра сваю рэальнасьць і вяртала мяне на зямлю. Я, бадай, упершыню за апошні год, з інтарэсам зірнуў на яе. Схавала гальштук і ўдае крыўду. Напэўна, хоча гэтым вярнуць нашыя былыя жарсьці. Трэба сказаць, што адносіны зь ёй яшчэ да нараджэньня сына ператварыліся ў звычку: сын сваім імклівым катапультаваньнем у наш застылы сьвет паспрыяў пэўнаму рэнэсансу, але неўзабаве ўсё пайшло як раней — мы пазяхалі адно адному, моўчкі й злосна змагаліся за права на ўвагу дзіцяці, і таму сын вырастаў заторганым, заўсёды гатовым уціснуць галаву ў вузкія плечы, усьміхаўся нясьмела й на вуліцы часта азіраўся назад, хаця за сьпінай нічога цікавага не адбывалася. Мы з Мартай працягвалі спаць разам, але на нашым двухспальным матрасе была такая шчыліна пасярэдзіне, шчыліна, якая цямнела, недвухсэнсоўна й катэгарычна, пад агромністай прасьцінай, бо матрас можна было на патрэбу скласьці… вось гэтая шчыліна й стала з пэўнага часу мяжой, парушаць якую не было ахвоты ні ў мяне, ні ў яе. Некалі шчыліна была для нашых гульняў цудоўным, дражнячым сымбалям, мы сьціскалі рукі ў кулакі й выстаўлялі два пальцы, якія краліся да шчыліны, нібы маленькія юрлівыя ногі — гэта было сыгналам для нападу, для абдымкаў і пранікненьняў… Але гэтая шчыліна пакрысе перастала быць цацкаю й набыла самастойнасьць, зацьвярдзела, зачарсьцвела, сталася сапраўднай мяжою. Калі-нікалі я ўсё ж адольваў яе, хутчэй праз інстынкт, чым ад любові, глыбока ўначы, пад гарлавы выдах адключанага толькі што кампутара, яшчэ халодны, затоўкваючы пад коўдру сваю гусіную скуру й сполахі ў вачох… і узрэзваў сухое ўлоньне Марты, і яна цярпела. Гэта адбывалася так рэдка, што я цяпер нават не магу згадаць, калі было ў апошні раз, мусіць, недзе на каталіцкія Каляды… не, на Дзяды. Напэўна, у Марты нехта ёсьць. Ну і няхай. Тая рэўнасьць, што закіпае ў ва мне пры падобных думках, — толькі адгалосак, кволы й зьвязаны хутчэй з маёмаснымі адносінамі, чым з чалавечымі. Як паслаблены на шыі гальштук. Гальштук. Куды ж ён мог падзецца? Можа, палюбоўнік Марты пераблытаў, дурань. Але

якім чынам? Містыка.

Сына Марта сёньня з раніцы, пакуль я быў на працы, адвезла да цешчы на лецішча. І мяне не спытала, адвезла і ўсё тут. Меркавалася, што сын прабудзе там прынамсі месяц, але дату ягонага ад’езду мы пакуль не вызначылі. І вось Марта, нават не пацікавіўшыся маімі думкамі, прыняла рашэньне сама. Я, канешне, разумею, што сын зьнік з дому даволі штучна, як зьнікае з раману непатрэбны герой, які будзе толькі блытацца пад нагамі ў асноўных пэрсанажаў. Але ж вось прыйдуць да мяне зараз А. і Б., таксама як на замову, і гэта ніякі не раман, проста іх так завуць. Дарэчы, яны ўжо тут.

А. завітаў да нас зь сяброўкай, Б. — з жонкай. Перабольшаная, фальшывагучная радасьць, якая суправаджала нашыя абдымкі, не магла засланіць ад мяне выраз страху, што праступіў на тварах былых сяброў. Відаць, такі ж страх пазіраў з маіх вачэй і на іх, бо А. і Б. трохі супакоіліся. Я кінуўся пераапранацца. Застаўшыся на колькі хвілінаў у адзіноце, я, марна спрабуючы зашпіліць кашулю не на той гузік, пастараўся разабрацца ў нашых пачуцьцях. Нам стала страшна, бо мы зноў апынуліся ўтрох. Зусім як тады, сем ці восем гадоў таму, на мокрай лесьвіцы з адной прыступкай, а шаснаццатай сорак, пад пугамі тоўстых струмянёў, зь вясёлкай, якая зайграла раптам па-над праваслаўным саборам, і вымытым да болю ў вачох прадмесьцем удалечыні. Тады мы таксама стаялі, насупленыя, абняўшыся, утрох, нібы гульцы ў нябеснае рэгбі. Страх да пары маўчаў, яго не было чуваць, калі мы сустрэліся з А., ці калі на яго наткнуўся Б., але сёньня мы зноў злучыліся ў тое цэлае, якое зруйнуе хіба што вяртаньне ў мінулае — немажлівае вяртаньне. Я яшчэ раз зазірнуў у шафу й выйшаў да гасьцей.

Нягледзячы на тое, што я адсутнічаў усяго некалькі хвілінаў, у пакоі ўжо адбыліся пэўныя працэсы. Ні сяброўцы А., ні жонцы Б. мая Марта не прыйшлася даспадобы, і яны з зайздроснай хуткасьцю заключылі паміж сабой супраць яе маўклівы хаўрус. Мне бы гэткае ўменьне так імкліва расстаўляць прыярытэты й кіраваць сваімі прыхільнасьцямі! Чаму Марта так не патрафіла іхным густам, было абсалютна незразумела, мажліва, таму, што зьяўлялася тут гаспадыняй. Ніколі не разумеў жанчын, гэтай уласьцівай ім нянавісьці, якая абавязкова й без дай прычыны ўспыхвае там, дзе зьбіраецца больш за дзьве прадстаўніцы іх полу. У А. сяброўка была нейкая зусім ужо замучаная й да шкадаваньня старая, у Б. наадварот, быццам толькі што распакаваная лялька — такія звычайна апынаюцца тупымі й сквапнымі. Я нечакана высьветліў, што на іх фоне мая Марта выглядае даволі выгадна, і гэтае

адкрыцьцё прыемна апякло скуру пад вачыма — у мяне часта зьяўляецца такое адчуваньне, калі мяне наведвае якая-небудзь прыемная эмоцыя: быццам хочацца заплакаць, а сьлёзаў няма. Звычайна такое бывае па суботах бліжэй да палудню. А. і Б. шмат сьмяяліся, намагаючыся гучнасьцю сьмеху кампэнсаваць вусьцішную пустату ў вачох.

Мы гутарылі даволі доўга, так доўга, што сяброўка А. і жонка Б. засумавалі й пачалі ўздыхаць — па чарзе, і гэта нагадвала надзіманьне матрасу. Размова ня тычылася нічога арыгінальнага, тэма сямейнага дабрабыту падплывала то да аднаго нашага борту, то да другога, то лёгка падштурхоўвала ў карму — звычны айсбэрг, які можна дабрадушна пахлопаць па белым боку. Смуга гэтых сямі ці васьмі гадоў спаўзла з нас лёгка, бо яе нічога не трымала, і паступова агаліліся аднолькавыя праблемы, і ў агульных рысах стаў зразумелы пройдзены кожным з нас за гэты час шлях — а падрабязьней і ня трэба. Б., падвыпіўшы, пачаў ні з таго ні зь сяго цкаваць Марту, нязлосна, але вельмі настойліва, я абыякава сачыў за гэтым і не забываў пра прынесены ім дарагі каньяк. А. задрамаў у фатэлі, сьмешна павесіўшы галаву. “Жаніцеся”, — гучна сказаў Б., наліваючы сабе мінэралкі, бо ікота нарэшце падсьцерагла яго. “Я не разумею, чаму вы ня жэніцеся!”. А. здрыгануўся й падняў галаву.

— А дарэчы, — сказаў ён, сонна гледзячы на мяне, — дзе твой гальштук? Мы ж дамаўляліся... Не-ха-ра-шо...

— Дзе? — блізарука прыглядзеўся да маёй шыі Б.

— Зьнік.

— Як так?

— Яшчэ зранку быў на месцы, а з працы прыйшоў — няма.

— А., ты ж мент, — праштурхнуў праз ікоту Б. — Гэта па тваёй...

— Ну, такімі справамі іншы адзьдзел займаецца, — пазяхнуў А. — Убойны.

— Не, сур’ёзна, — сказаў я. — Куды падзеўся, хто яго ведае. Марта дома была...

— Мартачка, — усьміхнуўся Б., і жонка падазрона пакасілася на яго. — Палюбоўнікам нельга дарыць мужавы гальштукі. Гэта пошла.

— У Марты палюбоўнік носіць шкарпэткі з надпісам “Дынама”, — кінуў я, цудоўна ўсьведамляючы, што раблю Марце балюча. — Яму мой гальштук пасаваць ня будзе.

Сяброўка А. хіхікнула.

— Ну што ты так на мяне глядзіш? — злосна спытаў я. — Адкуль тады ў шафе гэтыя загадкавыя шкарпэткі?

— Засталіся ад гаспадароў кватэры, — закусіла вусны Марта. —

Ты, дарэчы, зьбіраўся сёньня быць у ашыйніку.

— Арыгінальна, — скасавурылася на мяне сяброўка А.

— Можа, заваліўся куды-небудзь? — строга сказала жонка Б. і з пачуцьцём выкананага доўгу зьела тарцінку.

— У цябе калі дзень нараджэньня? — спытаў А. — У жніўні, здаецца, так? У верасьні? Будзем ведаць што дарыць.

Потым размаўлялі пра дзяцей. Гэтая тэма зблізіла жанчын настолькі, што нават Марце было дазволена ўзяць удзел у размове. Мы з А. і Б. непрыкметна праціснуліся на балькон і, стараючыся не глядзець адзін на аднаго, таропка запалілі.

Неба было гатовае пырснуць дажджом, пыльны вецер уздымаўся са двара і, далятаючы да верхніх паверхаў, распадаўся на цэлую зграю маленькіх злых віроў. Дым цыгарэтаў вяртаўся да нас як бумэранг і лез назад у глоткі ды ноздры — мы кашлялі і стараліся ўварочвацца ад яго так, каб не сустракацца позіркамі. Недзе ўверсе грымнула, важка, моцна, ударыла па вушах, і потым нечакана сьціхла, нібы сусед зьверху, які глядзеў футбол, пераблытаў на пульце кнопкі. На адзінотнай каруселі, якая стаяла пасярод двара, сядзеў сын суседкі зьверху, няшчаснае хворае дзіцё, падобнае на сумную галодную малпу, і накручваў на пальцы свае рэдкія валасы. Навальніца праходзіла міма. Мы моўчкі дапалілі і адразу ж пацягнуліся па цыгарэты зноў. Над домам навісла хмара, шырокая, як баржа.

— Як у гэтым… “Дні незалежнасьці”, — сказаў А., самы, відаць, трывалы з нас.

— Ну ты ўспомніў, — тут жа адгукнуўся Б., і мы ўсе трое з палёгкай уздыхнулі. Ніхто не хацеў пачынаць першым. А. узяў усё на сябе.

— Ну ты ўспомніў, — паўтарыў Б. — Старэча такая. Я яго глядзеў… Стоп, калі ж гэта было?

— Ты маеш на ўвазе: да ці пасьля? — прамовіў я хутка й сам спалохаўся таго што сказаў. А. і Б. паморшчыліся й зноў адвярнуліся.

— Да, — адказаў нарэшце Б. і закрыў вочы рукой. — Мы ўсе добра разумеем, пра што гаворка. Давайце будзем мужчынамі. Цяпер нам няма чаго баяцца.

— Ды мы ні ў чым і не вінаватыя, — ашчэрыў зубы А. — Ні ў чым.

— Ні ў чым, — рэхам адгукнуўся я. — Яна стаяла вось так, сьпінай да краю.

— А ты стаяў зьлева, вось так.

— А я быў у цэнтры.

— Я — вось тут.
— І быў дождж.
— Шаснацаць сорак.
— Там касьцёл быў… І вясёлка над ім. Так, вясёлка.
— Не касьцёл, а сабор праваслаўны.
— Якая розьніца.
— Ты пайшоў першы.
— Ён не пайшоў, ён пабег.
— Ну і што ты хочаш гэтым сказаць? Што?
— Давайце ня будзем. Гэта глупства.
— Праўда, давайце. Але ж, я думаю, мы… Часам мне здаецца…
— Так. Мы мусім.
— Мусім зьезьдзіць.

Яны павярнуліся да мяне, і мне нічога не заставалася, як пакорліва сказаць:

— Туды.

Маё прозьвішча яшчэ больш банальнае за імя — падазраю, што мае цёзкі-фаміліянты маглі б цалкам запоўніць гарадзкі стадыён ды яшчэ б стаялі ў праходах паміж радамі. “З такім прозьвішчам і такім імем ты проста ня маеш права заставацца шэрым”, — казала некалі Кара, выхопліваючы ў мяне з рук бутэльку піва, і дадавала, зрабіўшы прагны, глыбокі, як пацалунак, глыток: “Гэта азначала б здацца яшчэ да абвяшчэньня вайны”. Яна заўсёды выражалася туманна, Кара, але пасьля яе словаў мы глядзелі на сябе па-іншаму: як на людзей, якія маюць у сваім мінулым таямнічыя подзьвігі. Вось я і ўзгадаў, як яе звалі, і нічога, толькі трошкі кальнула.

Добра, што кальцо таго тралейбусу, на якім я езджу ў Пагостава, знаходзіцца якраз каля складу. Можна спакойна заняць задняе сядзеньне, запіхнуць пад яго кайстру з таварам, загарадзіць сябе вялізным пляскатым пакетам з дзіцячымі картоннымі гульнямі ды ўсю дарогу чытаць нібы седзячы ў асобнай кабінцы. Тралейбус доўга стаіць з адчыненымі дзьвярыма, ранішні холад не дае задрамаць; я ня гледзячы прабіваю талён і дастаю кніжку. Кіроўцы мяне ведаюць — выбягаючы з будынку станцыі, той-сёй зь іх хлопае па шкле пад маім носам, і я машу рукой у адказ. Да праспэкту мы практычна заўсёды даязджаем удваіх, рэкляма на вокнах пасьпяхова затрымлівае мільгаючае між дамоў сонца, потым тралейбус разварочваецца — марудна, парыпваючы, рогі хістаюцца, іхныя цені на асфальце зьмяняюцца хутка нібы надпісы на маніторы, сонечнае сьвятло праводзіць далоняй па адным баку тралейбусу, па заднім шкле й затым на імгненьне асьляпляе мяне, робячы мелаваныя старонкі кнігі

нясьцерпна белымі, настолькі белымі, што ў гэтай белаце раствараюцца радкі. І тады надзвычай спора насоўваецца сьпякота й духата. Увальваюцца людзі, выграбаюць позіркамі мяне з-за пакету й пакідаюць у спакоі, бо ім нічога больш не застаецца. Праз два прыпынкі ў тралейбусе ўжо няма чым дыхаць, і толькі аб'ява пра рытуальныя паслугі, наклееная на шкло, дазваляе мне чытаць. Да Пагоства сорак хвілінаў дарогі. Галоўнае — асьцярожна абыходзіцца з кніжкай, бо плаціць за сапсаваны тавар давядзецца са сваёй кішэні.

Зьніклы гальштук не выходзіў у мяне з галавы ўсю ноч з суботы на нядзелю, і на наступны дзень я зноў заняўся пошукамі. Першнаперш я праверыў шафу на бальконе, а потым спусьціўся ў падвал. Шчоўкаючы запальнічкай, я намагаўся ўспомніць, дзе ж тут, сярод зваленых як папала гаспадарскіх рэчаў, знаходзіцца ўключальнік, разгледзеў са зьдзіўленьнем у куце дзіцячую каляску, у якой, нібы ў труне, ляжала, шырока расплюшчыўшы й без таго агромністыя вочы, голая лялька. Наступіўшы на нешта хрусткае й закрануўшы галавой лямпачку, я зноў скарыстаўся запальнічкай і ледзь ня кінуўся наўцёкі ад жаху: лялька пачала павольна падымацца, і каляска, жаласьліва скрыпнуўшы, закачалася на рысорах. Мае ногі ўгрузьлі ў нейкіх мяхох, я схапіўся рукой за выступ на сьцяне й сьвятло адразу ж ўспыхнула ля самых вачэй. З каляскі, пацягнуўшыся, вылез клясычначорны кот, пагардліва акінуў мяне позіркам, сеў і нехаця пачаў умывацца.

— Кіса, — мой дрогкі голас не зрабіў на ката аніякага ўражаньня. Я адкашляўся й, паўтараючы “Кіса, кіса”, пачаў рэвізію. Сам я ў падвале быў толькі другі раз, Марта завітвала сюды часьцей — сярод мяхоў і пустых слоікаў стаялі знаёмыя мне каробкі з нашым старым адзеньнем, іх меркавалася неўзабаве перапраравіць на цешчына лецішча. Вось у іх я і пагрузіў свае неспакойныя рукі. Кот зрэдку паглядваў на мяне. Боты, боцікі, чаравікі, джынсы з маляўнічымі дзіркамі на каленях, Марціна скураная куртка з парэзамі на сьпіне, сынаў швэдрык зь зялёнай плямай на жываце, мае кашулі, нагавіцы, майкі, многія чамусьці ў загадкавых барвовых плямах… Перада мной праходзіла ўся гісторыя нашага сумеснага жыцьця. На хвіліну я нават забыўся, што шукаю ў гэтым сямейным музэйным сховішчы, задумаўся са старым паліто Марты ў руках пра той блаславёны час, калі яна гладзіла мяне па валасах… проста гладзіла па валасах, пра яе цяжарнасьць, якая праходзіла так цяжка — мяне прыводзіла ў шаленства гэтае яе адчуваньне ўласнай самацэннасьці, пачуваньне сябе сасудам з каштоўным зьмесьцівам, які трэба берагчы. Праўда, шаленства зьнікала, калі я нязвыклым, незразумела

пяшчотным для самога сябе шапаткам размаўляў з той істотай унутры Марты, якая стала неўзабаве маім сынам. Скуру пад вачыма зноў апякло, і я пашкадаваў, што ня ўзяў з сабой у падвал цыгарэты.

Аднак гальштуку я не знайшоў. А Марта ж магла аднесьці яго сюды. Я ўпэўнены, што яна мяне ненавідзіць, можа быць, таму, што замінаю ёй жыць, можа, таму што дагэтуль слухаць нічога не хачу пра вясельле, а можа, проста так — часта для нянавісьці ня трэба канкрэтных прычынаў. Я бы зусім не зьдзівіўся, калі б на дне якойнебудзь з каробак адшукаў парэзаны ў стылі вуду на шматочкі мой гальштук, я бы толькі засьмяяўся б невесела й распавёў бы пра гэта А. альбо Б. Пры ўспаміне пра нашую суботнюю дамову мне стала ніякавата. Аднак я ўжо ўзгадаў імя Кары, і гэта сьведчыць, што ўсё можа загаіцца, усё можа прайсьці само сабою.

Закрываючы каробку, я незнарок ударыў нагой па слоіках, якія стаялі на падлозе, і гэты гук напалохаў дагэтуль такога бесклапотнага ката — ён шмыгнуў у аднаму яму вядомую адтуліну між нагрувашчаных у куце ценяў і зьнік. Толькі я выключыў сьвятло і ўзяўся было за ключы, што віселі на дзьвярох, як недзе недалёка ў калідоры пачулася кароткае, слабое, але яснае ўсхліпваньне. Я цьвёрда вырашыў не зьвяртаць на гэта ўвагі, аднак калі замкнуў дзьверы, усхліпваньне паўтарылася — цяпер значна гучней. Я пераканаў сябе, што даносіцца яно з двара, бо містыкі мне за гэтыя два няпоўных дні хапіла й так. Але потым ціхі, аднак на дзіва разборлівы голас паклікаў мяне з глыбіні калідора, і я, моршчачыся, трымаючы перад сабой запальнічку, прайшоў у ягоным накірунку. Наверсе бразнулі дзьверы, і ў вакенцы пад самай столяй падвала таропка пратупалі ногі дворніка. Вецер растрапаў нейкую труху, якой было абкладзенае вакенца, і па падвальным калідоры пранесліся, ападаючы адна за адной, яе лёгкія, ломкія кавалачкі. Я падыйшоў да тых дзьвярэй, адкуль, па маіх разьліках, чуўся голас, і ледзь не наляцеў галавой на тоўстую трубу, калі ўсхліп працяў мяне са сьпіны. Рэзка павярнуўшыся, я моўчкі стаў разглядваць дзьверы зь лічбамі 88.

— Выпусьці мяне, — пачулася адтуль. — Калі ласка, выпусьці мяне.

Я зусім ня ведаў, што сказаць у адказ. За дзьвярыма зноў усхліпнулі. Недзе за паваротам паныла крапала вада.

— Выпусьці мяне, — голас не зьмяніўся ні на тон — такія ж аднастайныя словы-сьлёзы. — Я абяцаю. Я больш ня буду. Выпусьці. Зьлітуйся.

Я пайшоў да выйсьця, намагаючыся не даваць нагам бегчы. Нада мной навісаў дом. Дрогкі намёк на сьвятло, які раней маячыў

канцы калідора, дзе былі прыступкі наверх, цяпер чамусьці зьнік, і хутка я йшоў ужо ў поўнай цемрадзі. Усхліпы аддаляліся. Кожная падзея мае сваё рацыянальнае тлумачэньне. Ажылая лялька патлумачылася лёгка, раскрыецца й гэтая таямніца. І з гальштукам усё праясьніцца. Я нічога ня чуў. Аніякіх усхліпаў. Я пайду дахаты й зраблю сабе кавы. Ці схаджу ў краму й набуду сабе маленькую. Маленькую бутэлечку. Толькі прамінуўшы дзьверы зь лічбамі 101, я зразумеў, што пайшоў не ў той бок.

— Выпусьці мяне, — заенчыла зноў на зваротным шляху. — Я абяцаю.

— Выпусьці, — закрычалі дзьверы вакол. — Выпусьці!

Я дабег да прыступак і кінуўся ў дзённае сьвятло як у марскія хвалі з палаючага карабля.

— Пахмяляцца? — радасна запытаўся дворнік, калі я вяртаўся з крамы. — Пазнавата.

Дзьверы ў падвал былі адчыненыя. За тэнісным столікам грэлася мясцовая гапата. Па нахіленай каруселі, якая стаяла пасярод двара, нібы лятаючая талерка пасьля аварыі, поўзалі дзеці.

— Скажыце, — я сутаргава кіўнуў на падвал. — Скажыце...

Дворнік цярпліва прымружыўся.

— Скажыце, вы не знаходзілі ўчора тут пад вокнамі такога... такога гальштуку, шэрага зь сінім?

Дворнік для прыстойнасьці падумаў і рашуча адказаў: “Не”.

Я пастараўся расьцягнуць бутэльку на як мага доўгі час. Марты пайшла кудысьці, хто ведае куды. Тэлевізар быў скрозь атручаны футболам, час інтэрнэту яшчэ не надыйшоў. Усе гэтыя Марціны фляконччыкі й баначкі, зьбіўшыся ў гордую купку, пазіралі на мяне як на ворага, і, здавалася, пры любым маім замаху на іхную недатыкальнасьць гатовыя былі даць годны адпор. Выпіўшы палову бутэлечкі, я падыйшоў да фатаграфіі сына, якая вісела на сьцяне, і правёў па ёй рукой. Ад Марты ў сыне было больш, чым ад мяне, хаця жонка Б. і сяброўка А. запэўнівалі мяне ўчора, што гэта зусім ня так. Але я бачыў, я заўважаў год ад году, што сын, падрастаючы, усё больш становіцца падобны на Марту. Вялікія дзіцячыя вочы, якія яшчэ нядаўна здаваліся безумоўна маімі, пакрысе сталі звужацца, набываючы Марціну раскосасьць, скулы загострыліся. Дый што там казаць, калі й выраз вачэй сына стаў такі ж, як у Марты — кожнае імгненьне настроены на абарону, звыклы да крыўдаў. Я падумаў, што й размаўляць сын стаў зусім па-іншаму — са мной дык яшчэ нармальна, а вось з іншымі, зь цешчай, напрыклад, так, як ягоная маці са мной — быццам я што ні кажу, усё з абразьлівым падтэкстам.

Але ж гэта ня так. Проста мне часам вельмі хочацца адпачыць. Я ўладкаваўся з бутэлькай, цыгарэтамі й халоднымі катлетамі на бальконе й праседзеў там да вечара. Патэлефанаваў гаспадар кватэры, сказаў, што заедзе заўтра па грошы. Усяму ёсьць рацыянальнае тлумачэньне. Казкі каштуюць дзесяць тысяч за кніжку, на нашым складзе яны самы хадавы тавар. Пастаянным кліентам зьніжкі.

Марта зьявілася ля пад'езду, калі двор ужо апусьцеў, толькі на тэнісным століку, скінуўшы зь яго дошку, уладкаваўся нехта з булдосаў. Быццам праз амбразуру, я назіраў праз парэнчы балькону, як Марта, задуменна гледзячы на каруселю, дастае з сумачкі ключы. Яна неяк схуднела за апошні час, мая Марта, неяк счэзла, састарэла, пачала сутуліцца, і я спаймаў сябе на думцы, што гляджу на яе ў гэтыя хвіліны не як на жанчыну, якая нарадзіла мне дзіця, а хутчэй як на хворага малодшага брата. Марта ўвайшла ў пад'езд, а я вытрас з бутэлькі апошнія кроплі й перамясьціўся з балькону на кухню.

Але чакаць Марту давялося доўга. Я нават уключыў тэлевізар, дзе якраз ішла нейкая тэлегульня, і спыніўся на суме ў дзесяць тысяч, калі ў дзьвярох нарэшце заварушыўся ключ. Марта скінула пантофлі й накіравалася ў лазьніцу.

— Ты што так доўга рабіла ў пад'езьдзе? — спытаў я змрочна, прысланіўшыся да сьцяны ў перадпакоі.

— Суседку сустрэла, — непрыхільна зірнула на мяне Марта, выціраючы рукі. — Гэтую, Сямёнаўну. Ведаеш, Віцю, ну, хлопчыка, што над намі жыве, сёньня дворнік у падвале знайшоў. Замкнутага. І як ён туды трапіў?

— Паслухай, Марта, — калі яна з кубкам кавы села на падлогу перад тэлевізарам, я ўзяў яе за плечы й павярнуў тварам да сябе. — Ты мусіш мне прызнацца, дзе мой гальштук. Я ўсё адно знайду яго. Прызнавайся, а то гэта ўсё проста глупа.

— Ды ідзі ты са сваім гальштукам, — вызваляючыся, злосна адказала Марта. — Каву разьліла... Ня ведаю я, дзе ён. Сам згубіў, сам і шукай, а ад мяне адстань. Няма праблемаў іншых, толькі гальштук твой шукаць.

Некалькі хвілінаў мы прасядзелі моўчкі.

— Слухай, а да нас у суботу, ну... пакуль мяне не было, ніхто не заходзіў? Сусед там... Марта, ты мяне чуеш? Ну ня мог ён так зьнікнуць!

— Ніхто! Ніхто не заходзіў! Ты параноік!

— Ты ўпэўненая?

— У тым што ты параноік? Та-ак! Ой! Ну добра. Ну з жэсу

заходзіў мужычок адзін. Ён нават парог не пераступіў. Ён наконт лічыльніку казаў, дык мы ж з табой і так усё ўжо вырашылі...

— А ты кажаш, ніхто не заходзіў! З жэсу... А прозьвішча ягонага ты не запомніла? Ён з нашага жэсу?

Марта раптам засьмяялася, паставіла на падлогу кубак, ускочыла й выбегла на кухню. Праз пятнаццаць хвілінаў тэлегульня скончылася. Мільёну ня выйграў

ніхто. Я выйшаў на кухню папіць вады. Марта сядзела ля форткі й плакала, няўмела давячыся цыгарэтай.

— Заўтра гаспадар заедзе ўвечары, па грошы, — сказаў я разгублена. — Ты яму аддай, я каля тэлефону паклаў.

“Са мною нешта адбываецца, са мною нешта адбываецца, нешта ня тое, ня тое”, — цьвердзіў я сабе, марна намагаючыся дачытаць нарэшце пачаты тыдзень таму дэтэктыў. Тралейбус мірна каціў у накірунку мэтро, сёньня я выехаў з Пагостава раней звычайнага, так і не наведаўшы, між іншым, адміністрацыю заводу жалезабэтонных вырабаў — а ў ітээраўцаў там быў заробак! Я глядзеў на старонкі кніжкі, і спрабаваў зьвязаць літары ў словы, аднак на кожнай бачыне мне мроіўся толькі мой зьніклы гальштук. Пасажыраў у тралейбусе было небагата. Шчыра кажучы, бадзяньне па Пагоставе атрымалася сёньня асабліва пакутным — прачнуўшыся й дачакаўшыся, пакуль Марта пойдзе на працу, я выйшаў на кухню й нечакана парэзаў сабе голы ступак. Высьветлілася, што каля пліты, амаль ушчыльную з плінтусам, мяне падсьцерагаў невялічкі, але востры кавалак шкла. Марта разьбіла нешта, падумаў я, заклейваючы плястырам нагу. Гістэрычка. Спакуса зрабіць сабе выходны клікала вярнуцца ў ложак, але я ўсё ж неяк дакульгаў да складу. Дзень выдаўся неўраджайны: я прадаў толькі дзьве кніжкі, адзін дэтэктыў, той самы, які ніяк не прачытаю, і каляндар для хатніх гаспадыняў. Боль у назе значна зьнізіў хуткасьць перамяшчэньняў, але прычынай маіх няўдачаў быў ня ён. Гальштук, ягоная запрашальная пятля — вось хто завалодаў мной і пачынаў кіраваць маім жыцьцём са свайго загадкавага ўкрыцьця.

Мы сустрэліся з А. каля царквы, і я яшчэ здалёк заўважыў, як ён рады майму зьяўленьню. Б. пад’ехаў хвілінаў праз дзесяць, доўга ня мог знайсьці месца, каб прыпаркаваць машыну, і мы з А. цярпліва трывалі адзін аднога, удаючы зацікаўленасьць тымі навінамі, якія пачулі ўчора ў вечаровым тэлевізыйным аглядзе. Ад дому нас адзьдзяляў прыкметна зарослы за гэтыя сем ці восем гадоў сквэр, але ўсё адно нам падавалася, што цагліна шматпавярховіка навісае проста над нашымі галовамі, урачыста й пагрозьліва, навісае, гатовая

зрабіць апераджальны крок. Б., відаць, гандляваў навальніцамі — як толькі ён перасек вуліцу і, памахваючы ключамі, падыйшоў, з-за даху дому вылезла хмара — спынілася і зь цяжкім гудзеньнем пачала апускацца.

— Ну як, знайшоў ты свой гальштук? — б'ючы сябе ключамі па запясьці, спытаў Б., і я адмоўна хітнуў галавой.

Мы пастаялі, папалілі моўчкі, навокал было бязьлюдна — зацішша перад усеагульным чалавекавывяржэньнем. У той дзень мы таксама прабавілі некалькі хвілінаў тут, на добрыя цыгарэты ў нас грошай не было, і Кара, пад трыюмфальны енк, выцягнула з кішэні “Беламор”... Я памятаю, што А. прыйшоў сюды п'яны, насуперак дамове... Б. штосэкунды адплёўваўся, а я... Я баяўся больш за ўсіх. Мы сядзелі тут, пад царквой, палілі, і нас было чацьвёра. Тое прадмесьце, якое тады, з даху, так біла па вачох сваёй амаль ненатуральнай чысьцінёй, адсюль ніколі не было відаць — спуск да яго засланяў нядаўна адрамантаваны банк, увесь у сотах шклопакетаў.

— Цяпер палова на пятую, — раптам прамовіў А. — Ідзем, бо мы можам пасьпець.

Мы, імкнучыся не адставаць адзін ад аднаго ні на крок, прамінулі сквэр і апынуліся перад домам. Б., уздыхнуўшы, першы абыйшоў бакі для сьмецьця й падыйшоў да пад'езда. Мы так і думалі — яго надзейна ахоўваў кодавы замок, які, напэўна, паставілі на наступны ж дзень перапуджаныя жыхары.

— Гэта з жэсу, наконт лічыльнікаў, — я рашуча націснуў самую ніжнюю кнопку. — Адчыніце, калі ласка.

Так мы трапілі ў пад'езд. На шчасьце, ля ліфта нам сустрэўся толькі маркотны дзіцёнак, які з бразгатам правалачыў міма ўзьняты на дыбкі ровар, і толькі мімаходзь зірнуў на нашыя адчувальна пачырванелыя твары праз пруткі на пярэднім коле. Неўзабаве мы апынуліся на апошнім паверсе, пастаялі ля нейкіх дзьвярэй, натужна ўсьміхаючыся, пакуль зачыняцца дзьверы ліфта за строгім вэтэранам у кепцы. “Галоўнае, каб яны не заварылі за гэты час выхад”, — шапнуў А. і мы асьцярожна падняліся наверх па гулкай аблупленай лесьвіцы. Лявіруючы між купак гаўна, мы, нахіліўшыся, вылезьлі нарэшце на страшную прастору даху.

Як на замову, пайшла навальніца. Вада адскоквала ад прасмаленага даху й біла па каленях. “Можа?..” — трымаючыся за парэнчы, спытаў Б. і паказаў, не вымаючы, рыльца бутэлькі, схаванай у кішэню. Я замахаў рукамі. Хутка мы былі мокрыя як тапельцы. А. падыйшоў да краю й паклікаў нас да сябе. Мы сталі на край — Б. досыць сьмела, а я — з жахам, асьцярожна зазіраючы ў неглыбокую

гарадзкую бездань. Першая ж маланка ледзь ня зьбіла мяне з ног, і давялося адступіць.

— Шаснаццаць сорак, — пракрычаў А.

— Давайце памаўчым, — сказаў Б. і ўсё ж адкаркаваў бутэльку й зрабіў вялізны глыток.

— Шаснаццаць сорак, — залямантаваў яму на вуха я.

— Ну і што? Ну і што што шаснаццаць сорак? Што ты хочаш гэтым сказаць? Што?

— Паглядзіце!

Мы павярнуліся на вокліч А. Над царквой разьлілася вясёлка.

Апошнія дні зрабілі мяне на дзіва адчувальным да розных дробязяў. Вось, напрыклад, сёньня я зьнянацку заўважыў, што мае пазногці проста-такі непрыстойна чорныя, як у пралетара, а не прадстаўніка самай чыстай і бескарыснай прафэсіі на сьвеце — распаўсюдніка нікому не патрэбных кніг. Лежачы ў ложку, я здолеў зрабіць яшчэ адно адкрыцьцё — мае ногі... яны былі проста бліскучавугальныя ад зямлі. І гэта я, я, фанатык чысьціні й гігіены. Я куляй кінуўся ў душ і без праблемаў адшкроб увесь бруд. Праўда, на склад я спазьніўся, але ж гэта адаб’ецца толькі на мне. Па дарозе ў Пагостава разбалелася нага, і ў мяне зьявіўся страх, што бруд трапіў на рану — ці мала што можа адбыцца, а вось бацька Маякоўскага, і навогул, — я ўявіў сябе без ступака й чамусьці мне зрабілася млосна: так бывае, калі адчуеш якую-небудзь частку свайго цела фальшывай, несапраўднай, прыробленай да цябе пазьней, у вас так ніколі не бывала? хочацца выплюнуць язык, або адрубіць сабе палец, які, здараецца, так перашкаджае!

На складзе зьявілася навінка. Ня ведаю, якім чынам сярод дзіцячых расфарбовак, модных дэтэктываў, і кніг з сэрыі “Таямніцы перад сном” заваліўся сьціплы томік, пакуль на пробу, барвовага колеру з мушкетэрскім крыжам пад назвай “Мой крыжовы паход”. Верагодней за ўсё, нехта з офісу палічыў яго гістарычным раманчыкам для інтэлігентаў-недаросткаў і замовіў: нашыя мэнэджэры не чытаюць таго, што мы прадаем, яны навогул не чытаюць. Я таксама палічыў спачатку “Крыжовы паход” гістарычным чытвом, але прабег вачыма ў тралейбусе старонкі дзьве й пераканаўся, што гэта не зусім так. Дзіўная кніжка, ня памятаю, хто аўтар, прыбалтыйскае прозьвішча. Я прадаў яе аднаму інжэнэру з ЖБВ, ён мой даўні кліент і ахвотна бярэ такія рэчы, “Апошнія гадзіны Напалеёна” ці “Пётр Першы — блакіт і кроў”. Аднак кніжка запала ў душу, абвостраныя адчуваньні зрабілі сваю справу — капрызы маёй памяці ў апошні час такія мудрагелістыя, што я нават цяпер магу на памяць паўтарыць

зьмест. Там было прыкладна так:

“У 1095 годзе ад Р.Х. у Клермоне папа Урбан II сабраў шматлюдны царкоўны сабор. Мерапрыемства было адкрытым: тысячы рыцараў з розных краінаў прыехалі на поўдзень Францыі, прываблёныя сюды чуткамі пра незвычайнасьць гэтага сходу. Пятнаццатага верасьня папа трымаў перад удзельнікамі слова. Рыцары, стамлёныя ўчорашнім паляваньнем у клермонскіх лясох і шчодрым пачастункам мясцовай знакамітасьці кавалера Жуля дэ ля Фуараса, напачатку слухалі папу напаўвуха, бо ўсе гэтыя старыя песьні пра вызваленьне господняй труны і адпушчэньне грахоў ім пасьпелі надакучыць яшчэ ў юнацтве. Папа, бачачы такую інфантыльнасьць, уздыхнуў і перайшоў да справы. Усё больш распаляючыся, ён казаў пра багатыя землі Палестыны, пра арабскую раскошу і яўрэйскія дукаты, пра афрыканскае золата і індыйскія дыямэнты. Вялізная заля клермонскага сабору пакрысе сьціхла. На барбарскіх тварах праступала задуменнасьць, а дзе-нідзе ўжо й парадантозныя ўсьмешкі апалялі смуглявыя пысы. Вочы, у якіх кроў адлюстроўвалася так часта, што яе можна было ўбачыць там нават цяпер, забруіліся мроямі. Усё было вырашана.

Увесну наступнага году ў першы крыжовы паход падняліся французскія й нямецкія сяляне, якіх пякучыя словы папы ўмомант — літаральна за адну зіму — ператварылі ў крыжакаў. На чале паходу сталі бедны рыцар Вальтэр Голы й манах Пётра Ам’енскі, пра якога сярод сялянаў хадзілі пагалоскі, што той мае ўнізе сьпіны хвосьцік. Крыжакам яшчэ было далёка да запаветнай зямлі, наперадзе былі тысячы кілямэтраў; атрадам стала сумна. Да таго ж хутка іх апанаваў голад. Крыжакі вырашылі праводзіць штомесячныя трэніроўкі па вызваленьні Труны на сваіх жа братох у Хрысьце. Так, першым трэніровачным аб’ектам стаў разрабаваны ўдзельнікамі паходу хрысьціянскі горад Майнц, затым іхнай ахвяраю стаў Кёльн. Пацярпелі ад братоў-крыжакаў Вугоршчына й Баўгарыя. Канстантынопальскі імпэратар, пабачыўшы поўную прафанацыю вызваленьня труны господняй, пераправіў крыжакаў у Малую Азію. Там іх ужо чакала турэцкае войска, адно зь лепшых у сьвеце. Крыжакі панесьлі вялікія страты, каля васьмідзесяці працэнтаў іх было перабіта, астатнія вярнуліся дахаты, даволі шмат трапіла ў турэцкае рабства.

Я еду на кані ў самай гушчы гэтага дзіўнага войска, мы рухаемся марудна, але ўпарта, і хто ведае, якая адлегласьць нам засталася. Я ня ведаю, як я тут апынуўся, я, чалавек дваццатага стагодзьдзя, які ніколі не сядзеў на кані і пагатоў ня ведае, як трымаць меч. Аднак я стараюся пазіраць у барадатыя твары сваіх спадарожнікаў бяз страху, у гэтым, я мяркую, адзінае маё

выратаваньне. Цела спакутаванае ад нязвыклага сядзеньня на кані й нашэньня мяча, я сьмярджу як бомж і ў мяне гніюць вочы. Аднак мне нічога не застаецца, як цярпець. Раўнамернымі штуршкамі рухаецца войска, торгаюцца ў такт моцныя сківіцы, жуюць соладавыя палачкі. На шчасьце, на мяне ніхто не зьвяртае ўвагі, ніхто, апрача рыцара па імені Малатус, адзінага, чыё імя я здолеў разабраць сярод мешаніны гаворак. Учора на прывале, раптам матэрыялізаваўшыся з вогнішча, нібы язык полымя, што пачаў чамусьці існаваць сам па сабе, ён падсеў да мяне й спытаў нешта. Думаю, мая лаціна ўрэшце мне здрадзіць. Я ня ведаю, навошта я тут. Сёньня Малатус, які раней ехаў у авангардзе, запаволіў хаду свайго каня, дачакаўся, пакуль я праеду й цяпер сьледуе ззаду, насьмешліва гледзячы на мяне спадылба. У мяне хапіла мужнасьці азірнуцца толькі адзін раз. Сумняюся, што дажыву да заўтрашняга раньня".

Сёньня я нікуды не паехаў — запісаўся да доктара. Нага выглядала ўсё горш. Карыстаючыся тым, што Марты не было дома, я патэлефанаваў сыну. Мне не хацелася рабіць гэтага ў яе прысутнасьці, нашы погляды на тое, як неабходна зь ім размаўляць, кардынальна разыходзяцца — то Марце здаецца, што я занадта зь ім сюсюкаю, то наадварот, яна заяўляе, што я гавару зь ім як з сабакам. Сын ужо досыць дарослы, а нашы з Мартай спрэчкі ўсё працягваюцца — больш за тое, яны ператвараюцца ў сапраўдныя войны, халодныя, ціхія, балючыя. Слухаўку ўзяла цешча. Я сказаў ёй усё тое, што кажуць у падобных выпадках, і запатрабаваў да слухаўкі сына. Ён нешта жаваў, і на мяне быццам пахнула чымсьці чыстым і родным — хаця б на хвіліну стала вальней дыхаць.

— Што ядзім?

— Макароны.

— З чым?

— З сасіскамі.

— Ну і колькі ты ўжо зьеў? Доўгая паўза.

— Сына?

— Ну вось, я зь ліку зьбіўся. Не, пап, я ня памятаю.

— Чаго?

— Колькі зьеў. Недзе прыкладна шэсьдзесят... пяцьдзесят восем макарошак.

— Ну як ты там?

— Нармальна. Толькі баба забараняе тэлевізар глядзець.

— Вось ужо гэтая баба!

Мы памаўчалі трохі, пацокваючы языкамі.

— А калі вы з мамай прыедзеце? — спытаў сын з надзеяй.

— Прыедзем, — няпэўна адказаў я, ня ведаючы, што сказаць, але не жадаючы класьці слухаўку. І раптам добрая ідэя, настолькі ж удалая, наколькі цынічна-спрытная, наведала мой бедны мозг. — Прыедзем, на выходныя.

— У суботу? — дзелавіта спытаў сын. — Давайце лепш у пятніцу.

— Дамовіліся. Паслухай, сына... Ты часам майго гальштуку з сабой не прыхапіў?

— Не, ня браў я. А трэба было ўзяць, тат?

— Ды не, не, нічога. Гэта я так. А ўспомні, калі ласка, вось у той дзень, калі я быў на працы, а мама цябе павезла да бабулі... Перад вашым ад'ездам ніхто да мамы не заходзіў?

— Дзядзя заходзіў. Дзядзя з жэсу.

— І ўсё?

— Усё.

Я расчаравана ўздыхнуў. Дзядзя з жэсу й праўда мусіў заходзіць у суботу, я яму тыдні з два да гэтага сам казаў зайсьці. Значыць, ніякіх падказак чакаць не даводзіцца.

— Ну добра, сына. Што табе прывезьці?

— Футбольны мяч.

— Дамовіліся.

— І майку Ранальда.

— О'кей. Ну, пакуль.

— Пакуль, пап. Пап?

— Ну што?

— У суботу яшчэ цётка заходзіла. Цётка зь ведзьміным носам. Толькі мама прасіла табе нічога не казаць. Ты маме не кажы, што я табе сказаў, добра?

— Добра. Чакай нас у пятніцу зь мячом. Пакуль. Мне тэрмінова трэба было знайсьці Марту й высьветліць усё раз і назаўсёды. Усьведамляючы сур'ёзнасьць такога раненьня для сямейнага бюджэту, я выклікаў таксі й вырашыў паехаць да яе на працу. Гэта падасца сьмешным, але ўжо седзячы ля пад'езду ў чаканьні машыны, я ўцяміў, што ўяўляю месцазнаходжаньне Марцінай працы надта прыблізна. Яна працавала ў школе, недзе ў Шамякіна, вялізным раёне на ўскраіне гораду, застаўленым шматпавярховымі скрынямі з пустой чалавечай тарай унутры. Шляхам складанага праецыяваньня маіх цьмяных успамінаў на маршруты грамадзкага транспарту, якім карысталася Марта, я звузіў кола пошукаў амаль удвая. Таксі пад'ехала, я кінуўся ў кватэру, набраў нумар даведкі й праз колькі хвілінаў ведаў, што Марта можа працаваць у вадной з трох школаў або на вуліцы Абэцэдарскага, або на праспэкце Цанавы. Хутка я быў

каля першай зь іх.

Школы я не наведваў ужо гадоў пятнаццаць, і пах гэтай сярэднеадукацыйнай навучальнай установы, калі я, ледзь разьмінуўшыся ў дзьвярох з двума вусатымі дэбіламі, у параўнаньні зь якімі Віця з нашага пад’езду падаваўся хлопчыкам-вундэркіндам, пакульгаў да вахторкі, падаўся мне мярзотным. Не, хлушу — толькі пачынаючы сваю працу распаўсюднікам, я заходзіў некалькі разоў у пагостаўскія школы: гэтую задуму давялося кінуць, бо настаўнікі апынуліся неплацёжаздольнымі кліентамі. Разам з пахам нахлынулі ўспаміны пра ўласнае дзяцінства, бляклыя, непрыемныя, як кропельніца ў лякарні. “Не, не”, — адмахнулася вахторка, калі я назваў прозьвішча Марты. “Я тут нядаўна, і нават калі б ведала, не сказала б… Ці мала што. Ідзеце ў настаўніцкую”.

“Толькі з дырэктарам”, — сказала мне ў настаўніцкай пажылая цётухна, зірнуўшы на мяне вельмі дзіўна. “Але ў дырэктаркі цяпер урок. Пачакайце яе ля кабінэту расейскай літаратуры, ён наступны”. Я выйшаў на калідор і ад няма чаго рабіць стаў вывучаць расклад. Высьветлілася, што мне трэба было чакаць ледзь ня ўсе сорак пяць хвілінаў. Я падыйшоў да кабінэту літаратуры й далікатна прыадчыніў дзьверы.

— А навошта нам вучыць іх, яны ж усе ўжо мёртвыя? — гучна заяўляў зь першай парты адпраўлены туды, відаць, на катаргу хударлявы хлопчык з вачыма Чыкаціла. Ён нахабна аблакаціўся на стол і абвёў рукой сьцены, густа завешаныя партрэтамі знакамітых барадаў. У часы майго дзяцінства ўжо за такую позу выгналі б з заняткаў, ня кажучы пра тон. А хлопчык яшчэ й дадаў:

— Яны ж згнілі ўсе даўно. Мы што ж, нэкрафіліей тут займаемся?

Я праціснуўся ў клясу, выклікаўшы сьмех у двух грузнагрудых бляндыначак, якія сядзелі да мяне найбліжэй. Словы хлопчыка былі накіраваныя ў самы канец клясы, куды накіраваліся й помсьлівыя вочы ўсіх астатніх школьнікаў. Відаць, ім гадоў па шаснаццаць. Сонца залівала клясу, праз вакно я бачыў сваё таксі. Да мяне імкліва наблізілася маладая, можа, трохі старэйшая за Марту каротка стрыжаная жанчына з журналам у руках. Яна замахнулася на рэвалюцыянэра, ён задаволена сеў на месца.

— Прабачце, можна вас на сэкундачку, — чамусьці саромеючыся, прамовіў я. Бляндынкі за першай партай завылі ад захапленьня.

— Бурлюк, гэта твой апошні шанец, — строга прамовіла настаўніца й выйшла сьледам за мной.

Яна не зьдзівілася, калі даведалася, хто я такі. Мы паволі прайшліся ўздоўж калідора.

— Я не павінная вам усяго гэтага казаць, — прамовіла дырэктарка, задуменна гледзячы перад сабой. — Але адчуваю, што вымушаная. Марта Андрэеўна ў нас больш не працуе. Даўно ўжо не працуе. Яна звольнілася яшчэ напрыканцы зімы.

Я спыніўся й міжволі схапіўся за яе журнал, які дырэктарка, нахмурыўшыся, тут жа вытаргнула з маіх пальцаў.

— Сытуацыя вельмі дзіўная, — мы падыйшлі да вакна. У кабінэце літаратуры кагосьці гвалцілі. — Марта Андреўна не выклікала да пары ніякіх папрокаў. Прынамсі, калі я прыйшла сюды кіраваць школай, у мяне і ў плянах не было ад яе пазбаўляцца. Яна, натуральна, не хапала зорак зь неба, але прадмет ведала... усе былі задаволеныя яе працай. І вось аднойчы яна прыйшла ў настаўніцкую пасьля ўроку... Мяне не было, я распавядаю ўсё гэта са словаў нашага завуча. Яна прыйшла, бледная, уся такая... як бы гэта сказаць... дэмаралізаваная... апусьцілася павольна ў фатэль і гучна так прашаптала...

— Што прашаптала? Што?

— Адно слова.

— Якое?

— Мярцьвечына. Яна так і сказала: “Мярцьвечына”. Вельмі, вельмі непрыемная гісторыя. Пайшлі чуткі, па рэпутацыі школы быў нанесены вялікі ўдар. Яна звольнілася па ўласным жаданьні на наступны ж дзень.

— Вы ня ведаеце, дзе яна працуе цяпер?

— Я не павінная вам гэтага казаць, але... Не, я мушу... Вы ўсёткі не чужы ёй чалавек, бацька яе дзіцяці. Рэч у тым, што нашая завуч, Магдалена Міхайлаўна, бачыла яе на Радаўніцу... Бачыла яе на могілках. Яны разгаварыліся і...

— Працягвайце.

— Марта Андрэеўна працуе на Сіверскіх могілках, даглядае там старыя магілы.

Па дарозе я спыніў таксі ля ўнівэрсаму, набыў сабе ўлюбёны бутлічак і пасьпеў яго выжлукціць, калі мы яшчэ толькі пад’язджалі да могілак. Як жа мне пашанцавала з пошукамі! Так бывае заўжды зь няўдачнікамі накшталт мяне: паўсюдныя правалы ў сур’ёзных задумах і ўдача ва ўсялякіх дурных, дзікунскіх справах! Стала спакайней, разгадка набліжалася. У тое, што я ўсю вясну жыву ў адной кватэры зь ціхай вар’яткай, цяпер верылася лёгка. Бедная мая Марта! Таксіст моўчкі злаваўся, назіраючы неўпрыкмет, як я п’ю

гарэлку з рыльца, аднак я заплаціў яму неабдумана шчодра й неўзабаве стаяў пера дзьвярыма могілкавай адміністрацыі. “Марта ўжо пайшла”, — сказаў мне вясёлы дзядок у ватніку й папрасіў за інфармацыю цыгарэту. Я ўжо думаў выходзіць, як успомніў пра цётку зь ведзьміным носам. “А, дык гэта Барысаўна”, — зарагатаў дзед, атрымаўшы на пляшку. “Ты пахадзі па могілках, яна недзе тут, сустрэнеш яе, абавязкова сустрэнеш”.

— Гэта хто?

За маёй сьпінай вырас мужык у пакамечаным касьцюме.

— Патапавіч, гэта хто? Я ж ясна сказаў: чужых у кантору не пускаць.

Патапавіч жаласьліва заўсьміхаўся. Я, натхнёны гарэлкай, зрабіў яму знак маўчаць і зграў ролю распаўсюдніка, бліскучае выкананьне якой было бы для мяне прыемным посьпехам, калі б не даводзілася рабіць гэта

ўжо столькі шэрых гадоў. Адзінае, кайстра, якую я немавед чаму ўзяў з сабою, была пустой, аднак адкрываць яе не спатрэбілася. Ледзьве я пацягнуў маланку, начальнік мёртвых зароў:

— Піздуй адсюль! Зусім адурэлі, на могілкі цягаюцца! Я выйшаў на ганак і запаліў. Жыцьцё круцілася перад вачыма ўсё шпарчэй. Каля будынку адміністрацыі сядзелі, як сутэнэркі, прадавачкі кветак. Начальнік выйшаў за мной, я ўдаў, што рухаюся да аўтобуснага прыпынку й, павярнуўшы за вугал, безь перашкодаў пералез праз агароджу.

Жанчыну зь ведзьміным носам я шукаў доўга, аднак калі пабачыў яе ля іржавага баку з вадой, што навісаў над сьметняй у самым канцы могілак, адразу ж пераканаўся, што памылкі быць ня можа. Нос у Барысаўны й праўда быў як у ведзьмы — доўгі, кручкаваты, колеру сьвежай глеістай зямлі, па ўсёй бачнасьці, сьведчаньне працяглага рэлігійнага алькагалізму. Старая корпалася ў траве — як я зразумеў, падыйшоўшы бліжэй, яна зьбірала рассыпаны букет. Мне заставалася толькі абыйсьці агромністы бак, і я ўжо прадчуваў, што зраблю з каргой, як Барысаўна вы-прасталася; яе твар, раптам узьніклы па той бок баку, наткнуўся на мой паляўнічы позірк. Старая, дарма што зямлёй пахла, адразу ўсё зразумела й зь нечаканым спрытам кінулася праз дарогу. Я пусьціўся наўздагон.

Маладосьць мела неблагія шанцы перамагчы ў гэтым змаганьні, але Барысаўна ўсё разьлічыла. За купкай раскідзістых дрэваў ля сьвежай яміны якраз адбывалася пахаваньне. Над труной схіліўся хлопчык, цалуючы нябожчыка ў лоб, некаторыя ягоныя сваякі ўжо выканалі свой абавязак і стаялі воддаль, нецярпліва перамінаючыся

на стамлёных нагах. Капцы пералічвалі грошы. Жанчыны плакалі — як на мой погляд, дык занадта тэатральна. Барысаўна, аддыхаўшыся, павіталася з адным з капцоў, праціснулася да будучай магілы. Магчымасьць помсты адкладвалася. Я пастараўся заняць самую выгадную пазыцыю, каб па заканчэньні цырымоніі працягнуць барацьбу — стаў паблізу ад яміны, але з другога боку. На мяне спачатку раз-пораз пазіралі, я бачыў у вачох невыносна банальны чалавечы голад, жаданьне добра паесьці й выпіць пасьля такога нудотнага дня, які хацяі апынуўся нечакана выходным, але ж выдаўся цяжкім: паездка з аднаго канца гораду на другі, паленьне да млосьці й ванітаў зь незнаёмымі людзьмі на ганку, цяганьне дамавіны, траскі казённы аўтобус, паважная маруднасьць хаўтурнай працэсіі, якая так дзейнічае на нэрвы. Мы вось не хадзілі на пахаваньне Кары, не, не хадзілі, мы нават ня ведаем, дзе яна пахаваная, навошта гэта ёй, Кары, досыць таго, што адбылося, досыць таго, што мы гэтага ніколі не забудзем, дастаткова таго, што ёй наканавана нам заўсёды пра гэта нагадваць... Нарэшце труну падхапілі й паднесьлі да яміны. Я міжвольна нахіліў шыю, каб паглядзець у твар чужога нябожчыка... я не пасьпеў яго разгледзець, я нават не стараўся гэтага зрабіць, бо на нябожчыку быў мой сталёвага колеру зь зялёнымі пражылкамі гальштук. А на помніку — часовым, драўляным, чырвоным, убогім — чорная шыльдачка з маімі імём ды прозьвішчам. Гарэлка стукнула мне ў галаву — я рвануўся наперад і абрынуўся ў яміну.

З Карай нас пазнаёміў А. — ён знайшоў яе падчас сваіх жывёльных рэйдаў па вечаровых вуліцах гораду, падыйшоў да яе ў сквэры, прапанаваў пачаставаць півам, яна на дзіва лёгка пагадзілася. Спачатку мы Кару так і ўспрымалі, натуральна, як дзяўчыну А., ваяўнічага нашага сябра з панкаўскага-гопніцкімі замашкамі. Неяк А., аднак, прызнаўся ў прыступе выпадковай п’янай шчырасьці, што ня сьпіць зь ёй, што хоча яе кінуць, але чамусьці не стае моцы, чымсьці яна яго паланіла — хрэн ведае чым. Потым быў дзень нараджэньня Б., мы паехалі за горад, мы палілі траву, пілі гарэлку й сьпявалі без гітары савецкія гіты, даходзячы ў сваіх сьпевах да геніяльнага блюзьнерства. Калі пачало зьмяркацца, Б. (мы й самі не зразумелі, як гэта адбылося, зь нейкіх тыгрыных лянотна-ачмуральных гульняў на мокрай дзіравай коўдры) авалодаў Карай проста ў нас на вачох — Б. падняўся са спустошанымі вачыма, у вачох Кары, якая ляжала ў адной майцы й пачэсвала закусаную камарамі нагу, было запрашэньне. Мы не адгукнуліся, нам не было й дваццаці, мы былі, бадай, цнатлівымі дурнямі з такім-сякім вопытам,

які кожны з нас узносіў да нябёсаў, але вось так, на вачох... Мы былі студэнтамі, але не хадзілі на заняткі, бадзяліся цэлымі днямі па вуліцах, здавалі пустыя пляшкі й з імпэтам, ненатуральна лаяліся матам, устаўляючы салодкія, забароненыя словы па пяцёрцы ў кожны сказ. Потым была ноч у кватэры маіх бацькоў, якія якраз кудысьці зьехалі, Кара да сьвітанку распавядала нам старажытнаангельскія легенды, мы палілі й пілі нейкае чарніла. Калі сонца пачало прабівацца празь цяжкі дым, які асядаў на нашых тлустых валасах, Кара легла паміж мной і А., расшпіліла нам джынсы, Б. уладкаваўся ў яе ў нагах. Было мутарна й файна адначасова. “Як гэта класна: трымаць у кожнай руцэ па мужчынскім члене”, — сказала Кара, заплюшчыўшы вочы. Час абсыпаўся, як стары тынк, пад ім зьявіліся новыя вымярэньні. Мы па чарзе вылецелі з унівэрсытэту й бачыліся па дваццаць тры гадзіны на содні. Кара не займалася ў жыцьці нічым, яна, па яе словах, “проста жыла”, у яе раней быў нехта, прыдурак-музыкант, які кінуў яе зь дзіцём; яна не любіла ўспамінаць пра сваё мінулае. Кара сьпявала так, што мы паміралі ад разрыву ўсіх тых органаў, пра якія не сказана ў анатамічных даведніках, Кара грала на гітары, фортэпіяна й трамбоне, Кара размаўляла па-ангельску як Эліс Купэр і ведала на памяць цэлыя апавяданьні По. Яна прымусіла нас чытаць, і мы чыталі як пілі, часам зусім нічога не разумеючы, але заўсёды не прапускаючы ні радку. Наша сям’я зьняла пакой у прадмесьці, Кара аднекуль даставала грошы, мы не пыталіся адкуль. Памятаю, як мы валяліся на голай падлозе, ля калярыфэра, у кожнага ў руках кніжка Мілера й бутэлька партвэйну, забыўшыся на існаваньне адзеньня, цэлымі днямя, цэлымі стагодзьдзямі, елі, кахаліся, пілі й чыталі. Кара прымусіла нас паспрабаваць нешта напісаць самім, і вось мы ўжо пісалі як заўзятыя графаманы, ні дня без радку, і чыталі ўсё гэта Кары, якая ставілася да напісанага строга, але так далікатна і ўдумліва, што нікому і ў галаву не прыходзіла пакрыўдзіццца. Кім была для нас Кара? Маці, настаўніцай, каханкай, усім гэтым адначасова і яшчэ — сэнсам.

Мы былі пустымі, зусім пустымі перад знаёмствам з Карай, пустымі як газэты, старонкі якіх залапаныя цэнзурай, яна зрабіла з нас кагосьці, хто жыў з адчуваньнем сваёй апраўданасьці. Ніхто з нас не задумваўся пра паходжаньне яе ймя (мы бы забілі таго, хто сказаў бы, што гэта мянушка ), ніхто з нас не задумваўся, што будзе з намі далей, ніхто з нас не задумваўся ні пра што, акрамя натуральных патрэбаў: ежы, сэксу, мастацтва ды алькаголю з травой. Увесну грошы скончыліся, мы жылі ў нейкім інтэрнацкім пакоі, дзе раз на тыдзень абавязкова біліся з лысымі гопнікамі, якія прыходзілі да

студэнтак — і як файна было, пасьля таго як Кара змывала з твараў кроў, класьціся ў вялікі ложак, складзены з трох вузкіх, інтэрнацкіх, і адчуваць дотыкі валасатых ног А., маленькіх грудзей Кары й задніцы вечна вясёлага, з усьмешкай генія Б.! Тады, у інтэрнаце, і прагучала гэтая страшная фраза Кары: вершнікі ўжо спусьціліся ў даліну, калі б мы жылі інакш, так, як жылі да знаёмства з Карай, або жылі б так, як цяпер, мы б толькі пасьмяяліся з такога пошлага вобразу, але з тонкіх вуснаў Кары гэтыя словы зьляталі так падкрэсьлена коратка, яны дыхалі такім фаталістычным захапленьнем, гэтыя словы (вусны?), што нам і ў галаву не прыходзіла сьмяяцца, мы слухалі й працягвалі нашае вар'яцкае існаваньне. У красавіку вершнікі пераправіліся празь вялікую раку — “Чорная рука садзіцца ў ліфт”, так зьедліва адгукнуўся аднойчы, пачуўшы гэта, Ц., студэнт-філёзаф, які часам сядзеў з намі ў пакоі й спрачаўся з Карай, пакідаючы нам ролі маўклівых сьведкаў, якімі мы, зрэшты, не засмучаліся, бо ноччу заўсёды бралі сваё. Травень: вершнікі прайшлі праз пустыню. Напаўзабітыя сьпякотай, мы валандаліся за Карай па горадзе, бесклапотныя як дзеці, паслухмяныя як сабакі. Нас выгналі з інтэрнату, і мы спалі на нейкім закінутым лецішчы, якое Кара знайшла адной ёй вядомым шляхам. Чэрвень. А. напісаў паэму; Б. ледзь не памёр, атруціўшыся гарэлкай, мы начавалі ў прыёмным пакоі бальніцы; у Кары быў выкідыш — гэта я цяпер зразумеў, тады ж падзея прайшла міма нас, як машына па праспэкце ў гадзіну пік; я прачытаў Касінскага. Вершнікі былі ля сьценаў гораду. Лета прайшло незаўважна. Аднойчы ўвосень Кара павяла нас да царквы. Мы стаялі ля яе й тупа глядзелі, як валасатыя папы пад'язджаюць на сваіх іншамарках, уцягваюць галовы ў плечы й, намагаючыся як найхутчэй нас прамінуць, забягаюць унутр. Аблога была нядоўгай, вершнікі авалодалі горадам, сьмерць, гвалт і рабаваньне. На наступны дзень Кара зранку прызначыла нам сустрэчу на тым самым месцы, строга наказаўшы ня піць сёньня й не ўкурвацца да апупеньня, і сыйшла. Мы палову дня шпацыравалі па горадзе, перад вачыма быў туман, скрозь які мы амаль навобмацак вызначалі час. А палове на пятую мы сустрэліся з Карай ля царквы. Вершнікі разводзілі на плошчы вогнішча. Кара завяла нас на дах. Прастора пад нагамі падавалася нам лесьвіцай з адной прыступкай, пайшла навальніца — як на замову, астудзіла крыху нашыя галовы, я натужна кашляў. “Спачатку я”, — сказала Кара. “Права першай. Потым — А., першае вока. Затым Б. — першае насеньне”. Апошнім мусіў зрабіць крок я. Мы абняліся. Кара ўсьміхнулася. Б., здавалася, яшчэ не разумеў, што адбываецца, ён хістаўся ў вымаўляў нейкія

дзіўныя гукі, нешта псэўдагерманскае, мы ж з А. не маглі прыхаваць смутную трывогу. Мы таксама ня вельмі ўсьведамлялі, што мусім зрабіць, аднак на нейкае імгненьне, усяго імгненьне, нашая пакорлівасьць Кары зьнікла, і да нас пачало даходзіць, што зараз скончыцца нешта больш важнае за гарэлку й цыгарэты. “Чакаю знаку”, — сказала Кара, усьміхнуўшыся яшчэ больш прамяніста, і ў гэты момант нешта адбылося са мной, нешта такое, што яшчэ да падзеньня Кары скончыла яе эпоху. Я пабачыў перад сабой заўчасна пастарэлую жанчыну з маршчыністым тварам і вакзальнымі вачыма. “А вы пакляніцеся”, — махнула рукой Кара, і мы як пад гіпнозам апусьціліся на калені ды прамармыталі клятву не адступіць, а зрабіць крок усьлед. Прадмесьце ўдалечыні блішчэла, як мокрае шкло пад сонцам. Над царквой зайграла вясёлка. “Вершнікі запалілі паходні”, — сказала Кара ўсьцешана й ступіла наперад. Мы пастаялі трохі, вярнуліся да ліфта, выйшлі на вуліцу й разыйшліся, разыйшліся як па камандзе, у розныя бакі, без аніводнага слова, каб ніколі больш не сустрэцца.

Ты плачаш, і кожная сьляза — як павелічальнае шкло для твайго невытлумачальнага, такога вялікага й таму яшчэ больш безабароннага гневу. Цяпер я бясьсільны: любое маё слова, любы рух, дотык, парываньне трапляюць пад бязьлітасную оптыку гэтай сьлязы, і адразу ж вырастаюць да памераў крыўды. Пад павелічальным шклом, мусіць, і я сам, пажоўклы, слабы, паранены нібы сад, які ўскапалі ўздоўж і ўпоперак у пошуках няісных скарбаў, падаюся табе пачварай, што мэтанакіравана паглынае тваё юнацтва. Гэта ня так. Са мной нельга размаўляць праз сьлёзы. Мне хочацца выпіць іх, так, як калісьці хацелася твайго поту, дакрануцца языком да гарачай шчакі, задушыць цябе, асьляпіць — толькі б спыніць павелічэньне. Аднак гэта будзе памылкай, палівам для новых сьлёзаў. Я сяджу нерухома й безуважна, мне нельга нават выйсьці, бо такое рашэньне праз павелічальнае шкло ты будзеш трактаваць як уцёкі, мне нельга мітусіцца вакол і галасіць як старой бабе, мне нельга падарыць табе ратавальную аплявуху — прысяжныя сьлёзы знойдуць у гэтым састаў злачынства; адчуваючы, як таюць мае абрысы ў чарговай сьлязе, я ўзіраюся ў твой пунсовы твар, скажоны любоўю.

Хто ведае, якія міражы тояцца ў салёнай кропельцы? Якія здані, стылізаваныя пад мяне, з ватай унутры, гайдаюцца на вільготных хвастох перад тваімі спалоханымі вачыма, рыхтуючыся да скачку, адчыняючы дзьверцы гоначных партманэ?

Ведаеш, мне часта здаецца, што мы размаўляем на розных мовах. Сёньня якраз такі выпадак. Я сяджу й чакаю, пакуль

пачарнеюць павелічальныя шкельцы. Зрэдзьчас я спрабую вымавіць нешта, і сустракаю ў вадказ твой няўцямны позірк. Кожны з нас лічыць мову другога барбарскай і чуе толькі тое, што хоча пачуць. Страшна здагадвацца, у ва што ператварылі усё вышэйнапісанае твае павелічальныя шкельцы. Хутчэй за ўсё, у набор абвінавачваньняў. А можа, у апраўданьні. Але я не абвінавачваю й не апраўдваюся. Усё, чаго я хачу, — гэта спыніць павелічэньне. Паглядзі на мяне сухімі вачыма. Мае рукі цёплыя, а галава пустая. Дакраніся да мяне так, як рабіла гэта ўчора.

Гэта было ўлетку, ноч, рэха вулічнага сьвятла, якое то завісаючы над нашымі галовамі, то імкліва мераючы столь, не давала заснуць, духата, глухата. Мне здавалася, я усяго толькі падумаў гэта, так, толькі падумаў, ня вымавіў, не прашаптаў, сабака, які спаў у фатэлі, праўда, зачмокаў, узьняў галаву, лятучыя талеркі накіраваліся ў парк, я амаль упэўнены, што толькі падумаў: “За што ты мяне так ненавідзіш?”. Гэта мела наступствам… не, спачатку зазьвінела доўгая паўза, тваё роўнае дыханьне нічым не парушылася, ад бялелай ў паўцемры сьпіны йшоў жар…а потым ты села на ложку й закрычала. Фіранка пахіснулася, упускаючы ў кватэру ранак. Ты плакала й трымала сябе за скроні. Я пайшоў на кухню, цыгарэтаў не было, я выкапаў недапалак і запаліў, пэцкаючы вусны. “Ня ведаю, ня ведаю, ня ведаю!” — крычала ты, і сабака цалаваў цябе ў вочы. Я вярнуўся, лёг і парэзаў руку. Зазваніў тэлефон, я падняў слухаўку, а нехта паклаў.

Нарэшце за сьцяной пачынае плакаць наш маленькі перакладчык. Пакуль бязь сьлёзаў. Ты падымаешся й падаеш у акіян.

Гэта няпраўда, што той, хто глядзіць на мяне сухімі вачыма, ператвараецца ў камень. Ён становіцца папяровым і вецер ніяк ня можа адарваць яго ад слупа.

А. скарыстаў усе свае сувязі, каб вызваліць мяне найхутчэй, Б. дапамог заплаціць штраф. Я ўвайшоў у кватэру і, не разбуваючыся, кінуўся на канапу. На аўтаадказчыку былі два паведамленьні: адно ад сына, а другое з офісу нашай фірмы — яна закрывалася, і я з палёгкай запаліў цыгарэту, скідваючы попел проста на прасьціну. “Тат… Тат”, — аўтаадказчык плакаў так шчыра й трагічна, што ў мяне таксама паліліся з вачэй сьлёзы — поўныя кансэрвантаў выдзяленьні старога й хворага дракулы. — “Тат… Тата… Я падмануў цябе. Гэта… Гэта я ўзяў гальштук. Мне так не хацелася да бабы, і я ўзяў… ня ведаю, навошта. Прабач мне, тат… Калі ласка, прабач… Я ніколі больш цябе не падману… І не кажы, калі ласка, маме, добра?”. Потым зьявілася Марта, і я кінуўся ёй у ногі, у цёплыя калені, у яе

занадта вузкія костачкі, у яе стомленыя ад паношанага абутку пальцы. А потым заляпіў ёй аплявуху й пайшоў у душ. Яна не зьдзівілася й села перад тэлевізарам, быццам анічога вартага ўвагі за апошні тыдзень не адбылося. І толькі левая шчака гарэла, нібы ўнутры Марты нехта запаліў сьвечку.

Цяпер глыбокая ноч, я сяджу перад атрутна-яркім экранам кампутару, перада мной парнасайтамі квітнее жыцьцё, але я ўжо дастаткова спрытны, каб зачыняць непатрэбныя вокны без усялякай шкоды. За сьцяной сьпіць Марта, у вітальні ляжаць у цэляфанавым пакеце майка з іменем Ранальда на сьпіне й да болю круглы футбольны мяч. Той праславуты кубак, зь якога п’е свой лёс большасьць людзей, нам давядзецца склейваць чарговы раз. І я ў апошні раз успамінаю Кару — тады, калі яе чараўніцтва дзейнічала, нам ня трэба было нічога склейваць, мы самі былі клеем, учэпістым драпежным клеем, асновай асноваў. Калісьці, у дзяцінстве, я ўзбуджаў сябе тым, што маляваў цэлыя воргіі простым алоўкам на лістах са школьных сшыткаў: мастак зь мяне ніякі, і тым прыцягальнейшы быў малюнак, тым мацней дражніў.

Зараз, зараз перада мной адчыніцца любоў. Табе не давядзецца прачынацца, Марта. Цяпер мы абодва беспрацоўныя, але нічога, пакуль у нас ёсьць Б., мы штонебудзь прыдумаем. Людзі аднолькавыя, як гальштукі, толькі да таго часу, як не пабачаць вясёлкі над саборам. А пакуль я пагружаюся ў духмяна-вільготны сьвет парнаграфіі, і тану ў ім, тану ў ім, тану.

# ПЭЙДЖАР

так раззлавалася што нават забыла вынуць тэлефонную картку зрабіла камусьці падарунак невялікая страта ды якое яны права маюць са мной размаўляць такім тонам і яшчэ гэты цюхля абцас трэснуў зьняла лёгка пайшла басанож кінула туфляй у дворніка спаймала сукенку на жываце вольная гэта ёй пасыгналілі вунь з таго опэлю а зашыпелі як мярзотна кыс кыс кыс мудакі! дарослая не яшчэ а ўжо: а ідзіце вы ўсе! я жыць хачу

Стаяла лета, і яе звалі Віялетай — рыфма спрыяла легкадумнасьці. Кароткай маўклівай гутаркі зь несапсаванай тытунём цыгарэтай ёй хапіла, каб завяршыць укладку думак у сваёй галаве — больш формы, больш аб'ёму. Віта выкінула недапалак і агледзелася вакол. Яе прыціскала да грудзей бліскучая аграмадзіна вакзалу, гадзіньнік на вежы паказваў 9.29. Было сонечна й прахалодна, і людзі плавалі ў гэтым тэмпэратурным кактэйлі. Некалькі хвілінаў яна вывучала свой адбітак у люстраным вакне: яна была высокай, аднаго росту з большасьцю навакольных мужчын, на ёй была кароткая жоўтая сукенка, пад сукенкай — толькі вяршкі празрыстых стрынгаў, на плячы вісела маленькая, амаль пустая кайстрачка. Доўгія русыя валасы і небясьпечна адкрытыя ногі сеялі за сьпінай сьмерць і руйнаваньне. Прынамсі, Віта на гэта спадзявалася. Што ж, улічваючы тое, як таропка яна выскачыла з кватэры, выглядала Віта зусім няблага. Тут яна заўважыла, як па той бок шкла, у некалькіх, па сутнасьці, сантымэтрах ад яе, за ёй назірае нехта недагледжаны, нізенькі, пляшывенькі — Віта аблізнулася яму, і ён пасьпешліва адвярнуўся. Яна з пачуцьцём уласнае перавагі абвяла вачыма сьвет і вырашыла зайсьці.

Тут, натуральна, пачалося. "Дзяўчына, зьмерзьнеце, прастудзіцеся, давайце я вас на руках аднясу!". Як бы ня так. Віта пастаяла, задраўшы галаву, перад раскладам: нічога цікавага, усялякія Ніжневартаўскі ды Псковы. "Сонейка, ножкам ня хо?". Яна паднялася ў бар, замовіла кавы, не дачакалася, накіравалася ў залю чаканьня, потым паднялася на апошні паверх. Яе свабода патрабавала выхаду. Вось зараз яна праводзіць парачку цягнікоў, а потым басанож у мэтро да Сьветкі. Бездапаможная… Гэта ж трэба такое пра яе сказаць. Віта ўявіла, як яе цела падае ўніз, атрымлівалася, што якраз на эскалятар, які зноў прывязе наверх. Яна спусьцілася да білетных касаў.

Разумным дзяўчынкам падабаецца назіраць за людзьмі. Віта

любіла здагадвацца пра чалавечыя фобіі. Вось той, нізенькі, пляшывенькі, чаго ён баіцца? Відаць, больш за ўсё сэксуальных паразаў, а яшчэ згубіць працу й забыцца перад выхадам на вуліцу зашпіліць прарэх. А тыя хлопцы ў опэлі? Ну, тыя, відаць, жабрацтва. І яшчэ сваіх паміраючых мамаў, якія ніяк не памруць. Яна паглядзела на зачыненае ваконца адной з касаў. Ля яго стаяў няголены, насаты, плячысты прыгажун у чорнай майцы і маркотна калупаўся ў роце зубачысткай. У. Пра гэтага так адразу й ня скажаш. Калі такі й спалохаецца чаго, то адразу ж са страху сатрэ небясьпеку ў пральны парашок. Ля ног насатага прыгажуна, як нямецкая аўчарка, ляжала вялікая, пародзістая, мускулістая спартовая торба. А ў ёй што… Два кіляграмы трацілу, ды каран, ды ятаган.

— Дэвушка, — насаты прамяніста, белазуба пасьміхнуўся, і тут жа самкнуў вусны, насьцярожана аглядзеўся вакол. Віта застыла на месцы. Аднак прыгажун зноў усьміхнуўся:

— Паехалі са мной на Югу. У мяне два квіткі, а я, як бачыш, адзін.

Ён што, думае, я спалохаюся й пабягу прэч? Віта, папраўдзе, насамрэч адчула ў жываце нешта дзіўнае, нядобрае такое, цеснае… і імгненна інстынкт самазахаваньня запёк у горле… чаму ў горле? Нагам раптоўна стала халодна, як калі б над горадам ні з таго ні зь сяго загулі бамбардыроўшчыкі Сьнежнай Каралевы. Віта паглядзела на вакзальную мітусьню, якая стала нечакана такой далёкай, нерэальнай, нібы намаляванай, і ў той жа час — вось ужо ніколі не падумала б – такой кранальна-роднай, і ўласная сукенка падалася ёй празрыстай.

— Паехалі, — прамовіў насаты ўжо больш абыякава й зноў сунуў зубачыстку ў рот. — Босымі нагамі трэба па гарачым пясочку хадзіць, а не…

— Паехалі, — Віта зірнула на яго з выклікам, хаця ўнутры яе не было нічога, апрача цьмянага жаху. — Чаму б і не?

Ён падхапіў торбу, кінуў нешта пра пяць хвілінаў, і яна пакрочыла побач, намагаючыся выглядаць як мага больш разьняволенай і незалежнай. Насустрач прайшоў малады міліцыянт, мімаходзь ацаніў ногі, параўняўся зь імі, зьнік за сьпінай. Як апошняя надзея, зьлева зьявіўся, кінуўшыся наперарэз позірку Віты, строгі крыжык у літары Ж на маленькіх дзьвярох. Паціраючы рукі, з прыбіральні выйшла мажная цётка з фальшывымі каралямі на мокрай шыі, агідная цётка, шкодная распухлая цётка, — але цяпер Віта гатовая была кінуцца ёй на шыю й прасіць абароны. “Я на адзін сек,” — прамармытала яна, вінавата ўсьміхнулася насатаму і ў думках

схапілася за галаву: паводжу сябе як падлетак. Віта сунула ў акенца апошнюю дробязь. Будзем спадзявацца, што тут чыста. Падлога нейкая ліпучая, і скразьняк. Кафля белая, задубелая, хваравітыя бальнічныя адчуваньні… Вакно адчыненае, за некалькі крокаў ад вакна, якраз на мяжы паміж засьмечанай травой і асфальтам, сканчаецца цень, і далей сонца, вецер, гарадзкі шум. Можа, уцячы, ад граху падалей, пакуль ня позна? Усе кабінкі вольныя, дзьверы парыпваюць. Віта падыйшла да люстра. На яе глядзела спалоханае дзіця, якому, здавалася, імгненьне таму далі аплявуху. Бразгат за сьпінай прымусіў яе здрыгануцца — зьніадкуль узьніклая прыбіральшчыца грымнула вядром і пачала душыць мокрую анучу. Віялета мысьленна перахрасьцілася, павярнулася да выхаду, зрабіла няўклюдны крок наперад і ледзь не наступіла на маленькі чорны пэйджар.

“Цяпер я разумею, чаму Сьветка называе мяне клептаманкай”, — разгублена думала яна, на хаду запіхваючы знаходку ў сваю кайстрачку. “Пэйджар. Чый? Ня можа быць, каб гэтай старой прыбіральшчыцы. Няўжо імі яшчэ нехта карыстаецца? І нашто ён мне?” Віта з сумам згадала пра свой навюткі мабільнік, які ляжаў у гэтыя хвіліны дома, зараджаўся, абяцаючы такое зіхоткае жыцьцё, спакойнае сёньня, радаснае заўтра. Пэйджар. Састарэлая цацка.

Яна выйшла, цешачы сябе надзеяй, што насаты зьнік, не дачакаўшыся, аднак той быў на месцы, стаяў у звыклай сваёй позе, прываліўшыся да сьцяны, каўкаскі мача, страшны й прыцягальны адначасова. Падарыў ёй чарговую ўсьмешачку, дакрануўся лёганька да рукі: хадзем. Праз хвіліну ён ужо дапамагаў Віце ўзабрацца ў вагон, і неўзабаве яна амаль абыякава назірала, як, хістаючыся ад ранішняга пахмельля, то наганяючы цягнік, то ўсё немінучай адстаючы, побач з вакном бяжыць яе горад. Калі цягнік вырваўся нарэшце на волю, яны пазнаёміліся. Насатага звалі Муратам, больш ён пра сябе нічога распавядаць ня стаў, запытальна паглядзеўшы на Віту, прапанаваў ёй халодны хот-дог і, атрымаўшы яе на дзіва рэзкую адмову, пацізнуў плячыма й залез на верхнюю паліцу.

Гэта было цудам, але ў купэ, апрача іх, нікога не было. Віта сядзела ўнізе, у нейкім здранцьвеньні, потым забралася на сваё месца з нагамі, адкрыла кайстрачку, дастала пэйджар, пакруціла яго ў руках. Мурат ляжаў нерухома, можа быць, заснуў — мала якія справы маглі быць уначы ў чалавека з такім носам і такой торбай. За вакном беглі лясы. Завітала правадніца, і зьверху, па-над Вітай, раптам зьявілася валасатая рука, аддала квіткі, заплаціла за бялізну. Віта хацела ўжо схаваць пэйджар і паспрабаваць пагаварыць са сваім насатым спадарожнікам, ды пякельная машынка на яе далоні

нечакана прапішчала й выдала нешта неімавернае.

“Прывітаньне, Віялета!” Гэта было ўжо занадта для адной раніцы. Мы, значыцца, яшчэ і знаёмыя з табой, а, пэйджэрок? Віту гэтае фантастычнае пасланьне агаломшыла, але й трохі супакоіла. Яна, нягледзячы на ўсё вар’яцтва сытуацыі, адчула, і ад гэтага да шчокаў прыемна прыліла кроў, што не адна ў гэтым цягніку, які вязе яе невядома куды, невядома да чаго, невядома з кім. Так ці інакш, Віта паглядзела на пэйджар, бадай, зь пяшчотай. “Я ў тамбур”, — сказала яна на ўсялякі выпадак у накірунку верхняй паліцы й, не атрымаўшы адказу, выйшла. У праходзе ля вакна стаяў рамантычнага выгляду малады чалавек. “Гэты, відаць, баіцца, што маці засьпее яго калі-небудзь за рукаблудам”, — падумала яна весела, наўмысна пацерлася, праходзячы міма, аб маладога чалавека сьпінай і выйшла ў тамбур. Там правадніца ачышчала попельніцу. “Сын у войска йдзе — вось жах!” — адзначыла машынальна Віта, дачакалася, пакуль застанецца адна й дастала пэйджар зноў. Ён і на гэты раз ня стаў маўчаць. “Зайдзі ў першае купэ і атрымай падарунак” — паведаміла яе загадкавая знаходка зусім як у якім-небудзь кампутарным квэсьце. Ня доўга думаючы, Віта цьвёрдым крокам прайшла куды было загадана. Малады чалавек абярнуўся ёй усьлед. Першае купэ, куды яна асьцярожна зазірнула, было абсалютна пустым, толькі на століку прыемна пукаціўся невялікі пакет. Віта разгарнула яго і знайшла ўнушальны пачак грошай і новыя пантофлі, якія (яна ўжо нават не зьдзівілася) цудоўна пасавалі ейнай сукенцы. Слова было за пэйджэрам. “Ты такая прыгожая” — адгукнуўся ён сьціпла й згас.

У цёмным кутку праходу Віта зноў сутыкнулася з правадніцай. Тая паглядзела падазрона, настолькі падазрона, што Віта на момант замарудзілася, і правадніца здолела пачаць гаворку.

— Гэта з вамі ў купэ хто? — на бляклых гузіках формэннага адзення правадніцы зайграла выпадковае сонца.

— Муж, – коратка кінула Віта й рванулася наперад.

— Грузін? Чачэн?

— Ня вашая справа, — Віта праціснулася да свайго купэ й кінула пераможны позірк на верхнюю паліцу. Зь яе бесклапотна зьвісала валасатая смуглявая рука.

Апоўдні, калі цягнік стаяў у нейкім памежным мястэчку, Мурат нарэшце спусьціўся й прапанаваў прабегчыся разам па прыстанцыйнай плошчы, набыць ёй абутак і ўсё неабходнае. Віта зь вясёлай пыхлівасьцю адмовілася й сама прапанавала свайму спадарожніку грошай. Пантофлі Мурат, безумоўна, заўважыў, але зрабіў выгляд, што іхнае зьяўленьне яго зусім не зьдзівіла. А добрыя ж пантофлі.

Натуральная скура. Яны пагаварылі крыху ні пра што, кароткімі, таннымі сказамі. У купэ было душна. Нарэшце цягнік здрыгануўся й рушыў далей.

Увечары да іх завітаў той самы рамантычнага выгляду, але надта ўжо вузкаплечы хлопец, завітаў папрасіць вады, бо маме (ага, ён яшчэ й вандруе з мамаю!) стала блага, і няма чым запіць пігулкі. Мурат, які якраз наталяўся банакваю проста з рыльца, працягнуў бутэльку.

— Не, — схамянуўся хлопец, сустрэўшыся з Муратам вачыма. У позірку хлопца Віта заўважыла нешта падобнае на гідлівасьць. — Не, дзякуй. Я... Я ў правадніцы лепш...

Хлопец паглядзеў на Віту з дрэнна схаваным асуджэньнем, потым, быццам аслупянеўшы, моўчкі перавёў погляд на Мурата. Доўга, ненатуральна доўга мужчыны глядзелі адзін на аднаго, і Віце хацелася топнуць нагой, замахаць рукамі, крыкнуць што-небудзь, толькі б скончылася гэтая невыносная паўза.

— Вазьмі, – напружана засьмяяўся Мурат, не адводзячы вачэй. — СНІД празь сьліну не перадаецца.

Хлопец разьвярнуўся й выйшаў. Працягнутая рука Мурата з бутэлькай засталася на некалькі імгненьняў вісець у паветры, і Віта, падпарадкоўваючыся загадкаваму для яе самой парываньню, ударыла па гэтай руцэ, і вада вылілася, і трапіла на распакаваную бялізну. Мурат пацiснуў плячыма й палез на сваю паліцу.

Між тым непрыкметна надыйшоў вечар. Яны моўчкі пасьнедалі Муратавымі хот-догамі. Цягнік зрабіў яшчэ некалькі прыпынкаў, але ў купэ да іх так ніхто й не падсеў. Віту турбавалі два пытаньня: ці будзе насаты прыставаць да яе ўначы й ці пайдуць у яе заўтра месячныя. Што да першага, то , натуральна, гэта было непажадана, але, з другога боку, як гэта: не прыставаць, яно ж неяк нецікава атрымліваецца. Што да другога, то гэта стварала ў цягніку масу праблемаў. Віта зрабіла некалькі вылазак у тамбур. Пэйджар за гэты час ні разу не падаваў голасу, і толькі калі за вокнамі сьцямнела, нарэшце загаварыў. “Ты гатовая адзьдзячыць?” — такім было наступнае пасланьне. Віялета доўга разважала над ягоным сэнсам, але ні да якой высновы так і не прыйшла.

— Ты як, храпіш? — спытала яна, сьцелячы бялізну. За дзьвярыма пасажыры маленькімі статкамі бегалі ў прыбіральню й назад. Пэйджар мігцеў, высунуўшыся з паўадкрытай кайстрачкі.

— Сапраўдны мужчына храпіць толькі пасьля таго, як дакажа, што ён сапраўдны мужчына, — падміргнуў Мурат і, аднак жа, палез наверх. Віта пасьпела заўважыць, як ён абмацвае сваю торбу. Яна

чарговы раз выйшла ў тамбур, мужык, якога яна дагэтуль ня бачыла, пачаставаў яе цыгарэтай. Віта павярнулася да вакна.

— Што, у азэраў ужо грошай няма на курава? — выразна прамовіў мужык. За сьценкай нехта так ляпнуў дзьвярмі прыбіральні, што ў супрацьлеглым канцы вагона загаласіла правадніца. Віта нэрвова павяла плячом. Мужык падыйшоў да яе ззаду й прыцягнуў да сябе.

— Э, пасьцілка... — зашаптаў ён горача, насьліньваючы ёй мочку вуха. — Давай...

Віта вырвалася; зрэшты, мужык ня стаў яе затрымліваць і тут жа павярнуўся да таго вакна, у якое яшчэ нядаўна так інтэлігентна ўзіраўся. Яна хутка перайшла ў другі тамбур і там, з агідаю чэшачы вуха, прачытала наступнае пасланьне. “Забі чурку”.

Душа патрабавала яшчэ адной цыгарэты, аднак яна пайшла ў купэ. Мурат ня толькі храпеў як трактар, ён яшчэ й стагнаў у ва сьне, па-сабачаму так, задыхаючыся. Віта легла не распранаючыся й ўзяла пэйджар у руку. На пэўны момант ёй падалося, што яна задрамала — высьветлілася, што ўжо палова на шостую, і яна праспала амаль усю ноч. Храп наверсе быў цяпер роўны й нішто не замінала перавярнуцца на другі бок і заснуць. Аднак пэйджар толькі й чакаў ейнага прабуджэньня. На гэты раз ён завібраваў, з мужчынскай жарсьцю, вырываючыся з рук. “Забі чурку”. Віта расьціснула пальцы, і пэйджар упаў на падлогу. “Няхай”, падумала яна млява й зноў правалілася ў сон. Прачнулася яна ці то таму, што цягнік зноў спыніўся, ці то ад ціхага віску пякельнай машынкі, што ляжала ў яе на грудзёх. “Забі чурку”. Віта паднялася, расправіла сукенку, выйшла ў калідор. Цягнік стаяў пасярод стэпу, паблізу ад нейкай маленькай вёскі, якая, мяркуючы па ўказальніку, так і называлася: Чыгуначная. На дзьверы купэ была прыклееная жоўтым скотчам паперка. Віта, мружачыся ад ранішняга сонца, прачытала й, пахіснуўшыся, вярнулася ў купэ. “Забі чурку”. Яна ўзяла падушку й салодка пазяхнула.

## ТАЛЕНТ ЗАІКАНЬНЯ

Я заікаюся. Усім тым нецярплівым, роспачным словам — вялікаму мноству словаў! — якія я хаваю ў сабе, вельмі рэдка надараецца магчымасьць пакінуць маю гартань безь перашкодаў. Я мог бы быць надзвычай красамоўным, стаць выбітным адвакатам або тэлежурналістам, пераконваць самых упартых моцаю свайго красамоўства, караць ці мілаваць — як пажадаю! — калі б ня гэтая непрыкметная, сапсаваная дэталь у маім арганізму, якая бразгае ўнутры, калі я, спатыкаючыся, бягу наўздагон адыходзячаму аўтобусу размовы.

Усё адбываецца так. Які-небудзь капрызны гук, найчасьцей *к* альбо *л*, што паслухмяна рушыць наперадзе падрыхтаванай фразы, раптам упіраецца шкоднымі лапкамі ў сьценкі гартані, моршчыцца, хныкае. Тыя, што йдуць ззаду, раздражнёна напіраюць, ціснуць небараку ў сьпіну, але паганы гук не здаецца. Ладны шэраг руйнуецца, суразмоўца адводзіць вочы ці наадварот, заахвочвальна хітае галавой, ветліва чакаючы, пакуль я ўсё ж выкажу тое, што хацеў. Але думкі ягоныя ўжо не перасякаюцца з маімі, ён думае адно пра маё заіканьне. Я адчуваю, што не магу выказаць неабходнае гэтак прыгожа і абгрунтавана, як хацеў, і мяне трасе ад панічнага страху. Ліхаманкава я спрабую сказаць тое самае іншымі словамі, і часам гэта атрымліваецца. Але куды падзелася мая гірнія, прыцэльная дарэчнасьць сказаў, дасьціпнасьць і спакой у голасе, якія толькі што гатовыя былі напавал ачараваць суразмоўцу? Гутарка страчвае сэнс, чалавек насупраць недаўменна глядзіць на мяне, шкадуючы й пагарджаючы адначасова, і неўзабаве сыходзіць, уносячы з сабой свой дар вымаўляць гукі гэтак жа лёгка й натуральна як дыхаць, — вялікі дар, усё шчасьце якога яму ня дадзена усьвядоміць ніколі.

“Гэта не хвароба... так, — дэфэкт маўленьня,”— кажа мне сябра майго прыяцеля. “Імпатэнцыя — значна больш страшная рэч,”— адгукаецца на гэта, усьміхаючыся брыдка ў вусы, мой далёкі сваяк. “Лепш бы я заікаўся,”— шэпча мне сьляпы. “Ад гэтага яшчэ ніхто не паміраў,”— кладзе сваю руку на маю знаёмая майго знаёмага. Як я ненавіджу гэтае спачуваньне!

Я сьмяюся разам з усімі, калі распавядаюць показкі пра заікаў, але ў гэты момант мне пакутліва карціць давесьці ўсім вам, што маё заіканьне — гэта часова, гэта толькі калі я ўсхваляваны, а так я гэткі ж балбатун, як і вы. Але сам распавесьці показку я ня здольны.

Спрабаваў — успамін пра тую ганьбу дагэтуль прымушае мяне заікацца яшчэ мацней. Часам я забываюся і пачынаю трэсьці языком: “Слухайце анэкдот…”, але тут жа сяброўская рука мякка кладзецца мне на плячо — лепей ня трэба. Той натужны, фальшывы сьмех, які яны выціскалі зь сябе, зь цяжкасьцю дачакаўшыся фіналу, надоўга адбіў у мяне ахвоту размаўляць навогул. Але ж мой анэкдот быў сьмешны. Дужа сьмешны. Я належу да праклятага племені заікаў, да тых людзей, мову якіх на пісьме, як жаўнеры ў ачапленьні, найбольш удала перадаюць значкі, што адзьдзяляюць літару ад літары: “л-лл-літару ад л-л-л-літары”… Нашая мова ў тэксьце гэтак жа кідаецца ў вочы, настолькі ж прыкметная, быццам двое з нас гучна загаварылі, стоячы ў самай гушчыні натоўпу. Нас заўжды абіраюць нікчэмныя пісьменьнікі, каб ачалавечыць нейкі пэрсанаж, які зусім не атрымліваецца жывым. Вось гэты будзе лысы, гэты — з хранічным насмаркам, а гэты будзе заікацца. Глядзіш — і паверыць чытач.

І ўсё ж пісьмо прыдуманае дзеля нас. Тут мы адрываемся напоўніцу, тут для нашай дасьціпнасьці, нашага гумару, нашай чуласьці да мовы — прастор і воля, тут нашае каралеўства. Літары вынайшаў хаіка. Але паспрабуй пачытаць услых перад уважліва замерлай аудыторыяй напісанае табой — якімі б таленавітымі не былі створаныя табой радкі, праз колькі хвілінаў слухачы пацягнуцца да выйсьця. Нават тыя, хто, накшталт цябе, адзначаныя таўром заіканьня.

Ад заіканьня яшчэ ніхто не паміраў…

Неяк я цэлы год жыў са сваім дзедам у ягонай прапахлай лекамі, аблезлай аднапакаёвай кватэры. Дзеда маё заіканьне аніяк не кранала, ён зусім звар’яцеў, амаль не ўставаў, не адказваў на пытаньні, еў адно бульбяное пюрэ, якое я з тае пары зьнелюбіў страшэнна — столькі давялося перамясіць варанай бульбы, штто я ўскокваў па начах, з намаганьнем выдзіраючы сябе з аднаго й таго ж сну: ляжу на сваёй канапе ля халадзільніку на кухні, ня у стане паварушыць рукамі, залепленымі цьвярдзеючым, як цэмэнт, пюрэ, а са столі зьвісаюць і гайдаюцца па-нада мною нейкія жалезныя трубкі, зь якіх паўзуць каўбаскі ўсё той жа густой жоўтай кашыцы. Дзед рос у сваім ложку як пустазельле, глыбока пусьціўшы ў прасьціну карэньне. Уражаньне было яшчэ мацнейшым ад таго, што нават рукі дзед уздымаў загорнутымі ў коўдру, а калі ён варочаў галавой, разам зь ёй, як цьвікамі прыбітая, варочалася й падушка. Улюбёным ягоным заняткам было разглядваць столь з-пад сваіх густых брэжнеўскіх броваў. Я мяркую, што ў столі, зацягнутай па кутох павуціньнем, ён знаходзіў сэнс жыцьця, адказы на ўсе пытаньні. Магчыма, у глыбіні

столі, на паверхні якой плаваў падобны на кулак цень жырандолі, дзед бачыў сваю будучыню. Бывала, ён гутарыў са столяй на таямнічым арго ўсіх звар'яцелых дзядоў сусьвету, і тады я пачуваўся бессэнсоўнай аблачынкай у тым небе, адкуль дзед узіраўся ў нетры свайго існаваньня Тым ня менш дзеда я любіў, і шчыра радаваўся, калі доктар казаў, што дзед пражыве яшчэ доўга, а пры добрым даглядзе можа пайсьці на папраўку. Але доктар пакідаў пасьля сябе рэцэпты й сьляды каля дзедавага ложку, якія не высыхалі да раньня, і ў мяне было адчуваньне, што гэта сьмерць прыходзіла ўначы праверыць, ці не гатовы стары пайсьці зь ёю.

Дні маеміналі так. А дзевятай я падымаўся, рабіў укол дзеду, зазіраў у ягоныя няміргаючыя вочы ды йшў гатаваць сьняданак. Пюрэ для дзеда, куды я дадаваў калі-нікалі й дзіцячы мясны паштэт, бутэрброд для сябе. Ставіў імбрык, глядзеў у вакно. Мы сьнедалі, я йшоў на пошту за грашыма, якія дасылаў бацька, або накіроўваўся ў краму. Прыйшоўшы дахаты, я чытаў да першай гадзіны, гатаваў абед, рабіў дзеду яшчэ адзін укол, карміў яго й затым да вечара глядзеў тэлевізар. А сёмай пюрэ зноў вымушала мяне апынуцца на кухні, варыць апошнія пяць бульбінаў з абабраных уранку пятнаццаці, ускрываць круглыя маленькія бляшанкі мяснога паштэту — імі была даверху застаўленая шафа ў вітальні — і стрымліваючы нудоту, начыняць дзеда гэтай небясьпечнай сумесьсю. Здаралася, я сядзеў зь дзедам пасьля вячэры гадзіну-паўтары, мне падавалася, што ягоныя амаль нябачныя вусны і вузлаватыя, у бялёсых плямах рукі кажуць мне, сыгналізуюць: “Застанься, пасядзі”, і я сядзеў, думаючы, што гэтым падаўжаю яму жыцьцё.

У прыбіральню, дарэчы, дзед хадзіў сам. Паглыблены ў кнігу, я заўсёды губляў той таямнічы момант, калі стары падымаўся з ложку — было вельмі жудасна чуць у паралітычнай цішыні кватэры раптоўны шум унітазу — быццам тузін ледзяных статуэтак абрынуўся з высокай паліцы. На экране дзьвярнога праёму зьяўляўся дзед, рабіў крок ды зьнікаў. Я зноў пагружаўся ў кнігу, але ўжо не разумеў нічога на адгорнутай старонцы, і мне даводзілася вяртацца на пару старонак назад. За год нашага суіснаваньня я так і ня здолеў звыкнуцца з гэтымі нечаканымі, але такімі натуральнымі дзедавымі хаджамі.

Такім чынам, пасьля нашай маўклівай размовы я зноў валіўся на канапу ў кухній браўся за чытаньне. Але чаканьне заўтрашняга пюрэ, цёплы подых нары паміж расстаўленых ног, уваход у якую быў закрыты кнігай, утульнасьць канапы, лямпа, што грэла патыліцу, рука, што, быццам выпадкова, запаўзла за пас джынсаў, тактыльная

галюцынацыя пасмы жаночых валасоў ля скроні, аднолькавасьць усіх дзён гэтага году не давалі засяродзіцца, ясна ўказваючы, што гэты вечар скончыцца таксама, як і ўчорашні, заўчорашні, пазаўчорашні, як і… Я кідаўся ў вітальню, зарываўся тварам у глуханямую кампанію плашчоў ды паліто, якія пасьля сьмерці бабулі ніхто не апранаў. Толькі гэтак можна было заглушыць прыступ пякучага жаданьня, каб дзед памёр. Тады… тады можна будзе патраціць рэшту грошай на віно й мяса, садавіну ды чакаляту, і калі не сабой — слабым прыдаткам магутнага дзеда, то хаця б гэтай аднаразовай раскошаю завабіць у пустую кватэру якую-небудзь жанчыну й да болю ўнюхвацца ў выдзяляемы ёй вуглякіслы газ. Гатовы забіць сябе за гэткія думкі, я накідваў паліто ды йшоў у горад.

На што я разьлічваў? На выпадковае знаёмства, на тое, што ў мяне спытаюць цыгарэту (у мяне заўсёды быў пачак у кішэні, хаця я й не паліў), на пальчатку, якая выпадзе з маленькай і спакусьлівай рукі, на ўважлівы погляд, на гаваркую спадарожніцу ў паўпустым аўтобусе — на ўсё, з чаго мог бы завязацца хаця б нейкі вузельчык. На маркотную студэнтку, на дзяўчыну, якая сыйшла з дому, пасварыўшыся з бацькамі й цяпер ня ведае, дзе б пераначаваць, на выгнаную з дому п’яным мужам жонку, на шукальніцу прыгодаў, урэшце. Мне нічога адмысловага ад іх ня трэба было — толькі бачыць, чуць, адчуваць водар, ляжаць побач — блізка-блізка — на канапе ў маёй кухні, абдымаючы адной рукой гарачы выгін сьпіны, які мроіўся мне цяпер у ва ўсім, нават у падлакотніках вунь тых крэслаў. Дзед не заўважыў бы нічога — яго цікавілі адно высокія сфэры. Я хадзіў па зьзяючых вуліцах і цёмных завулках, я ўваходзіў у тралейбусы, якія рушылі невядома куды, я вар’яцеў, спускаючыся па прыступках, падобных на клявішы, што паўтараюць адзін і той жа матыў. Я шэршэляфаміў на ўсю катушку. Магу сабе ўявіць, якім прагным і жахлівым падаваўся ім мой позірк, калі на твар мне падала сьвятло ліхтара або вітрыны. Ніхто не рэагаваў на маю не эрэгаваную, але надта далёка закінутую вуду. Апоўначы я быў згодны ўжо на любую істоту жаночага полу, нават на гэтых двух таўстух. Я ляжаў бы паміж імі, заплюшчыўшы вочы, і на раніцу ператварыўся б у шчасьлівае шашлычаня. Але ні ў вадзін з гэтых дзікіх вечароў я так і не знайшоў у сабе моцы з кім-небудзь загаварыць. Я вяртаўся дахаты й засынаў.

Але аднойчы загаварыў дзед. Гэтак я цешыўся толькі пятнаццаць год таму, недзе на саракавой хвіліне фільму “Вяртаньне Шэрлака Холмса”. Дзед ажыў. Гэта здарылася апоўдні. Я якраз наліваў гарбату ў вялікі патрэсканы кубак, калі за маёй сьпінаю пачуўся ціхі голас: “Я хачу агуркоў. Сьвежых агуркоў”. Я павярнуўся.

Дзед стаяў ля дзьвярэй і глядзеў на мяне з папрокам. Я засьмяяўся, я сьціснуу дзеда ў вабдымках гэтак, што ён ледзь ня страціў прытомнасьць. Яму лепш, ён папраўляецца! Я пасадзіў яго на акнапу, я паабяцаў хутка быць з самымі сьвежымі агуркамі на сьвеце. Адзіная праблема была ў тым, што агуркі ў гэтую пару году прадавалі толькі ў вадной краме, дзе неабходна размаўляць з прадаўцом. Я ненавідзу гэткія крамы — яны, відаць, створаныя адмыслова дзеля майго мэтанакіраванага прыніжэньня. Мне даспадобы тыя крамы, дзе можна ўзяць тавар і моўчкі заплаціць за яго на касе. Але рабіць было няма чаго. Узрушаны уваскрашэньнем дзеда, я доўга вычвараўся перад прадаўцом, спрабуючы патлумачыць мэту майго візыту, пакуль ня страціў цярпеньне, не перагнуўся праз прылавак і ня тыцнуў пальцам у купку запаветных агуркоў. На гэты абед я не забудуся ніколі. Мы елі пюрэ ды салат са сьмятанаю й гаманілі, выдатна разумеючы адзін аднаго. Потым дзеду захацелася паляжаць. Я зрабіў яму ўкол, перасьцяліў ложак і пайшоў на сваю канапу.

Увечары дзеду зрабілася блага. Белы й голы, як накрэсьленыя на адпрасаванай прасьціне контуры чалавечага цела, ён ляжаў і задыхаўся. Я зрабіў некалькі спробаў выправіць становішча, аднак неўзабаве зразумеў — трэба выклікаць хуткую дапамогу. З маім заіканьнем гэта было цяжка, але магчыма. Я крутнуў дыск тэлефону, але ледзь на другім канцы зьнялі слухаўку, я ўжо ведаў, што сказаць анічога ня здолею. Я тужыўся й напінаўся, я рыкаў і ікаў у гэтае паўтараючае сваё алё чорнае сіта, але сказаць нічога так і ня змог. Я зрабіў яшчэ тры ці чатыры спробы, ня памятаю. Безвынікова. Я патэлефанаваў бацьку, ён бы ў любым выпадку правільна зразумеў бы мае сутаргі. Але яго, на злосьць, не было ні на працы, ні дома.

У вадчаі я кінуўся басанож, у вадных джынсах, да суседзяў. Але было яшчэ надта рана, усе былі хто на вучобе, хто на працы. Адно толькі ў крайняй справа кватэры мне адчыніла зусім незнаёмая жанчына ў белым махравым халаце. “Ішоў бы ты спаць, дружа”,— сказала яна ласкава й бразнула дзьвярыма. Я ціснуў званок яшчэ і яшчэ, але вочка, дагэтуль жоўтае й поўнае надзеі, цямнела цяпер на сьветлым блакіце дзьвярэй. Я пабег уніз, але на пляцоўцы між паверхамі ўспомніў, што стары дома адзін, і можа, яму ўжо лепш, а можа... Рэзка павярнуўшыся, я пабег назад, адчуваючы, як ліпне да босых ступакоў тынк, што сыпаўся са сьценаў. У некалькі скачкоў я апынуўся ля ложка, пад расхістанай, узьнятай на дыбкі столяй. Але стары быў ужо м-м-м-м...

*2001*

## НАЙНОЎШАЯ ГІСТОРЫЯ ПАЛЕСЬСЯ

Безумоўна, я здагадваюся пра прычыну такой увагі да сваёй асобы. Рэч у тым, што мне — і гэта не выпадак, не, гэта нечы геніяльны пас уросчырк, праз мокрае поле храналягічных табліцаў, скрозь лінейную абарону часу, пас, які імгненна пазбаўляе мяне надакучлівай пэрсанальнай апекі й выштурхоўвае ў небясьпечнай адзіноце да штрафной суперніка — дык вось, менавіта мне выпала сёньня стаць першым студэнтам за ўсе гады існаваньня нашай невялічкай дзяржавы, якому давядзецца адказваць на пытаньні білету № 50. Экзамэнатараў трое, і кожны ўдае, што нічога звышбудзённага не адбываецца: анічога, анічога, усё да такой ступені трывіяльна, што варта мне нечакана прыўзьняць галаву над партай, як гэтыя трое мужчынаў палахліва адводзяць ад мяне свае пільныя позіркі, і не пасьпяваюць, і сарамліва пачынаюць фальшывым шэптам перамаўляцца пра вынікі расейскіх выбараў, усё так звычна, што неўзабаве ў аўдыторыю завітвае дэкан гістфаку й сядае акурат за маёй сьпінай, усё гэтак сумна, што лябарант, якога паклікалі да свайго стала сябры камісыі, быццам бы выпадкова забывае праз некалькі хвілінаў на суседнім стале адгорнуты на патрэбнай старонцы падручнік — пажадай я, і мог бы спакойна ім скарыстацца, ніхто б слова не сказаў. Насамрэч усе гэтыя людзі вакол дрыжаць ад нецярпеньня, бо ўсьведамляюць, што зьяўляюцца сьведкамі папросту гістарычнае падзеі.

Менш за ўсё тое, што тут адбываецца, мае дачыненьне да футболу.

Іх можна зразумець, гэтых людзей, дарослых, пляшыстых, мудрых. Дзеля таго моманту, які я падару ім цераз — ого, ужо цераз дзесяць хвілінаў! — яны гадамі мерзьлі на мітынгах, весела лаяліся ў пастарунках, дзекалі й цекалі, баяліся за дзяцей і жанок, плакалі й пілі гарэлку, а галоўнае — штодня душылі агідны фурункул сумненьня, які заўсёдна выскокваў у самых патаемных кутох іхных душаў, там, дзе цень вонкавай упэўненасьці надзейна захінае любую слабасьць. А сумненьне налівалася, пунсавела, сьвярбела зноў і зноў: а ці варта за гэта змагацца?... а ці варта працягваць?... або зьмірыцца на супакой сямейнікаў ды заклеіць на зіму вокны?... Іх можна зразумець, гэтых фанатыкаў, бо тут, у нашай невялічкай краінцы, яны атрымалі жывое ўвасабленьне сваіх мараў. Колькі начэй запар яны акуналіся ў вольнае сеціва, каб вылавіць такі вось сон: студэнт рыхтуецца да іспыту, рыхтуецца адказваць на пытаньні білету № 50, і

ён вымушаны адказваць па-беларуску, і ён вымушаны адказваць праўду, і студэнту гэтаму мусіць быць прыемная такая працэдура, бо з вакна маладзён можа бачыць дрэўка на вежы берасьцейскай ратушы, загорнутае ў бел... так, так, правільна, ў бел-чырвона-белае палотнішча, і можа натхняцца ладным грукатам ботаў добразычлівых натаўскіх жаўнераў, што чуецца з плошчы, бо вучыцца тут студэнт, насуперак мінскім “галасам”, фактычна бясплатна, атрымаў летась дзяржаўную стыпэндыю, амаль тысячу талераў, і на вучобу хапае, і на кватэру ў Пружанах — ня ўсім, натуральна, тут так шанцуе.

Краіна, у якой я нарадзіўся, нагадвала футбольнае поле бяз брамак, трыбуны раўлі блатныя песенькі — зрэшты, гэта была тэрыторыя майго маленства, кукурузныя палачкі ў цукры, мама й тата, у такім узросьце ты папросту ня маеш адпаведнага органу, каб ненавідзець; краіна, у якой я паступіў ва ўнівэрсытэт, была меншая й страшнейшая, аднапакаёўка ў хрушчоўцы, перарobленая пад катавальню — вось яе, наколькі памятаю, я ненавідзеў ужо сьвядома, зь перакананасьцю сярэднявечнага пурытаніна, я заўжды ненавідзеў яе, цяжка нават апісаць, як я яе ненавідзеў, яе жыхароў, мову, звычаі, стравы, краявіды. Колькі сябе памятаю, я заўжды пачуваўся там невылечна хворым — на сындром прыроджанага эўропадэфіцыту, я задыхаўся між цесных ягадзіцаў радзімы. Фізычная агіда да яе шэрых дыяфільмаў падмінала пад сябе любыя спробы любові, яе сталінскі ампір каменем ляжаў на грудзях; калі ў гэтай дзяржаве нешта адбывалася, я бачыў перад сабой сьлізкага паўзуна, аганізуючага, з кавалкам чалавечыны, што зьвісае зь ліпучых, вільготных, нібы падлога бясплатнай прыбіральні, тоўстых губ, і паўзун марудна круціўся вакол уласнай восі, пэцкаючы аслупянелае сваё атачэньне — дагэтуль лічу, што гэта найлепшая, няхай і даволі банальная, мэтафара для любой, нават самай міралюбнай дзейнасьці маёй бацькаўшчыны. О Тварог і ўсе малочнакіслыя паганскія багі, як я яе ненавідзеў! Мне катастрафічна не ставала эўропы. Я марыў толькі пра адно — пасадзіць на сьпіну заплечнік і перайсьці заходнюю мяжу. Я быў гатовы стаць кім заўгодна — палякам, немцам, грэкам, італьянцам, баскам, ірляндцам, літоўцам, вугорцам, фарэрцам, абы толькі змыць зь сябе сапраўднае сваё паходжаньне. Я стаў горбіцца — як жа інакш, калі на твае кволыя плечы цісьне сорам за дзесяць мільёнаў суайчыньнікаў. Мне казалі: фу, эўропа, паўсюль адно й тое, ізаляцыя, глябалізацыя, дэвальвацыя, пыха й пуга, транснацыянальныя карпарацыі, бяздушныя бюргеры, мы для іх ніжэйшая раса, далася табе гэтая эўропа, гэтая маразматычная фрэкэн Бок; мне казалі: ты ж нават ня быў ніколі па той, нібыта шчасьлівы бок мяжы, вось і

ідэалізуеш, ідэалізуеш, верыш казкам, казкам, а яны надта ўжо часта насамрэч апынаюцца каскамі, каскамі…

Я ня слухаў. Дакладней, я завёў сабе трэцяе вуха, замаскаваўшы ў гушчары сваёй шэвелюры, і ўсю горкую атруту сваіх суразмоўцаў, усю іхную непераймальную жоўць зьліваў туды, у ратавальны рэзэрвуар па-над мозгам, дзе яна раскладалася на бясьпечныя й бессэнсоўныя рэчывы, што адразу ж па заканчэньні гэтай кароткай працэдуры адпраўляліся ва ўраўняльнае, млоснае беларускае паветра. Мае ж прыродныя, натуральныя вушы чулі толькі тое, што мне хацелася чуць. Кнігі ды інтэрнэт давалі мне трохі скрыўленую, але тым ня менш прывабную карціну Заходняй Эўропы, якую я, як мне здавалася, з посьпехам выгінаў да рэальнага адлюстраваньня. Прызнаючы той факт, што нішто ў сьвеце не заслугоўвае катэгарычнай ацэнкі, і пагаджаючыся, што адно неабходнасьць выбару стварае чалавечыя каштоўнасьці, я тым ня менш з жахам заўважаў: усё, што выклікае маю сымпатыю або інтарэс, месьціцца там, у маім эльдарада, усё, што я бы хацеў набыць на гэтай агромністай вэдээнгэ прадметаў і пачуцьцяў, якую называюць нашай плянэтай, знаходзіцца дзе заўгодна, але ня тут, усё, што я люблю, створана за мяжою. Там, дзе я жыў, на паўдзікія чалавечыя асобіны палявалі толькі мярзота, дэградацыя й гвалт — хрумсьцячы храшчыкамі, трупы даядала дзяржава, народаў братэрскі саюз, неяк я бачыў яго з бархану, гэтага трохгаловага мутанта: зубаты рот, driчок і струк; навокал стаяў няспынны енк гіенаў і старшыняў мясцовых саветаў. Я шчыра спрабаваў адшукаць хаця б каліва чыстага-сьветлага на запусьцелай тэрыторыі, дзе вымушаны быў існаваць, але апрача каменных стодаў й бэтонных хрэнаў з макам, густа раскіданых па бацькаўшчыне, не знайшоў анічога.

Сябры неўзабаве адвярнуліся ад мяне, бо мая гістэрычная любоў да любога прыхадня адтуль падавалася ім паталягічнай. Замежнікі прыводзілі мяне ў балючую роспач, я быў на мяжы — яшчэ адной шчасьлівай мяжы, па другі бок якой мусіць сьвяціць сапраўднае сонца, — на мяжы вар’яцтва. Я жыў пад штосэкунднае бубненьне недзе за сьпінай: эўропа, эўропа, там жа чалавек чалавеку воўк, там жа людзі існуюць адасоблена адзін ад аднаго, ні сяброўства, ні суседзтва, ні дармаедзтва, ні калектывізму, ні ўзаемавыручкі…На ўзаемавыручцы мяне зарубала, я рэзка паварочваўся й крычаў: хачу без суседзтва, хачу без калектывізму, хачу без узаемавыручкі!.. хачу без вас!.. Вагон маўчаў і глядзеў на мяне са шкадаваньнем. Неяк я ўвесь вечар прабавіў у кампаніі галяндцаў, іх было чалавек дваццаць, яны не разумелі ні часьціцы па-расейску, я размаўляў зь імі на нейкай

неданошанакрэольскай ангельскай — у якасьці перакладчыкаў ўдала выступалі дзесяць бутэлек белавескай і дзесяць піўных фаўстпатронаў. Ап'янелы, я сядзеў між беларусаў і тупа злаваўся на тое, што ў размовах паміж сабой яны херацць галяндцаў уздоўж і ўпоперак. Мае дарагія замежнікі кранальна махалі рукамі й дружалюбна сьмяяліся. Апоўначы галяндцы разьвіталіся з гаспадаром і сыйшлі. Хвілінаў празь пятнаццаць паперся дахаты і я. У мэтро я заснуў, а разбудзіў мяне жыцьцярадасны сьмех над галавой і вясёлая размова пра абстаноўку ў нашых кватэрах. Я падняў вочы й наткнуўся позіркам на тых самых галяндцаў. Яны размаўлялі па-расейску, прычым без аніякага акцэнту. Увесь шлях дамоў я праседзеў, апусьціўшы вочы й дыхаючы ў шалік, на канцавой станцыі мяне прыбраў мент.

Вар'яцтва, вар'яцтва...— зрэшты, яно адступала, калі замежнікі да пары зьнікалі. Тады я гуляў у футбол. Можа быць, хто-небудзь ведае пра FIFA-99, кампутарную гульню, цудоўны сымулятар, даўно, калі напраўду, састарэлы. Я пачаў зь некалькіх таварыскіх матчаў, гуляў жартам, без аніякага жаданьня перамагаць, але неўпрыкмет захапіўся й хутка ўжо гадзінамі ганяў віртуальных мужыкоў з тварамі кланаваных дэбілаў па зялёнай траўцы. Шчыра кажучы, да футболу й спорту навогул я быў тады больш чым абыякавы — у той, прамінулай краіне ён зьяўляўся чымсьці кшталту дзяржаўнай рэлігіі, і натуральна, што я плаціў спорту нянавісьцю. Але мой футбол быў нечым большым за футбол. У адзін перадкалядны вечар я адкрыў, што каманды і іхныя колеры можна прыдумваць самому, можна нават узяць на сябе функцыі футбольнай маткі й нарадзіць, апладніўшыся ўласнай фантазіяй, цэлыя лігі, ахрасьціўшы іх на свой густ. Беларусі ў сьпісе камандаў не было, я не марудзячы сьцёр з зямной паверхні Бэльгію, і ўжо ўвечары пад флямандзкім сьцягам бегалі фаміліянты маіх сяброў. А на наступны дзень на сьвет зьявілася Палеская рэспубліка. Бел-чырвона-белы сьцяг аб'ядноўваў шаснаццаць футбольных клюбаў і тэрыторыю ад Берасьця да Гомлі. На карэйскі лад нешматлікія дэмакратычныя сілы маёй роднай пустэльні ўтварылі на яе поўдні вольную і эўрапэйскую краіну — такімі працэсамі поўнілася *мая* сусьветная гісторыя. Уяўленьне імгненна дабудавала падрабязнасьці. “Вітаўт” біўся з “Рэалам” у Лізе чэмпіёнаў, палеская зборная марна змагалася за выхад у фінал чэмпіянату сьвету, і ў той жа час Палеская рэспубліка ня мела дыпляматычных стасункаў толькі зь Беларусяй, Расеяй і некалькімі вечна рэвалюцыйнымі дзяржавамі ўсходу. Польская тэлевізыя казала пра жорсткі крызыс, нашы паўночныя суседзі спрабавалі вярнуць палешукоў да карыта, пасьля доўгіх сумненьняў НАТА ўзяла рэспубліку пад сваю абарону. Рэспубліка

Чарнобыль — так нас называюць цяпер на поўначы вядучыя панарамы. Спачатку было цяжка, потым умацаваўся талер, наладзіўся гандаль — я ніколі ня быў спэцыялістам па гэтых эканамічных пушчах. Урэшце, я толькі гуляў у кампутарны футбол, і да плённай працы бактэрыяў свабоды ня маю аніякага дачыненьня.

— Білет нумар пяцьдзесят, — кажу я прыцішана, але ўпэўнена. — Утварэньне Палескай рэспублікі і яе станаўленьне на міжнароднай арэне. У 2021 годзе...

Яны слухаюць мяне, паўзакрыўшы змораныя вочы. З твару на твар, нібы мяч ад гульца да гульца, пераскоквае экстаз. Яны перамаглі. Я — сымболь іхнае перамогі. Я распавядаю пра візыт амэрыканскага прэзыдэнта, забываю дату ўвядзеньня палескага пашпарту, але спрытным фінтам абыходжу яго й пачынаю крытыкаваць Раду. Яны пахмурнеюць, бо ўсе зьяўляюцца яе дэпутатамі. Краіна мудрых гісторыкаў і кепскіх паэтаў. Што казаць, калі наш прэзыдэнт — аўтар гістарычных раманаў. Я атрымліваю сваю адзнаку, здаецца, вышэй за яе не бывае, але мне ўсё адно. У Палескай рэспубліцы дыплём — не сьвятыя мошчы. Дэкан даганяе мяне й паціскае руку. Гэта — трэцяя краіна, у якой мне давялося жыць. Спадзяюся, апошняя. Бацькі засталіся старэць у той, страшнай, другой. Там я мог бы стаць мастаком і музыкантам, пісьменьнікам або забойцам. Тут я стану мэнэджарам кампаніі “Puma-Palessie” або рэклямным агентам за чатырыста талераў у тыдзень.

У дзьвярох я спыняюся і абарочваюся. Экзамэнатары глядзяць на мяне са зьдзіўленьнем, грубая, рабатызаваная радасьць яшчэ сьвеціцца на іхных тварах — тварах пэрсанажаў кампутарных гульняў старой генэрацыі.

# ДЗЬВЕ ТЫСЯЧЫ СЛОВАЎ ПРА ЗАВАЛЮХІНА

Ён сядзіць непрыемна блізка, без супынку гаворыць і ўвесь час хістаецца — ён хістаецца так энэргічна, што лавачка пад намі ажно ходзіць хадуном: я сяджу побач і пакорліва трываю гэтую марскую хваробу. Аднак самае жахлівае ў тым, што хістаньне лавачкі вымушае мяне аднастайна ківаць галавой, і таму звонку ўсё выглядае такім чынам, быццам я згодны зь ягонай балбатнёй. Насамрэч нават паралізаваны й нямы Завалюхін выклікаў бы ў мяне гарачы пратэст.

Хістаньне Завалюхіна — той жа прыроды, што і грукат пальцамі па стале, пагрызаньне ўласных пазногцяў, хрумсьценьне косткамі або вышлёпваньне на губах папулярных песенек (а то, бывае, яшчэ хто-небудзь са знаёмых, сымпатычны, здавалася б, чалавек, сярод вясёлай размовы пусьціць зьнянацку ў скокі сваё правае калена — далібог, у такія хвіліны хочацца па-галівудзку спыніць жыцьцё як форд мустанг і званітаваць у фортку), гэтае хістаньне — найбрутальнейшы від такіх вычварэньняў. Сам Завалюхін, натуральна, не ўсьведамляе таго, што адбываецца зь ягоным целам падчас хістаньня... а можа быць, яму падаецца, што ягоны торс, які абдымаюць пад рэбрамі безвалосыя, кароткапалыя рукі, грацыёзна й ледзь прыкметна рухаецца ў такт нячутнай чароўнай музыцы — дык вось не: Завалюхін папросту сядзіць і тупа хістаецца ўперад-назад, а пры гэтым яшчэ й гаворыць. Ня ведаю: у мяне большую прыхільнасьць выклікае чалавек, які п’е ацэтон, чым пажыральнік уласных пальцаў, я хутчэй абняў бы забойцу, чым таго, хто мае звычку стукаць костачкамі пальцаў, напрыклад, па шкле. Напэўна, гэта нэрвы. У іх нэрвы. І ў мяне.

Завалюхіну, вядома ж, я нічога падобнага ніколі не казаў. Мы зь ім, здаецца, сябры. Прынамсі, ён так думае. Што ж, нядаўна я нарэшце ўцяміў значэньне гэтага слова. Сяброўства — гнюснае спараджэньне калектывізму. На думку Завалюхіна, наколькі я разумею, сяброўства — гэта гарэлка, пяльмені й потым задушэўная размова, якая мусіць складацца зь ягонага п’янага трызьненьня й майго спачувальнага маўчаньня. Беражы мяне божа ад сяброў і сяброўства.

І ўсё ж я распавяду пра яго.

Напрыклад, Завалюхін і жанчыны. Рэч у тым, што мой сябра мае рэпутацыю вялікага жартаўніка. Ня памятаю ўжо, зь якіх часоў гэта павялося, але ў нас заўжды было прынята ўсё, што б ні казаў Завалюхін, лічыць неверагодна сьмешным і дасьціпным. Яму такое становішча, натуральна, да спадобы — хто з нас ня марыў пра

пажыцьцёвую ролю душы кампаніі? Аднак мы ўздыхаем і адыходзім убок, да сваіх страхаў, сьлёзаў і расчараваньняў, у абдымкі сваёй ненавіснай і таму яшчэ больш мілай слабасьці. Завалюхін жа даўно ня мае на гэта права. Ён абавязаны жартаваць. Завалюхін упэўнены, што ўсе навокал толькі й чакаюць ад яго што ўдалага жарту. Думаю, гэты чалавек ніводнага разу не дазволіў сабе сумненьня ў трапнасьці свайго гумару. Аднак доля штатнага жартаўніка пачынае ціснуць на Завалюхіна. Яму хочацца плакаць. Ды вось толькі гэта весялунам забаронена. Увечары, на лесьвічнай пляцоўцы, Завалюхін трывожна абкурвае сваё рагочучае сэрца й нечакана ловіць сябе на тым, што баіцца — баіцца таго, што адмовіўшыся ад акладу жартаўніка, стане для нас пустым месцам. Жартаўнікам, якімі б пляскатымі й пошлымі ні былі іхныя жарты, плоцяць прыстойна. Іх нязьменна запрашаюць у госьці, частуюць гарэлкай, жанчыны падсаджваюцца да іх бліжэй, і калі ты, на сваё шчасьце, ня быў абраны жартаўніком у якасьці сёньняшняй ахвяры для яго кпінаў, то ты таксама будзеш аж да разьвітаньня на аўтобусным прыпынку расьцягваць вусны ў звыкла балючай для сябе ўсьмешцы, нібыта на тваім твары засохлы клей, і паляпаеш зажартаванага і апляванага няўдачніка па плячы. А штатны гумарыст пойдзе праважаць дахаты рудавалосае хіхіканьне з маленькімі грудзьмі, і ты адчуеш палёгку, бо можаш спакойна выплюнуць прамінулы вечар у ракавіну на кухні, а

Завалюхін будзе вымушаны яшчэ гадзіну запар гумарыць, гумарыць, гумарыць: у прамерзлым трамваі, на ўскраіне места, з пунсовымі вушамі, без цыгарэтаў, у цёмным пад’езьдзе, у цеснаце тамбуру, бо каму ён цікавы, смурны й маўклівы Завалюхін, мёртвы Завалюхін, не маўчы, Завалюхін, жартуй, і тады табе дадуць паціскаць. Ну, я пайшла, Завалюхін. Патэлефануй мне, Завалюхін. І толькі ўнізе, адкуль чуецца такое выразнае бляяньне, можна будзе не жартаваць — трэба будзе бегчы.

Вядома ж, як толькі Завалюхін трапляе ў арбіту жаночага сьвету, ён адразу ж пачынае гіранізаваць і кідацца сваімі вострыцамі. Ён проста не ўяўляе сабе, як можна размаўляць з жанчынамі інакш. Ён ведае, што ён шыкоўны. Чароўны мужчына. Я назіраю за ім праз паўапушчаныя вейкі. Мне добра, бо мяне тут ніхто не заўважае. Хвіліну таму мне кінулі: “Будзь прасьцей тварам і людзі да цябе пацягнуцца”, вось, бадай, і ўсё, што мне сказалі за сёньняшні вечар. А я не хачу быць прасьцей, бо усё няпроста, усё вельмі дрэнна, складана й трагічна. Я назіраю за сваім сябрам, гэта я прывёў яго сюды. Ён сядзіць між трох жанчын і жартуе. Завалюхін іскрыцца жартамі. Ён выбухае показкамі, як гарэзьлівы фэервэрк, ён асьцярожна заігрывае

з пошласьцямі й робіць рызыкоўныя кампліманты. Ён — душа кампаніі. Ён пачуваецца ўтульна, ён ганарыцца сабой. І раптам я заўважаю, што праз сьмех жанчын праступае неймаверная стома, што іхныя ірты зь цяжкасьцю ператвараюць ва ўсьмешкі прыгожыя шырокія позехі. Яны ж насамрэч не ідыёткі, гэтыя прывабныя й глупаватыя на выгляд кабеткі, яны ж разумеюць, што жарцікі Завалюхіна ня вартыя нават мімалётнай усьмешкападобнай здані, яны ведаюць, што прамоўленыя імгненьне таму словы Завалюхіна каштуюць менш, чым бурая вада, што зьнікае ў адтуліне ванны, — але яны жанчыны, і ім загадана згодна зь нейкімі дзікімі тысячагадовымі законамі сьмяяцца ў вадказ на мужчынскія жарты, а Завалюхіну загадана прыкладна тымі ж цыркулярамі й дэкрэтамі жартаваць, гумарыць, кпіць. Я бачу, што насамрэч жанчынам хацелася б сесьці з намі на падлогу й, скінуўшы ўсе гэтыя гіпсавыя маскі, пагаварыць з намі як зь сябрамі, проста шчыра пагаварыць — але яны ніколі ня пойдуць на гэта, і апускаюць вочы, і натужна чырванеюць, і Завалюхін заліваецца закіпелым імбрыкам. Паміж імі глухой сьцяною стаяць сэксуальнасьць і Завалюхінская пасада штатнага жартаўніка.

Па дарозе дамоў я раблю памылку й распавядаю яму пра гэта. Завалюхін мярзотна шчоўкае пальцамі па сваёй шчацэ й жартуе. Я ўзгадваю, як глядзелі на Завалюхіна мужчыны. З зайздрасьцю. Тым ня менш дахаты мы вяртаемся ўдваіх. Ня тая кампанія. Трошкі разумнейшая, чым звычайна. Жанчын мне шкада, а з Завалюхіным я стараюся хутчэй разьвітацца. Дарэчы, я ведаю, што ён цнатлівец, а цнатліўцы выклікаюць у мяне алергію. Разумею, што гэта дурата, але калі я дакладна ведаю, што мужчына цнатлівы, мне гідка нават паціскаць яму руку — мне здаецца, што дакранаючыся да яго, я дакранаюся да ягоных тых самых ворганаў.

Карацей, гэта адно з самых панылых відовішчаў на сьвеце — жартаўнік, які вымушаны жартаваць.

Завалюхін любіць гаварыць пра тое, што ён мой лепшы сябра. Тое, што ён лічыць сябе ім, дазваляе Завалюхіну прыпірацца да нас ў дзьве гадзіны ночы й спаць на кухні, атручваючы нашае сандалавае паветра сваім перагарам. Назаўтра ён падымаецца на досьвітку, ідзе ў краму і ўрачыста прыносіць адтуль бутэльку гарэлкі, такой салодкай для таго, хто пахмяляецца, і такой ванітоўнай для мяне, які толькі прачнуўся. Завалюхін прымушае мяне выпіць і пакуль мы яго кормім, распавядае нам зьмест учорашняга кавээну. Вось яшчэ адна рэч, адно ўзгадваньне якой здольнае адбіць у мяне апэтыт да жыцьця. Я сапраўды не разумею, што вясёлага можа быць у сузіраньні сотні

завалюхіных, якія б’юцца ў параксызму свайго жартаваньня, а да таго ж яшчэ сьпяваюць, хто ведае навошта, нейкія перайначаныя песенькі, і самае вар’яцкае — заля надрываецца ад рогату, і сцэна трасецца: грошы патрачаны не дарэмна! Завалюхін у сваёй стыхіі. Аднак я ветліва сьмяюся. Жонка, ледзь стрымліваючыся, ідзе ў залю, я ведаю, што яна трывае ўсё гэта толькі дзеля мяне, а наш мілы сябра патрабуе гітару.

Вось яшчэ адна жарсьць Завалюхіна. Ён любіць музыку. Ён любіць сьлязьлівую, патэтычную калярокавую эстраду савецкіх часоў, але гэта яшчэ ня самае жахлівае. Завалюхін сам піша песьні й сьпявае іх пад уласны акампанімэнт. Ён б’е па струнах, і наша гітара, не вытрымліваючы, пачынае румзаць — яна добра ведае, што такое апынуцца ва ўмелых завалюхінскіх руках. Правая кісьць Завалюхіна сутаргава торгаецца, левая ўчапілася ў струны як у маё горла. Прыгожа фальшывячы, Завалюхін енчыць нешта псэўдарамантычнае, хаця мне здаецца, што песьня пра інцэст. Мэлёдыя, згодна з уяўленьнямі Завалюхіна — гэта калі голас неадступна сьледуе за ўдарамі пальцаў па струнах, нібы пад строгім канвоем, такім чынам, завалюхінскія песьні — гэта занудныя рэчытатывы пра каханьне, якія выконваюцца казьліным голасам і з п’янай сьлязою ў хітрым кутку правага вока — трагедыя! Я сяджу побач і пазіраю на гарэлку ўжо без усялякае агіды, як на паратунак. Завалюхін заводзіць новую, на гэты раз не сваю, хаця, па шчырасьці, кожная песьня, якую ён выконвае, падаецца напісанай маім адданым сябрам. У вачох Завалюхіна я бачу, што яму ажно карціць, каб я падцягнуў у прыпеве. Я куляю ў сябе гарэлку й бадзёра стараюся ўдаць такі ж казьліны голас: “У комнаце зь белым паталком!..”, аднак, кажучы напраўду, мой прыродны голас не казьліны, ён хутчэй мядзьвежы, а ім, медзьведзям, як вядома з славянскага фальклёру, некалі пераехала вушы дагістарычным камбайнам. Па тым, зь якім грукатам жонка зачыняе дзьверы ў залю, я здагадваюся пра посьпех нашага дуэту. Котка хаваецца ў шафу, падалей ад завалюхінскіх мадуляцыяў. Завалюхін просіць мэдыятар. Божа, навошта я гэта трываю? Вазьмі, вазьмі вострую брытву, Завалюхін, і ўнясі ў сябе праўкі! Аднак мяне чакае новая бяда. Завалюхін, мой дружочак, жадае даведацца, якая ягоная песьня мая ўлюбёная. Я пакутліва перабіраю ягоныя шэдэўры ў галаве й нарэшце называю нешта самае кароткае. Натуральна, Завалюхін прасьпявае лепшаму сябру ягоную ўлюбёную песьню. Нам вельмі весела, вельмі.

Завалюхін лічыць сябе надзвычай таленавітым. Неяк ён прызнаўся мне, што ягоны паэтычны талент, напэўна, усё ж пера-

ўзыходзіць ягоны талент кампазытара. Што ж, магчыма. Калі я думаю пра гэтыя два асноўныя, бо Завалюхін, натуральна, мае і яшчэ безьліч іншых талентаў, *проста яны ня так кідаюцца ў вочы*, — дык вось, пра гэтыя два асноўныя таленты Завалюхіна, я чамусьці заўсёды зьбіваюся на думкі пра сіямскіх блізьнятаў. Будучы, скажу шчыра, поўнай бяздарнасьцю, Завалюхін не жадае дасягаць чагосьці й вучобай. Больш за тое, пра страшэнныя правалы ў будынку сваёй асобы ён гаворыць як пра разумна зробленыя вакенцы. Ён упэўнены ў сваім інтэлекце. Ён марыць пра тое, каб выдаць зборнік вершаў, хаця дагэтуль сьвята верыць, што "малако" рыфмуецца з "кімано" (Завалюхін прытрымліваецца погляду, што рыфма — "гэта калі два словы сканчаюцца на адну й тую ж літару") — справа ўскладняецца тым, што для Завалюхіна ўсё, што ня ў рыфму, ёсьць прозай. Прозу Завалюхін піша таксама, але казаць пра гэта ў мяне ўжо не стае моцы. Прачытаўшы кніжку пра Суворава, Завалюхін пачаў лічыць сябе знаўцам гісторыі й выклікае мяне зрэдзьчас на навуковыя дыспуты — ці варта казаць, што я заўсёды іх прайграю.

Вось тое, што мой сябра папросту паталягічна няздольны вывучаць замежныя мовы, факт сапраўды неаспрэчны. Запомніць дзесяць нямецкіх дзеясловаў для яго непасільная задача. Само па сабе гэта, натуральна, ня страшна, ня ўсе траглядыты — паліглоты, але мяне прыводзіць у шаленства тое, што Завалюхін гаворыць пра такое бясьсільле як пра цікавую ўласьцівасьць сваёй творчай натуры, пра нешта кшталту разынкі ўласнай псыхікі. Я думаю, што гэта істотны недахоп, але госпадзе! — паводле ягоных словаў, гэта "забавно". Мяне, прыводзіць, у, шаленства, — у ціхае шаленства, спадарства, у ціхае шаленства, нямое шаленства, бо я ніколі не казаў Завалюхіну нічога падобнага.

Завалюхін мае безьліч люмпэнскіх звычак, гідкіх, савецкіх, звычак у маім ўяўленьні антрапаморфных, бо кожная зь іх нагадвае сваёй самастойнасьцю тлустую базарную бабу, якая можа і з Парыжу за адзін дзень зрабіць калгас. Завалюхін не разумее, што кепскага ў сьмярдзючых піўнухах, футбольных фанатах, піянэрскіх лягерах, расейскіх акупантах, паленьні недапалкаў, сэнтымэнтальных балядах, кавээну, антысэміцкіх кнігах, мацернай лаянцы, шпалерных цьвяточках, жоўтай прэсе, сьвежых анэкдотах, не разумее, што такое тактоўнасьць, гігіена, воля, адзінота, літаратура, густ, сям'я, сэкс, годнасьць, маўчаньне. Яму, нягледзячы ні на што, лёгка жыць на сьвеце. А мне страшэнна няўтульна, пагатоў зь ім; я адчуваю, што на маім целе вырас тоўсты шанкр пад назвай Завалюхін, і я ня ведаю, як мне пазбавіцца ад яго. Напэўна, я ня маю пачуцьця гумару. Але калі я

ўспамінаю, наколькі верны сябра мой Завалюхін, мяне ахоплівае роспач.

Верагодна, мы самі вінаватыя ў тым, што ён упэўнены ў сваёй выключнасьці. Бо ніколі не асьмельваліся сказаць яму праўду. Бо шкадавалі яго, нават калі ня мелі для гэтага нагодаў. Бо замянялі справядлівасьць сяброўствам. І Завалюхін жывіўся нашым маўчаньнем, нашымі фальшывымі ўсьмешкамі, ухваленьнем кожнага ягонага выбрыку. Але сёньня позна зьмяняць яго — любое слова супраць ён успрымае як зайздрасьць. Ды й вось што мне хочацца сказаць: мой сябра, калі напраўду, быў такім ад пачатку. Бо такімі ж былі цэлыя генэрацыі Завалюхіных, генэрацыі хамаў і паразытаў. А апошнія пяць гадоў адзіным, што нас аб'ядноўвала, была гарэлка. Нашыя дарогі мусяць разысьціся, няхай для гэтага спатрэбіцца і хірургічнае ўмяшальніцтва. Я мяркую, што калі пасадзіць у вадну турэмную камэру таленавітага чалавека й Завалюхіна, то яны нават падземны ход для ўцёкаў будуць капаць у розных месцах.

Цяпер Завалюхіну вельмі пагана, ягонае жыцьцё руйнуецца, і мне салодка назіраць, як ён дэградуе проста на вачах. Самы час прымаць рашэньне. Ён заўсёды паразытаваў на мне, дык нашто пазбаўляць чалавека права несьці за гэта адказнасьць? Завалюхін сядзіць непрыемна блізка, без супынку гаворыць і ўвесь час хістаецца. Я гляджу проста перад сабой і пасьміхаюся. У пэўны момант Завалюхін паварочваецца да мяне й нешта раззлавана бурчыць.

— Што? — прамаўляю я пасьля паўзы зусім абыякава. — Ты штосьці казаў ці мне падалося?

Ён лаецца, а я падымаюся і іду наперад, не абарочваючыся. Бывай, Завалюхін! Бывай назаўсёды. Свае дзьве тысячы словаў ты заслужыў.

## ІГОЛКА ПРОЗЫ

### *(Ліставаньне зь Юрасём Барысевічам)*

*— Напэўна, кнігі нараджаюцца і сталеюць разам з аўтарамі, хіба што жывуць нябачна — пакуль ня знойдуць сабе чытача. Дый нас саміх бачаць толькі тыя, каму мы зь нейкіх прычынаў цікавыя — напрыклад, праз кнігі, якія ўжо выйшлі з нашага ценю. І ўсё ж удакладні, дзе й калі нарадзіўся Альгерд Бахарэвіч зь ягонымі кнігамі, і навошта ён гэта зрабіў.*

— Гэта было амаль трыццаць гадоў таму: у Гішпаніі памёр дыктатар Франка, беларускі крытык Навум Перкін выдаў кнігу артыкулаў “Человек в советском романе”, а на сьвет зьявіўся я.

Большая частка дзяцінства прайшла на гарадзкой ускраіне — ня ведаю, што за помнік меркавалася ўзгрувасьціць на той пастамэнт, унутры якога месьцілася бацькоўская кватэра. Школа, дзе я вучыўся, была настолькі звычайнай, што пра гэта нават няёмка казаць: з аднаклясьнікамі, што гулялі “у квача” шматком акрываўленай ваты, з настаўнікамі, кожнаму другому зь якіх можна было сьмела ставіць дыягназ “пэдафобія”, зь вечна п’яным ваенруком і непрытомнасьцямі піянэрскіх лінеек. Я рэдка выходзіў на двор, валяўся цэлымі днямі на канапе, паглынаў кнігі й кукурузныя палачкі. Самае высокае дрэва сярод тых, што расьлі вакол нашага дому, ледзь даставала мне да плячэй. У такім веку мы папросту ня маем адпаведнага органу для таго, каб ненавідзець, — маё дзяцінства дзякуючы бацькам ды кнігам было шчасьлівым. Пасьля школы я мерыўся паступаць у ін’яз, бо быў лепшым вучнем па замежнай мове, але на краіну навалілася эпідэмія заўчаснага адраджэньня, і мяне гэтая пошасьць таксама не абмінула. Васямнаццацігодзьдзе я сустрэў студэнтам пэдагагічнага ўнівэрсытэту, меўшы стацца настаўнікам беларускай мовы й літаратуры. Як бачым, мары пра ін’яз, у пэўным сэньсе, спраўдзіліся, бо тады толькі саманадзейны юнак або вясковец мог назваць беларускую мову матчынай... Думаю, у БДПУ мяне запомняць надоўга.

Скончыўшы не без праблемаў гэтую ўстанову, я працаваў настаўнікам, выкладаў беларускую мову, літаратуру, сусьветную і айчынную культуру ў розных менскіх школах, а потым зусім выпадкова ўладкаваўся карэспандэнтам ў адну маленькую, але вельмі ганарлівую газэту. З задавальненьнем засунуў бы сюды зь дзясятак

“жывых клясыкаў”, каб кінулі дурное.

Неўзабаве мне споўніцца трыццаць. Я чулы, нэрвовы, хворы, злы, закаханы ў жонку, гідка сэнтымэнтальны інтравэрт, вельмі шмат чытаю, трохі больш чым трэба палю й спажываю алькаголю, грызу пазногці, крыху заікаюся, маю бездакорны густ і ня ўмею зарабляць грошы — карацей, пісьменьнік. Або намагаюся ім быць. Неістотна. Я пішу кнігі для такіх, як я.

*— Чаму ты пачаў занатоўваць свае думкі? І ці можна падзяліць ідэі, як грошы, на свае і агульныя, нічыйныя і чужыя?*

— Латыская паэтка Ё падчас свайго прыезду ў Беларусь на пытаньне пра крыніцы творчасьці адказала: “Мастацтва пачынаецца зь пераймацьня”. Недзе ў нябесных архівах, якія нам аніколі не рассакрэціць, можа, і захоўваюцца ноў-хаў мноства прыватных натхненьняў — аднак для большасьці з нас, я мяркую, уласная літаратурная дзейнасьць пачынаецца з жаданьня “напісаць гэтак жа файна, як піша...”. Досыць простая схема: чалавек чытае, яму падабаецца, ён рэфлексуе і пачынае пісаць сам. Каб пачаць ствараць мастацкія тэксты, трэба палка палюбіць літаратуру, а каб пачаць ствараць арыгінальныя мастацкія тэксты, трэба літаратуру трошачкі ўзьненавідзець.

Спадзяюся, што пэрыяд пераймацьня ў мяне ўжо за сьпінай. Калі я задумваюся зрэдку пра тое, чаму й навошта я пішу (бязглузды занятак!), то найчасьцей апынаюся сам-насам з такімі паняткамі, як “сумненьне”, “боль”, “дар”, “гульня”, “чараўніцтва”... Відаць, той, хто б’е маім пальцам па клявішах, апэруе менавіта гэтымі словамі, даводзячы мэтазгоднасьць майго пісаньня свайму начальству.

Аднойчы падчас выступу ў БДУ на пытаньне: “Чаму вы пішаце?” — я адказаў: “Бо ня бачу больш кніг, якія б гэтак жа моцна хацеў прачытаць”. Пры ўсёй іроніі ў гэтым адказе маецца пэўная доля ісьціны.

Сваю найпершую кніжку я выдаў, калі мне было гадоў дзесяць. Магчымасьцяў прыватнага выдавецтва, якое зьмяшчалася ў куце дзіцячага пакоя, хапіла на два асобнікі. Трэба зазначыць, што паліграфічная якасьць кніжак была выдатная: бацькі заўсёды забясьпечвалі мяне флямастарамі і асадкамі найвышэйшае якасьці. Памятаю, што пісаў прозу...

Празь некалькі гадоў, у больш сьвядомым узросьце, я пачаў пісаць ужо цалкам літаратурападобныя творы. О мілая сэрцу pueritus

scribendi!.. Калі мне было шаснаццаць, мовай маіх опусаў канчаткова стала беларуская. Гэта была мова-падлетак: ейны твар немагчыма было разглядзець праз прышчырусізмы, аднак мяккія знакі стаялі так, “як Тарашкевіч запавёў”. Паўплывалі тагачасныя “Тутэйшыя”, але, барані божа, не на зьмест або стыль, а толькі на выбар мовы. Дарэчы, ужо тады я асьцерагаўся блытаць літаратуру з журналістыкай, і выдумляць мне падавалася больш творчым заняткам, чым апісваць рэальны сьвет і рэальныя падзеі. Такога ж перакананьня прытрымліваюся й цяпер. Запіхваць цаглiны ўласнага жыцьця ў іголкавае вушка прозы (а менавіта такой яна, проза, мусіць быць) — занятак для літаратурных падмайстраў.

На сёньня я аўтар трох кніг прозы.

*— У назьве зборніку “Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў” чуецца жаданьне інтэлігентнага хлопца, які вырас у Чыжоўцы, адпомсьціць “мікрараённаму” ладу жыцьця — дый мысьленьня. Мабыць, табе апрыкла не гарадзкая цывілізацыя як такая, а бэтонная вёска вакол буйных заводаў, шматпавярховыя баракі вязьняў канвэеру? Які ж спосаб руйнаваньня вынікае з тваёй кнігі: вучыць замежныя мовы й шукаць шчасьця за мяжою? Ці пашыраць геаграфію свайго ўяўленьня?*

— Я сам — спараджэньне гарадзкой цывілізацыі, і пачуваюся ў горадзе досыць утульна. Аднак Затрамвайшчына — ня горад, і калі нямытыя целы пралетараў прыціскаюць цябе да задняга вакна аўтобуса, за якім таюць абрысы канцавой станцыі мэтро, калі ты бачыш даўжэзны комін на даляглядзе й думаеш, што гэта, напэўна, і ёсьць тая самая гарадзкая мяжа, рэальнае яе ўвасабленьне, агрэсіўна вэртыкальнае, бязьлітасна простае, — тады душу апаноўваюць роспач, страх і нянавісьць. Бэтонныя вёскі вакол гарадоў — менавіта там пладзяцца пашлякі, фашысты, ваяўнічыя нікчэмнасьці... Гэта яны абіраюць дыктатараў і вырабляюць матэрыяльныя каштоўнасьці. Зусім не з драўлянай беларускай вёскі, якая мірна канае пад чарговы “Крыжачок”, паходзяць праблемы краіны, а ад гэтых самых “вязьняў канвэеру”, якія выкідваюць з дванаццатых паверхаў свае гены проста ў паветра, нібыта недапалкі. Я зь дзяцінства быў у іх бяльмом на вачах, быў белай воранай, якая вырасла ў “чорнага” арнітоляга. Мяркую, мяне выратавалі бацькі ды кнігі, а галоўнае — мне было

куды бегчы: ва ўласную сьвядомасьць, якую нікому не анэксаваць.

Мае творы толькі ставяць пытаньні і не даюць адказаў, і слова “практычны” у назьве кнігі адрасаванае тым, хто шукае рэха, а не ягоную першакрыніцу. Адпаведна, найлепшага спосабу руйнаваньня назваць не магу... Скажу толькі вось што: я перакананы, што таленавіты чалавек мае права на слабасьць, і таму уцёкі — няважна куды: ва ўласнае ўяўленьне, у манастыр або за мяжу — не падаюцца мне паразай.

*— Распавядзі, калі ласка, пра гурт “Правакацыя”: чаму ты акрэсьліваў іхны музычны стыль, як “ваяўнічы дылетантызм”? Памятаю, адзін з выступаў гурта — на вечарыне Славаміра Адамовіча ў Доме літаратара — трапіў у культавы фільм Азаронка “Дзеці хлусьні” як прыклад дэградацыі постсавецкай культуры: пасьля кожнай песьні саліст здымаў што-небудзь з вопраткі і заключную (яна называлася “Спадчына”) сьпяваў у адных майтках, а напрыканцы й тыя спусьціў. Мне той “правакатар” сказаў, што гэта быў “жэст шчырасьці”. Сапраўды, усялякая вопратка — гэта, у пэўнай ступені, уніформа: яна прымушае нас іграць тую ці іншую ролю. Тое самае можна сказаць пра словы, у якія апранаюцца нашыя думкі.*

— Да “Правакацыі” я ня маю аніякага дачыненьня, але яе гісторыя мне знаёмая па аповедах сяброў. Жыў-быў у Менску на пачатку дзевяностых такі хлопец Алежка, які ўсяляк высільваўся, каб людзі лічылі яго панк-рокерам. Алежка пісаў пад гітару прымітыўныя песенькі, беручы за ўзор творчую спадчыну Iggy Pop і Sex Pistols. Напачатку дзевяностых ён заснаваў гурт “Правакацыя”. Алежка быў унікальным панкрокерам, бо ня толькі пісаў песьні па-беларуску, але й размаўляў на гэтай мове ў жыцьці. Анархісцкая газэтка “Как стать предателем” зьдзіўлялася з гэтай нагоды: “дагэтуль панкі імкнуліся не выказваць сваёй любові да белмовы прылюдна”. “П” была першым беларускамоўным панк-гуртом — яна грала чысты панк, а не стылізаваны пад панкерства хард. Дэбютаваў гэты гурт на першым фэстывалі “Раздавім фашысцкую гадзіну”: публіка пераканалася, што граць “правакатары” ня ўмеюць, і прыйшла ў захапленьне.

Потым удзельнікі гурта ўсё ж авалодалі музычнымі інструмэнтамі... Густа пайшлі канцэрты ў менскіх клюбах, у Доме літаратара, у кінатэатры “Зьмена”, у Лагойску, Талачыне, Магілёве.

Аднойчы “П” грала нават у бібліятэцы, а яшчэ, мне распавядалі, правакатараў неяк запрасілі ў адзін моладзевы цэнтр, дзе Алежка сьпяваў перад нямецкімі скаўтамі. Гурт славіўся дзьвюма рэчамі: фронтмэнам Алежкам, які кожны выступператвараў у эпілепсык-шоў, а таксама тым, што перад кожным канцэртам, калі нармальныя артысты наладжваюць гук і нэрвова паляць у грымёрцы, правакатары сядзелі ў бліжэйшым бары й весела наліваліся гарэлкай. Музыку звычайна пісаў сам Алежка, тэксты — таксама ён, астатнія ўдзельнікі гурта (іх за час існаваньня “П” зьмянілася адзінаццаць) рабілі аранжыроўкі й заміналі Алежку сьпяваць.

“П” выпусьціла адзін альбом — “Звычайная раніца”, які цяпер, і гэта праўда, слухаюць аматары альтэрнатыўнай музыкі ад Бугу да Уралу. Апошні канцэрт “П” адбыўся ў менскім клюбе “Мэдыюм” у 2000 годзе: правакатары гралі разам з “Hate to State” і ірляндзкім гуртом “Call Center”. Потым Алежка кінуў музыку й пайшоў працаваць у дзіцячы садок выхавацелем. Раз на год правакатары зьбіраюцца ды едуць у Талачын, дзе пры поўным аншлягу граюць старыя хіты.

*— На думку Ільлі Сіна, “беларускія масы” — гэта міт, ілюзія, і таму масавая (папулярная) літаратура на беларускай мове наогул немагчымая. Ці ўсё ж нейкая надзея ў гэтым пляне ёсьць? Масавую аўдыторыю лягчэй знайсьці не праз кнігі, а праз кінасцэнары, радыёперадачы, пэрформансы перад журналістамі, тэксты песень і рэклямных ролікаў, камputарныя (інтэрнэтаўскія) гульні. Але трэба ўлічваць, што найбольшым попытам у простага люду карыстаецца наймені густоўны прадукт — не каньяк, а “чарлік” (нават калі б яны каштавалі аднолькава) — бо натуральна ўпісваецца ў рацыён весьлярой галеры правінцыйнага жыцьця. Ты сам гэта добра паказаў у апавяданьні “Nightclubbing”: сталічныя артысты, што прыехалі з канцэртам у мястэчка, знаходзяць паразуменьне з аўдыторыяй толькі тады, калі замест народных пачынаюць сьпяваць блатныя песьні.*

*Папулярнасьць вымагае ня меншых ахвяраў, чым прыгажосьць, вымагае кампрамісаў з тымі, хто замаўляе музыку. У Францыі некаторыя пісьменьнікі, каб захаваць цікавасьць да сваіх кніг, наймаюць для ўдзелу ў тэлеперадачах больш фізычна прывабных*

*маладых артыстаў. Аднак штосьці падобнае адбываецца ўва ўсіх папулярных жанрах: славяць не таго, хто зьяўляецца сапраўдным аўтарам. А нават калі і таго — дык не за тыя якасьці, якія дазволілі задуме аўтара матэрыялізавацца.*

— Думаю, што масавая (папулярная) літаратура на беларускай мове, як і на любой іншай, — ня проста немагчымая, але й непатрэбная. Ня ўпэўнены, што добрыя кнігі могуць раскупляцца, як гарачыя круасаны. Верагодна, у кожнай краіне існуе даволі вузкае кола людзей, якія цікавяцца сур'ёзнай літаратурай (літаратурай, а ня модай на яе), і гэта нармальна. Посьпех уласных кніг мусіць насьцярожыць добрага пісьменьніка. Малая колькасьць адданых чытачоў — ідэальны варыянт: можна, прынамсі, быць упэўненым, што твае кнігі — не тупыя. Горш, калі цябе зусім не чытаюць.

Пісьменьніку трэба роўна столькі чытачоў, колькі можа пракарміць яго і ягоную сям'ю.

На маю думку, пісьменьніка мусіць цікавіць перш за ўсё ён сам. Толькі тады ім зацікавяцца чытачы.

*— Пакуль беларуская літаратура ня ўключаная ў рынкавыя мэханізмы, яна вырачаная займацца палітыкай ці, у лепшым выпадку, авангарднымі практыкамі. Я ня бачыў тваёй кніжачкі, што выйшла яшчэ да “Практычнага дапаможніка па руйнаваньні гарадоў” (памятаю, на прэзэнтацыі ў “Зьмене” Вішнёў і Сін частавалі гледачоў тваімі “мазгамі” з суніцаў і пральнага парашку, але попытам яны не карысталіся, і ты мужна зьеў свае “мазгі” сам). Што там было, у той кнізе? Чаму ты ня стаў (як і я) рабіць бумбамлітаўскага друкапісу? Адкуль паходзіць тваё сяброўства з дырэктаркай кінатэатру? Пытаюся, бо там адбывалася і прэзэнтацыя “Практычнага дапаможніка”: Сін разадраў тваю кнігу на дробныя шматкі, як на вясельлі б'юць посуд з пажаданьнем шчасьлівага шлюбу.*

— Кніжачка была самаробная, уся стракацела плямамі клею, што надавала ёй непрыстойны выгляд, і мела наклад трыццаць асобнікаў. Называлася гэтае сьмяхоцьце “У сымэтрычнай краіне”.

Акрамя аднайменнага тэксту, туды ўвайшлі дзесяць слабых вершыкаў, напісаных у сярэдзіне дзевяностых. Кніжачка зусім ня мела наступстваў, хіба што я ўпершыню даў інтэрвію Радыё Свабода. Самвыдат з тых часоў выклікае ў мяне агіду. Друкапісы, на мой погляд, — гэта спроба пралезьці ў Літаратуру нават ня з чорнага ходу, а праз вэнтыляцыйную шахту. Я вельмі задаволены, што мая першая сапраўдная кніга выйшла, калі мне споўнілася дваццаць сем. У гэтым веку мне ўжо было што прапанаваць чытачу. Мець кніжку ў дваццаць гадоў рызыкоўна: юныя таленты ад гэтага псуюцца.

А знаёмства з дырэктаркай кінатэатру “Зьмена” адбылося падчас маёй працы карэспандэнтам. Я пісаў пра гэты кінатэатр, вечная яму памяць, вялікі й санлівы матэрыял…

*— Чаму ніколі не друкаваўся ў газэце “Навінкі”: лічыў яе надта павярхоўнай? На мой густ, псыхадэліі там было мала, а сатыры — зашмат. Усе аўтары падпісваліся зьдзеклівымі псэўданімамі (што выключала магчымасьць дыскусіі з чытачамі) — гэта прымальна для ўлётак, нават для кнігі, але не для штотыднёвіка. Мяне дык ня надта вабіць гульня постмадэрністаў у “сьмерць аўтара (і аўтарытэта)”.*

—Сказаць, што “Навінкі” былі павярхоўнай газэтай — значыць нічога не сказаць. Павярхоўнасьць, як можна было зразумець, пагартаўшы гэтае вясёлае выданьне, культывавалася там на ўзроўні рэлігіі. Адно з самых панылых відовішчаў на сьвеце — гэта цынікі, якія вымушаныя ўвесь час даводзіць свой цынізм і якія гатовыя на любыя высілкі, каб толькі некаму не падалося, што яны сталі менш цынічнымі. Тое ж магу сказаць пра жартаўнікоў, пра разнастайных мача й беларускіх адраджэнцаў.

Наогул, зьдзекавацца — лёгка, а вось стварыць нешта вартае ўвагі… Відаць, таму мне не даспадобы ні Сарокін, які спачатку карпатліва рэканструюе расейскую клясыку, а потым з зацятасьцю дзіцяці руйнуе атрыманае, ні Прыгаў.

Можна бясконца гуляць у сьмерць аўтара — але ў рэшце рэшт аўтар узьнімецца, затушыць сьвечку, прадасьць труну й напіша “Alter Nemo”.

*— Ганна Кісьліцына назвала ў “Дзеяслове” твае тэксты*

*“помесьсю Сарокіна і Шамякіна”. Я ж на адной з тваіх сустрэчаў з чытачамі пачуў такое ўражаньне: “Гэта не Шамякін, тут трэба перачытваць”. Што да Сарокіна — на мой погляд, яго, як і наогул парнаграфічныя тэксты, цікава чытаць, але немагчыма перачытваць. А клясыкай стаюцца менавіта тыя творы, якія можна перачытваць (і цытаваць).*

— Лепшы адказ на такую крытыку — пагардлівае маўчаньне. Аднак выкажуся. Мне здаецца, варыянтаў тут для абазнанага ў літаратуры чалавека можа ўзьнікнуць два. Або Кісьліцына не чытала ні Шамякіна, ні Сарокіна, або яна за сваё жыцьцё толькі іх, небаракаў, і прачытала. У апошняе верыцца зь цяжкасьцю. Думаю, Кісьліцына насамрэч не знаёмая ні з маімі тэкстамі, ні з тэкстамі іншых аўтараў, на якіх яна з паталягічным захапленьнем вешае свае пасьпешліва змайстраваныя цэтлікі. Мае кнігі яна, відавочна, *гартала,* аднак умець перагортваць старонкі — замала для таго, каб называць сябе крытыкам або літаратуразнаўцам.

На жаль, Ганна даўно знаходзіцца ў добраахвотным палоне ўсёй гэтай “літаратуры” (замежнай і айчыннай), якая ствараецца левым пальцам правай нагі ў стаханаўскія тэрміны й мае такое ж дачыненьне да сапраўднага пісьменства, як інструкцыя па карыстаньні, напрыклад, прасам.

Такія “патолягаанатамы”, як Кісьліцына, лезуць у вантробы “кліентаў”, слаба сабе ўяўляючы іх будову. Шаноўны крытык ня бачыць адрозьненьняў паміж аўтарам і пэрсанажамі ягоных кніг, парнографаў узгрувашчвае на п’едэстал, савецкіх графаманаў грыміруе пад наватараў (я, дарэчы, перакананы, што пры таталітарным рэжыме савецкага тыпу легальна існаваць можа толькі квазілітаратура), а аўтарскую стылістыку дасьледуе з прасталінейнасьцю бальшавіцкага камісара. Кісьліцына не абцяжарвае сябе Мастацтвам Чытаньня — у яе ўлюбёнцах ходзяць тыя, хто інакш як простымі неразьвітымі сказамі пісаць ня ўмее. Галоўная ж праблема Кісьліцынай — у тым, што яна недаацэньвае здольнасьць мастака ствараць тысячы абсалютна самастойных і жывых “Я”.

І Сарокіна, і Шамякіна я ў свой час чытаў, і калі ад першага атрымаў нейкае вялае й непрацяглае задавальненьне, якое ўжо праз некалькі дзён зьмянілася поўнай абыякавасьцю, то другі сваёй бяздарнасьцю сапраўды ўразіў. Што ж, усё правільна: Кісьліцына загадвае мне “зайздросьціць мэтру, прыпісваючы яму грахі ўсяго

папярэдняга пакаленьня літаратараў”. Вось і зайздрошчу. Мне б быць такім анэмічным графаманам! Наколькі лягчэй бы жылося…

*— Калі ўжо казаць пра паралелі, то твае празаічныя творы адсылаюць, хутчэй, да заходнеэўрапейскіх аўтараў, а з расейскіх — да Пялевіна. Можна, напрыклад, адзначыць структурнае падабенства тваёй “Натуральнай афарбоўкі” і ягонай “Дыялектыкі пераходнага пэрыяду зь ніадкуль у нікуды”: раман і нізка апавяданьняў, зьяднаныя агульнымі героямі (нагадаю, твая кніга выйшла раней за пялевінскую). Істотная для вас абодвух — тэма псыхадэлічнага пашырэньня сьвядомасьці (у беларускай літаратуры яна гучыць вельмі сьвежа — хоць першым тут, напэўна, быў Барыс Сачанка з апавяданьнем “У канапельным чадзе” ці нават “Тарас на Парнасе”). Аднак пялевінскія героі — мэдыямагнаты, афіцэры, банкіры — ужываюць, пераважна, сухое семя залатога цяля — какаін (улюбёны наркотык кар’ерыстаў), герой жа “Натуральнай афарбоўкі” выпадкова знаходзіць іншы варыянт рэчаіснасьці (асабістае пекла?) вельмі дэмакратычным шляхам — дыхаючы на працы выпарэньнямі малярскай фарбы.*

— Пялевін, цікавы й таленавіты пісьменьнік, мяне, па шчырасьці, абсалютна не цікавіць, і ў кнігарні я прамінаю ягоныя кніжкі, каб набыць нешта больш глыбокае й чароўнае. Вось мая кніжная паліца, тое са зьмесьціва стэляжоў у маім кабінэце, што мне хочацца перачытваць зноў і зноў (сапраўдны чытач — гэта перачытвальнік), тое, што, відаць, тым ці іншым чынам на мяне паўплывала: Набокаў, Кафка, “Уліс” Джойса, “Бляшаны барабан” Граса, Сартр, тры раманы Роб-Грые: “Гумкі”, “Вока” (“Соглядатай”) і “Жалюзі”, “Вачыма клоўна” Бёля, “Жарт”, ”Невыносная лёгкасьць быцьця” і асабліва “Несьмяротнасьць” Кундэры, “Расфарбаваная птушка” Касінскага, Дзюрэнмат, “Чужаніца” Камю, Мілер, Борхес… Аксёнаў, Талстая (ведама ж, Тацяна), “Элемэнтарныя часьцінкі” Уэльбэка, “Кара кітаб” Памука Архана, “Ганьба” Кутзэе, а таксама Вашынгтон Ірвінг, Эдгар Алан По, нямецкія казачнікі XIX стагодзьдзя… Пруст, Маркес, Ёнэска, Бродзкі, “Падарожжа на край ночы” Сэліна… Лепшых літаратараў я пакуль ня ведаю.

*— Параўнаньне тваіх раманаў зь пялевінскімі магло б даць багатую глебу для разважаньняў пра адрозьненьні гістарычных лёсаў творчай інтэлігенцыі ў Беларусі й Расеі: пісьменьніцкае рамяство ня можа пракарміць чалавека з добрым густам ні там, ні тут, але калі ў пялевінскім “Generation П” прафэсійны паэт, расчараваны ў літаратуры, усё ж застаецца “ўладаром думак”, перакваліфікуецца ў рэклямшчыка, а потым і закуліснага лялькавода палітычнай сцэны, дык у “Натуральнай афарбоўцы” мастак кідае сваю нікому не патрэбную творчасьць, уладкоўваецца на завод звычайным маляром і там знаходзіць сваё шчасьце. Такім чынам, у Беларусі адукацыя мала чаго вартая ў параўнаньні з традыцыяй; інтэлігенцыя капітулюе перад пралетарыятам, як раней пазычала сялянскія каштоўнасьці.*

—“Самае істотнае, што здолела зрабіць зь ім, Стахам, прадпрыемства, можна было выказаць так: яно забіла ў ім веру ў рэальнасьць сучаснасьці. Тыя, хто працаваў там, лёгка абыходзіліся без дэмакратыі й паліткарэктнасьці, без структуралізму й пэрформансу, безь Інтэрнэту й канкрэтнай паэзіі, без лацінскіх прымавак і ангельскай мовы, (...) яны шчыра не разумелі, як чалавек можа насіць даўгія валасы, не зьяўляючыся Аляксандрам Маліпіным або падобнага кшталту зоркай, і чаму за чорны квадрат Малевіча людзі гатовыя выкласьці гэткія фантастычныя грошы. Затое праца ўручную, састарэлымі пэндзлямі, у той час як паводле Стахавай інфармацыі на складах прадпрыемства захоўвалася супэрновае абсталяваньне, якое палегчыла б працу маляра да непазнавальнасьці, іх зусім не бянтэжыла. Яны былі сьвята ўпэўненыя, гэтыя Стахавы калегі, што заведзены на прадпрыемстве парадак — найлепшы й найсправядлівейшы, і любы, хто жадае яго зьмяніць, — злачынца, які робіць замах на самае дарагое, самае блізкае, самае неабароненае й хрупкае — жыцьцёвую стабільнасьць. Слова “прагрэс” значыла для іх толькі назоў завода-філіялу недзе ў правінцыі, што пастаўляў прадпрыемству нешта з камплектуючых, гэтаксама як, напрыклад, словазлучэньне “ляўрэат Нобелеўскай прэміі” гучала для работнікаў прадпрыемства, як назоў вэнэрычнай хваробы. (...)

Віньцікі, скажаце, паслухмяныя мэханізмы, часткі вялікай

машыны. Але менавіта зь іх пачынаецца ўсё, ад палітыкі да народанасельніцтва. Яны вырабляюць прадукцыю, прадукцыя прадаецца, багацее краіна, і той, хто нічога вырабляць ня здольны, можа сыта лайдачыць, папісваючы вершыкі, і мастак можа спакойна плаціць за камунальныя паслугі, і музыкалесавік — забегчы ў краму й набыць сабе доктарскай кілё ці паў. Яны, гэтыя віньцікі, у любы час маглі б сабрацца, як запоўнілі сёньня зусім не маленькую заводзкую плошчу, разагнуць зацеклыя сьпіны й наладзіць кампактную, але прыстойную рэвалюцыю й зруйнаваць усё што існуе дашчэнту, як зрабілі калісьці іхныя прадзеды. Але ня робяць гэтага. Нават не абдумваюць такі варыянт. (...) Пралетарыят — ён волат, і, як многіх волатаў, яго вылучае безабароннасьць, дабрадушны характар, дзіцячая наіўнасьць ды ўласьцівасьць лёгка паддавацца чужым уплывам. Але — волат. І Стаху прыемна зараз пачувацца часткай гэтага волата, ну, няхай не рукой і нават ня пальцам, аднак капілярам на запясьці — дакладна.”

*—Ці пагадзіўся б ты з высноваю героя Джорджа Оруэла ў рамане-антыўтопіі “1984”, што адолець таталітарызм здольныя хіба што далёкія ад палітыкі “пролы” (пралетарыі)? Мне здаецца, агароднікаў больш цікавіць надвор’е, чым нават кошты ў крамах.*

*Мажліва, табе бліжэйшы ня Оруэл, а Кафка, які жахаўся ня столькі заводу гісторыі, дзе працуюць улады й апазыцыя, колькі канвэеру прыватнага жыцьця? Пры любым палітычным рэжыме людзі маюць уласную дыктатуру — пэўны рэжым дня.*

— Кафка мне нашмат бліжэйшы за Оруэла, хоць “1984” ў свой час прымусіў мяне плакаць. Безумоўна, дзяржава, грамадзтва, таталітарызм — усяго толькі вытворныя ад чалавека. Мяркую, што мастаку будзе цяжка жыць пры любой уладзе, якой бы дэмакратычнай яна не была.

Мне хочацца працытаваць тут Набокава: “Карысна памятаць, што ні ў гэтым, больш за тое — у ніводным пакоі сьвету няма ніводнага чалавека, якога ў нейкім удала абраным пункце гістарычнай прасторы-часу развbooкlivая большасьць у сваім праведным абурэньні не асудзіла б на сьмерць”.

Абіраючы лёс творчага чалавека — у прыватнасьці, пісьменьніка, — мусіш быць штохвілінна гатовым да таго, што цябе будуць

усяляк прыніжаць, катаваць, не даваць дыхаць, мусіш быць гатовы да выгнаньня.

Ппролам (заікаюся, нават набіраючы тэкст на кампутары) утульна жыць пры таталітарызму, пакуль ён задавальняе іхныя патрэбы. Як толькі перастае задавальняць, яны абіраюць наступнага бацьку. Глупа вінаваціць у нечым дзяржаву, бо народ мае такую дзяржаву, якую заслугоўвае. Мабыць, мая думка ня будзе арыгінальнай, але: Лукашэнка — насамрэч народны прэзыдэнт, і нічога з гэтым не паробіш. Кожны дыктатар — гэта квінтэсэнцыя народнай сьвядомасьці. Кожны другі насельнік гэтай краіны — маленькі Лукашэнка, і пакуль так будзе, нічога ў Беларусі ня зьменіцца.

Жыць тут страшна, ня толькі ад штодзённага сузіраньня дзяржаўнай пысы, яшчэ й ад неабходнасьці падтрымліваць стасункі з навакольнымі людзьмі. Выснова Сартра наконт месцазнаходжаньня пекла зусім не састарэла.

*— Ці згодны ты з тэрмінам “нац-арт”, якім Ільля Сін пазначыў твае пародыі на беларускую савецкую паэзію? Попарт быў кпінаю з дробнабуржуазных мараў, соц-арт — з дробнапралетарскіх, а твой “нац-арт” — кпіна з дробнапатрыятычных. Нагадаю чытачам твой ужо даўні, але сумна актуальны верш “Нямецкая мова”:*

*О, мілая сэрцу нямецкая мова! Багацьце тваіх невычэрпных крыніц*

*Для моцнага — новых памкненьяў аснова, Для кволага ты — і апора, і зьніч.*

*Ты мужна прайшла праз вякі і нягоды, Каб новым стагодзьдзям у сонцы зазьзяць, Каб весьці да зораў праз цемры, балоты... Нікому тваіх ручаёў не стрымаць!*

*Зьвініш ты на полі, на вулках, у хаце, Ты песьняю льесься, хоць зьведала зьдзек. А тым, хто цябе і адрокся, і страціў, Тым — вечная ганьба і сорам навек!*

*Мабыць, слова “пародыя” тут было б не зусім дарэчным. Ты жартуеш з сур’ёзных праблемаў, аднак гэта не пусты сьмех. Пародыя паразытуе на чым-небудзь банальным, але не адважваецца кпіць са сьвятыняў сваёй аўдыторыі, ніколі ня ставіць пад сумнеў ейную самапавагу. Карыкатура пляжыць тое, што яна паказвае, і*

*бессаромна лісьлівіць гледачу. Ува ўсіх анэкдотах, як і ў прапагандысцкіх фільмах, замежнікі (альбо, наадварот, тутэйшыя ўлады) выглядаюць дурнямі, калі не злачынцамі. Цябе, на шчасьце, мала цікавіць уласная папулярнасьць. Гонар важыць больш за ганарар.*

*Крытык Сяргей Дубавец, аналізуючы спадчыну Быкава, прыйшоў да высновы, што наступным "уладаром думак" у беларускай літаратуры павінен стацца сатырык. Мне дык жарты на палітычныя тэмы здаюцца надта павярхоўнымі. Змаганьне з ворагамі народу спрашчае ўсе пачуцьці, у тым ліку пачуцьцё гумару. Густоўна пажартаваць можна хіба з таго, каму спачуваеш. Безгустоўныя жарты таксама маюць права на існаваньне, але — па-за межамі мастацтва.*

*Зазвычай сьмех разбурае, аднак ён мае і крэатыўны патэнцыял. У найбольш сьветлыя моманты нашага мысьленьня мяжа паміж сур'ёзным і кур'ёзным зьнікае: камічнае, трагічнае і банальнае кранаюць адны й тыя струны душы.*

— Ільля Сін — адзін зь нямногіх людзей, у здольнасьць якіх адчуваць мастацтва я веру. "Нац-арт" — дык "нац-арт". Іншая справа, што я даўно ўжо не займаюся такімі рэчамі. Гэта была, бясспрэчна, вялікая й жорсткая кпіна з нацыяналістычнай ідэалёгіі. Нацыяналісты, як правіла, — даволі абмежаваныя людзі. Да таго ж, спавяданьне нацыяналізму — абыякавае да ўласна мастацкай праблематыкі, і таму мяне мала цікавіць. Творца-нацыяналіст — тое самае, што пісьменьнік, які б усё сьвядомае жыцьцё пісаў выключна пра пыласмокі.

Напэўна, трошкі я нямецкі нацыяналіст — але бадай таму, што жыву не ў Нямеччыне.

*— Адкуль гэтая любоў да Нямеччыны? Гэта канцэнтраваны вобраз эўрапейскай цывілізацыі або гуманізаваная мара пра тысячагадовы рай(х), падсьвядома пазычаная ў кіношных нацыстаў? Працытую апавяданьне "Рай": "Рай — гэта сьвет школьных тэмаў па замежнай мове. Там жывуць якія-небудзь Отто і Моніка —*

*першыя людзі на зямлі. Яны сядзяць у пустых сьветлых і шырокіх клясах, па-іншаплянэтнаму прыгожыя, зь ненатуральнымі ўсьмешкамі да вушэй… Пасьля сьмерці я хачу трапіць туды”.*

*Немцы ў тваіх тэкстах трошкі іншаплянэтныя — зрэшты, як і беларусы: “Як іншаплянэтнікі, беларусы йшлі па рассыпчатай серабрыстай дарозе, якая зьнікала ў космасе. Нібы вельмі багаты дзядзька набыў Млечны шлях і выпусьціў на яго гэтых сумуючых па свабодзе зьвяркоў. Іх грацыёзнасьць зачароўвала. “Гэта ж трэба так выдрэсіраваць!” — гучна сказаў нехта за сьпінай хлопчыка. У поўнай цішыні беларусы рухаліся, як міражы ў паветры, то зьнікаючы, то зьяўляючыся зноў. Нейкая дзяўчынка ўскрыкнула ад захапленьня. Сьвятло мякка ападала на сьцены цырку, расступалася перад яркай дарогай, якая вяла ў нязьведаныя касьмічныя далечы. Беларусы йшлі, павольна круцячы лапамі зьзяючыя шары, і ў гэтым не адчувалася ніякага прымусу” (гэта з апавяданьня “Беларусы на крыштальных шарах”). Мы ўсе жывем на адной плянэце, а думаем на розных. Аднак немцы для славянаў — двойчы іншаплянэтнікі, бо ў думках пра іх з падсьвядомасьці ўсплывае сугучны выраз “ня мы” — “іншыя”. Немцы лепш за нас умеюць жыць з камфортам, больш за нас дбаюць пра захаваньне прыроды і ўласнага здароўя. Для мяне пакуль не зусім ясна, чаму яны больш гаспадарлівыя, раней ці пазьней за нас яны атабарыліся на гэтай плянэце. Дарэчы, паэт і мастак Аляксей Жданаў падзяляў усіх людзей на немцаў і марсіянаў…*

*Ці няма ў цябе жаданьня пісаць назоўнікі з артыклямі, друкавацца гатычным шрыфтам, а ўрэшце — стацца нямецкамоўным пісьменьнікам?*

— Мая любоў да Нямеччыны — зьява містычная, і я не магу парэкамэндаваць нічога лепшага, як адаслаць чытачоў, якім гэта цікава, зусім не туды, куды яны падумалі, а да свайго апавяданьня “Гюнтэр Вальдхоф і яго крэдыторы”. З тым, што мая Нямеччына — “канцэнтраваны вобраз эўрапейскай цывілізацыі”, я, мабыць, пагадзіўся б, аднак справа тут больш складаная. Напэўна, выклічы я за якім-небудзь пасівелым ад баварскага піва сьпірытычным столікам

“цені забытых продкаў”, многае магло б праясьніцца.

Стацца нямецкамоўным беларускім пісьменьнікам было б для мяне вялікім гонарам, аднак, баюся, у гэтым выпадку ні беларускае, ні нямецкае ў маіх творах не заслугоўвала б увагі. Ідэальным варыянтам была б мая трансфармацыя ў нямецкамоўнага нямецкага літаратара, што на дадзены момант ёсьць фантастыкай на мяжы шызафрэніі, а фантастыка — ня самы ўлюбёны мой жанр.

Мая *deutsche Sprache*, мякка кажучы, — далёкая ад дасканаласьці, як зрэшты, і беларуская, аднак чуць нямецкія словы, вымаўляць іх, пісаць, чытаць па-нямецку — для мяне занятак прыемны, бадай, нават фізычна. Адразу ж падтакну дактарам: лячыць, лячыць, не запускаць ні ў якім выпадку, можа разьвіцца ў небясьпечную… лячыць!

Бязьмежна шаную нямецкамоўную літаратуру. Адно апавяданьне Кафкі “Грукат у браму” зрабіла на мяне большы ўплыў, чым уся айчынная клясыка, разам узятая. Рэшткі маіх літаратурных настаўнікаў ляжаць зусім не на крывіцкіх могілках… і з гэтых рэштак недзе з траціну належыць тым, чыёй роднай мовай была нямецкая. Кафка, Дзёблін, Андэрш, Вэрфэль, Рэмарк, Борхерт, Бёль… Цяпер сучасьнікі жывяць мяне сваімі кнігамі. Грас сярод іх — мой бясспрэчны фаварыт. А я забыўся яшчэ пра Дзюрэнмата, Фрыша, Носака, Энцэнсбэргера… Трэба назваць і тых маладых нямецкіх паэтаў, зь якімі пашчасьціла пазнаёміцца асабіста: Андрэ Бём, Сэбасьцьян Каль, Ульляна Вольф. Так што далонь “нашчадкам колішніх акупантаў” я працягваю абсалютна сьвядома.

Што да “Беларусаў на крыштальных шарах” — гэта мэтафарычны аповед, прыпавесьць пра гістарычны шлях беларускай нацыі — прынамсі, ейнай сьвядомай часткі, інтэлігенцыі. Беларускамоўныя людзі ў сучасным горадзе выглядаюць і пачуваюцца клёўнамі: горад для нас ператварыўся ў цырк. Мы ўсё жыцьцё — або на арэне, або ў клетках за кулісамі.

Мяркую, літаратура павінна быць правакатыўнай, павінна націскаць на балючыя кропкі ў грамадзкай і прыватнай сьвядомасьці. Дзеля гэтага я часам і скарыстоўваю гіпэрбалізацыю: калі навокал чытача равуць тэлеі радыёпрыймальнікі, спадзявацца, што ён пачуе твой шэпт, не выпадае.

*— У свой час гэта ты прапанаваў назваць нашую суполку (апроч нас, там Вішнёў, Гапеева, Морт і Сін) словам Schmerzwerk (па-нямецку — “Завод болю”). Шмат хто сумняецца, што чалавек*

*здольны адчуваць чужы боль, але я мяркую, што здольны — бо не заўсёды заўважае ўласны.*

*Бульварная літаратура і журналістыка імкнуцца ўсяляк аблашчыць чытача, пацалаваць паўсюль, дзе можна дацягнуцца: пацяшаюць яго, даюць карысныя парады на кожны дзень, нават трошкі (у навінах, трылерах, казках) палохаюць — каб дапамагчы чытачу адсланіцца ад ягоных уласных праблемаў. Папулярны літаратар пагарджае крытыкамі, але чытачоў ён абагаўляе.*

*Бальшыня сучасных аўтараў (прынамсі, у вялікіх краінах, дзе можна жыць з продажу кніг) занадта хочуць падабацца хатнім гаспадыням — і таму, дарэчы, цураюцца экспэрымэнтальнай эстэтыкі, ня пішуць маніфэстаў, не ўтвараюць суполак. Каб быць папулярным, трэба быць пустым і прыемным. Вызваляць ад скрушных думак. Не паказваць, бяз скрайняй патрэбы, пакуты і прыніжэньні, а калі згадваць іх — дык без падрабязнасьцяў. Камэрцыйная “пісяніна” псуе густ, але ўзьнімае настрой.*

*Найбольш агідны з тваіх тэкстаў — мабыць, нават ня песьня “Квітней, мая Быдляндыя!”, а апавяданьне “Не кранаючы фігураў”, дзе гаспадары тутэйшага жыцьця — ці то падпольныя алігархі, ці то вышэйшыя чыноўнікі (розьніцы няма) — катуюць апошняе вынаходзтва айчыннай навукі, якое я б назваў “мінімальным чалавекам”: дупу бязь іншых органаў. Ніякай палітычнай палітычнай паліталёгіі ў апавяданьні няма, аднак у тым пэрсанажы — Кашкіне — можна пазнаць вобраз тыповага беларуса, якім яго найчасьцей малююць ў патрыятычнай лірыцы народныя паэты (мабыць, нездарма ён згадваецца і ў “Беларусах на крыштальных шарах”): гэта бясконца цярплівая і пакорлівая, безгаловая і бясполая істота, якая “жэрці ня просіць, ня сера й ня вые ўначы. А галоўнае — трывае які заўгодна боль, толькі напружваецца й стогне так... досыць жаласьліва. Раны, дарэчы, загойваюцца ня больш чым за дзень”. Кашкін жывы, але ня здольны ні на якія дзеяньні, ягонае адзінае прызначэньне — цярпець, даваць бясьпечны для грамадзтва выхад крыўдам гаспадароў: у кепскім гуморы людзям уласьцівая “прага*

*ўбачыць свой боль, які перажывае хто-небудзь іншы”.*

*Аднойчы ты сказаў, што быць пісьменьнікам небясьпечна, бо даводзіцца браць на сябе чужую пакуту. Аднак балюча ты робіш ня толькі сабе. Ці маем мы права катаваць тых, хто даверліва купляе або прымае ў падарунак нашыя тэксты?*

— Упэўнены, што мастацтва нараджаецца з болю. Я ня бачыў ніводнага добрага мастацкага твору, які нарадзіўся дзякуючы прыемнаму адчуваньню. Мастацтва, на мой погляд, ёсьць хваробай — зрэшты, вылечнай. У “Натуральнай афарбоўцы” я паспрабаваў паказаць грамадзтва, якое настолькі прызвычаілася да болю, што людзі нават у пашпартах маюць адмысловую старонку “Хваробы й калецтвы” (гл. “Міждзьвернікі”). Усе пэрсанажы кнігі — хворыя. Боль, як вядома, — папярэджаньне ад арганізму, сыгнал небясьпекі. Мне здаецца, для мастацтва боль — унівэрсальны вобраз нашых дачыненьняў з навакольным сьветам.

Калі шпацырую па горадзе — часта сустракаю герояў сваіх кніг. Найчасьцей мне чамусьці трапляецца Кашкін.

На адным з тых інтэрнэт-форумаў, дзе калялітаратурныя мужыкі й бабы перакрыкваюць адзін аднаго, прачытаў пра сябе наступнае. Высьветлілася, што мая проза “хваравітая, чорная”, што калі я “насамрэч такі, якім выглядаю ў сваіх творах, то мяне варта толькі пашкадаваць”. Я так разумею, што пісаў гэта аматар або вытворца “здаровага мастацтва”. Давайце прынюхаемся, чым пахне гэтае словазлучэньне — “здаровае мастацтва”. Слушна. Фашызмам.

*— Корпацца ў самім сабе, аналізаваць свае асабістыя памылкі й мары, каб потым цікава распавесьці пра іх незнаёмым (і, што яшчэ цяжэй, блізкім) людзям мала хто здольны. Прасьцей і бясьпечней пісаць не пра чалавека, а пра народ, не пра сябе, а пра вядомых палітыкаў. Лягчэй скласьці й надрукаваць верш “Забі прэзыдэнта!”, чым верш з назваю накшталт “Забі свайго бацьку”. У адрозьненьне ад мастака-палітоляга (сярод “народных пісьменьнікаў” такія — амаль усе), мастак-псыхоляг ня ведае, навошта жыве, навошта піша й ці атрымаецца з таго якая карысьць. Мы усе так ці інакш брудзім сябе палітыкай, але плён у мастацтве дае не яна, а стылістыка.*

— На жаль, у сучаснай літаратуры працуе толькі жменька аўтараў, здольных ствараць Мастацтва. Абсалютная большасьць айчынных літаратараў, у лепшым выпадку, — нядрэнныя журналісты. Бо іх таленту хапае хіба на добрасумленнае апісаньне падзеяў і (ці) загрыміраванае пад літаратуру выкладаньне ідэяў, пераважна не сваіх. Але журналістыка ўсё ж належыць да сфэры абслугоўваньня, а літаратура, як бы яе не каталі графаманы, — да мастацтва. Мала каго зь беларускіх пісьменьнікаў цікавіць літаратура, а не ідэалёгія — іх творы, дый паводзіны, яскрава сьведчаць на карысьць гэтай непрыемнай высновы.

Расшпілім на нашай крывадушнасьці хаця б адзін гузік: шмат хто з “майстроў” прыгожага пісьменства краіны на цяперашні момант занятыя надзвычай важнымі справамі — узаемнай грызьнёй, паяданьнем поснага дзяржаўнага пірагу, манапалізацыяй права прэзэнтаваць бел. літ. за мяжой, запаўненьнем нішаў, пераасэнсаваньнем савецкай спадчыны (якая настолькі просталінейная зь любога пункту погляду, што усялякае пераасэнсаваньне тут выглядае абсурдам). Між тым, пісьменьнік, паводле вызначэньня, мусіць **пісаць**. Дарэчы, наконт запаўненьня нішаў. Гэтая тэма з пэўнага часу стала нумарам першым у разнастайных калялітаратурных дыскусіях. Як высьвятляецца, Беларусі патрэбныя свая Марыніна, свой Пялевін, свой Усьпенскі і мноства іншых франкенштайнаў, змайстраваных на аснове тутэйшага генэтычнага матэрыялу. Бяда ўсёй гэтай квазілітаратурнай грамады — у змушаным, але празьмерным заклапочаньні краінай, калі клапаціцца трэба пра сябе: бяз досьледу сваёй асобы мастаком ня станеш.

*— “Натуральная афарбоўка” — глыбокая, у філязофскім пляне, і парадаксальная назва. З аднаго боку, ты падкрэсьліў у ёй сваю прыхільнасьць да рэалізму й натуралізму, а з другога — ты не імкнесься адлюстраваць рэчаіснасьць як яна ёсьць (інакш было б: “Натуральныя колеры”), а пераствараеш да стану, у якім табе ня сорамна паказаць яе чытачам: “Мастацтва — рэальнае вакно ў сьвет, а не намаляваная шыба на непранікальнай глухой сьцяне”. Так, мастацтва глыбейшае за праўду — калі дазваляе нам убачыць больш, чым сьвет паказвае нам. Сьвет як ён ёсьць — адзінае цалкам праўдзівае мастацтва, аднак для чалавечага вока гэты пасьлядоўны*

*рэалізм не заўсёды выглядае пераканаўча. Нас кранае не праўдзівасьць, а шчырасьць аўтара, нават калі гэта ня больш чым шчасьлівая здольнасьць да самападману.*

— Чаму беларуская літаратура за ўвесь час свайго існаваньня так і ня здолела ўзгадаваць аніводнае сусьветнае знакамітасьці? Чаму яна ня здолела спарадзіць таго пісьменьніка, чыя творчасьць была б у стане перакуліць сьвядомасьць ня толькі беларуса, але й зымбабвійца, вэнэсуэльца, японца, ня кажучы ўжо пра ангельца або француза? Бо ў цягніку гэтай літаратуры ніколі не было пісьменьнікаў-чараўнікоў.

Чараўнік у дадзеным выпадку — зусім ня той, хто займаецца ў сваіх творах сэксуальнай эксплюатацыяй міталягічных істотаў, няшчасных насельнікаў уласнага канцлягеру аўтара; і пагатоў ня той, хто піша казкі або, барані божа, працуе на такі жанр, як фантастыка. Рэч у тым, што сапраўдны чытач — чулы, уважлівы, тонкі! — чакае ад літаратуры не інфармацыі, не забавы й не нагоды для разважаньняў на актульныя тэмы. Усё пералічанае чалавеку можа даць газэта, тэлевізыя ці іхны ўдачлівы канкурэнт — Інтэрнэт. Чытач чакае ад мастацкай кнігі, каб тая завязала яму вочы, ўзяла за ганарлівую руку й завяла ў таямнічы лес — завяла й кінула там. Чакае чараўніцтва.

Кожнае чараўніцтва, па сутнасьці, ёсьць вялікім падманам. Такім чынам, сапраўдны чытач падсьвядома чакае, каб яго падманулі, ды так, каб ён ня мог уцяміць, як жа зьдзейсьніўся той падман. Чытач хоча пакаштаваць чароўнага напою, зельля, якое ня будзе рабіць з галавы ачмуранага кантэйнэр са зьмешчанымі ў ім вынікамі аналізу нейчых сьлёзных залозаў, а ап’яніць фізычна адчувальнай моваю, самадастатковым словам, парадаксальнасьцю вобразаў, марсіянскай гармоніяй кампазыцыі й сюжэту. Заказыча сваім гімнам лёгацэнтрызму, спакусіць стылёвай дасканаласьцю, заб’е натхненьнем аўтара.

Тэксты трэба адчуваць не галавой і ня сэрцам, а хрыбтом. Менавіта халадок у чытацкім хрыбце мусіць быць асноўным крытэрыем мастацкай вартасьці твора. Гэтая думка належыць аднаму з найбліскучых літаратараў XX стагодзьдзя Ўладзіміру Набокаву. Галаву ды сэрца здольныя задаволіць першая паласа газэты, п’яная размова зь сябрам або Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя. А “для таго, каб твор мастацтва быў бесьсьмяротным, неабходна, каб ён выйшаў за межы чалавечага — туды, дзе адсутнічаюць здаровы сэнс і лёгіка” (Джорджа Дэ Кірыко).

*— Васіль Быкаў, які ў нас лічыцца ці не найбольш таленавітым рэалістам, у сваёй апошняй аповесьці "Афганец", надрукаванай ужо пасьля сьмерці ("Дзеяслоў". № 7) прыйшоў да скрушнай высновы, што "Зьверу цяпер лепш, чым чалавеку. Такі настаў час". Герой колішняй вайны марыць "быць зьверам, калі б атрымалася" — і ўрэшце уладкоўваецца працаваць ахоўнікам прэзыдэнта. Вышэй мы ўжо абмяркоўвалі тваё апавяданьне пра дрэсіраваных "беларусаў на крыштальных шарах", якія выступаюць у цырку замест жывёлаў. Дык вось у адрозьненьне ад "Афганца", агульная атмасфэра апавяданьня — зусім ня змрочная, але гэта робіць яго больш пераканаўчым, праўдзівым (ня ведаю, ці можна сказаць — больш трагічным?), чым твор Быкава. Атрымліваецца, твой сюррэалізм (ці шызарэалізм) — больш рэалістычны й глыбокі, чым крытычны рэалізм Быкава і наогул палітычна ангажаваных аўтараў.*

*У аповесьці "Афганец" шмат неверагодных, супярэчлівых дэталяў (народ штораніцы стогне ў краме, пабачыўшы новую цану на хлеб, але на кожным рагу прадаюцца бананы; "новы беларус"-багацей жыве з аховаю ў шыкоўна адрамантаванай кватэры-"хрушчоўцы"); бамжаваты герой за месяц зьядае каўбасы на трыста даляраў — аднак у такім варыяньце сюррэалізму няма ні гратэску, ні эпатажу, гэта проста няўдалыя прапагандысцкія вобразы няшчаснай Беларусі. Тваё адлюстраваньне навакольнага сьвету таксама почасту крывое, наўмысна крывое, але праз такую крывізну табе часам шчасьціць паказаць цудоўны, нябачны за звыклымі рэчамі, бок рэчаіснасьці. Мабыць, у гэтым і палягае прызначэньне мастацтва (прынамсі, некамэрцыйнага) — шукаць новыя спосабы мысьленьня.*

— Няма нічога менш праўдападобнага за падабенства праўды. Жыцьцё жорстка помсьціць тым, хто лічыць, што можа адлюстраваць у творах рэальны сьвет. Сваім абсурдам, сваёй непрадказальнасьцю яно можа аднойчыператварыць мармуровую біяграфію якога-небудзь "народнага трыбуна" у трагікамічную показку.

Прытрымліваюся думкі, што рэалізм у літаратуры — фікцыя. Няма нейкай адной, аб'ектыўнай рэальнасьці: іх, здаецца, ужо больш за пяць мільярдаў. Пісьменьнік можа распавесьці ў кнізе *сваю* Гісторыю,прыдуманую ім ад пачатку й да канца, і гэтай рэальнасьці для літаратуры дастаткова.

— *У аповесьцях Быкава людзей даводзіць да жывёльнага стану то адзін, то другі, то трэці палітычны рэжым, і кожны зь іх разглядаецца як акупацыйны і гвалтоўны. Маўляў, жылі б мы добра й годна, калі б не перашкаджалі бясконцыя навалы хцівых і амаральных захопнікаў. Аднак, крыніца нашых праблемаў — не ў чарговым (нават калі ён пазачарговы) рэжыме, а ў агульначалавечай прыродзе, у якой хапае і жывёльных, і машынных элемэнтаў. У любой краіне, у любой сям'і людзі маюць амаль па-роўну праблемаў. Няма сэнсу наракаць на гісторыю, вінаваціць час: па вялікім рахунку (тым, дзе іншыя лічбы, чым на календарах і гадзіньніках), час заўсёды аднолькавы.*

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2016
© PDF: Камунікат.org, 2016

